№1 (104)
/студзень-люты/ 2020

ДЗЕ

дзеяслоў

ЗМЕСТ

**Паэзія**

**Уладзімір Някляеў.**
Вавукі. *Паэма.* / 5
**Людміла Паўлікава-Хейдарава.**
Спеў здарожанай душы. *Вершы.* / 65
**Мікола Гіль.**
Непазбежнасць. *З кніжкі ламентацый восеньска-зімовых суцемак.* / 106
**Анатоль Брусевіч.**
Слядамі Энея. *Вершы.* / 126
**Вадзім Корань.**
Леташні сон. *Вершы.* / 146

**Проза**

**Барыс Пятровіч.**
Пуцявіна. *Аповесць.* / 10
**Віктар Казько.**
Нашчадкі казённага лёсу. *Аповесць. (Пачатак.)* / 72
**Міхась Зізюк.**
Вясковыя гісторыі. / 115
**Леанід Левановіч.**
Пчаліная вернасць. *Апавяданне.* / 130

**Дэбют**

**Ксенія Крывецкая.**
Нарадзіцца нанова. *Апавяданне.* / 152

**Пераклады**

**Дзмітро Паўлычка.**
Аняменне айкумены. *Вершы.*
*Пераклад Міхася Скоблы.* / 157
**Вячаслаў Лявіцкі.**
Каштанавая элегія. *З «Менскага цыклу».*
*Пераклад Сержа Мінскевіча.* / 164

**Словы**

**Альда Анараці.**
Слава – гэта дым, што хутка развейваецца. *Гутарка пра італьянскую літаратуру і не толькі.* / 171

**Кантэкст**

**Вялікае Княства паэзіі Алеся Разанава.**
*Галасы з Літвы.*
*Пераклад Галіны Лінкевіч.* / 177

**Згадкі**

**Валянцін Акудовіч.**
«Фрагменты». *З новай кнігі «Трэба ўявіць Сізіфа шчаслівым. (Хронікі беларускага інтэлектуала)». (Працяг).* / 184

**Запісы**

**Альжбета Кеда.**
Антанёва. *Старонкі з новай кнігі.* / 194

**Спадчына**

**Кастусь Тарасаў.**
Ветах. *Малюнкі з дзяцінства.* / 201

**Мастацтва**

**Уладзімір Сіўчыкаў.**
Пацалаваны сонцам. *Штрыхі да творчага партрэта Алеся Ксёндзава.* / 218

**Кнігапіс**

**Эдуард Дубянецкі.**
Выратавальны паэтычны сад. *Рэцэнзія на кнігу Святланы Явар «Дзівосны сад».* / 229

**Леанід Галубовіч.**
«Жыццё ў нетрах літаратуры».
*Рэцэнзія на кнігу Паўла Абрамовіча «Мой спосаб чытання».* / 234

**Дзеяпіс**

*Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова».* / 239

Уладзімір Някляеў



...Народжаныя мы, каб нарадзіць
Сябе ў сабе раней, чым прыйдзе смерць...

# Вавукі

***Паэма***

*Таццяне Працька*

Я ў Крэва ехаў. Да сябе – самога.
Была мне звыклай крэўская дарога,
Было спакойна, ціха на душы, —
І раптам хатку я каля шашы
Убачыў недалёка ад Вавукаў,
Дзе не было раней яе... Пастукаў,
Спыталі: «Ганя, мы яго чакалі?»
«Не, – адказала Ганя. – Не яго».

«Ты ўжо сама не ведаеш, каго
Чакаеш...» – за дзвярыма прабурчалі.
І запрасілі: «Вы заходзьце ў хатку.
На Ганю не зважайце, бо вар'ятка».

Я на парог ступіў. Вялі з парога
Дзве лесвіцы. Уніз і ўверх вялі.
А больш у хатцы не было нічога.

«Так, не зважайце, – быццам з-пад зямлі
Сказала Ганя. – Бо стралой параню
Я сэрца ваша, а душу згублю,
Калі вы закахаецеся ў Ганю.
Не пакахайце! Я не вас люблю».

«Таго, каго ты любіш, ці забілі,
Або яшчэ не нарадзіўся той...» —
Сказаў старэчы Голас, і ў пустой
Хаціне пад Вавукамі завылі,
Нібы зімой галодныя ваўкі,
Завеі, сцюжы, ветры, скразнякі,
І так узвыў галодны голас Гані,
Як з голаду ваўчыца вые ўранні
Ва ўсе нябёсы і зямныя далі:
«Нікога ва ўсім свеце не кахалі
Так, як сябе кахаю я сама
Каханнем тым, што не мінае марна,
І як высока, як самаахвярна
Мяне кахае той, каго няма!»

«Я ж вам казаў – вар'ятка», – мовіў Голас.
І раптам я адчуў ваўчыны голад
І ў горле боль такі, што ледзь стрываў,
Каб не завыць!.. «Дык я яго спаткаў», —
Сказаў скрозь боль.
«Каго?» – спытала Ганя.
«Таго, каго няма».

Стары спытаў: «Каго?..» –
А Ганя закрычала: «Ты яго
Не мог спаткаць, бо не спазнаў кахання,
Не зведаў вышыні, якая ў ім,
Якая з небам, як адно ў адным,
Дзе так высока, што не розніць вока
Пачатак і канец, дзе зліты даль і блізь,
І дзе ідзеш не блізка ці далёка,
А толькі знізу ўверх – і толькі зверху ўніз!»

«Заўсёды і паўсюль, – пачуўся Голас зноў, —
Ёсць даль для чарвякоў і высь для каршуноў,
І ці кахаеш ты, ці ненавідзіш,

Калі ідзеш да небасхілу, прыйдзеш
Урэшце рэшт туды, адкуль пайшоў.
Такі твой шлях зямны...»

«Ты можаш выбраць зорны...
Ці белы коршун ты, ці коршун чорны,
Ці чорны коршун ты, ці коршун белы, —
Заваражбіла Ганя і ўзляцела... —
Ступі на лесвіцу!..»

«Скажы мне, на якую?!.»
«Любую выбірай!..»

І я ступіў на тую,
Што ўверх вяла...
О, як яе хістала!..
Як быццам ні на чым яна стаяла —
На тым, чаго няма!..

«Так свет увесь стаіць, —
Сказаў стары. – Нібыта ні на чым.
І ўсе мы ў ім як ні на чым стаім».

«Ступіў, дык падымайся!» – падала
Руку мне Ганя...
Лесвіца вяла
Вышэй, вышэй – канца ёй не было...
«Вунь там, наверсе, дзе ў святле святло,
Ён адпусціў руку маю, сарваўся, —
Сказала Ганя. – Там ты з ім спаткаўся,
Калі напраўду ты спаткаўся з ім».

«Чаму ён адпусціў?.. Ён пабаяўся
Вышэй падняцца?..»
«Не, не пабаяўся.
Там не ўстаяць было ўжо нам дваім.
Ніхто яшчэ ўдваіх на месцы тым
Не выстаяў. Адзін – або адна!..»
І вырвала сваю руку
з маёй рукі
яна!

«Ён быў найлепшы з тых, хто быў табой! —
Яна крычала з лесвіцы пустой,
З якой уніз услед за мной злятала. —
Я ведала! Я ад пачатку знала,
Што гэтым скончыцца!..»

«Адкуль ты знаць магла?!.»

«Бо ў ім жыла! Пасля ў табе жыла!
І ўбачыла, што ты не станеш ім,
І што не жыць вам аднаму ў адным!
І ты забіў яго! Забіў яго ў сабе!..»

«Яна ўвесь час, – сказаў стары, – дзяўбе
Адно і тое. Не перадзяўбаць...
Народжаныя мы, каб забіваць
Сябе ў сабе раней, чым прыйдзе смерць,
Але нашто праз гэта вар'яцець?
Найпростае жыццё ў сваёй аснове,
На выбар – толькі два шляхі ў жыцці:
Уверх – каб падымацца да любові,
І ўніз – каб да нянавісці ісці».

Я ўжо спускаўся ўніз. Глыбока пада мной
Цямнела дно – і дно было зямлёй,
І Ганя ёй была, і з дна, з яго цямна
Цяжарнай падымалася яна,
І, як Зямля, жывот яе круглеў,
Якім яна казала нараспеў:
«Я думала: каханне нас міне,
Ды не мінула, вось яно ўва мне,
Мы ў вышыні яго шукалі не дарма,
Цяпер яно там ёсць, хоць нас з табой няма...»

Я вар'яцеў!.. Не, так не можа быць!..

«Народжаныя мы, каб нарадзіць
Сябе ў сабе раней, чым прыйдзе смерць,
Але нашто праз гэта вар'яцець? —
Пачуўся ў Гані Голас. Слова ў слове!.. —
Найпростае жыццё ў сваёй аснове,
На выбар – толькі два шляхі ў жыцці:
Уверх – каб падымацца да любові,
І ўніз – каб да нянавісці ісці».

Спрэс тое самае! Зямля і неба спрэс!..
Але ў тых самых словах іншы сэнс
Так праступаў, нібы расток, калі
Ён праступае з таямніц зямлі,
Ці як дзіця з'яўляецца з улоння...

«Даволі, Ганя... Досыць на сягоння, —
Зямля сказала Голасам спрадвечным. —
Амаль усё, што ў сіле чалавечай
Адчуць і вытрываць, адчуў ён і стрываў...»

«Не ўсё яшчэ... Яшчэ ён не сказаў...»
«Чаго ён не сказаў?..»
«Ці так мяне жадаў,
Ці так кахаў мяне, як я яго кахала?..»

Я выйшаў з хаты...
Сцюжа замятала,
Дарогі – не праехаць, не прайсці!
«На выбар – толькі два шляхі ў жыцці», —
У скронях білася. Кружылася завея,
І я кружыў, не помніў: хто я, дзе я? –
З пагоркаў падаў, па лагчынах бег,
Кідаўся зверху ўніз і знізу ўверх,
Адчаю поўны, поўны жалю, скрухі,
Як снегам поўныя завеі, завірухі,
І ў тых завеях, сцюжах, завірухах
Услед мне вылі ўсе ваўкі ў Вавуках.

*23.10–25.10.2019, Лунд (Швецыя)*



Барыс Пятровіч



...нічога не будзе – ні грому, ні маланкі, ні ветру, ні буры, вайны не будзе, а дом разваліцца... прыляціць самалёт, маленькі, як матылёк, крыллем над Крамлём махне – і ўсё разваліцца...

# Пуцявіна

***Аповесць***

## Неабходная прадмоўка

*Аповесць пісалася амаль праз трыццаць гадоў пасля той памятнай паездкі праз увесь СССР з Усходу на Захад. Вядома, за гэты час адбыліся вялізарныя перамены ў нашым жыцці, не стала той вялікай краіны, з'явіліся новыя тэхналогіі і, каб пабачыць Далёкі Усход і тыя гарады, якія наведалі падарожнікі, цяпер зусім неабавязкова туды ехаць. Можна набраць у інтэрнэце назву і віртуальна паблукаць па вуліцах горада, зайсці ў музеі, прачытаць звесткі пра яго гісторыю і славутасці. У той жа час, а гэта быў 1983 год, нават мапу горада ў ім самім, а тым болей нейкі турыстычны даведнік з інфармацыяй пра яго, набыць было практычна немагчыма. Таму знаёмства герояў аповесці з наведанымі мясцінамі было найчасцей чыста эмпірычным, спазнаваўчым на*

*асабістым узроўні, што і хацеў захаваць аўтар. Бо і сапраўды кожны цяпер можа прагугліць і пападарожнічаць па любой мясціне за тысячы кіламетраў ад дому. Гэта проста. Таму аўтар не стаў перагрувашчваць тэкст краязнаўчымі ды іншымі турыстычнымі звесткамі, а ўзяў за аснову асабістае ўспрыманне таго часу, той краіны, людзей, якія ў ёй жылі, і запрашае вас нібы на машыне часу перамясціцца на адзін месяц у другую палову кастрычніка і пачатак лістапада 1983 года. Вярнуцца ў СССР, акунуцца ў жыццё некалі аграмаднай краіны з яе даўно забытымі клопатамі і праблемамі, а, магчыма, і радасцямі... Аўтар не меў жадання паказаць жахі савецкага жыцця ці прыхарошыць яго, а толькі паспрабаваў сказаць праўду пра той час.*

*P.S. “Пуцявіна” з’яўляецца працягам аповесці “Пуціна”, стыль і правапіс якой тут захаваны.*

“...праважаюць параходы – зусім не так, як цягнікі...”, – *яму* зноў згадалася гэтая песня, калі *ён* стаяў на борце парахода “Марыя Ульянава” і глядзеў глыбока ўніз, у вячэрнюю шэрань, дзе зліваліся з асфальтам, пяском і туманам постаці *ягоных* родных, якія прытулілі *яго* і сябра Уладзю ў сябе на тыя некалькі месяцаў на Сахаліне; *ён* падняў вочы – горад-порт Карсакаў адпаўзаў у цемру і хаваўся ў ёй і шызым мроіве; карабель даў гудок і павольна-павольна, быццам нехаця, пачаў бокам адсоўвацца ад берага... прайшло хвілінаў пяць, як параход развітаўся з портам, цягнік за гэты час быў бы ўжо ў добрым кіламетры, а то і ў двух ад вакзала, а карабель аддаліўся ад берага толькі на некалькі дзясяткаў метраў, і родныя не разыходзіліся, стаялі на беразе з узнятымі ў развітанні рукамі, і *ён* таксама застыў на палубе і не ішоў у каюту... час цягнуўся марудна, як на запаволенай стужцы, “Марыя Ульянава” адышла ад берага на сто, на сто пяцьдзясят, на дзвесце метраў... і *ён* зразумеў нарэшце словы песні, чаму праводзяць параходы зусім не так, як цягнікі – бо развітанне тут расцягваецца пры жаданні на цэлую гадзіну, за якую можна перадумаць столькі ўсяго... і хутчэй не тым, хто “праважае”, а тым, хто адплывае, бо краявід, які паступова аддаляецца, які проста змяншаецца, нібыта хтосьці патрошку адкручвае аб’ектыў фотаапарата ці, дакладней, кінакамеры – гэта не дрэвы і дамы, што імкліва праносяцца паўз вакно вагона і рэзка адсякаюць памяць пра тых, хто застаўся на пероне; пасажыры, што едуць у цягніку, ужо даўно заняліся нейкімі дарожнымі справамі: хто раскручвае запакаваную жонкай у газеціну тлустую курачку, хто адкаркоўвае пляшачку піва ці гарэліцы, хто дастае карты і ўзіраецца ў твары спадарожнікаў, мажлівых партнёраў, а нехта ўжо ўкладваецца спаць і расцілае воглую бялізну на сваёй паліцы... а тут, на параходзе, ты па-ранейшаму стаіш на палубе і глядзіш, як няспешна адсоўваецца бераг, як драбнеюць на ім не толькі постаці тваіх родных, што таксама, нібы заварожаныя гэтай павольнай дзеяй, не разыходзяцца па сваіх кватэрах, але і дрэвы, дамы, сопкі...

сопкі, на вяршынях якіх, аказваецца, ужо ляжыць незаўважны знізу снег, белы-белы, нібы цукровы, снег блізкай доўгай-доўгай-доўгай сахалінскай буранай зімы, якую *яму* ўжо не пабачыць тут... усё: бывай далёкі востраў, *мы* едзем дамоў, у Беларусь... дакладней, не едзем, а ідзём, менавіта так кажуць сталыя маракі, а за гэтае, сухапутнае, “едзем” ці “плывем” і пабіць могуць пры нагодзе...

на двары (на моры ў гэтым выпадку) – кастрычнік, вечар, і тут, на палубе, не проста сыра ды ветрана, а даволі моцна прабірае холад, залазіць за каўнер, мкне ў рукавы і сцюдзёніць праз расшпіленую кашулю грудзіну: дагэтуль холад *ён* не заўважаў, а цяпер, калі раптам убачыў, што вяршыні сопак над Карсакавам і далей за ім пакрытыя белым – так, белым, як чысты аркуш паперы, снегам, сцяўся і сцепануў плячыма: дрыжыкі прабеглі па спіне і стаіліся, заціхлі, прагнаныя думкай пра цяпло каюты... *ён* агледзеўся – на палубе побач нікога не было, сябар *ягоны* Уладзя даўно пайшоў уніз да пакінутых чамаданаў, а іншыя пасажыры, відаць, мясцовыя, а таму прывычныя да гэткіх расстанняў, амаль адразу па адплыцці таксама разышліся па сваіх ложках ці да сваіх загорнутых роднымі ў газеціну курачак; дарабіла свае справы і цеплаходная каманда, матросы прыбралі канаты – швартовыя – і нырнулі некуды ўніз, у трум, ці падняліся ў рубку; *ён* апошні раз зірнуў на сахалінскі бераг, які быў ужо ў малочнай, туманнай смузе, бы ў снежнай замеці, шкілеты партовых кранаў і абрысы прышвартаваных караблёў паступова зліліся з берагам, з сопкамі, сталі аднюю шэраю палоскаю сушы... “вось і ўсё, – падумаў *ён*, – усё... усё... бывай, *лю*бы востраў, назаўсёды пакаханы востраў... ці змагу я калі вярнуцца да цябе? з гадамі, вядома, хочацца пабываць не там, дзе яшчэ не быў, а там, дзе прайшла маладосць – так кажуць старыя, што пражылі вандроўнае жыццё, але... вось Быкаў правёў на недалёкіх адсюль Курылах некалькі маладых гадоў, аднак больш ніколі не выбраўся сюды і ні радка не напісаў пра сваё быццё тутака... Барадулін і Караткевіч служылі ва Уладзівастоку, куды *мы* цяпер плывем, даруйце, ідзем, але, як ім, мажліва, ні карцела зноў пабачыць горад сваёй маладосці і дзяўчат з зялёнымі вачыма (як незанятае таксі...), так і не змаглі яны вярнуцца да незабыўнай бухты... зрэшты, яны ўсе яшчэ, магчыма, змогуць... а я... у мяне таксама жыццё наперадзе, усё можа быць, толькі – чаму мяне не пакідае прадчуванне, што бачу я гэтыя абрысы апошні раз?”... – вецер сарваў слязінку з *ягонае* вейкі і панёс у бок вострава, закружыў і кінуў у ваду – салёнае да салёнага, растварыў і павялічыў акіян на цэлую ягоную слязіну... *ён* падумаў так і з горкаю ўсмешкаю-здагадкаю зірнуў на свае ногі, на чаравікі, на якіх, зразумела ж, засталіся часцінкі сахалінскай зямлі: роўна столькі, на колькі пясчынак ён зменшыў востраў і забраў з сабою на гэты карабель... *ён* памкнуўся ісці ў каюту, зрабіў колькі крокаў ад борта і раптам пачуў чыесьці крыкі з боку вострава: падалося, што гэта крычыць ягоная цётка Каця, настолькі было падобна, *ён* кінуўся туды, адкуль віднелася палоска берага, зачапіўся за нешта, спатыкнуўся, упаў, а калі падбег, убачыў, што гэта крычаць кырлі; так, крычалі чалавечымі, крыху хрыпатымі галасамі кырлі: яны акружылі карабель і ляталі вакол яго, то амаль кранаючыся крыллем вады, то, ледзь не ўразаючыся ў борт, рэзка ўздымаліся ўверх і крычалі... сахалінскія кырлі таксама развітвался з *ім*...

*ён* злавіў сябе на думцы, што не хоча ісці ў цяпло каюты, хоць калі адразу *яны* занеслі да яе дзвярэй свае рэчы – чамаданы ды валізкі, каюта яму спадабалася: не, гэта зусім не цягнік з цесненькім купэ, хоць і пахла ў каюце вагонам – тым звыклым пахам свежай сыраватай бялізны, каюта была нечакана вялікая, салідная нават – гэтакі пакой метраў пяць на тры, і не думалася раней, што яна можа быць такой аграмаднай – усё ж такі гэта карабель, а не дом, а тут тры ложкі, стол пасярод, каля ложкаў тумбачкі, палічкі – раскоша дый годзе... праўда, столь нізкаватая, але ж і

яны не волаты, галавой яе не чыркаюць і добра... карабель крыху пагойдвала, калі ён спускаўся да каюты, і давялося на вузкім трапе-лесвічцы, што вяла ўніз, раз-пораз адштурхоўвацца з непрывычкі то ад адной, то ад другой сцяны, як п’янаму, як ап’янеламу ад расстання;

у каюце сябар быў не адзін, побач з ім за сталом, пасярод якога стаяла адкаркаваная пляшка гарэлкі, сядзеў маладзён у цёмнай, як яму падалося – марской, форме з дзвюма маленькімі жоўтымі зорачкамі на пагонах, “лейтэнанцік, пэўна, з падводнікаў”, – падумаў *ён*, аказалася – не, з марской авіяцыі; лейтэнанцік, які быў мо гады на тры-чатыры старэй за іх, студэнтаў, абрадаваўся яму больш, чым сябар: “а-а-а, папутчык наш, – засвяціўся ён п’янаватай усмешкай, – што ж ты мерзнеш на палубе, ідзі грэцца...”, – і на стале адразу ж з’явілася трэцяя шклянка: гранёны “маліноўскі” стакан, і ў яго лейтэнанцік адным шчырым рухам плюхнуў роўна па край гарэлкі, “Юра, – падаў ён руку, – ну, за знаёмства!” – і гэткім жа спрытным рухам выліў сваю шклянку ў сябе, як ваду, аднак нечакана закашляўся і скрывіўся-пастарэў, потым занюхаў гарэлку тыльным бокам далані і сказаў: “моцны, блін, тут вам не здзесь...” – апошнія словы былі ягонай любімай прыказкай, і ён паўтарыў яе за вечар яшчэ не раз: выпіў і *ён*, і таксама закашляўся, счырванеў, вырачыў вочы і шырока разявіў рот: у-ух! – лейтэнанціку гэта спадабалася: “ха-ха-ха, – засмяяўся ён, – што, блін, не чакаў: спірцяга гэта – чысты авіяцыйны спірт, а не гарэлка, хлопцы на дарожку ўдружылі”, “мог бы і папярэдзіць”, – падумаў *ён*, але нічога не сказаў, бо раптам адчуў, як па целе разлілася цеплыня, дурман і слабасць дабраліся да галавы, і яму стала ўсё роўна, неяк абыякава і пуста; на яго цяжкім мехам навалілася і прыціснула сабой надзвычайная стома, стома ўсяго гэтага доўгага дня, які ўмясціў у сябе застоллі расстанняў, абдымкі, слёзы... *ён* абамлеў, прысеў на свой ложак, потым заваліўся на бок і нібыта заснуў з расплюшчанымі вачыма: сядзеў так і ўвесь час чуў, пра што гаварылі сябар і лейтэнанцік, але ніяк не рэагаваў на іхнія словы, быццам быў не тут, ці глядзеў іх па тэлевізары... лейтэнанцік колькі разоў падыходзіў да яго, пстрыкаў пальцамі над носам і перад вачыма, спрабаваў свіснуць, але ў яго не атрымлівалася, толькі сліна пырскала туманком, і казаў: “адключыўся, блін, гэта ж сапраўдны спірт – тут вам не здзесь...”; пасля другога ці трэцяга разу затурбаваўся і ягоны сябар: ці не памёр *ён*, ці не атруціўся тым авіяцыйным спіртам, які піў і сам, але мо не так адразу і не ў такой колькасці, прыслухаўся, ці дыхае *ён*, ці жыве, памацаў пульс... “ды не турбуйся, – супакойваў лейтэнанцік, – з першага разу шмат з кім так бывае, я ўжо бачыў такое, тут жа дэнатурату ці не палова, разбаўляюць, сукі, на складзе, каб мы не пілі, а мы п’ём і хрэн нас не бярэ, і піць будзем – на тым стаяла і стаяць будзе зямля руская... налівай...”

і тут святло патухла...

*ён* ачуўся толькі пад раніцу, у маленькі круглы ілюмінатар квола сачылася першае святло новага шэрага дня, яго хапала, каб убачыць *яму*, што *ягоны* сябар і лейтэнанцік спяць на сваіх ложках не распрануўшыся, сябар пасопваў у нос, лейтэнанцік жа пахропваў неяк нездарова, як яму падалося: ледзь не захліпаўся, торгаўся ажно здавалася, што дыханне ягонае перапынялася; прачнуўся *ён* ад холаду і адчуў, што дрыжыць усім целам, паспрабаваў падняцца і не змог, ад нязручнай паставы цела заклякла, здраўнела, сяк-так павярнуўся на бок, потым, абапёршыся на рукі, устаў на мяккай пасцелі на карачкі, было брыдка і пагана, балела ўсё, асабліва

галава, яна проста разрывалася, трашчала, як пераспелы кавун, і цягнула ўніз, цяжкая нібы ртутная; каб не званітаваць, ён лёг у ложку на спіну вольна, выцягнуў рукі і ногі, потым дастаў з-пад сябе коўдру, накрыўся, сагрэўся і зноў заснуў...

калі прачнуўся было зусім светла, ягоныя спадарожнікі сядзелі за сталом і пахмяляліся; на правах гаспадара, а, пэўна, ён сябе палічыў такім ад пачатку, лейтэнанцік паблажліва сказаў: "уставай, уставай, курносы...", *ён* згадаў, што гэтак выкшталцона лейтэнанцік жартаваў з яго і ўчора, пакепліваючы з ягонага перабітага ў дзяцінстве, з добрай гарбінкай "грэцкага" носа: "уставай, курносы, пахмяліся, і пойдзем на сняданак...", устаючы, *ён* заўважыў, што нешта не так: яго хіляла і кідала ўбакі, быццам п'янота не выйшла і ўвесь учарашні спірт *ён* яшчэ не выспаў... прачытаўшы здзіўленне на ягоным твары, лейтэнанцік сказаў: "ага, непрывычна сухапутнаму: штарміць маленька ў акіяне, балы тры-чатыры... тут заўсёды так кідае... прывыкай...", ён сеў за стол, і яму адразу падсунулі шклянку: "не-е!..", – узняўся ў ім супраціў: "ня буду!.. досыць і ўчарашняга", "ды не бойся ты, гэта не спірт, спірту даўно няма, блін, а шкада... выпілі, скончыўся, як сканчаецца ў нашым жыцці ўсё добрае... – лейтэнанцік падняў пляшку і зірнуў на этыкетку, – а гэта звычайная гарэлка во, глядзі, "Экстра" называецца, чатыры дванаццаць з посудам... пі, кажу, пі!, абавязкова трэба грамульку ўзяць, інакш да сябе не вернешся...", а потым загадна: "пі!, пта маць!, трэба абавязкова пахмяліцца, асадзіць учарашняе: клін клінам..." – лейтэнанцік зарагатаў высока і шырока, як умеюць толькі расейцы, відаць, задаволены ўласным красамоўствам і шчодрасцю, а яшчэ перавагай... "добры хлопец...", – падумаў *ён* і выпіў, зноў прыемнае цяпло расплылося-разбеглася па целе, зазіраючы ва ўсе самыя дальнія куточкі аж да пальцаў ног, але гэтым разам галава пасвятлела, вусны скамечыліся, а потым расцягнуліся ва ўсмешку: "усё цудоўна, можна жыць...", "ну во... – задаволена адзначыў лейтэнанцік, – чалавекам стаў, блін...";

шторм і сапраўды быў невялікі – звычайная калыванка ў адкрытым акіяне, аднак калі *яны* ішлі ў рэстаран на сняданак, кідала іх да сценаў калідора заўважна, і не таму, што былі яны п'яныя зноў, зусім не, проста да ўсяго трэба звычка, а тут спрацоўвала сухапутная асцярожлівасць: яны ішлі, шырока расставіўшы ногі і рукі і нават пры нязначным хістанні, калі падлога пачынала ўцякаць з-пад ног, абапіраліся на поручні, хоць рабіць гэта было зусім не абавязкова; самае цікавае пачалося, калі *яны* селі за стол і *ім* падалі сняданак, хацеў бы *ён* цяпер померу паназіраць за сабой збоку, колькі там было чаплінскага ў тым сняданку; не, талеркі не ездзілі па стале, і стол не ўцякаў ад іх, але данесці да рота злоўлены відэльцам на талерцы кавалак ранішняй яечні, ды яшчэ пасля "ўчарашняга", было справай камічнай, як мінімум, *ён* перапыніў свой сняданак на хвілінку і агледзеўся: у карабельнай рэстараннай зале было столікаў шэсць на вока і палова з іх была занятая пасажырамі, што прыйшлі перакусіць, усе яны засяроджана стараліся зрабіць гэта і ніхто ні за кім не назіраў, ніхто з нікога не смяяўся, усе разам хіліліся ўслед за караблём улева-ўправа, назад-уперад, і не злавалі, калі траплялі відэльцам сабе не ў рот, а ў шчаку, застаючыся пры гэтым абсалютна сур'ёзнымі, і яму таксама было ніколькі не смешна, хоць калі б ён назіраў за гэтым найсур'ёзнейшым працэсам прыёму ежы на экране кінатэатра ці тэлевізара, ірваў бы пуза ад смеху разам з залай – і чаму ніхто дагэтуль не зняў сняданак у караблі падчас

шторму? зрэшты, ён, вядома, памыляецца, сто разоў здымалі, проста ён не бачыў тых фільмаў, ці бачыў, але пасмяяўся і забыўся... карацей, толкам паесці ім не ўдалося, яшчэ і таму, што “качка” гэтая дарма не праходзіла, неўпрыкмет пачалося тое, што называецца проста і ёміста: “марская хвароба”, і тыя крыхі яечні, якія ўдалося данесці да рота і праглынуць, сталі прасіцца назад, як і тая гарбата, якой яны запілі яешню... у рэстаране стала душна і млосна, і само сабой узнікла жаданне выйсці на свежае паветра, на палубу, аднак бакавыя выхады былі зачыненыя, каб не зваліўся хто за борт, можна было толькі падняцца на самую верхнюю адкрытую палубу, што *яны* і зрабілі...

вакол было шыза і золка, у паветры вісеў лёгкі пыл дожджыку, шэрае неба на блізкім даляглядзе злівалася з гэткім жа шэрым акіянам, і карабель плыў нібыта ў адным суцэльным воблаку, і калі б не хвалі далёка ўнізе, можна было б падумаць, што ён ляціць некуды да зор, і што апынуўся пасярод сусвету забыты ўсімі... куды ж нам плыць? куды плывем? і ці даплывем? бо шторм відавочна ўзмацняўся і быў ужо не тры-чатыры балы, а значна больш... ізноў *яго*, нягледзячы на прысутнасць побач сяброў, палубы пад нагамі, і не на замкнутасць, а адкрытасць прасторы ды веданне, што там, унізе, у караблі дзясяткі людзей, агарнула такая адзінота, такая пакінутасць і забытасць, што... “глядзіце, – перапыніў ягоныя думкі лейтэнанцік, – глядзіце, бачыце, вунь за нашым следам ад карабля дзве расплывістыя чарнаватыя плямы, бачыце? вунь, вунь, ага... гэта два караблі, вайсковыя, нас вядуць, мы ж цяпер у нейтральных водах, і яны суправаджаюць нас, каб ніхто не перахапіў...”, *ён* паглядзеў туды, куды паказваў лейтэнанцік – і сапраўды, услед за імі, прыблізна за кіламетр, наколькі можна было ацаніць адлегласць у шызым тумане, не адстаючы і не набліжаючыся, рухаліся дзве плямкі... не дзіва, пасля нядаўняга выпадку з карэйскім самалётам, пра які адразу ж нагадаў лейтэнанцік; але не гэта было самым уражвальным: у момант, у імгненне прапала, адышла ў нябыт уся ягоная адзінота, і стала цесна, бы ў шафе: блін, няма на гэтай планеце месца, дзе можна напоўніцу адчуць сябе адзінокім, самотным, нельга схавацца ад сябе ні на зямлі, ні на вадзе пасярод акіяна... а тут яшчэ недзе ўгары над імі пачуўся гул, які набліжаўся, гусцеў – і то не птушка ляцела, не пчала, не чмель і нават не анёл, з пасмаў туману ці абрыўкаў аблокаў раптам вынырнуў на імгненне самалёт – вялікі, бо ішоў ён нізка – і знік зноў у тых самых пасмах: расхінулася заслона і закрылася, але самалёт паспелі ўбачыць усе: “натаўскі, ваенны, – з веданнем справы канстатаваў лейтэнанцік, – разведчык, сочаць за намі, – і паўтарыў неяк задумліва і значна: – нейтральныя воды, тут вам не здзесь, бля...”, ён, зразумела ж, не мог ведаць, што то быў за самалёт, можа, і наш, савецкі, можа нейкі пасажырскі, але ў той момант *яны* лейтэнанціку паверылі адразу і незваротна, бо яшчэ раз згадаўся той карэйскі самалёт, збіты недзе тут, у нейтральных водах між Сахалінам і Хакайда, між Сахалінам і Вялікай зямлёй ці Уладзівастокам... і яму згадалася, як скрозь сон ён чуў, што казаў лейтэнанцік: “той самалёт карэйскі збіў ваш зямлячок – беларус...”, і тут зноў у небе пачуўся гул, але не над караблём, а недзе побач, і ляцеў там, вядома, не каларадскі жук і не бусел, і не анёлак... але гэтым разам лейтэнанцік упэўнена прамовіў, гледзячы ў нізкія аблокі: “наш... патрулюе...”, “граніца на замку, – пажартаваў сябар, – парція беражот наш спакой – лятайце самалётамі «Аэрафлота»”, а лейтэнанцік дадаў у тон: “храните деньги в

сберегательной кассе”, – але не падняло *ім* гэта настрою, панурасць і сум вярнуліся да *іх*, апусціліся з тых самых шэрых нябёсаў, прыціснулі да палубы, нагналі самоту, і *яму* міжволі падумалася: усё, капец, трэба ісці спаць, і гэтую *ягоную* думку моўчкі падтрымалі сябар і лейтэнанцік, не згаворваючыся *яны* разам пайшлі ўніз, да сваёй каюты, і больш у гэты дзень нічога не здарылася, і ў гэтую ноч таксама, іх не зацікавілі нават дзве сімпатычныя дзяўчыны, што прыходзілі рабіць “вільготную прыборку” ў *іхняй* каюце, хіба лейтэнанцік адрываўся на хвільку ад размовы за сталом, застаўленым пустымі пляшкамі і завалены рэшткамі ежы, калі адна з прыбіральшчыц задужа нізка нахілялася, каб памыць пад ложкам, і тады з-пад яе кароткага халаціка выпіналася палоска белых трусікаў, лейтэнанціка перасмыкала, ён клепаў вачыма, трос галавою, каб адкінуць мроіва (ці рэальнасць), зглытваў сліну, вяртаў позірк да *іх* і казаў: “дык пра што мы? а?...” і працягваў травіць марскія і паветраныя байкі ды показкі (“вам, журналістам, спатрэбіцца калі-небудзь”), змест якіх за часам зусім забыўся і не спатрэбіўся ніколі...

дык вось, у тыя дзень і ноч больш нічога не здарылася, а ранкам іхні параход, *іхняя* “Марыя Ульянава”, прышвартавалася каля марскога вакзала слаўнага горада Уладзівасток, ці Уладзіка, як ласкава, любоўна называў яго лейтэнанцік, і не толькі ён, а ўсе мясцовыя і не мясцовыя жыхары, маракі ды марачкі і проста тутэйшы люд... лейтэнанцік развітаўся, сказаўпажадаў наастачу: “будзьце асцярожнымі”, падміргнуў і неяк незаўважна знік, растаў у натоўпе – пасьпяшаў да сваёй дзяўчыны, да якой і ехаў, а *яны* з сябрам засталіся адны ў гэтым шумным збоі пасажыраў і сустракаючых, прыбылых і ад’язджаючых, чужыя сярод чужых, з вялізнымі чамаданамі – па два на кожнага, пра якія варта сказаць асобна: чамаданы былі і сапраўды аграмаднымі – адзін з іх нават метры паўтара на метр і шырынёю сантыметраў трыццаць, дзе іх здабылі цётка і дзядзька, *ён* не ведае, з якіх часоў яны ў кагосьці захаваліся – таксама невядома, факт тое, што *яны* з сябрам хацелі дамоў для родных прывезці сахалінскіх прысмакаў, амаль недаступных тады ў Беларусі шалёных дэфіцытаў, якія прадаваліся ў Менску хіба ў цэкоўскім буфеце – чырвонай ікры ды рыбы: дзядзька *ягоны*, знакаміты рыбак-сібірак некалькі разоў саліў для іх рыбу ды ікру – ён умеў гэта рабіць, а саму рыбу можна было лёгка набыць проста на вуліцы ля дома, куды ранкам прыязджаў самазвал і выгружаў на брызент пад сцяну кузаў гарбушы, потым з’яўляліся вагі і прадавачка і пачынаўся гандаль, трэба было толькі не памыляцца і навыбіраць з рыбнае груды самачак – яны, зразумела, з ікрой і смачнейшыя пры засолцы за самцоў, прапахлых малокамі-спермай, хоць хтосьці іншы выбіраў якраз толькі самцоў з-за тых самых улюбёных далікатэсных малокаў, якія смажыліся асобна; спецыялістам у адборы самачак была ягоная цётка, але і ў яе бывалі промахі і на дзясятак самачак абавязкова трапляўся адзін самец-гарбыль, які таксама ішоў на засолку, бо набыць у краме гатовую ікру ці салёную гарбушу, а тым болей вэнджаную, было па тым часе без блату немагчыма, ды і каштавалі яны ў разы болей; дык вось, самы вялікі чамадан і яшчэ адзін меншы *яны* набілі салёнай рыбай, пах ад яе, як ні ўхутвалі ў цэлафан, ішоў адпаведны, але гэта ўжо выдаткі транспарціроўкі, а ў другіх двух, трохі меншых, ляжалі *іхнія* асабістыя рэчы і ікра ў цэлафанавых пакетах ды літровых шкляных слоіках... ад чамаданаў трэба было пазбавіцца ў першую чаргу, бо з імі па горадзе,

а *яны*, вядома ж, хацелі пазнаёміцца са славутасцямі Уладзіка, не паходзіш... пазбавіцца тут не азначае выкінуць, а здаць у камеру захоўвання “ручной кладзі”, *яны* было накіраваліся туды... і спыніліся: пакідаць чамаданы на марскім вакзале *яны* перадумалі, усё ж далей ехаць на цягніку, а значыць, захаваць рэчы лепей на чыгуначным вакзале, скіраваліся да выхаду і зноў спыніліся: на вуліцы яшчэ была цемень, непраглядная чарната, як у моры – рэдкія ліхтары не разганялі яе, а толькі каля сябе ўтваралі нешырокія жоўтыя астраўкі святла; *яны* прыплылі ў чатыры гадзіны ночы, транспарт, зразумела, яшчэ не ходзіць, і дзе той вакзал знаходзіцца, *яны* не ведалі, родныя казалі блізка, але з іхнімі цяжэннымі чамадамі гэтае блізка можа ператварыцца ў пекла... магчыма, давядзецца браць таксоўку, але ў любым выпадку зрабіць гэта варта па святле, ранкам, і таму з намерам распытаць у каго-небудзь, дзе той чыгуначны вакзал знаходзіцца і як да яго лепей дабрацца, *яны* вярнуліся ў залу чакання вакзала марскога, згрузілі свае рэчы каля адной з лавак, сябар пайшоў паліць, а *ён* застаўся каля чамаданаў ахоўваць і аберагаць іх, бо на хлопцаў з такім аб’ёмным багажом, заўважыў *ён*, паклаў вока не адзін “пасажыр”... пад тымі рэнтгенаўскімі позіркамі стаяць было не проста, і *ён* ледзь дачакаўся, пакуль прыйшоў сябар, а той вярнуўся не адзін, а з новым знаёмым, і не проста знаёмым, а з “зямелем”, у якога маці з-пад Слуцка, дзе жывуць па-людску, а жонка з-пад Мінску, дзе, як вядома, усё па-свінску, у *яго* адразу сэрца ёкнула – вось яно, пачынаецца тое, пра што папярэджвалі ледзь не ўсе сахалінцы, калі даведваліся, што *яны* дамоў, у Беларусь, збіраюцца не ляцець самалётам, а праз увесь СССР ехаць на цягніку, ды яшчэ пачынаючы з Уладзіка, а не з якога-небудзь Іркуцка, куды можна дабрацца на тым жа самалёце, але *ім* вельмі ж хацелася пабачыць усю вялікую і неабсяжную краіну і праехаць з краю ў край адной шостай часткі планеты Зямля: калі яшчэ здарыцца такая мажлівасць і ці здарыцца ўвогуле – куй жалеза, пакуль... і яны паехалі;

што “пачынаецца” – зразумела кожнаму спрактыкаванаму падарожнаму, які некалі ўпершыню адважыўся на падобны маршрут, дык вось, казалі сахалінцы, будзеце ва Уладзівастоку, зяпай не ляпайце – гэта самы бандыцкі горад Савецкага Саюза, там збіраюцца ўсе адпетыя крымінальнікі і палююць на маракоў ды рыбакоў, што вяртаюцца з далёкіх, паўгадавых і больш плаванняў з немалымі грашыма, а калі такіх караблёў няма, дык прамышляюць пасажырамі-разявакамі, нічым не грэбуюць, нават добрым адзеннем, і атрымаць нож пад селязёнку там можна за дваццаць капеек на піва, а не тое што за вашыя вялізныя чамаданы, набітыя невядома якім дабром, таму глядзіце ў чатыры вокі і не паддавайцеся на нейкія лёгкія знаёмствы, бо там у кожнага адразу знаходзіцца “землячок”, які ўціраецца ў давер, а потым да справы далучаецца ўся шобла ці банда... *ягоны* сябар, пэўна, забыў на тыя папярэджанні, ён быў радасна-ўзбуджаны: гэта ж трэба, на самым краі свету сустрэў не проста свайго “зямелю” аднекуль з Беларусі, а зусім блізкага, бо сам ён быў і са Случчыны, і з Менску адначасова... Уладзя знаёміў яго з “зямелем”, які паверыў ужо ў сваю ўдачу, бо раптам аказалася, што цешча “зямелі” якраз з тых краёў, што і *ён*, з Гомельшчыны... варта аддаць “зямелю” належнае – сёе-тое з геаграфіі Беларусі ён ведаў, а, можа, і бываў некалі ў *іхніх* краях, ці нават сядзеў там, бо па вярхах арыентаваўся добра, Слуцк з Гомелем не блытаў, хоць і пасля першых двух-трох пытанняў-адказаў на канкрэтыку заўважна

“паплыў”; аднак Уладзя не здаваўся, на *ягоныя* мігі не рэагаваў, і зноў пайшоў з “зямелем” курыць... назад прыйшлі яны ўжо ўтрох: выпадкова ў “курылцы” сустрэлі яшчэ аднаго земляка, гэтым разам... зразумела... з-пад Гомеля, які пачаў “раскручваць” на настальгію *яго*: скажы вось: праўда, што ў нас пад Гомелем растуць таполі як палкі, не кучаравыя, як паўсюль, а стромкія, роўныя... “так, растуць, пірамідальнымі называюцца”, ну во – я ж казаў, праўда, а мне не вераць... усё: павукі пачалі плесці сваю павуціну, падумаў *ён*, у ёй *ім* тут і застацца...

пэўна, нешта пачало даходзіць і Уладзю, а, можа, ён згадаў сахалінскія папярэджанні, бо надта ж лёгка знаходзіліся землякі *іхнія* на краі свету, якія ўжо прапаноўвалі пайсці ў адно вядомае ім месцейка, бо рэстараны ж пад раніцу, на жаль, не працуюць – не Рыа-дэ-Жанейра тут і не Японія блізкая, – і адзначыць знаёмства-зямельства, і ў момант калі *ён* заўважыў, што “землякі” неўпрыкмет пераміргваюцца з яшчэ двума-трыма шэрымі постацямі, што стаяць паводдаль ад іх, у залу чакання раптам увайшлі два міліцыянты-сяржанты, Уладзя адразу ж кінуўся да іх з пытаннем: “як прайсці да чыгуначнага вакзала?”, прычым так хутка, што “землякі” не паспелі нават зрэагаваць на ягоны рух; міліцыянты спыніліся, стральнулі вачыма вакол, адразу ўсё зразумелі і, падобна, ім стала шкада зялёных студэнцікаў, якіх аблапошваюць даўно знаёмыя ім твары “пасажыраў”, што жывуць тут ужо не адзін месяц... “прайдзёмце, мы вам пакажам”, – казырнуў адзін з міліцыянтаў, а другі падышоў да *яго* і спытаў: “ваши вещички?”, *ён* моўчкі кіўнуў, “позвольте помочь вам поднести”, – і падхапіў самы вялікі чамадан, а другі міліцыянт нагнуўся над іншым чамаданам, падымаючы, узважыў яго – цяжкі, блін, і яны, пад маўклівыя, разгубленыя позіркі “выпадкова сустрэтых землякоў”, якіх было тут гэтым восеньскім ранкам ці не паўзалы, пайшлі з марскога вакзала на чыгуначны;

аказалася зусім блізка – нейкая сотня з нечым метраў: практычна два вакзалы раздзяляў мост над чыгункай, якая падыходзіла і сюды, да марскога вакзала; чыгуначы вакзал быў меншы, прынамсі, зала чакання, і нейкі больш утульны, больш свой, знаёмы... сухапутны; “кантынгент” тут быў, адразу падалося, спакайнейшы, міліцыянты дапамаглі *ім* здаць чамаданы ў камеру захоўвання, казырнулі з мілай, але максімальна строгай усмешкай: “будзьце асцярожнымі”, і пайшлі, а *яны*, вызваленыя ад свайго цяжкога грузу, адчулі сябе раптам вольнымі птушкамі і з палёгкай уздыхнулі – але “вольнымі” гэта ўмоўна, бо ў *іх* былі планы пабыць ва Уладзіку пару дзён, з’ездзіць у Находку, дзе, яшчэ ў Менску ім пра тое казалі, знаходзіцца адзін з самых лепшых у Саюзе рынкаў – рынкаў-барахолак, маўляў, там можна даволі танна прыапрануцца, набыць розныя дэфіцытныя ў еўрапейскай частцы рэчы: джынсы, майкі, магнітафоны, іншую цікавую японска-замежную апаратуру, што прывозяць з сабой з заморскіх краінаў маракі ды прадаюць прапіўшыся... для пачатку трэба было набыць квіток на цягнік да Масквы, а потым ужо думаць, як дабрацца да Находкі, і *яны* накіраваліся да білетных касаў; быў ужо кастрычнік, а значыць, можна было набываць квіткі па студэнцкім білеце за палову кошту, *яны* падалі свае “коркі” і замовілі два білеты да Масквы на заўтра, на цягнік, які адыходзіў позна ўвечары, касірка выпісала квіток *яму*, а сябраў студэнцкі патрымала ў руках і вярнула: “вы не пераведзены на наступны курс: у вас не хапае адной пячаткі... ваш студэнцкі не дзейны... білет за паўцаны я

не магу вам даць... толькі за поўны кошт... даваць?", сябар, агаломшаны, адмовіўся: купляць білет да Масквы з Уладзівастока за поўны кошт не ўваходзіла ў ягоныя планы – розніца немалая ў грашах: пераплочваць удвая не хацелася... не хапае пячаткі – лёгка сказаць, і паставіць яе не праблема, толькі пячатка тая цяпер за тысячы кіламетраў у Менску...

"што рабіць?" – засмучоныя і збянтэжаныя, яны адышлі ад вакенца касы і выйшлі ў горад, селі на лаўку; раней ніхто не лічыў тыя пячаткі, а тут знайшлася такая ўважлівая ды прынцыповая касірка... "а што, калі падысці да іншага вакенца? можа, там касірка лічыць пячаткі не стане?.." "можа... а калі палічыць?.. тады што рабіць?.." у задуменні *ён* дастаў свой студэнцкі і палічыў пячаткі, зрабіць гэта было няпроста: пячаткі на маленькім прастакутніку білета наязджалі, налазілі адна на адну і перакрывалі так, што толькі ў двух-трох нешта чыталася, а ад некаторых віднеўся толькі акраец паўколца, а што там напісана расчытаць было немагчыма, *ён* палічыў тыя акрайцы кругоў – іх было пяць, узяў сябраў білет, як ні лічыў – чатыры, гэтаксама пераплеценыя, параўнаў і ўбачыў, што розніца ў іх невялікая – проста сябар перад ад'ездам не зайшоў у дэканат і не працягнуў свой студэнцкі яшчэ на год... "я зараз перавяду цябе на пяты курс", – сказаў *ён* сябру, *яны* зайшлі ў прыбіральню, сталі каля вакна, *ён* дастаў металічны рубель, абмазаў яго па краі сіняй пастай са стрыжня з асадкі і акуратненька адбіў паўкруг на студэнцкім білеце побач з іншымі пячаткамі, потым у пары міліметраў паралельна зрабіў яшчэ адзін адбітак-абадок, як у пячаткі, цяпер, калі палічыць колькасць кругоў-паўкругоў, іх было столькі, колькі трэба... такім чынам, вельмі проста, хай і ў антысанітарных умовах, звычайным металічным рублём сябар быў пераведзены на наступны курс журфака БДУ; гэта была не падробка дакумента, гэта было аднаўленне справядлівасці... добра, што на вакзале было некалькі касаў – чатыры ці пяць, *яны* падышлі да іншага вакенца, касірка прыняла сябраў білет і праз некалькі хвілінаў выпісала квіток да Масквы за паўкошта без пытанняў і пільнага пераліку пячатак... можна было ўздыхнуць з палёгкай: справа зробленая;

квіткі да Масквы *яны*, як і хацелі, купілі на заўтра, на вечар, цяпер трэба даведацца, як даехаць да Находкі – *ім* казалі, што можна альбо па чыгунцы, альбо на аўтобусе, глянулі расклад: цягнік да Находкі адыходзіў ад гэтага ж вакзала позна ўвечары і прыбываў у Находку раненька ранкам; выдатна, значыць, знікае неабходнасць шукаць начлег, дзень можна пахадзіць па Уладзівастоку, паглядзець горад, ноч жа перакантавацца, а, можа, і праспаць у цягніку і раніцай быць на рынку, назад жа вярнуцца на аўтобусе, якія ходзяць даволі часта, і калі выехаць з Находкі ў другой палове дня, можна быць ва Уладзівастоку за пару гадзінаў да адыходу цягніка на Маскву; такі расклад *іх* задавальняў цалкам, яшчэ хвіліна і з квіткамі на начны цягнік да Находкі *яны* выйшлі з вакзала, наперадзе ў *іх* быў цэлы дзень на знаёмства з уладзівастоцкімі знакамітасцямі, ля вакзала, ля мора гэта быў горад як горад, трохі сцеснены сопкамі вакол, а таму са старымі вузкімі вуліцамі ў цэнтры, пасярод якіх ляжалі трамвайныя рэйкі – звычайны расейскі абласны (а тут – краявы) цэнтр, сталіца Прымор'я... дамы стаялі прыступкамі на сопках, перакрываючы адзін аднаго, і можна было падумаць, што за гэтым пяціпавярховікам стаіць не яшчэ адзін пяціпавярховік, а дзесяціпавярховік, за ім – пятнаццаціпавярховік, а далей не дзевяціпавярховік, а зусім хмарачос, як у Амерыцы, таму адсюль,

знізу, ад мора, Уладзівасток падаўся *ім* экзатычным горадам, не падобным на іншыя бачаныя савецкія... з гісторыі *яны* ведалі, што заснаваны Уладзівасток крыху больш за сто гадоў таму – у 1860 годзе, за год да адмены прыгоннага права ў Расіі, за тры ад паўстання Кастуся Каліноўскага і пуску метро ў Лондане... заснаваны ён быў, як і некалі Пецярбург, не на пустым месцы, людзі жылі тут спрадвеку, але не славяне, а карэйцы ды кітайцы, і кітайцы называлі гэтае паселішча Хайшэньвэй, да расейцаў пабылі тут французы і назвалі гэтую мясцовасць Порт Пасьет, а праз год (і за год да расейцаў) пабылі тут ангельцы і назвалі Порт Мэй – мясціна была адметнай найперш сваёй зручнай бухтай – ідэальнай для заходу караблёў і стварэння порта, бухту гэтую расейцы потым назвалі Залаты Рог – так яна называецца і цяпер...

*яны* ішлі вуліцай па беразе – проста гулялі, быў сонечны ранак, цёплы, паўднёвы, хоць і кастрычнік, і згадалася міжволі, што Уладзівасток знаходзіцца бліжэй да экватара, чым нават Крым; было дзесяць гадзінаў, крамы ўжо адчыніліся, *яны* спыніліся якраз каля гароднінай лаўкі і застылі, знерухомелі ў здзіўленні: проста каля яе ўваходу стаялі скрынкі з гарамі ніколі не бачаных раней “фруктаў”, менавіта фруктаў, а не садавіны... былі тут, вядома, і “звычайныя” абрыкосы, апельсіны, персікі, дыні ды кавуны, ... але здзівілі іх бачаныя толькі ў кіно ці на малюнках у кнігах вязкі бананаў, чубатыя ананасы і... яшчэ ці не дзясятак нейкіх жоўтых, зялёных, чырвоных фруктаў, назваў якіх *яны* не ведалі і ведаць не маглі... а кошты, кошты... кавуны – тры капейкі кіло, дыні пяць капеек (на Сахаліне яны прадаваліся, іх прывозілі армяне, але каштавалі столькі ж, толькі ўжо не ў капейках, а ў рублях...), бананы – дзесяць капеек, ананасы 15 капеек – за кілаграм! бедныя сахалінцы, якія пакутуюць ад безвітаміння, бо тых кавуноў не дакупіцца за іхнія заробкі, ці ведалі яны, які рай фруктовы знаходзіцца літаральна за некалькі соцень кіламетраў ад іхняга вострава? можа, і ведалі, але, прынамсі, *яны* з Уладзем пра гэта не размаўлялі з імі, а таму цяпер не раздумвалі доўга і зайшлі ў краму, дзе ад фруктовага паху закружыліся галовы, узялі дзеля пачатку па тры ананасы на брата – па іншыя фрукты зойдзем пазней, вырашылі – і каля касы заўважылі горку экзатычных арэхаў, падобных да грэцкіх: ну копія, толькі хіба трохі выцягнутыя, вастрэйшыя, “валасаценькія” зверху і чарнявенькія, і, відаць, смачныя... “што за арэхі, – спыталі ў прадавачкі, “манчжурскія”, – адказала, “іх можна есці?”, “можна”, – кажа і хітрынка, не заўважаная *імі*, бліскае ў ейных вачах, “а колькі каштуюць?”, “пяцьдзясят капеек”, “за кілаграм?”, “так”, “дайце два”, “кілаграмы?.. нашто вам столькі? – зміласцівілася, – вазьміце кілаграм, пакаштуйце спачатку...”, “давайце, калі так”, – дала, адважыла, адсыпала ў кулёк, і *яны*, шчаслівыя, пайшлі на бераг Заліва Пятра Вялікага (у якога родных няма нікаго, толькі лошадзь ды змяя, вось і ўся яго сям’я... – як спяваў Астап Бэндэр), ласавацца набытай экзотыкай...

ласавацца... лёгка сказаць: расціснуць у руках, як грэцкія, манчжурскія арэхі не ўдалося, зубамі раскусіць – таксама, падалося, што зубы раскрышыліся, а арэхам хоць бы што, яны былі нібыта з суцэльнага каменю... каменю? камень на беразе знайшоўся, арэх паклалі на асфальтавую сцяжыну, удар, яшчэ удар і... камень раскалоўся напалам, асфальт увагнуўся, а арэх застаўся цэлым, як і быў, ну, відаць, проста камень быў крохкім, а асфальт нагрэўся... яшчэ адзін камень – буйнейшы, сапраўдны, выслізганы вадой кавалак граніту: удар, яшчэ удар! і камень напалам, а арэх цэлы!

ляжыць на асфальце як ні ў чым не бывала, нават ямачку сабе сабой зручную праціснуў, каб ямчэй было... не, ну гэта ўжо здзек – няўжо мы такія слабакі, што арэх разбіць не можам? адкінем гэтага нахабніка – у нас жа цэлае кіло такіх арэхаў – і разаб’ем іншага, пакаштуем, што за смакату такую ён аберагае ад нас, яшчэ пара расколатых камянёў і выкінутых нахабнікаў і вось, нарэшце, арэх распаўся на некалькі частак... але... цяпер стала зразумела, чаму ён такі моцны: арэх увесь быў суцэльны, і толькі тонкай праслоечкай у ім, бела-жоўтай плёначкай, танчэй за самую тонкую паперу, было тое, што ўласна і называецца арэхам, ці ягонай мякаццю, ці тым, што ядуць, і выкалупаць тую “мякаць”, каб хоць пакаштаваць, не было ніякой мажлівасці... астатнія “арэхі”, дзякуй прадавачцы, што набылі ўсяго кілаграм, паляцелі ў сметніцу; ну а што ананасы? ніколі раней не бачаныя наяве і не каштаваныя – няўжо такое ж расчараванне чакае зноў? не... дзякуй Богу, не... смак, як казаў Райкін, спецыфічаскі, *яны* параўналі яго з нашымі трускалкамі ў нейкай ступені, вось толькі колер там чырвоны, а тут бела-жоўты, трошкі не адпавядаў таму смаку, затое смак адпавядаў смаку і быў смачным, *ён* міжволі згадаў мурынаў з Мадагаскара, з якімі жыў у адным пакоі журфакаўскага інтэрната, што казалі: якія смачныя ў вас яблыкі ды грушы! лепшае садавіны мы ніколі не елі! *ён* пытаўся: а як жа ананасы, бананы, манга, авакада, гуава, какосы, папайя ды іншыя дурыаны, чутыя – з тэлевізара, вычытаныя ў часопісе “Вокруг света”, гэта ж смакоцце? ніякога параўнання, адказвалі мадагаскарцы: яблыкі лепш, а *ён* думаў: пасмейваюцца з яго хлопцы – яблыкі ім падабаюцца... а цяпер, смакуючы ананасы і згадаўшы мадагаскарцаў, падумаў іншае: якая мудрая ўсё ж прырода – кожнаму краю яна дала свае прысмакі, няважна, поўдзень гэта ці поўнач, усюды ёсць нешта сваё, што замяняе падобнае чужое, нават на поўначы, у Карэліі ці дзе-небудзь у тундры ёсць чарніцы і марошка... а таму трэба цаніць сваё і не ганіць яго, а прыесціся можа ўсё; ён зразумеў нарэшце в’етнамца, з якім жыў у пакоі пазней: у яго была алергія на апельсіны, бо аднойчы, падчас вайны з амерыканцамі, ён хаваўся ў апельсінавым гаі і два тыдні харчаваўся аднымі апельсінамі, ён пасміхаўся, слухаючы яго, і думаў, што ад нашых яблыкаў ды груш, колькі іх ні еж, алергіі не будзе... затое ад ананасаў... яны з сябрам адразалі долькі, счышчалі жарсткаватую, падобную да гранаты-лімонкі скурку, і, абліваючыся трускалкападобным сокам, елі ананасы, назіраючы як у моры ля пірса купаюцца мясцовыя... не, не маржы, хоць на вуліцы і кастрычнік, а звычайныя людзі, якія прыйшлі адпачыць, і як іншыя, што стаяць з вудачкамі над імі і ловяць нейкіх рыбак...

мора... мора – вада: спрадвечная мара, ад якой *яны* з’язджаюць туды, дзе яго няма, але суму, настальгіі чамусьці не было, нічога не было ў той момант, апроч тых хвілінаў, якія *яны* цяпер перажывалі і радаваліся ім, мору, з якога дзьмуў лёгкі цёплы вецярок і халадзіў аблітыя ананасавым сокам вусны, тых самых ананасаў, якія... вельмі хутка далі такую аскоміну на зубы і сівер на вусны, такое раздражненне, што ўвесь твар і рот пачырванелі і забалелі нясцерпна, а ў *іх* ні вады, ні напою якога, падысці да заліва і абмыцца салёнай вадою – а ці не развярэдзіць яна аскому яшчэ больш?.. трэба было вяртацца ў горад і перахапіць чагосьці больш ёмкага, чым “фрукты”, захацелася рыбкі ці мясца, і *яны* скіравалі на недалёкую ўладзівастоцкую вуліцу і сталі шукаць які-небудзь прыстойны рэстаранчык ці кавяраньку, а потым хоць бы захірэлую сталаваньку... эх, СССР – сацы-

яльная краіна, усё для чалавека (і мы ведаем гэтага чалавека, бо ўсё было толькі для яго...), а таму шукаць давялося даволі такі доўга, нарэшце з-за рога дома вынырнула шыльда "Рэстаран", проста рэстаран, без нейкае назвы, і дзверы ў яго былі расчыненыя, *яны* ўвайшлі ў іх і амаль адразу ж выйшлі: за дзвярыма былі яшчэ адныя дзверы, на якіх вісела няроўна абарваная паперына з надпісам: "Обед" – рэстаран быў зачынены на абед, што іх, прывыклых да такога, ніколькі не здзівіла: перапынак на абед у рэстаране – гэта так па-нашаму, па-савецку... што ж, абед дык абед, не адзін жа рэстаран у гэтым горадзе, пашукаем іншы, адышлі колькі крокаў і пачулі: "ребят, нужна помощь, пройдемте с намі", – іх клікалі да сябе двое маладзёнаў з кароткаю стрыжкаю, "куды?", "в соседнем доме на пятом этаже ограбили квартиру – будете понятыми", "якімі панятымі – мы не здзешнія", "ничево, это займёт пять минут", "как это ничево – мы вечером уедем далеко и не сможем потом вам помочь, будет же суд...", "это не важно...", "как не..." – і тут *ён* зразумеў, што, пэўна, і сапраўды гэта не важна, бо мэта ў маладых людзей, якія назваліся следчымі і былі ў цывільнай, а не ў міліцэйскай форме, і ніякіх пасведчанняў не паказалі, зусім не ўзяць *іх* "панятымі"... сябар быў гатовы пайсці – трэба ж людзям дапамагаць: так нас вучылі у піянерах ды камсамольцах і нават акцябратах... а маладзёны ўжо і пад рукі іх бяруць – ну, вядома ж, падумалі, што хлопчыкі, мусіць, пры грашах неблагіх, раз удзень у рэстаран заваліць вырашылі... словам, ратавацца трэба, пакуль у "аграбленай" кватэры на апошнім паверсе *іх* не распранулі (у лепшым выпадку) ці не прышылі (у горшым)... ды не, не тут было – "аператыўнікі" аказаліся хлопцамі напорыстымі і нахабнымі і "рыбку", што заплыла ў іхнія сеткі, так проста адпускаць не хацелі, а вуліца пустая, а рэстаран зачынены на "абед", і сябар зноў жа на *ягоныя* мігі не зважае, цалкам гатовы ісці ў "панятыя" ці не на сваю згубу... *ён* не ведае, і дагэтуль сумняваецца, можа, быў занадта асцярожлівым і абачлівым, можа, і дарэмна падазраваў, што аператыўнікі не аператыўнікі і следчыя зусім не следчыя, можа, праўда людзям трэба была дапамога, а ў тым пяціпавярховіку не засталося ніводнага суседа ў панятыя, і вуліца пустая ўсцяж – усе на працы ці на абедзе, можа быць, але *ён* тады гэтага не даведаўся, а павёў сябе рэзка і напорыста: рашуча і адчайна вырваўся з іхніх рук і сказаў: "нікуды мы не пойдзем... шукайце сабе іншых панятых", і Уладзя нібыта нешта зразумеў: надта ж настойліва *іх* запрашалі ў панятыя, не зважаючы на *іхнюю* часовасць у гэтым горадзе... і тут з-за рога дома паказалася купка рознаапранутых людзей, у двух-трох былі нават белыя каўпакі на галовах, якія кіравалася да *іх* – відаць, работнікі рэстарана вярталіся на працу з абеду – "аператыўнікі" зніклі так раптоўна, як і з'явіліся, *яны* нават і не заўважылі, як расталі цені іх недзе сярод блізкіх дрэваў і кустоў між дамамі...

у гэты рэстаран ісці ўжо не хацелася, і *яны* пацягнуліся ўніз, у нутро, у сярэдзіну горада, дзе павінна быць больш людзей... выйшлі да помніка падводнай лодцы (у *яго* застаўся фотаздымак: ён стаіць ля яе з кіслай мордай і сеткай недаетых ананасаў, з поўнымі суму і стомы вачыма), і ўдзень, уздоўж заліва, пад сонцам, горад *іх* зноў не ўразіў – звычайны, гэткіх па СССР раскідана дзясяткі, нават сотні, з падобнымі "сучаснымі" хрушчоўскімі ды брэжнеўскімі пяціпавярховікамі і панішчанай без вайны старой забудовай, хоць, здавалася б, такіх гарадоў, як Уладзівасток – адзінкі, бо тут сышліся Усход і Захад, як у Стамбуле-Канстанцінопале-Візантыі,

дзе таксама ёсць бухта Залаты Рог... і была тут, пэўна ж, свая глыбокая гісторыя, што, як і кітайская (японская, карэйская), сягала ў далёкія тысячагоддзі, аднак ніякога знаку пра тое не было відаць нідзе, і заставалася толькі думаць, што і сапраўды яму, гэтаму гораду крыху больш за сто гадоў, і герб – залаты тыгр на срэбным полі – тут самае старое, што ёсць... дзівадзіўнае, хацелася сказаць, але адразу ж падумалася, што нічога дзіўнага тут няма, хіба толькі тое, што герб гэты перажыў усе рэвалюцыі ды войны і застаўся нечапаны, а ў нас, у Беларусі, ва ўсіх гарадах, што атрымалі свае гербы яшчэ ў 15-16-м стагоддзях, усе іх раптам пасля заваёвы расейцамі ў канцы 18-га стагоддзя памянялі, а потым пасля рэвалюцыі 1917-га года яшчэ раз – замест Пагоні з'явіліся нейкія шасцяронкі, снапы ды сярпы з молатамі, а то і зайцы ці зубры... заваёўнікі сваю гісторыю, хай і не дужа глыбокую, абаранялі, а нашую, гістарычную, тую, што запусціла свае карані ў сярэднявечча – вынішчалі, замянялі на новую, каб не было спакусы народам назваца, каб забылі сябе саміх і ведалі толькі ад сямнаццатага года... і так было не толькі ў Беларусі, але ва Украіне, такі ж гістарычна-ідэалагічны нігілізм дзейнічаў па ўсёй імперыі – і на Каўказе, і ў Сярэдняй Азіі, у Прыбалтыцы, Арменіі і г.д., і пачыналі тую самую гісторыю дзе (у лепшым выпадку) ад “добраахвотнага”, “па шматлікіх просьбах стогнучага ад сваіх дамашніх прыгнятальнікаў” – паноў, ксяндзоў, мулаў, ханаў ды інш.) далучэння, а дзе (у горшым) – ад Кастрычніцкай рэвалюцыі, а то і ад Вялікай Айчыннай вайны... паноў ды ханаў тут не было, як не было і нічога такога, за што магло б зачапіцца вока, ніякога напаміну, да прыкладу, пра японскую ці кітайскую прысутнасць, што і магло б быць адметнасцю; ваенна-гістарычны музей, скажаце, дык хіба беларусаў можна здзівіць ваеннай гісторыяй, крэпасць, дык у яе тады не пускалі – вайсковы аб'ект, а вось акіянарыум у такой мясціне павінен быў быць, але яго не было, пра што не адзін турыст, які заблукаў у тыя гады сюды, пашкадаваў... а таму паблукалі-паблукалі *яны* па горадзе, пакаталіся на фунікулёры і пасунуліся на вакзал, сядаць у цягнік ды ехаць у Находку...

вагон быў звычайны, агульны – дабіты і абшарпаны, як і ўсё тут: дамы, дарогі, у чым яны паспелі пераканацца за дзень вандровак; старэнькі вагон здаваўся ледзь не даваенным з-за свайго знешняга выгляду, па іншых жа прыкметах было яму не больш за дзесяць гадоў, аднак дасталося за такое кароткае жыццё вагону няслаба, і патрабаваў ён немалога рамонту, гледзячы на яго збоку, міжволі падумалася: а ці дакоцяцца гэтыя колы да Находкі? вагон быў цалкам запоўнены – вольных месцаў не было, а *яны* думалі, што давядзецца ехаць на адзіноце... напачатку не пакідала ўражанне, што ўсе вакол, апроч *іх*, знаёмыя між сабою, настолькі непасрэднымі, простымі, нават шчырымі былі адносіны паміж пасажырамі, якіх, пэўна ж, лёс абсалютна выпадкова сабраў у гэтым вагоне: яны сышліся ў адным купэ ўпершыню ў жыцці, каб заўтра разысціся і ніколі больш не ўбачыцца; ніхто ні з кім не вітаўся, але ўсе былі на “ты”, быццам сёння яны цэлы дзень правялі разам, як даўнія знаёмыя ці сваякі, да *яго* адразу ж падышоў нейкі хлопец і спытаў-прапанаваў: “гэй ты, курносы (зноў курносы – далося гэта вам...), у карты не перакінемся?”, *ён* заўважыў толькі цяпер, што большасць у вагоне ўжо сабралася ў кампаніі пры століках і раскідваюць карты, адны *яны* з сябрам не былі пакуль уцягнутыя ў гульню, бо не знайшлі мейсца, дзе прыткнуцца, але пастунова мітусня ўляглася, знайшлася і *ім* вольная лаўка, як толькі *яны* селі, адчулі рап-

там такую стому, што было *ім* не да гуляў у карты, і той карцёжнік, які відаць, таксама трохі прыпазніўся і не мог знайсці сабе кампаньёнаў на гульню, расчаравана адышоў ад *іх*, падціскаючы ў недаўменні вусны – усе ж гуляюць... агледзеўшыся, *яны* з Уладзем залезлі на незанятыя гульцамі верхнія паліцы і пад гучна-вясёлы гоман, смех, пад шматпавярховыя і шматкаліберныя – адборныя, адмысловыя, адметныя, дасціпныя, вартыя запісу – мацюкі ды прыгаворкі карцёжнікаў амаль адразу заснулі, каб прачнуцца ўжо... у Находцы;

горад сустрэў *іх* перадранішняй сінявата́й цемрай і густым шызым туманам – такім, які добрыя пісьменнікі з кепскім густам (і такія бываюць...) любяць параўноўваць з малаком; як ні дзіўна, Находка яшчэ спала, вуліцы былі пустыя, і нават шматлікія пасажыры ўладзікаўскага цягніка нейк вельмі хутка ды імкліва, без гарадскіх аўтобусаў і ўласнага транспарту, згубіліся, расталі, зніклі ў шэрані вуліцаў, і *яны* з сябрам засталіся адныя каля някідкага будыначка вакзала, які, зразумела, быў зачынены, бо адчыняўся з шасці гадзінаў, а цяпер было пяць... але рынкі, як вядома, пачынаюць працаваць вельмі рана, і *яны* паціху пасунуліся ў той бок, дзе на іхнюю думку павінен быць мясцовы базар, пакрочылі інтуітыўна, бо дзе ён можа знаходзіцца, спытаць не было ў каго – пакуль *яны* расчухаліся ад сну, апусцеў вагон, а за ім перон і вуліцы, а цягнік з правадніцамі ад’ехаў у тупік... спяшаць *ім* не было куды, і *яны* ішлі павольна, аж занадта павольна – паўзлі па разбітым бы пасля бамбёжкі асфальце амаль пасярод вуліцы, як два смаўжы на ранішнім мацыёне і, пэўна, гэтай сваёй нетаропкасцю і замаруджанасцю прыцягнулі ўвагу міліцыянта, які ўзяўся невядома адкуль, проста выкуліўся з воблака туману (ці не ад вакзала сачыў за *імі*, бо дзе ж яшчэ яму дзяжурыць, як не там), міліцыянт відавочна быў з мясцовых – твар меў круглясібірскі, крыху зморшчаны і падобны да за...ы, і разам строгі-строгі, начальніцкі; *яны* абрадаваліся яму, як старому знаёмаму, чым дужа збянтэжылі яго: такога прыёму ён не чакаў, бо быў настроены рашуча, відаць, у адрозненне ад *іх*, ведаў, чым могуць закончыцца бестурботныя ранішнія шпацыры ў гэтым партовым матроска-рыбацкім гарадку, але строгасць ягоная надзіманая адразу скурчылася, калі ён убачыў, што *яны* не кінуліся ад яго па кустах, а шчыра (цвяроза, а не з бадуна) абрадаваліся ягонаму з’яўленню, і ён, казырнуўшы па звычцы, прамовіў не па статуце, пазнаўшы чужых і наіўных: “ребят, откуда вы?”, маўляў, адкуль вы такія – незразумела толькі: смелыя ці дурныя? “з...” і тут збянтэжыліся *яны*: і сапраўды – адкуль? сказаць з Беларусі, дык *яны* цяпер не з Беларусі, сказаць з Сахаліна, дык *яны* былі там часовымі і час *іхні* скончыўся, трэба, відаць, прадстаўніку ўлады казаць па пашпарце... міліцыянту кароткае *іхняе* замінкі хапіла, каб прыйсці ў сябе і стаць ваякам “на страже”, ён на вачах пасур’ёзнеў, нібыта адчуўшы, што тут яму нешта выгарае, бо дужа ж “ребята” сумеліся ад простага пытання і занадта доўга шукаюць адказ у сваіх галовах... ступар, нарэшце, прайшоў і ў іх: “мы... з Беларусі, але... з Сахаліну...” “дык з Беларусі ці з Сахаліну, вызначайцеся...”, тлумачэнне было доўгім, як *ім* падалося, але, урэшце, паспяховым, міліцыянт паверыў *ім* цалкам, аж да намеру прыкупіць нешта на мясцовым рынку, толькі вось не пашанцавала вам, “ребятки”: прычынены ён і сёння працаваць не будзе... не верыце? здалёк едзеце... ну дык схадзіце самі, прагуляйцеся, час у вас ёсць, толькі – будзьце асцярожнымі, бо – самі ведаеце... паказаў вуліцу, што вядзе да рынку, казырнуў і развітаўся, прымусіўшы іх астатнюю да-

рогу думаць, куды ж яны патрапілі, выехаўшы са спакойнага, хатняга, як і Беларусь, вострава на мацярык, дзе кожны паўтарае як замову: будзьце асцярожнымі; не па мінным жа полі *яны* ідуць, і не вайна вакол, а мірная краіна Саветаў, дзе так вольна дыхае чалавек...

золкавы восеньскі горад праз нейкі час прывёў іх да пляца, абгароджанага плотам з густа набітых нефарбаваных дошак, каля плота праходжваліся некалькі чалавек, якія стараліся зазірнуць за яго праз шчыліны між рассохлых шалёўчын, “гэта рынак?” – спытаў сябар у аднаго з цікаўных, той у адказ моўчкі кіўнуў, “будзе працаваць?”, “ды павінен ужо...”, зазірнулі і *яны* ў адну са шчылінаў: за плотам быў вытаптаны пляц, толькі па краях якога расла трава, ні лавак, ні сталоў, ні нейкіх паветак там не было... як і людзей – пуста, і нішто не казала пра тое, што туды іх пусцяць – праўду казаў міліцыянт... і тут паміж дзясятка-другога цікаўных прашапацела з подсвістам: “бхсс... лавіць будуць...”, і людзі, унурыўшы галовы, пачалі разыходзіцца, азіраючыся, а нехта і подбегам, пайшлі і *яны*, нават не дапяўшы да ўваходу ў рынак, рушылі назад да вакзала; было сумна і пагана на душы, нібыта нехта іх жорстка падмануў – не насіць ім у Менску імпартныя джынсы “леві-страус”, штроксы “мантана”, красоўкі “адыдас”, не мець маечкі з Мікам Джагерам ці “Ролінг Стоўнз”, не слухаць дыскі “Лед Зэпелін” ці хоць бы “Атаван” з новенькага “Шарпа” альбо “Соні”... бывайце, мары пра магчымасць прыапрануцца за паўкошта па менскіх цэнах, дарагія родныя і самыя прыгожыя – не дачакаецеся вы ад нас замоўленых і незамоўленых падарункаў, хоць казалі нам з верай у вачах, што тут, на краі свету, усё ёсць, варта толькі даехаць туды... добра там, дзе нас няма і куды нам не даехаць, нават даехаўшы да краю свету, на берагі Ціхага акіяна... ішлі *яны* расчараваныя, і не ведалі нават, як *ім* пашанцавала, што рынак быў зачынены, бо потым спадарожнік у цягніку ад Уладзівастока распавёў *ім* трошкі праўды пра той рынак, пра якую прамаўчаў міліцыянт: казкі гэта былі пра багаты імпартам рынак Находкі, звычайныя савецкія казкі, якія дапёрлі з аднаго краю вялізнейшай з краінаў да другога: усюды было аднолькава, што ў Брэсце ці Менску, што ва Уладзівастоку ці Находцы, калі і прывозілі што маракі з-за мяжы, дык збывалі аптавікам-перакупшчыкам, якія потым накручвалі кошт такі ж, як і па ўсім эсэсэсэры, і калі б *яны* патрапілі на рынак, то ці купілі б нешта па тых коштах, а калі і купілі б, то няма гарантыі, што па выхадзе за тым плотам не ўзялі б *іх* цёпленькіх “абэхээснікі”, бо, відавочна чужых, *іх* здалі б адразу тыя самыя перакупшчыкі, як быццам фарцоўшчыкаў панаехалых, з рук у рукі, цёпленькіх, перадалі б... словам пашанцавала *ім* зноў і зноў, нібыта Бог *іх* бярог, хоць па ўсім выходзіла, што выбраліся *яны* ў гэтае падарожжа не ў самы лепшы час і ва ўзросце, які японцы лічаць самым цяжкім і небяспечным для мужчынаў і не раяць у такія гады распачынаць выцечкі, тым болей далёкія; дарэчы, і на Сахалін *яны* прыляцелі таксама ў не дужа прыемны дзень: пасярод лета, з 14 на 15 ліпеня, калі японцы святкуюць іхнюю Радаўніцу ці Дзяды – Бон – дзень успамінання продкаў, ён таксама лічыцца кепскім дзеля пачынання нейкіх справаў... ну, але *яны* не японцы, хоць і патрапілі на некалі іхнюю тэрыторыю, японскія забабоны на *іх*, на шчасце, не падзейнічалі... на шчасце, але не заракайцеся, бо ўся вандроўка наперадзе, гэта толькі пачатак яе, і фінішная кропка на мапе – Менск – яшчэ так далёка, што нават уявіць цяжка...

ранішні горад, які паступова насычаўся людзьмі, прывёў іх ужо знаёмым шляхам да вакзала, які быў адчынены; як *яны* і ведалі – цягнік назад адыходзіў позна ўвечары, “Каметы” да Уладзівастока не хадзілі: на моры штарміла, на аўтавакзале непадалёк яны набылі квіткі на 2 гадзіны дня на аўтобус, а пакуль вырашылі пазнаёміцца з горадам, раз ужо сюды прыехалі, бо калі яшчэ змогуць пабыць тут – відаць, ніколі... але было яшчэ зусім рана, крыху за шостую гадзіну па мясцовым часе, і горад толькі-толькі прачынаўся, страпянаўся ад сну, варта перачакаць трохі на вакзале, што *яны* і зрабілі, аднак цяпер, праз гады, мы з табою, дарагі чытач-суразмоўца, рабіць гэтага не будзем, а адразу пойдзем у горад, каб пераканацца, зноў жа, што, нягледзячы на аддаленасць і мясцовыя асаблівасці, гэта быў звычайны безаблічны савецкі райцэнтр, дзіўна, але як усё ж тыя шэсцьдзясят шэсць гадоў савецкае ўлады ўраўнялі між сабой амаль усе гарады вялікай краіны – у гэтым *яны* будуць яшчэ не раз пераконвацца па дарозе, ураўнялі, знішчыўшы найадметныя храмы – цэрквы, касцёлы, сінагогі, мячэты, пагады... зруйнаваўшы цікавыя архітэктурна дамы багацейшых жыхароў гарадоў, а сцершы з твару зямлі іхнюю адметнасць, наставілі аднолькавых каробак-дамоў – ад сталінак да хрушчовак і брэжневак, аднаяйкавых палацаў і дамоў культуры, клубаў, стандартных райкамаў партыі і райвыканкамаў, помнікаў Леніну і ягоным “саратнікам”, знішчылі мясцовыя назвы вуліцаў, пераназвалі іх так, што няма горада ў СССР, дзе ў цэнтры вуліца Леніна не перакрыжоўвалася б ці ішла паралельна з вуліцай Савецкай, а Карла Маркса з Энгельса... а таму, па вялікім рахунку, у Находцы знайсці нешта арыгінальнае, будынак ці парк, было немагчыма, бо іх папросту не было; *яны* набылі пару пляшак піва – вядома ж, “Жыгулёўскага” – дзякуй Богу, яно, у адрозненне ад Курылаў, тут мелася, і падняліся на высокую сопку, на вяршыньцы якой нейкімі неабыякавымі людзьмі была пастаўленая альтанка, дзе да *іх*, зразумела, паспеў пабываць Вася, а Коля паймець Таню... але *яны* не зважалі на тыя адвечныя надпісы, прыселі і залюбаваліся, агаломшаныя, найпрыгажэйшым выглядам на бухту Находка – вось што яшчэ канчаткова не змаглі вынішчыць бальшавікі, дык гэта прыроду, як ні стараліся перакроіць яе на свой лад, пакуль не ўдалося... краявід на бухту быў – мала сказаць прыгожым – як апісаць словамі тое, што можна зрабіць толькі фарбамі, альбо проста зняць на плёнку і паказаць, вось тут пісьменнікі прайграюць іншым відам мастацтва ў нагляднасці таго, пра што яны пішуць, вам застаецца, што называецца проста “паверыць на слова”, што і сапраўды ў іх дух захоплівала, сэрцы ажно захліпаліся ад прыгажосці наваколля... і міжволі думалі яны – вось чаго заўсёды не хапала Беларусі, дык гэта выхаду да мора, не хапала і не будзе хапаць, бо новага перадзелу свету ўжо не чакаецца, а Савецкі Саюз вечны і непарушны: вунь фантасты ў сваіх кнігах пішуць пра адвечнае суперніцтва “двух светаў” – ЗША і СССР, US і SU – ажно ў трыццатым стагоддзі ад нараджэння Хрыстовага і далей, і ў саракавым, і ў пяцідзясятым стагоддзях... так было, так ёсць і так будзе заўсёды: ніколі не прымірыцца гэтым двум светам і існаваць ім у суперніцтве вечна – так думалася тады, услед прачытаным кнігам; не паверылася б зусім, калі б нехта тады *ім* сказаў, што існаваць таму SU-СССР засталося лічаныя гады... піва было дужа дарэчы, бо давала адчуванне камфорту, спакою, нават лагоды – “расслабухі” – і *яны* нібыта забывалі, што знаходзяцца за тысячы кіламетраў ад дому, душы ўздымаліся

і ўзляталі над гэтай прасторай, луналі лёгка і вольна, і ўжо толькі дзеля гэтага варта было сюды прыехаць; час да ад’езду прайшоў незаўважна, *яны* павольна спусціліся ўніз, у горад, і праз гадзінку ўжо сядзелі ў аўтобусе, што выпраўляўся ва Уладзівасток;

*яны* разлічылі, што прыедуць за 2-3 гадзіны да адпраўлення *іхняга* Транссібірскага экспрэса – так было напісана і ў раскладзе аўтобуса, але сумненні ў тым, што гэта ўдасца, узніклі адразу па выездзе з Находкі, аўтадарога – гэта вам не чыгунныя рэйкі, пракладзеныя роўненька ад горада да горада, аўтадарога ў Прымор’і – гэта не асфальт, а грунтоўка з ямамі ды рытвінамі, дзе не разгонішся, а яшчэ ідзе яна між сопак і па сопках, віхляючы, а часам і вяртаючыся назад, міжволі прыдумалася параўнанне, што, пэўна, адзіным інжынерам шляхоў зносінаў быў тут мядзведзь, які таптаў свае сцежкі па далёкаўсходняй тайзе, а людзі ішлі за ім... адно радавала і захапляла: краявіды адкрываліся суперпрыгожыя, за кожнай узятай аўтобусам сходу сопкай на колькі бачыла вока быў лес, лісцёвы лес, афарбаваны восенню ці не ва ўсе колеры вясёлкі, сярод якіх прырода асабліва не пашкадавала жоўтага, чырвонага, памаранчавага колераў, жыць тут і не быць, не стаць мастаком, творцам – немажліва, бо так хацелася перадаць фарбамі чарговы краявід... але як тут імі любавацца, калі сэрца пачынае трымцець, а ногі ўпіраюцца ў падлогу і быццам падпіхваць аўтобус: “хутчэй, хутчэй!”, бо калі так будзем цягнуцца, дык і заначуем тут разам з мядзведзямі... а потым, з часам, аднолькавасцю і паўтаральнасцю пачалі грашыць краявіды, вочы прывыклі да іх і слізгалі па наваколлі абыякава, як машына фарамі, і аднастайнасць уражанняў, разам з пагойдваннем на выбоінах аўтобуса, супакойвала, закалыхвала, і *яны* не заўважылі, як заснулі, бо начны сон быў кароткім,

заснулі і прачнуліся ўжо на вуліцах Уладзівастока, “наступны прыпынак канцавы, – абвясціў кіроўца, зазіраючы ў салон, у якім апроч *іх* нікога не засталося, – Другая рэчка”, – назваў ён, “як Другая рэчка? – падхапіліся *яны*, – нам жа на чыгуначны вакзал трэба!”, – ведаючы з набытай учора мапы Уладзівастока, што ад Другой рэчкі да вакзала яшчэ ого-го як далёка, але каму цікавае *іхняе* хваляванне – аўтобус падкаціўся не да аўтастанцыі, а да нейкага звычайнага прыпынку, пшыкнулі, адчыняючыся, дзверы, і кіроўца абвясціў персанальна для іх, павысіўшы голас: “канцавы прыпынак!”, *ім* нічога не заставалася, як выйсці ў вячэрні паўзмрок... ля прыпынку вісела шыльда, якая *іх* абрадавала: аказваецца, адсюль ходзіў гарадскі аўтобус, маршрут якога быў так і пазначаны: “Вторая речка – Вокзал”, была і лаўка, на якую *яны* селі і сталі чакаць аўтобуса, да адыходу цягніка на Маскву заставалася яшчэ каля дзвюх гадзінаў, язды тут на аўтобусе не больш за паўгадзіны, таму можна было асабліва не напружвацца і не хвалявацца, аднак час ішоў, а ніякога аўтобуса не было, між тым вакол *іх* пачалі кружляць, паступова набліжаючыся, нейкія цені мясцовых, як *яны* здагадаліся, жыхароў – хлопцаў і дзяўчат сумнеўнага выгляду, якіх такім, як *яны*, чужакам, якраз і трэба было ўсяляк пазбягаць, бо горад даўно падзелены на зоны ўплыву (*яму* пра гэта яшчэ на Курылах расказвала дзяўчына з Уладзівастока), цені нарэшце матэрыялізаваліся: да *іх* падышлі пяць маладзёнаў (чатыры было б мала на *іх* дваіх, а шэсць замнога – падумаў *ён*, а пяць якраз...), “автобус ждете, ребята”, – сказала гэта прыемным мілым голасам даволі сімпатычная зблізку дзяўчына, якая знешне толькі голасам і адрознівалася ад хлопцаў, бо апранутая была ў нешта такое ж

шэра-чорнае: штаны ды куртка, як і ў іншых; *яны*, зглытнуўшы сліну, моўчкі кіўнулі, “автобусы так поздно тут не ходят, последний полчаса назад ушёл...”, – гэта была, вядома, найпрыемнейшая навіна для іх, дарэчы, *яны* і сядзелі тут ужо каля паўгадзіны, пэўна, іхні аўтобус з Находкі павінен быў прыйсці якраз пад адыход апошняга аўтобуса адсюль, але спазніўся на дзясятак хвілінаў, і не першы раз, мяркуючы па ценях... ад жыхароў Уладзівастока *яны*, відавочна, нейкім чынам адрозніваліся, што і ўлавілі цені, чым? – *яны* ў іх не спыталі, не да таго было, але біць іх адразу не сталі, а па-добраму прапанавалі: “ребят, вам девчонку не надо?” – спытаў адзін з чатырох хлопцаў, што падышлі да *іх*, прапаноўваючы, пэўна ж, тую “девчонку”, якая стаяла побач, размова выглядала міралюбнай, асабліва ўміляла *яго* слоўка “ребят”, менавіта “ребят”, а не “ребята”, не “пацаны”, не чувакі”, як было паўсюль, і гэтае “ребят” гучала тут і ад міліцыянта, і ад старэйшых, і ад гэтых вось маладзёнаў, “ребят-котят-козлят...” – круцілася ў *ягонай* галаве, а сам *ён* думаў, што ж рабіць у гэтай сітуёвіне, выбрацца з якой будзе няпроста; але маўчаць доўга не выпадала, цярпенне ў “ребят”, зразумела ж, было не гумавае, тым больш, што ценяў колькасць вакол заўважна павялічылася, і *яму* нават падалося, што пара хлопцаў, якія спыніліся ў метрах пятнаццаці ад лаўкі-прыпынку, пагульвалі ножыкамі ў руках, і раз-пораз пускалі ў *іхні* бок кволыя “зайчыкі”, але не сонечныя, бо ўжо добра сцямнела, а водбліскаў ад адзінага ліхтара, што невядома якім чынам ацалеў у гэтым раёне; унізе, пад гарой, на якой *яны* сядзелі, нешта загрукатала, грукат той *ён* чуў ужо некалькі разоў і па характэрным шуме здагадаўся, што гэта электрычка, і там, унізе, відаць, знаходзіцца яе прыпынак, бо грукат сцішаўся, замаўкаў на хвіліну, а потым зноў нарастаў і знікаў; гэтым разам гук набліжаўся і сціхаў, значыць, электрычка ідзе сюды, і ідзе яна, відаць, у бок вакзала, а нават, калі і ў іншы, няважна, бо яна адзінае *іх* выратаванне цяпер... апісваецца гэта доўга, а насамрэч ад прапановы “девчонкі” прайшло, можа, секунд дзесяць, не больш, хлопцы чакалі адказу, упэўненыя ў сабе, і, мусіць, ужо смакуючы далейшае развіццё падзеяў; збіць і абабраць гэтых “лапухоў” – што можа быць прасцей... *ён* узяў сябра за руку, сціснуў, скамандаваў: “бяжым!” і пацягнуў яго за сабой уніз да грукату электрычкі; гэтага ніхто з хлопцаў, што акружылі іх і ўжо ўзважвалі даход ад нечаканае лёгкае здабычы, не чакаў, пакуль тыя апамяталіся, *яны* адарваліся ад іх метраў на дваццаць, добра, што нічога не купілі ў Находцы і рукі іхнія былі не занятыя клункамі – *яны* ляцелі ўніз, як вецер, і *ім* зноў пашанцавала: пад гарой і сапраўды была станцыя і на платформе стаяла электрычка з расчыненымі дзвярыма, яны ўскочылі ў яе і дзверы амаль адразу за імі выпусцілі паветра і зачыніліся, “Следушчая остановка Первая речка”, – аб’явіў скрыпуча-хрыпаты голас машыніста і быў ён, гэты голас, прыемны, як першы пацалунак, салодкі, як мёд; на платформе, пад вокнамі электрычкі, мітусілася з дзясятак раз’ятраных няўдалай пагоняй ваўкоў, ваўкалакаў, ажылых з цемраю нябожчыкаў, паўсталых з магілаў зомбі – ці хто там яшчэ бывае ў кіно, якія бліскалі вачыма, стукалі зубамі, якаталі між сабою, але дастаць *іх* ужо не маглі... апошнім мільгануў разгублены прыгожы тварык “девчонкі”... “як у кіно...”, – сказаў сябар, нібыта пачуўшы ягоныя думкі, і сапраўды, усё адбылося як у кіно, бо ў жывым жыцці так уратавацца ад немалога здзеку ці нават ад немінучай смерці – немагчыма...” была б нам дзяўчонка...”, – сябар сціснуў *яго* руку ва ўдзячнасці: “і як ты здагадаўся, што

тут электрычка ходзіць?” – спытаў ён, калі на першай рэчцы машыніст аб’явіў, што наступным прыпынкам будзе чыгуначны вакзал... як здагадаўся?.. інтуіцыя гэта называецца, інтуіцыя, інстынкт выжывання, дадзены прыродай продку чалавека, які з’яўляецца раптам ніадкуль, калі трапляеш у безвыходную сітуацыю, трэба толькі своечасова ўлавіць яго – іншага тлумачэння не было...

на вакзале *яны* адразу пайшлі ў камеру захоўвання, атрымалі свае чамаданы і выйшлі на перон: маскоўскі цягнік ужо стаяў на рэйках, але вагоны яшчэ былі зачыненыя, цяпер чакаў *іх* шлях дадому за – страшна падумаць! – 10 000 кіламетраў: чвэрць даўжыні экватара планеты Зямля... да Масквы амаль 9300 кіламетраў (дакладна, як пазначана ў даведніках, 9288 км па чыгунцы) і адтуль да Менску яшчэ 700 (713 км па чыгунцы ад вакзала да вакзала)... гэты шлях, яшчэ на Сахаліне, *яны* разбілі на адрэзкі з прыпынкамі на два-тры дні ў розных буйных гарадах па дарозе: хацелася не проста праехаць з краю ў край вялізнае краіны і пабачыць яе з вакна вагона, а і паглядзець зблізку – вачыма людзей, якія жывуць у тых гарадах, дзеля гэтага варта было выйсці на патрэбнай станцыі, зайсці ў білетную касу і перакампасціраваць свой агульны квіток да Масквы з гэтага цягніка на іншы і на некалькі дзён застацца ў абраным горадзе; першы прыпынак яны вырашылі зрабіць зусім непадалёку ад Уладзівастока – у Хабараўску, дзе жыла *ягоная* стрыечная сястра,

цягнік адышоў без прыгодаў у прызначаны час, і *яны*, развітваючыся з Уладзівастокам, у апошні раз разгледзелі яго; начны Уладзівасток быў абсалютна непадобны на дзённы: з вакна цягніка ён падаваўся зусім не савецкім горадам, а нейкім Нью-Ёркам ці Лос-Анжэлесам, такое ўражанне стваралі дамы, што стаялі адзін над адным на сопках, і плямкі вокнаў тых, што былі вышэй, падымаліся так высока, што яны здаваліся хмарачосамі, каб пабачыць якія галаву даводзілася задзіраць аж да хрусту і болю ў шыі; у купэ *яны* былі ўдвох, і ўвогуле пасажыраў у вагоне было няшмат, пэўна, мала хто адважваўся выкінуць са свайго жыцця ці з кароткага працоўнага адпачынку цэлы тыдзень на дарогу, большасць старалася набыць квіткі на самалёт, хоць і даражэй гэта, але ў цэлым эканомней: восем-дзевяць гадзінаў і ты ў Маскве, ды яшчэ і пакормяць у самалёце, а ў цягніку за тыдзень на ежу ды на гарэлку – куды ж без яе – патраціш значна болей: савецкія людзі ўмелі лічыць грошы, якія даваліся большасці вельмі нялёгка, таму ў цягніку ехалі ў асноўным не да Масквы – такія былі, але адзінкі, а ў асноўным тыя, хто ехаў да бліжэйшых гарадоў суткі-двое, якія не так шкада патраціць на дарогу... хоць гэта таксама ўражвала *іх*, жыхароў еўрапейскай рэспублікі, дзе ад краю да краю, ад мяжы да мяжы можна было заехаць за нейкія 6-8 гадзінак, можна толькі здагадвацца, як здзіўляла гэта падарожнікаў з Еўропы, дзе з Бруселя ў Парыж, з Берліна ў Прагу, з Вены ў Будапешт можна заехаць за 2-3 гадзіны...

ноч прайшла незаўважна, а раніцай *яны* прачнуліся ад таго, што цягнік стаяў, а пад вокнамі бегалі ды крычалі нейкія людзі... чаму бегаюць? што крычаць? пажар? аварыя?.. цягнік стаяў, падобна, ужо доўга, прынамсі, не менш за пяць хвілінаў, бо не чуваць было, каб недзе наперадзе шумеў-дыхаў цеплавоз ці электравоз, у вагоне і ва ўсім цягніку была такая незвычайная цішыня, што гэты гвалт і тлум на пероне падаўся спачатку, спрасоння, нейкай панікай, ад чаго *ён* адразу саскочыў з верхняй паліцы, дзе спаў, і кінуўся да вакна – амаль адразу, з першымі ўцямнымі крыкамі,

прыйшло разуменне: гэтыя "метущиеся" (Расія, інакш і не скажаш) людзі пад вокнамі хочуць нешта прадаць пасажырам; бегаюць, спяшаюцца знайсці пакупніка, і гэты вэрхал зусім не паніка, а жаданне прыцягнуць увагу да сябе, да свайго тавару, які край трэба прадаць... ля *іхняга* вакна спыніўся запыханы чалавек, спыніўся і пачаў стукаць у вакно каменем не каменем, палкай не палкай, а нечым даволі ёмкім, велічынёй ледзь не з дзіцячую галаву, як *ім* падалося – так ён рэкламаваў свой тавар; "шышка, – пазнаў сябар, – кедровая шышка", –і таксама споўз з паліцы – а *яны* наўмысна занялі верхнія, хоць ніжнія і былі вольныя, бо з верхніх можна было лежачы бачыць краявіды, што праплываюць за вакном... сябар ссунуўся, абуўся і пайшоў у тамбур да расчыненых дзвярэй вагона, каля якіх буяў бойкі гандаль кедравымі шышкамі – галоўнай адметнасцю гэтых мясцінаў, галоўным сувенірам і, адпаведна, галоўным заробкам многіх мясцовых бамжоў, п'яніцаў, дармаедаў (тунеядцаў), а таксама надзеяй на грошы бабулек і дзядоў пенсіянераў... калі *ён* падышоў да дзвярэй, сябра ўжо абступілі прадаўцы: "бярыце, бярыце, гэта далёкаўсходні кедр... такіх больш нідзе няма... у Сібіры шышкі маленькія, а тут во цэлы стакан арэхаў з адной будзе... усяго рубель штука", рубель немалыя грошы, але "бізнес" працвітаў: шышку, а то і тры, пяць (двух- і чатырохрублёвак у СССР не было) набыў ледзь не кожны пасажыр, што ехаў за Хабараўск ці быў не тутэйшым, бо прадаўцы не ілгалі: шышкамі гандлявалі і далей па трасе аж да Свярдлоўска, і не па адной, а цэлымі кулькамі, па пяць-сем на рубель, але такіх вялізных, проста аграмадных, больш нідзе не было, і тыя, хто не набыў такі каштоўны сваёй адметнасцю сувенір на безыменнай для іх станцыі між Уладзівастокам і Хабараўскам, потым не раз згадвалі і цокалі языком, блін, ад якой шыкоўнай далёкаўсходняй памяткі яны адмовіліся, пашкадаваўшы рубля – як бы ўпрыгожыла тая шышка іхнюю "сценку" ці трумо; цягнік тым часам ажыў, торгнуўся ўзад-уперад, недзе ў галаве ягонай крутануліся, завішчэлі-загрукалі колы, пыхнуў парай, нібы паравоз, рушыў далей і...

праз некалькі гадзін *яны* выходзілі на вымыты дажджом хабараўскі перон, на якім сустракала *іх* адтэлеграмленая загадзя *ягоная* сястра Тацяна, *яны* меркавалі пажыць у яе некалькі дзён, каб пазнаёміцца са славутасцямі горада на вялікім Амуры; па дарозе да кватэры сястра расказала, адкуль пайшла назва горада – вядома ж, ад прозвішча знакамітага "першапраходца" Ерафея Паўлавіча Хабарава (дарэчы, па чыгунцы далей, у Амурскай вобласці, *іх* чакала яшчэ і мястэчка пад назвай Ерафей Паўлавіч – менавіта так, па імені і па бацьку Хабарава названае), а вось Амур названы Амурам зусім не ад таго амура, які лётае з лукам і стрэламі ды падпільноўвае закаханых, а ад манчжурскага слова "амар", што азначае "вялікая рака", кітайцы ж называлі Амур – Хэйхэ, што азначае "чорная рака", бо ў іх ёсць яшчэ Хуанхэ – "жоўтая рака" і Янцзы, якую называюць яны "блакітная рака", хоць сама назва перакладаецца як "доўгая рака", словам, народ тут асабліва не задумваўся над назвамі: вялікая, чорная, жоўтая, доўгая... – а па-мясцоваму гучыць экзатычна; трэба адаць належнае расейцам, яны таксама не ламалі галаву над прыдумваннем назваў, а пераймалі іх ад абарыгенаў, крыху падладжваючы пад сваю мову, дакладней – пад свой язык у прамым значэнні гэтага слова, такім чынам "амар" стаў Амурам – і ўспрымаецца цяпер ледзь не богам кахання, а таму больш знаёмым і зразумелым еўрапейскім каланізатарам і амаль сваім... што можна сказаць

пра Хабараўск? найперш адно: калі кіруецеся ў вандроўку, прыкідваеце мажлівы маршрут і маеце намер пабачыць уласна адметнасці тых мясцінаў, не плануйце заязджаць да сваіх родных, знаёмых і блізкіх, бо тады вашае знаёмства з горадамператворыцца ў суцэльнае застолле, у паўзах між якім, у шыза-шарым тумане, будзе згадвацца набярэжная "чорнай рэчкі" – Амура (а не той чорнай рэчкі, дзе была апошняя дуэль Пушкіна, хоць яна і была ля Чорнай рэчкі), Амура ўражліва шырачэннага, да другога берага яго і напраўду рэ-э-эдкая птушка даляціць і дзе знаходзіцца ўжо Кітай, куды той птушцы ў тыя гады лепш было не далятаць увогуле, бо вярнуцца не ўдасца, упалююць... дык вось на высокім хабараўскім беразе шырачэзнага Амура *яны* доўга хадзілі пад музейным шкілетам вялізнага кіта – ці не таго самага біблейскага Левіяфана, і заблукалі ў чэраве ягоным пад рэбрамі, як у доме, каб ачнуцца ў ім, як той Іона, на хвілінку і ў наступны раз прыйсці ў сябе ўжо ў ложку сярод ночы пад песні Высоцкага з магнітафона і доўга разважаць-гадаць у цемры, дзе ты знаходзішся: у чэраве кіта ці ў лоне маці... засынаць, так і не зразумеўшы, дзе ўсё ж, і прачынацца раптам на вялізнай плошчы, напрыканцы якой стаіць помнік Леніну – маленькаму, смешнаму, зялёнаму чалавечку, падобнаму да іншапланецяніна, у якога, *яму* падасца, дзве кепкі – адна на галаве, а другая ў руцэ, прыціснутай да сэрца, "а трэцяя, – скажа сябар, – у яго ў другой руцэ, што схаваная ў кішэню", *ён* засмяецца, каб наступным разам прачнуцца ўжо ў цягніку, які будзе везці *іх* некуды наперад... некуды наперад... таму, заклінаю, ні ў якім разе не плануйце заязджаць да сваякоў, калі вы хочаце паглядзець краіну зблізку, не спыняйцеся ў тых гарадах ды вёсках, дзе яны жывуць, каб не пакрыўдзіць і не абразіць іх сваім ігнараваннем: "быў, а не заехаў, блін...", бо нішто так не зближае сваякоў, як адлегласць, якая іх падзяляе, а таму ніколі не скарачайце гэтую адлегласць да мінімуму – абмінайце, аб'язджайце іх, і тады ў вас будзе шанц нешта ўбачыць і запомніць... ох ужо гэтае славутае расейскае "гасцепрыімства": была б прычына, а гарэлка знойдзецца, пазычыцца, бывай, апошні грош... а прычына ж якраз ёсць, і якая! хлопцы з Захаду, радня, якая ніколі тут не была і ці будзе яшчэ калі... і пайшло-паехала... *яны* не чакалі такога і таму адразу трапілі ў пастку той самай, найпершай бяды вялікай краіны – п'янства... чаму п'юць расейцы? што шукаюць у гарэлцы? волю? іншы, лепшы свет? радасць? забыццё?.. хто на гэта адкажа? і ці ведае хто адказ...

на *іхняе* шчасце далей за Хабараўскам ажно да Масквы ў *іх* ні блізкіх, ні знаёмых не было, а таму, адаспаўшыся ў вагоне, *яны* задумаліся: а што гэта, уласна, было і дзе *яны* былі? і ўрэшце: "а куды мы едзем?"... давялося пытацца ў праваднiцы, аказалася, у правільным кірунку – на Маскву, і квіткі *іхнія*, якія ляжаць у яе, закампасціраваныя аж да Іркуцка, да якога яшчэ гойдацца на рэйках амаль трое сутак, а значыць, не спыніцца *ім* у славутым на ўвесь свет Біразбіджане – сталіцы не менш славутай Яўрэйскай аўтаномнай вобласці, не памыць ногі ў Аргуні і Шылцы, не заехаць у бамаўскую Тынду і не пабачыць забайкальскія Чыту з Улан-Удэ... планы *іхнія*, намеры і жаданні Хабараўск здорава падкарэктаваў... зрэшты, да Біразбіджана *яны* гэтым ранкам якраз і пад'язджалі: вызірнулі ў вакно – за ім была ўжо сапраўдная зіма, ляжаў снег – свежы, яшчэ белы-белы, і не верылася, што яшчэ тры дні таму ва Уладзівастоку *іх* паліла сонца, і *яны* ледзь не палезлі купацца ўслед за мясцовымі плыўцамі... вялікая ў нас краіна, шырокая, як у той песні, з поўначы на поўдзень, і доўгая з захаду

на ўсход, а вось габрэям дзеля адбудовы, адраджэння сваёй ідэнтычнасці і жыцця кампактна, супольна, разам, адным кагалам... вылучылі “самы лепшы” кавалак яе – гэта не жарт, гэта горыч і нават роспач, якія ахапілі *іх*, калі на няцвёрдых нагах *яны* ступілі на коўзкую, скаваную марозам і холадам “зямлю абетаваную”, дадзеную габрэям Сталіным, адшкадаваную, ад сэрца адарваную... маскоўскі цягнік павінен быў стаяць тут дваццаць хвілінаў, і *яны* не маглі не выйсці, не маглі не пабываць на зямлі, населенай савецкімі габрэямі, а тым болей той, што адзіная ў свеце называецца Яўрэйскай; не, прамінуць такую мажлівасць, якая выпадае раз за жыццё, нельга, і *яны*, слізгаючы па лёдзе і снезе, апранутыя не цяплей, а ў тым, у чым былі ў вагоне, рушылі да будынка вакзала; ён быў не пустым, але габрэяў *яны* там не пабачылі ніводнага, і мовы габрэйскай не пачулі, у адным з кутоў, як і на іншых вакзалах, быў газетны кіёск, у вочы кінулася назва газеты “Бірабіджанер штэрн”, о, варта набыць яе, як сувенір!, а што ж яшчэ можна тут купіць адметнае, як не газету... “ребят, вы не с московского поезда?” – спытала кіяскёрка, аддаючы рэшту, – “так, с поезда, – адказалі пацепваючы ад холаду плячыма, – а што?”, “так он отходіт... бегіте, а то отстанете...”, о, гора-горачка, а *яны* ж голыя выйшлі, а *яны* ж у цягніку ўсё сваё пакінулі... выскачылі з вакзала – плывуць, яшчэ не набраўшы хуткасці, бягуць іхнія вагоны, набіраюць ход, стаяць у расчыненых дзвярах правадніцы і праваднікі з жоўтымі сцяжкамі... *яны* з раскрытымі ратамі стаялі таксама, падалося, цэлую вечнасць, праводзячы вачыма нумары вагонаў: тры, чатыры, пяць... а потым кінуліся да цягніка і ўзлезлі, ускараскаліся, ускочылі ў адзін з апошніх вагонаў, сціскаючы ў руках скамечаную “Бірабіджанер штэрн”... “мене, тэкел, фарэс...” – бывай Бірабіджан, бывай... цягнік, спазняючыся і наганяючы час, не даў на знаёмства з табою і дзесяці хвілінаў, “мене, тэкел, упарсін...” – Яўрэйская аўтаномная вобласць... вось і ўсё, што было, але не “вені”, не “відзі” і тым болей не “віцы” – на жаль...

на тых жа няцвёрдых нагах *яны* вярнуліся ў сваё купэ, але ўжо працверазелыя канчаткова, бо з разуменнем, што чакае іх пакута ў некалькі сутак язды ад Хабараўска да Іркуцка – амаль палова ўсёй адлегласці да Масквы – без задуманай раней перадышкі ў некалькіх гарадах па дарозе; але добра, што толькі да Іркуцка, бо магло быць, крый Божа, і да Масквы... і ўсё ж, значыць, давядзецца развітацца з жаданнем паглядзець Сібір не з вакна вагона, а памацаць яе нагамі, пакратаць рукамі, абмераць вачыма, пачуць не толькі грукат колаў, але і маты будаўнікоў недабудаванага яшчэ БАМа, якія сутыкнуліся тут не з рамантыкай, а з жорсткім бытам, жыццём на нарах у цесных вагончыках без вады, цяпла, а часам і электрычнасці (не, шаноўны аўтар, даруй, гэта ўжо занадта, гэта перабор, паклёп... якія маты? трэба пісаць так, як праўдзіва пісалі тагачасныя газеты: *яны* хацелі прасякнуцца энтузізмам першапраходцаў, паслухаць натхнёныя песні камсамольцаў-патрыётаў, якія прыехалі будаваць будучыню краіны, удыхнуць дым таёжнага вогнішча...), так, з вакна вагона ім давялося пабачыць не БАМ, а толькі надпіс – вялізную рэкламную шыльду, што клікала ў сталіцу БАМу Тынду, пабачыць на станцыях платформы, гружаныя штабялямі рэек і шпалаў... “прыязджай ка мне на БАМ, я табе на шпалах дам...”, – грукаталі-выстуквалі колы цягніка, білі па іхніх вушах, перабіваючы песню, якую так любіў “дыджэй” цягнікоўскага радыё і ставіў раз за разам: “мой адрас не дом і не вуліца, мой адрас Савецкі Саюз... ту, ту-ту-ту, ту-ту,

ту-ту; ту, ту-ту-ту, ту-ту...” – цягнік намотваў на колы кіламетры лясоў, снегавых раўнінаў, перапаўзаў праз рэчкі, ныраў, як вуж, у даўжэзныя норы-тунелі і паціху-патроху набліжаўся да Байкала, снег за вокнамі знік пасля таго, як Амур пабег у бок Кітая (ці не Амур ужо, а Аргунь, бо *яны* праехалі Шылку) і лясы змяніліся пагоркамі, якія сваімі жоўтымі, выліналымі на восень спінамі нагадвалі статак аграмадных авечак, што мірна пасвяцца, уткнуўшыся пысамі ў такую ж жоўтую – выліналую – траву: дзень падобны на ноч, ноч падобная на дзень, дзень падобны на ноч, ноч падобная на дзень: “день – ночь, сутки прочь...” і вось ужо за Яблыневым хрыбтом бурацкія пагоркі вывелі цягнік да возера Байкал, на якім баргузін паварочваў вал за валам... пасля Улан-Удэ цягнік спыніўся на нейкай невялічкай станцыі амаль на беразе Байкала – ну, можа, нейкіх дзвесце метраў да яго, захацелася, як у Бірабіджане, выскачыць з вагона і памачыць ногі ў знакамітым прэсным возеры-моры, але *яны* стрымалі сябе ад граху далей, супакойваючы імпэт тым, што наперадзе Іркуцк, ад якога да Байкала нейкіх шэсць дзясяткаў кіламетраў – хіба гэта адлегласць для тых, хто праехаў паўкраіны...

але тут аўтар забег крыху наперад, бо ўсё ж амаль трое сутак у дарозе – гэта не бясконцае спанне і сузіранне краявідаў; у такіх паездках, у такіх вагонах заўсёды адбываюцца нейкія знаёмствы са, здавалася б, выпадковымі людзьмі, жыццёвыя шляхі якіх раптам перасякаюцца на некалькі дзясяткаў гадзінаў, а потым яны разлятаюцца, як більярдныя шары, кожны ў свой бок і больш ніколі не сустракаюцца; у такія гадзіны выпадковых спадарожнікаў-папутчыкаў часта цягне на доўгія гутаркі, якія робяцца шчырымі, як з роднымі і блізкімі, а то і яшчэ шчырэй, асабліва за чаркай; першым такім сустрэчным для *іх* стаў Ваня, які зазірнуў у *іхняе* купэ і спытаў: “ребят, вам не скучно, может, в картишки перекинемся?”, то быў час, хоць цяпер у гэта цяжка паверыць, калі не было не тое што інтэрнэту і мабільнікаў, не было нават кампутараў, а тыя, што былі, наўрад ці памясціліся б у гэты вагон, а таму адзінай магчымасцю неяк бавіць час у далёкай дарозе былі кнігі, часопісы ды настольныя гульні – шахматы, шашкі, даміно, але гэта рэдка, а ў асноўным – карты, якімі можна было гуляць у дзясяткі розных гульняў, пачынаючы з прымітыўнага “дурня”; Ваня падышоў да *іх* недзе адразу за Бірабіджанам, і *яны* тады адмовіліся ад гуляў – галовы трашчалі з учарашняга, пэўна, ён нешта заўважыў ці адчуў, бо наступны раз ён зайшоў да *іх* праз гадзіну з пляшкай гарэлкі, паставіў на стол і сказаў: “будзем знакомы: Ваня, я з Чукоткі еду, чукча”, – апошняе мог бы і не казаць, бо тое, што ён не Ваня і не Іван, напісана было на ягоным твары, дадзеным ад бацькоў; зрэшты, як высветлілася потым, казаць трэба было, хоць *іх* гэта не дужа каб цікавіла спачатку: ну, чукча і чукча, паўночныя сібірскія людзі для іх былі падобнымі адзін да аднаго і адрозніць чукчу ад якута, юкагіра ці ненца наўрад ці яны змаглі б, а таму – галоўнае ты чалавек, якога я ад пачатку паважаю, а якой ты нацыянальнасці – ці так гэта важна? тым болей праз акцябрацтва, піянерства, камсамольства і адзіную рускую мову ў адзінай, хай і падзеленай на нейкія саюзныя ці аўтаномныя нацыянальныя рэспублікі, краіне, іх усіх рабілі проста савецкімі людзьмі, адным народам; але, аказалася ў гэтым канкрэтным выпадку тое, што Ваня чукча, якраз і вельмі важна для яго самога найперш, як выявілася ўжо за першай чаркай; насамрэч ягонае імя было зусім не Ваня – гэтак ён адаптаваў сваё чукоцкае імя В’інэвыт, “мяне

назвала так мама, – казаў ён, – гэта жаночае імя, у нас так часам робяць, забабоны, разумееце, – усміхнуўся, – справа ў тым, што сястрычка, якая нарадзілася перада мною, пражыла ўсяго месяц і памерла, таму маё імя азначае не Іван, а “памерлая”... ну, перастрахоўка такая ў мамы была, каб я выжыў... і я выжыў, як бачыце”; Ваня памаўчаў і спытаў: “я заўважыў, што вы хлопцы не мясцовыя, адкуль вы?”, дзіўна, але як *яны* ні стараліся выглядаць сваімі сярод расейцаў, і знешне, і ў зносінах на мове, чамусьці іхнюю нетутэйшасць заўважалі ўсе і амаль адразу перапытвалі: адкуль вы? – “з Беларусі”, – адказалі *яны* Ваню, “я і бачу...”, – па-філасофску сказаў ён, але што бачыць, не патлумачыў, а *яны* не паспелі перапытаць, бо Ваня спытаў, збянтэжыўшы *іх*: “а чаму вы не размаўляеце на сваёй мове? яна ж у вас ёсць?”, “як не размаўляем? размаўляем... толькі між сабой, вось ты ж з намі размаўляеш па-руску, а не па-свойму”, “так, – пагадзіўся Ваня, – па-руску, а не па-свойму, – і з горыччу дадаў: – і імя сваё спачатку назваў вам на рускі манер...”, адкуль і чаму была гэтая горыч у ягоных словах, *яны* даведаліся пазней – Ваня аказаўся палымяным чукоцкім патрыётам – цяпер бы сказалі нацыяналістам, і нават дысідэнтам – і распавёў крыху са слаўнай гісторыі чукчаў, пра што *яны* ведаць не ведалі і думаць не думалі; з чукчаў у Савецкім Саюзе ўсе смяяліся тады як з самых наіўных, мякка кажучы, людзей, а дакладней, самых дурных і тупых, па краіне хадзілі сотні показак, у якіх чукчы выглядалі ідыётамі, і само слова “чукча” стала сінонімам словаў “дурань”, “тупіца”, “неадукаваны”, “адсталы”... а тут чалавек адкрыта прызнаецца, што ён чукча, ды яшчэ і ганарыцца гэтым: “бяда ў тым, што людзі не ведаюць сапраўднай гісторыі, – казаў Ваня-В’інэвыт, – у гэтай краіне (ён так і казаў пра СССР – гэтай краіне) ніводзін народ не ведае праўду пра сябе, у тым ліку і рускія – у іх усё прыхарошана, яны ніколі ні з кім не ваявалі, толькі абараняліся, а ўсе да іх дабраахвотна далучаліся, прасіліся пад надзейнае братняе крыло, вось і займелі ва ўладанне адну шостую частку зямное сушы такім добраахвотным, без войнаў і разні, прылучэннем... мы, чукчы, ведаем, што для нас азначала гэтая добраахвотнасць – амаль трыста гадоў вайны, калі рускія сядзелі за высокім плотам у сваіх гарнізонах і высунуцца да нас па ясак баяліся... яны прыплылі на Чукотку ў сярэдзіне сямнаццатага стагоддзя і адразу запатрабавалі плаціць ім даніну – футрам, маржовымі косткамі, золатам, самацветамі... чаму мы, вольны народ, вялікі народ, сапраўдны – саманазва чукчаў “луараветлан”, што ў перакладзе азначае “сапраўдныя людзі”, бо іншыя плямёны, якія былі вакол нас, падпарадкоўваліся нам, каб вы разумелі – гэтак, як іншыя лацінаамерыканскія плямёны падпарадкоўваліся інкам ды майя, мы былі гаспадарамі сваёй зямлі, сваіх рэк і гор, сваіх аленяў і маржоў, а тут прыйшлі нейкія барадачы і кажуць: плаці!, бо ты цяпер уваходзіш у вялікую дзяржаву і мы цябе будзем абараняць, не трэба нам вашая абарона, мы самі ўмеем і можам пастаяць за сябе... і мы ваявалі з рускімі больш за дзвесце гадоў, і зброяй нас яны перамагчы на змаглі... ведаеце бітву пры Егачы? Не чулі? Ну, зразумела... гэта было 25 сакавіка 1730 года, рускія казакі пад кіраўніцтвам атамана Шастакова прыйшлі да нас, каб выканаць указ царскага сената аб канчатковым далучэнні чукчаў да Расіі, яны падышлі да ракі Егачэ, і мы іх там ужо чакалі, бой скончыўся поўнай паразай рускіх, сам Шастакоў быў забіты – стралой у горла, бо мы змагаліся з лукамі, дзідамі і арканамі супраць стрэльбаў, гранат і гармат, але

што такое тады крэмневая стрэльба – толькі гром, толькі гук, пакуль рускі яе перазарадзіць, мы пусцім у яго дзесяць стрэлаў... а яны потым, каб змыць памяць пра свой сорам і нашую перамогу, назвалі наш Егачэ ракой Шастакова – у гонар загінулага іхняга атамана... пазней былі яшчэ слаўныя бітвы чукчаў і рускіх, дзе мы нязменна перамагалі, напрыклад, пры рацэ Арловай, аднак тое, што не зрабіла руская стрэльба, руская шабля, рускі штык і нават крыж, зрабіла руская гарэлка... сапраўдны народ чукчы, які самі рускія за нескаронасць і свабодалюбства назвалі "сібірскімі чаркесамі", ужо пры савецкай уладзе, пры бальшавіках, перамаглі гарэлка і... сіфіліс, так, сіфіліс, які ў нас і сёння называюць "рускай хваробай", слабымі мы аказаліся найперш перад спіртам, перад "вогненнай вадой"... – Ваня горка пасміхнуўся, гледзячы на недапітую пляшку гарэлкі, – а потым яшчэ і нашая спрадвечная павага і ўвага да госця дадалася – мы самі сваіх жонак і дачок аддавалі на ноч розным прыхадням з экспедыцый, якія і прынеслі гэтую жудасную хваробу... спрадвеку ў нас вялося так, госці рэдкімі былі, жылі мы адасоблена, а таму, кажуць, што звязаная традыцыя гэтая з жаданнем разбавіць сваю кроў чужой, каб не пачалося выраджэнне... можа й так, але заплацілі мы за гэта вялікую плату...", – Ваня, зважаючы на тое, што *яны* амаль не п'юць, наліў сабе, – "за маці сваю, за род свой, за нескароны зброяй народ хачу выпіць, падтрымаеце мяне?", як не падтрымаць: "за сапраўдны народ, за чукчаў!"... "мяне з дому, з ярангі, так, з ярангі, а не з чума, чум – гэта не наша, наша – яранга, мяне з ярангі забралі, калі яшчэ і сямі гадоў не было, у школу-інтэрнат накіравалі, дома бываў толькі ўлетку, на канікулах, не буду расказваць пра нашыя інтэрнаты і што там рабілася, доўга гэта, ды і вы, бачу, стаміліся ("не, не... – захіталі галовамі *яны*, – цікава..."), стаміліся, стаміліся... шмат інфармацыі адразу будзе вам, бачу... ды і мне хутка ўжо выходзіць, скажу яшчэ, што зрабіць з мяне, як з іншых, рускага, ім не ўдалося, па крупінцы, па сняжынцы збіраў я нашую гісторыю, запісаў, толькі вось надрукаваць нідзе не магу, хіба вось так, як вам, расказваць у дарозе", "а куды і адкуль ты едзеш?", "з дому ў дом, быў на Чукотцы, а жыву я цяпер, так лёс склаўся, што не ў роднай тундры, у горадзе Свабодны, выбраў яго з-за назвы, усё добра, сям'ю маю, жонка – руская, так лёс склаўся, але ўсё добра... усё добра..." – задумаўся аб нечым, падняў вочы ўгару і такі сум быў у іх, што дрыжыкі пайшлі ў *іх* па целе... "мне хутка ўжо выходзіць, так што прабачце, задурыў вам галовы, але, можа, хоць вы пра чукчаў цяпер думаць будзеце па-іншаму, а не толькі смяяцца з анекдотаў..." – Ваня ўстаў, падаў *ім* руку і выйшаў... вось ён лёс... жыве далёка ад роднай тундры ў Свабодным, каб адчуваць сябе свабодным... жанаты на рускай... каму перадасць ён свае веды – добра, калі сыну... значыць, і яго зламалі... – *яны* яшчэ доўга перакідваліся словамі, уражаныя расповедам Вані-В'інэвыта, і хочаш не хочаш пачыналі думаць пра свой свабодалюбны народ, які толькі на працягу менш чым ста гадоў паўставаў супраць заваёўнікаў тройчы, а то і чатыры разы, калі ўлічыць вайну з Напалеонам... і што мае з гэтага? страты... страты... страты... раскіданых у дзевятнаццатым стагоддзі па ўсёй Сібіры "землякоў", якія толькі ва ўспамінах засталіся беларусамі, і тое рэдка, а дзеці іхнія часцей называюць сябе палякамі, бо гэта нібыта прэстыжней...

да Іркуцка ехаць было яшчэ амаль двое сутак, пад вечар да *іх* у купэ зайшла правадніца – жанчына гадоў пад сорак, худаватая, таму выглядала

маладзей за свае гады, хоць яны і адбіліся на яе твары, прапанавала “чайку” і прысела на паліцы нібыта стомленая-стомленая, *яны* з цікавасцю глядзелі на яе, чакалі тлумачэння, “ох замарылася я, – сказала нарэшце правадніца, – адна ад Уладзівастока еду, напарніца раптоўна захварэла – апендыцыт, за гадзіну да рэйса ў бальніцу забралі і замену не знайшлі... добра, што пасажыраў у гэты час няшмат, дамовілася з брыгадзірам, каб падсаджвалі ў іншыя вагоны, цяпер адны вы ў мяне засталіся – апошнія ў Свабодным выйшлі...”, – цяжка ўздыхнула: “дык будзеце чаёк? ну то добра, і я з вамі пап’ю...”, праз хвілінаў дзесяць яна прынесла тры шклянкі гарбаты і тры пачкі печыва “Юбілейнае”, “чайку я добрага заварыла, без соды”, – пахвалілася, а *яны* і не ведалі, што соду правадніцы ў гарбату падсыпаюць, потым яна сказала: соду падсыпаюць, каб з заваркі ўсё выцягнуць, а *яны* то думалі: чаму такі смачны “чаёк” у цягніках... “вы да Іркуцка едзеце, – сказала, падзьмухваючы ў гарачую шклянку, – а мне брыгадзір сказаў, што да яго нікога больш не падсадзіць і можна будзе трохі пакімарыць...”, пілі гарбату, а правадніца расказвала, якая няпростая ў іх, праваднікоў, праца, а заробкі мізэрныя, добра, што адна жыве, а калі б былі муж і дзеці... “але ж трэба і муж, і дзеці, як жа без іх”, – асцярожна сказаў сябар, “трэба, але не з маім шчасцем і не з маёй працай... усе ж лічаць правадніц за блядзей, – так і сказала – “блядзей”, – асабліва правадніц такіх вось далёкіх маршрутаў, не было такога рэйса, каб не прыставалі, каб не лезлі пад форменную спадніцу”, – тут толькі *яны* заўважылі, што спадніца ў яе падцягнута так высока, што... міжволі адвярнулі вочы, – “а ў нас строга... калі заўважаць што якое, адразу звальненне...”, – паглядзела з мілай усмешкай на аднаго, другога і спыніла позірк на сябру, глыбока зазірнула яму ў вочы, і сябар вытрымаў яе погляд... далей можна не пераказваць – хвілінаў праз дваццаць у купэ застаўся *ён* адзін...

добра, сябар знайшоў сабе занятак, а *яму* далей па дарозе з Хабараўска да Іркуцка заставалася адно – чытанне, “Бірабіджанер штэрн”, *ён* пераглядзеў адразу і не знайшоў там ніводнага габрэйскага прозвішча ці імя, нават рэдактара і журналістаў, што і парадавала: няма дурных ехаць за трыдзевяць земляў у холад і голад, як ні агітавалі бальшавікі, як ні прапагандаваў-заклікаў Корш-Саблін у сваім фільме “Шукальнікі шчасця” – едзьце, перасяляйцеся, асвойвайце багацці Сібіры – яны вашы! – і будуйце там шчаслівае габрэйскае жыццё... і што цяпер – вобласць ёсць, а дзе габрэі? у Адэсе, у Бабруйску, у Ізраілі, нарэшце, там, дзе і былі заўсёды... сябар з правадніцай прыйшлі толькі ранкам, каб разам папіць “чайку” і паснедаць, а потым зноў сышлі, а *яму* засталося чытаць кнігі, набытыя на Сахаліне, якія *яны* прадбачліва ўзялі з сабой; удзень чыталася добра, а ўвечары вочы слязіліся ад слабога святла ў купэ і пачыналі балець ад напружання, тым не менш да пад’езду да Іркуцка *ён* “дабіў” таміну Леаніда Лявонава пад назваю “Вор”, гэтага аўтара *ён* ведаў з універсітэцкай праграмы па літаратуры, сярод тых “вытворчых раманаў”, якія ім трэба было абавязкова прачытаць, сярод розных брускоў ды цэментаў ягоная “Соць” пра будаўніцтва цэлюлозна-папяровага камбіната падалася самай цікавай, а тут такая назва: “Вор” – ну як не набыць кнігу з такой назвай і як не пачытаць... спачатку чытаў *ён* з захапленнем, раман і сапраўды быў пра злодзея, прычым напісаны дужа праўдападобна і нават смела, улічваючы, што пісаўся ён у дваццатыя гады, але апошнія старонкі кінулі *яго* ў роспач, нават у шок, *ён* адклаў

кнігу і доўга не мог пазбавіцца прыкрасці за аўтара і адчування, быццам той падмануў *яго*, хацелася нават рукі памыць ад кнігі, настолькі непрыемным засталося ўражанне ад таго, як аўтар закончыў раман, як абышоўся з галоўным героем, настолькі ненатуральным, нелагічным быў фінал, і не ратавала тое, пра што *ён* даведаўся потым – савецкая цэнзура праз гады прымусіла аўтара перапісаць заканчэнне рамана... так, няхай, прымусілі, але ці апраўданне гэта, і як аўтар мог пагадзіцца на тое і фактычна скалечыць сваё дзіця...

з гэтым адчуваннем прыкрасці і паскудства *ён* і ўехаў у горад Іркуцк, абсалютна не спадзеючыся, што тут зможа нечым разнастаіць свой побыт, і памыліўся... горад ад першых крокаў па ім *яму* спадабаўся, і чым далей, тым болей, была ў ім нейкая разыначка, якую *ён* не адразу ўлавіў, быў ён непадобны да беларускіх абласных гарадоў ці наадварот – месцамі аж занадта падобны ў сваім непадабенстве, толькі па беларускіх гарадах моцна прайшлася другая сусветная вайна і бальшавікі, тут жа толькі другія і, падобна, не так грунтоўна; гатэль *яны* знайшлі адразу і, як ні дзіўна, месцы ў ім былі, пакінулі рэчы і выправіліся на аўтавакзал ды набылі квіткі да Лісцвянкі, *ім* сказалі: гэта найбліжэйшы ад горада населены пункт, што стаіць на Байкале ў вусці Ангары, якая адна выцякае з Байкала, а ўпадае ў яго трыста рэчак; апошняму давялося паверыць, бо падлічыць, абышоўшы возера, у *іх* часу не было, а тая, што выцякала, уражвала сваёй шырынёй ужо ў самым сваім пачатку – шырэй за Нёман у Гародні, за Сож у Гомелі, Прыпяць у Мазыры і Дняпро ў Рэчыцы... Байкал, Прыбайкалле (а заадно і Іркуцк) адразу здзівілі цудоўным кастрычніцкім сонечным надвор'ем, сапраўднай залатой, без перабольшвання, восенню, у параўнанні з нядаўнім снежным Бірабіджанам гэта быў рай, а таму спачатку не было зразумела, чаму так пакутавалі тут дзекабрысты, сасланыя сюды са слотнага, туманнага, вечна шэра-халоднага Санкт-Пецярбурга; толькі потым, калі пабылі ў дабротных, двух-трохпавярховых драўляных дамах, пабудаваных дзекабрыстамі для сябе, дзе цяпер музеі, *яны* пачалі цяміць, чаму такая ссылка называлася ссылкай і была пакараннем, ды таму, што князьёў, граф'ёў ды іншых баронаў адарвалі ад пецярбуржскага "свецкага жыцця", так мілага ім, ад балаў, ад раскошы ўвогуле... яны, праўда, і тут не сумавалі, бо наладзілі ў Іркуцку сваё "свецкае жыццё", асабліва калі прыехалі іх верныя гераіні-жонкі, што не пабаяліся дзеля мужоў пакінуць сыты і модны – фешэнебельны Піцер... аднак, усё ж, Іркуцк не Пецярбург – маштаб не той і цяпер, а па тым часе тым болей, і пакаранне ёсць пакаранне – цар ведаў, што рабіў...

дык вось – Лісцвянка і Байкал сустрэлі *іх* цудоўнейшым сонечным надвор'ем, без ветрыку і без ніводнае хмаркі на небе, паверхня возера была ціхая, люстраная, роўнядзь цягнулася ажно да гарызонту, злівалася з ім і, у адрозненне ад мора ці акіяна (хай і Ціхага таксама), якія заўсёды больш шэрыя (шарыя) за неба і можна лёгка заўважыць тую мяжу, дзе сканчаецца акіян і пачынаецца неба, тут, мажліва, з-за гэтага спакою, люстэркавасці і бясхмар'я, мяжы між небам і зямлёю не было, а было возера, якое злівалася з небам, і неба, якое пераходзіла, тапілася ў возеры, было возера ля ног і возера ў небе, ці наадварот: яснае, блакітнае неба ў вышыні і такое ж празрыстае неба ля ног, неба, якое ціха і ласкава (так і хочацца сказаць: бы котка) гладзіла бераг, плёхалася ля ног і часам, калі калыхалася трохі мацней, ласкава аблізвала *іхнія* чаравікі; *яны* ішлі краем, берагам Байкала,

на блакіце якога не было відаць ніводнага карабля ці карабліка, ніводнае лодкі, што здзіўляла бязмежна, бо, думалася, тут павінна віраваць жыццё, рыбакі павінны лавіць рыбу, таго самага знакамітага омуля, а паляўнічыя паляваць на не менш знакамітага цюленя, а ўжо турыстаў павінна быць вакол і ўнутры самага глыбокага ў свеце возера – нямерана: плюнуць няма куды... не, і яшчэ раз не... яны адышлі ад Лісцвянкі берагам возера недзе з кіламетр і не сустрэлі ніводнага чалавека, не ўбачылі ніводнага дамка – Байкал апроч іх нікога не цікавіў, на беразе і на возеры было пуста, як у Сахары, як на Антарктыдзе, але не вусцішна, *яны* не заўважалі той пустэчы, не зважалі на адзіноту, а зачараваныя навакольным хараством і душэўным спакоем, брылі ў шчасці і лёгкай радасці краем вады, кідалі ў роўнядзь плоскія каменьчыкі, і каменьчыкі весела скакалі ўдалеч – дзесяць, дванаццаць, пятнаццаць разоў і ўрэшце ныралі на дно, пакінуўшы на вадзе кругі, якія доўга расплываліся, яднаючыся, злучаючыся, аж пакуль не перамагаў самы апошні, самы вялікі... але, як не раз ужо сказана, у гэтым свеце прыядаецца і прывыкаецца ўсё, і прыгажосць ды лагода не выключэнне, праз некалькі кіламетраў бераг пачаў здавацца ім аднастайным: пясок, камяні, стромкія скалы, дрэвы, што караскаюцца па іх: злева – вада, вада, вада; неба, неба, неба – справа... і ні дамка злева, і ні ветразя справа, за якія магло б зачапіцца вока... і цішыня, якая пачала здавацца напружанай і нават злавеснай, усё ж адышлі яны далекавата ад жытла, так і глядзі, што з гэтага дзікага стромкага берага, з векапомнай тайгі зараз спусціцца ўніз і кінецца на *іх* са страшным рыкам мядзведзь... *яны* пайшлі назад – цяпер справа была вада, а злева – скалы... перад Ангарой набралі ў загадзя падрыхтаваныя бутэлечкі байкальскай вады на памяць і вярнуліся ў Іркуцк...

горад працягваў *іх* здзіўляць і ўражваць – нечаканай сваёй захаванасцю і па добраму зайздроснай закансерванасцю, шматлікасцю старых – дарэвалюцыйных – будынкаў, хоць гэта па сутнасці не павінна было здзіўляць, бо ў адрозненне ад Менска, які пабачыў усе войны апошніх стагоддзяў, тут ад нараджэння горада ў 1661 годзе, за чатырыста гадоў сур'ёзна стралялі хіба падчас Кастрычніцкай рэвалюцыі ды грамадзянскай вайны, а пацярпеў ён толькі ад пажараў... *яны* хадзілі па кварталах даўніх драўляных будынкаў, да якіх яшчэ не дайшла цывілізацыя і не зруйнавала, і захапляліся разьбой па дрэве, аканіцамі, ліштвамі, любаваліся храмамі і камяніцамі, заходзілі ў музеі і радаваліся іх не разрабаванаму і не перавезенаму ў Маскву, Ленінград ці Берлін багаццю, гулялі па беразе Ангары, зноў жа нечакана шырокай, і не адчувалі сябе тут чужымі, а калі раптам выйшлі на вуліцу Польскіх паўстанцаў, названую ў гонар сасланых сюды на катаргу касінераў Каліноўскага, якія зноўку ўзнялі паўстанне тут улетку 1866 года і загінулі – зусім не адчулі сябе чужымі ў гэтым утульным, збудаваным для жыцця горадзе, кампактным у цэнтры, але даволі раскінутым па абодва берагі Ангары, што нядзіўна, бо зямлі тут ніколі не шкадавалі, гэта не Еўропа, дзе ўсё сціснута данельга; можа быць, Іркуцк падаўся *ім* такім пасля безаблічных Паўднёва-Сахалінска, Уладзівастока і Хабараўска, можа быць... але ўсё ж ні з адным з іншых гарадоў так моцна не была звязаная Беларусь, па якой *яны* ўжо добра засумавалі, як з гэтым, вуліцы якога памяталі і Чэрскага, і Язэпа Каліноўскага, і тысячы сялянаўперасяленцаў, што ехалі сюды ў сталыпінскія гады на вольную зямлю і якія трапілі падчас бежанства Першай сусветнай вайны... яшчэ *іх* цікавіла

літаратура, а тут жылі адзін з найпапулярнейшых на той час расейскіх драматургаў Аляксандр Вампілаў і адзін з вядомейшых празаікаў Валянцін Распуцін, пабачыць якіх, было зразумела, *ім* не ўдасца, бо Вампілава ўжо не было сярод жывых, ён пражыў усяго 34 гады і патануў на Байкале ля той самай Лісцвянкі, дзе яны былі, казалі, што за тым, як перавярнулася лодка, у якой ён плыў з сябрамі, з берага назірала шмат людзей, але ніхто не кінуўся на дапамогу, у халоднай вадзе ён амаль даплыў да берага, але сэрца не вытрымала... п'есы ягоныя ўжо ішлі па ўсёй краіне, слава была неймаверная, але пры жыцці пастаноўкі былі рэдкія і першую зрабіў беларус Вадзім Дапкюнас...

Валянцін Распуцін жыў у Іркуцку, у сталіцу з'язджаць не збіраўся, літаральна за колькі месяцаў да таго *яны* прачыталі ў крымінальнай хроніцы адной з газет, што на набярэжнай Ангары, па якой *яны* якраз крочылі, згадваючы гэта, мясцовыя гопнікі напалі на знакамітага земляка-пісьменніка і распранулі яго – адабралі набытыя недзе ў замежнай паездцы ў Парыжы ці Рыме джынсы: не фарсі, маўляў, панасіў, дай іншым панасіць, бо джынсы, сапраўдныя фірмовыя джынсы, былі тады тут немалой рэдкасцю і вялікай каштоўнасцю, даступнай хіба дзецям найвышэйшага начальства, тым болей замежныя, а не пашытыя ў нейкай кааператыўнай арцелі ў Грузіі ці Азербайджане, *яны* згадвалі гэты эпізод і шчыра смяяліся, а самім хацелася сустрэць Распуціна на гэтай набярэжнай, хай і не ў джынсах, а ў савецкіх штоніках, няважна, бо, да прыкладу, *яму* дужа ж падабаліся ягоныя настальгічныя “Урокі французскага”, прысвечаныя маці Вампілава, дарэчы, у якіх хлопцы гулялі ў тую ж самую “чыку” на капейкі, што і ён на сваім Палессі – дзіўна, як магла адна і тая ж назва быць і тут, і там, бо і ў самой Беларусі гэтая гульня ў розных мясцінах называлася па-рознаму, ці не тыя ж перасяленцы-бежанцы, ягоныя землякі, прывезлі яе сюды? а яшчэ падабаліся распуцінскія “Грошы для Марыі”, “Развітанне з Мацёрай”, “Жыві і памятай” – і адкуль гэта ўсё бралася ў правінцыйнага, здавалася б, пісьменніка... а ўвогуле Іркуцк падаўся *ім* горадам, арыентаваным на культуру ды культурныя падзеі, па ім прыемна было проста блукаць, згадваючы хоць бы тых самых дзекабрыстаў, якія ў СССР лічыліся вялікімі героямі, бо разбудзілі Герцэна, які ўдарыў у “Колокол” і... няхай многім у школе набілі аскоміну ўсе гэтыя Валконскія, Трубяцкія, Мураўёвы ды Луніны... разам са сваімі жонкамі, подзвіг якіх апеты ў дзясятках літаратурных, музычных, жывапісных твораў, нібыта і не было нічога больш значнага ў гісторыі Расіі... тым не менш менавіта на іх доўгі час трымалася ідэалогія вялізнай краіны ад Масквы да самых да ўскраін; *яны* хадзілі па горадзе і быццам бы дыхалі жывой гісторыяй, убітай *ім* у галовы – умелі, маглі ўсё ж расейцы прыгожа навязаць сваё і замураваць чужое; так, блукаць па горадзе было цікава, хадзіць па залах музеяў, дыхаць сапраўднымі, рарытэтнымі рэчамі, а не муляжамі і падробкамі, можна было ў гэты, другі, дзень у Іркуцку бясконца, але варта было падумаць і пра хлеб надзённы; проста паесці можна было і ў сталоўцы, аднак вечарам *яны* ад'язджалі адсюль да Новасібірска, *іхнія* харчовыя запасы, зробленыя ў Паўднёва-Сахалінску і Хабараўску, скончыліся – няшмат возьмеш з сабою харчоў, не маючы ў дарозе лядоўні, – да Новасібірска ехаць амаль двое сутак і ў цягніку, на які *яны* закампасціравалі білеты, ім адразу сказалі – не будзе вагона-рэстарана, а значыць, трэба было штосьці набыць у дарогу...

вось тут і пачалося *іхняе* блуканне па пакутах: ніколі б не падумалі *яны*, што пасля Сахаліна, дзе праз нядаўні вялізны тайфун былі па картках усе асноўныя прадукты – масла, мяса, каўбаса, макароны, цукар... але заўсёды меліся ў продажы хлеб, рыба ды морапрадукты – крабы, крэветкі, *грабешкі* і нават трапангі – марскія агуркі, пасля Уладзівастока, дзе ў крамах было ўсё, а ў кулінарыях прадавалася дзясяткі відаў дзясяткам розных спосабаў прыгатаваных рыб, не кажучы ўжо пра заваленыя скрынкамі з экзатычнымі фруктамі праходы каля крамаў “Садавіна і гародніна”, нават пасля Хабараўска, які смутна памятаўся, але памятаўся сытасцю, а не голадам, і паліцамі ў крамах, запоўненымі, прынамсі, нейкімі кансервамі: рыбнымі, з гародніны, імпартнымі і савецкімі, бачылі, да прыкладу, знакамітую хойніцкую “Салянку з грыбамі”, у Іркуцку *іх* чакала поўнае фіяска: харчовыя крамы тут былі пустымі – у прамым, літаральным сэнсе: пус-ты-мі... заходзіш, на прылаўках у прадавачак нічога няма, у лепшым выпадку прастакутнікі буханак хлеба, затое ў памяшканні стаіць нейкі незразумелы, невыводны смурод – быццам недзе згніло мяса ці рыба... але нічога падобнага і блізка няма і, па ўсім відаць, даўно не было, але што за пах? *ім* патлумачыў мясцовы жыхар, які ўбачыў *іхнія* агаломшаныя пустэчай твары: “апошняя мыш у падвале з голаду павесілася...”, “а як жа вы тут жывяце?”, “так і жывем... на кожным заводзе, прадпрыемстве, у кожнай арганізацыі ёсць свае размеркавальнікі – нешта кшталту буфетаў, дзе раз на тыдзень выдаюць што-небудзь з прадуктаў: кансервы, гарбату, курачку, кіло варанай каўбасы, а нешта часам і ў крамах выкідваюць, варта пашукаць... а вы, бачу, прыезджыя і не ведаеце – гэтаксама па Сібіры паўсюль, хоць у бок БАМа аж да Благавешчанска едзь, хоць у бок Масквы аж да Свярдлоўска...”, потым *яны* пераканаліся: так яно і было, хоць цяпер, калі пішуцца гэтыя радкі, шмат каму цяжка будзе ў тое паверыць, бо вельмі шмат развялося тых, хто ідэалізуе савецкія часы, хто пачынае насіць цішоткі з чырвонымі зоркамі, серпам і молатам ды надпісам “СССР” ці “Народжаны ў СССР”, а то яшчэ і па-ангельску “I Love USSR”, і калі пра жудасную сталіншчыну ці пра рэпрэсіі 30-40-х гадоў яны нешта чулі і называюць гэта “перагібамі на месцах” (так і хочацца сказаць менавіта ім – Сталіна на вас няма, адчулі б вы тады смак СССР і тыя перагібы), дык мала хто з гэтых ньюбальшавікоў хоча ведаць пра галадамор трыццатых, пра хрушчоўскую адлігу з яе расстралянымі галоднымі бунтамі, і пра харчовы крызіс не такіх ужо і далёкіх васьмідзясятых, які пачаўся тут, у Сібіры, і скончыўся гарбачоўскай перабудовай, калі талонная сістэма размеркавання прадуктаў, прамысловых тавараў і нават гарэлкі перакінулася на еўрапейскую частку ды пахавала пад сабой вялікую краіну... але ж тут згадка не пра паслярэвалюцыйныя ці пасляваенныя гады, тут згадка пра адносна мірны 1983 год, першы без Брэжнева і ягонага застою, хоць адгалоскі афганскай вайны і зніжэння кошту нафты – у Сібіры, у Іркуцку, ужо тады сталі адчувальнымі і відавочнымі: *яны* абышлі ўвесь цэнтр горада і нарэшце ў адной з крамаў, адстаяўшы чаргу ў некалькі сотняў чалавек, купілі кілаграмовую бляшанку балгарскага зялёнага гарошку “Глобус” – страшнейшага дэфіцыту па тым часе, які нават у Менску “даставалі” па вялікім “блаце” ў знаёмых на базах, у рэстаранах, ці атрымлівалі ў пайках да нейкіх святаў – часцей да Першага Мая ці Кастрычніцкіх – і берaглі да Новага года, бо якое ж свята, які Новы год без знакамітае салаты “аліўе”, ці, як яго называлі ў нас, “гарошак”... а тут, у Іркуцку, гэты

гарошак невядома з якой нагоды раптам “выкінулі” ў звычайнай краме і давалі па адной бляшанцы на рукі, таму чарга рухалася хутка, і першыя, па савецкай завядзёнцы, вярталіся з пакупкай у канец чаргі (прадаваць чаргу тады яшчэ не навучыліся), каб набыць яшчэ і яшчэ адну для сябе, для знаёмых, для сваякоў, якія не нарваліся на выпадкова “выкінуты” дэфіцыт... *яны* падумалі, што *ім* хопіць адной бляшанкі на дваіх на дарогу, а ў іншай краме па шляху на вакзал купілі кулідку чорнага хлеба... і ўсё... з гэтым набыткам селі ў вагон ў разліку пратрымацца паўтара сутак да Новасібірска ў цягніку без вагона-рэстарана... рыбу ды ікру са сваіх чамаданаў, якія забралі з камеры захоўвання, *яны* думалі есці толькі тады, калі голад зусім замучыць, а пакуль не хацелася іх расчыняць, каб не спалохаць задушным устойліва-салёным рыбным пахам пасажыраў усяго вагона;

зрэшты, аказалася, што палохаць не было каго, на ўвесь новасібірскі вагон ехалі *яны* ды яшчэ адзін хлопец, крыху старэйшы за *іх* з выгляду, які адзін стаяў на вагонным калідоры каля свайго купэ і пільна ўзіраўся ў *іх*... *яны* пазнаёміліся з ім назаўтра ранкам, дакладней, ён сам падышоў да *іх*, калі *яны* выйшлі са свайго купэ – проста кінуўся да *іх*, быццам так і прастаяў тут ноч у чаканні: “привет, ребят! вы тоже до Новосибирска?” – і далей, не даўшы апамятацца: “скучно тут, на весь вагон вы, да я, да проводница...”, ён назваўся Сяргеем, сказаў, што студэнт-завочнік і едзе ў Новасібірск, каб уладкавацца там на працу і не матацца больш са свайго гарадка з-пад Іркуцка ў інстытут на сесіі... было ўжо недзе пад абед, і сапраўды – *яны* выспаліся, адляжалі бакі, перакусілі сваім гарошкам, начыталіся, ажно ў вачах пачарнела... усё абрыдла, а таму з радасцю згадзіліся на прапанову Сяргея пагуляць у карты... зноў варта згадаць, што сахалінскія цёткі і дзядзькі, якія выпраўлялі *іх* у дарогу і самі мелі досвед такіх далёкіх падарожжаў, напрамілы бог прасілі ў дарозе не звязвацца ні з якімі карцёжнікамі, і асабліва не згаджацца гуляць на грошы, бо ў такіх дальніх цягніках заўсёды хапае махляроў, шулераў, якія падмануць, абяруць, распрануць – гэта іх хлеб, яны і жывуць, кормяцца тым, што аблапошваюць наіўных пасажыраў; тыя папярэджванні *яны* адразу згадалі, ацанілі поглядамі хлопца, але – чаго баяцца, ён адзін, *іх* двое, у цэлым вагоне больш нікога няма, і прапануе ён згуляць не на грошы, не “пульку” распісаць у “прэферанс”, не “покер” і нават не “тысячу” з “рамсам”, дзе ёсць грашовыя стаўкі, ды што там – не ў крымінальныя “буру”, “ачко”, “казла”, а ў звычайнага “дурня”, дык чаму не пабавіць час разам, тым болей, што ў гэтай гульні ўсе спяцы, а ўтрох дык яшчэ і кожны за сябе... чаму б не згуляць... у “дурня” *ён* гуляць умеў і прайграваў рэдка, навучыла *яго* гэтай гульні, калі *ён* яшчэ і чытаць ды лічыць толкам не ўмеў, родная бабуля Варка; з усіх забавак на пенсіі зімовымі днямі былі ў яе толькі карты (страшна падумаць – то быў час, калі ў іх у хаце нават тэлевізара яшчэ не было, а значыць, і ўсіх гэтых серыялаў пра багатых, што плачуць, ды іншых сто і больш серыйных заманух, ток-шоу і праграмаў пра здароўе...) яна ўмела гадаць на картах, раскладвала пасьянсы, але гэта надакучвала, удзень у яе партнёрак не было, яны звычайна збіраліся вечарамі абмеркаваць дзённыя падзеі, а *ён* у садок не хадзіў, бо не было такой неабходнасці, якраз баба Варка *яго* і глядзела, пакуль мама на працы, а таму, калі *яму* было гады чатыры ці пяць і *ён* пачаў цікавіцца літарамі ды лічбамі, – вучыцца чытаць – стаў прасіць бабу навучыць *яго* гуляць у карты... гадоў да сямі *ён* стаў асам, лёгка абыгрываў бабулю і яе парт-

нёрак, не махлююючы, хоць яны і падазравалі *яго* ў гэтым, а за кошт сваёй памяці – пад канец кожнай гульні *ён* дакладна ведаў, пралічваў – у каго якія карты засталіся на руках; спачатку дарослыя пасмейваліся, прайграючы *яму* раз за разам, а потым пачалі і злавацць, як на роўнага... пазней, у гадоў дванаццаць, ён "адшліфаваў" сваё "майстэрства", калі доўгі час ляжаў у бальніцы, дзе апроч картаў і гульні ў "дурня" (а таксама іншых адносна бяскрыўдных – "тысячы", рамса" ды інш.), былі папулярныя яшчэ шахматы, бо тэлевізара і там не было, а таму гуляць з ім, спрактыкаваным гульцом, у якога была дужа ўчэпістая памяць і ўменне па-шахматнаму пралічыць хады наперад, асабліва калі заставаліся адзін на адзін, мала хто згаджаўся, бо прайграваць увесь час нікому нецікава...

але вернемся ў купэ, дзе пачалася гульня, пачалася, і вельмі хутка ўсе зразумелі, што яна не дужа інтэлектуальная для іх, а таму Сяргей прапанаваў згуляць у нешта іншае, больш складанае, што не так хутка сканчаецца і патрабуе большай разумовай напругі, згулялі ў "кінга", раз-другі, потым перайшлі на "тысячу", калі Сяргей, як бы між іншым прапанаваў гэта, *яны* з сябрам перазірнуліся: маўляў, ну вось, пачынаецца: цікава, праз колькі "партый" ён скажа, давайце згуляем на "інтарэс", на грошы... але час ішоў, а Сяргей не прапаноўваў, гуляў сур'ёзна, уважліва і нават зацята, хацеў абавязкова выйграць, і было ў гэтым жаданні ягоным нешта такое дзіцяча-наіўнае, што падкупляла, пры гэтым ён сыпаў жартамі і прымаўкамі ледзь не на кожны гульнявы момант, адчувалася, што ён у вагонных гулях прафесіянал, які за гэтымі жарцікамі адсочвае *іхнюю* рэакцыю і патроху вывучае... ну і хай сабе вывучае, падумаў *ён*, бо выйграваў больш і часцей за сваіх супернікаў, *яму* шанцавала, *ён* падпяваў: "не везёт вам в карты, повезёт в любви...", час бег непрыкметна, а за вакном і ўвогуле нібыта застыў – пейзаж не змяняўся: лес, лес, лес – тайга без пачатку і краю... хочаш не хочаш, а абавязкова заўважыш гэта і пачнеш думаць пра бясконцыя расейскія прасторы, якія нехта некалі не на самалёце абляцеў, не на цягніку праехаў, а вымераў сваімі нагамі, мімаходзь "добровольно присоединяя" дзясяткі народаў і плямёнаў, ад якіх цяпер засталіся рожкі ды ножкі ці ўвогуле няма ні следу, ні згадкі, ні мовы, толькі хіба назвы рэчак, азёраў, гор... а тыя, што выжылі, уратаваліся нейкім чынам, прыстасаваліся, асіміляваліся, сталі Іванамі Іванавічамі Івановымі з раскосымі вачыма і шаманскім мінулым; а з іншага боку – колькі ссыльных паклалі тут свае галовы, хто на катарзе, хто на "вольным пасяленні", а хто і на службе навуцы, лазячы па гэтых лясах і гарах, вывучаючы іх, складаючы карты, знаходзячы карысныя выкапні, апісваючы быт і мовы туземцаў... а колькі тут згубілася ў гэтых бясконцых лясах сталыпінскіх перасяленцаў з Беларусі ды Украіны, якія яшчэ не забылі сваю мову і песні, сваю "малую радзіму", але прыраслі да гэтай зямлі душой, сем'ямі і дзецьмі... а колькі "завербаваных", прываблёных на "камсамольскія будоўлі" высокімі заробкамі ці рамантыкай, а то і ідэалагічным падманам хлопцаў і дзяўчатак зламалі свае лёсы і сталі з беларусаў ды ўкраінцаў савецкімі людзьмі, бо, зноў жа, "мой адрас не дом і не вуліца...", а барак, інтэрнат з ложкамі ў два ярусы і дзесяць чалавек у цесным пакойчыку ці будаўнічы поезд №..., "а я еду, а еду за деньгами, за туманом едут только дураки..." – дурняў якраз – рамантыкаў – хапала, і апякаліся яны тут, абпальвалі крылы ў першыя ж месяцы жыцця, і заставаліся ўжо не ў змозе ўзляцець і хоць бы вяр-

нуцца дамоў, колькі лёсаў зламана, колькі жыццяў маладых, прыгожых, загублена, колькі людзей адарвана ад родных каранёў, ад бацькоў ды дзядоў, ад родных звычаяў...

*ягоныя* думкі абарваў сябар, які раптам адкінуў карты і сказаў: "хопіць, абрыдла...", "што абрыдла – прайграваць?", "і прайграваць, і есці хочацца ўжо...", і сапраўды – голад сваё ўзяў, прыйшоў, не запазніўся, даў пра сябе ведаць: напоўніў рот слінай, страўнікі пачалі бурчэць і падвываць – патрабаваць увагі да сябе, а ў іх таго "гарошку" пасля ранішняга сняданку засталося на дне бляшанкі ды хлеба паўбуханкі, і Сяргей кажа, што нічога не ўзяў з сабою, бо разлічваў на вагон-рэстаран... вось тут і спазнаў *ён*, што такое голад, і пагадзіўся з пачутай некалі народнай філасофіяй, што голад – асноўны інстынкт чалавека: так, не любоў, не каханне нават, не страх ці жаданне выжыць, а голад, бо ён прытупляе і засланяе сабой усе іншыя пачуцці, асабліва калі робіцца хранічным... і не цікавыя былі *ім* краявіды за вакном, не ратавала і не карміла прыгажосць (прабач, Даста-еўскі), і згадаўся Шаламаў, які казаў, што доўгі час пасля лагера, пасля ГУЛагу, не мог любавацца прыгажосцю матылькоў і кветак, бо адразу, першым жа, з'яўлялася адно жаданне – з'есці іх...

сітуацыя была безвыходнай, заставалася адно: цярпець, да чаго чалавеку савецкаму не прывыкаць... Сяргей памкнуўся ісці ў сваё купэ, і менавіта ў гэты момант цягнік спыніўся на нейкай невялікай станцыі – не горад, але і не вёска, якоесьці мястэчка, будынка станцыі і назвы не відаць, аднак проста перад іхнім вакном аднапавярховы будынак з надпісам вялікімі літарамі "Магазін", а што калі... *яны* кінуліся да праваднiка: "колькі стаім?", "ды невядома, звычайна тут не спыняемся", "а што калі мы збегаем у магазін?", "паспрабуйце, я дзверы зачыняць не буду – на хаду ўскочыце, калі што...", і яны ўтрох рванулі ў краму; але Сібір, яна ўсюды Сібір, і да Уральскіх гор, дзе сканчаецца Азія, яшчэ ох як далёка... так, крама была адчыненая, і прадавец у ёй стаяў за прылаўкам (дарэчы, не раз здзіўляла *іх* і ў Сібіры, і на Курылах, што прадаўцамі ў крамах найчасцей працавалі мужчыны, хоць звычайна занятак гэты лічыўся жаночым, пэўна, тут "па-сада" прадаўца была больш прэстыжнай...), толькі быў у ёй, у гэтай краме, той самы "голы васэр", як сказаў Сяргей: купляць у краме не было чаго – хіба дробных кедравых шышак, мяшок якіх стаяў пры ўваходзе (няўжо іх купляюць мясцовыя, міжволі падумалася? лес жа вакол...), зрэшты, крама была "орсаўскай", а таму прадаваліся ў ёй не толькі прадукты, але і пра-мысловыя тавары – ну, ватоўкі, гумовыя і кірзавыя боты, вілы і рыдлёўкі з граблямі і сякерамі *іх* зусім не цікавілі, аднак, добра прыгледзеўшыся, бо ўскочылі са святла дня ў паўцемру памяшкання і спачатку мала што ўбачылі, *яны* агледзелі на паліцах чорны хлеб і чараду нейкіх слоікаў – то быў джэм, як выявілася потым, ды яшчэ і "зямляк" – вытворчасці, здаецца, Кобрынскага кансервавага завода, прынамсі, дакладна з Беларусі, як, пэўна, і хлеб: мяркуючы па ягоныя выглядзе, быў ён таксама не мясцовы, бо добра абабітым і памятым доўгай дарогай сюды і навобмацак амаль каменным; але і гэтым набыткам усе былі шчыра радыя, а па вяртанні ў вагон пра-ваднік, убачыўшы той хлеб і джэм у *іхніх* шчаслівых руках, прапанаваў зрабіць *ім* кіпяточку, хоць звычайна для такой колькасці пасажыраў ён тэн не грэў, што ж, цудоўна, жыццё наладжваецца, гарачай вадой можна развесці джэм, і будзе "чаёк"... праз хвілінаў дзесяць праваднік прынёс у купэ тры шклянкі ў знакамітых металічных "падстаканніках" з выявамі

“сталіцы нашай Родзіны горада-героя Масква”, з якіх ішла пара; *яны* дасталі рэшту “гарошка”, сяк-так раскроілі хлеб, кінулі ў кіпень джэм, якому, відаць, таксама было нямала гадоў: недзе на складзе ў ваенных запасах ён, відаць, пражыў не менш, чым *яны*... джэм у кіпені не раставаў, а плаваў брудна-жоўтымі зліплымі кавалкамі, а потым распадаўся на нейкую муць і валасінкі, але справу сваю зрабіў: ваду падсаладзіў... з чаго зроблены той джэм – разабраць не ўдалося, хоць наклейка і сведчыла напаўсцертым малюнкам, што з яблыкаў; можа быць, і з яблыкаў, але гэта ў той момант *ім* было абсалютна не важна, толькі вось згадваецца той “чаёк” і тыя некалькі ярка-зялёных гарошынак на чорным хлебе як нешта найсмачнейшае ў жыцці, незабыўнае, як неймавернае шчасце, што напаткала *іх* у доўгай дарозе далёка ад дому, як музыка колаў, што заўсёды ўгадвае твой настрой і падладжваецца пад яго... пад’еўшы, павесялеў і Сяргей, запаліўся на шчырасць і распавёў сваю гісторыю...

ён нарадзіўся ў вёсцы, па сібірскіх мерках не сказаць, каб глухой – усяго за сотню кіламетраў па рацэ ад райцэнтра, вёска была стараверскай і немалой, у ёй меліся школа, бальніца, клуб, леспрамгас, рыбалавецкая арцель – словам, амаль усё, што трэба для жыцця; дзяцінства сваё Сяргей апусціў, бо што там казаць – звычайнае маленства са строгім бацькам, са звыклай сялянскай працай і вучобай у школе; там, у школе, яшчэ ў першых класах і закахаўся Сяргей у дзяўчынку-аднакласніцу, якая сядзела перад ім на першай парце: вясёлая, разумная, прыгожая – яна падабалася многім, але таксама вылучыла для сябе Сяргея; словам, нарадзілася ў іх узаемнасць, і недзе з сёмага класа яны шчыра пасябравалі – так, як сябруюць закаханыя; усе пра гэта ведалі, бо ўтаіць у вёсцы такое немажліва, і прынялі гэта як належнае: іх нават не дражнілі “жаніх і нявеста”, як гэта бывае амаль заўсёды; ледзь дачакаліся сканчэння школы і пабраліся, бацькі былі не супраць, яна пайшла працаваць у сваю ж школу піянерважатай, а ён уладкаваўся ў леспрамгас прычэпшчыкам; жыць сталі ў Сяргеевых бацькоў, але думалі ўжо і пра тое, як сваю хату займець, і яе, і ягоныя бацькі абяцалі дапамагчы ім; усё складвалася добра, яна паступіла вучыцца завочна ў пединстытут, а ён збіраўся на восень пайсці ў лесатэхнічны, і тут, увесну, прынеслі яму позву – ісці служыць у войска, што ж, таксама звычайная справа, трэба дык трэба, у іхняй вёсцы паслужыць у войску лічылася за гонар, за тых, каго не бралі, дзяўчаты нават замуж ісці не хацелі... узялі яго ў марскі флот, а там служба тры гады, далёкія плаванні па паўгода, і так склалася, што нават у адпачынку яму не ўдалося пабываць; з дому ўвесь час добрыя лісты атрымліваў ад жонкі, маўляў, чакаю, кахаю і ўсё такое; са службай пашанцавала, яго паважалі, даслужыўся нават да звання старшыны, што не так часта і бывае на флоце, дамоў вяртаўся шчаслівы; прыехаў... а там яго чакае жонка... з двума дзецьмі, дзяўчынкамі, адной год і тры месяцы, а другой месяц... як, што... адкуль... не, прабачце, тут не так, як з тым чукчам, што апынуўся ў анекдоце ў падобнай жа сітуацыі – ты фотаздымкі нам прысылаў? прысылаў... дык адтуль і дзеці... чукча-дурань, але выкруціўся: я на тых здымках быў па пояс... а што казаць Сяргею? ён, вядома, чуў пра снахацтва, і ведаў, што ў сібірскіх вёсках некалі было гэта шырока распаўсюджана: калі жанаты сын ішоў у войска, а служылі тады не тры гады, а значна больш, дык бацька ягоны пачынаў жыць з нявесткаю... але ж калі тое было – не за савецкай, а за царскай уладай; зрэшты, хадзілі чуткі, што і за саветамі

недзе працягвалася гэта, але ж то было не ў іхняй вёсцы; ён і падумаць не мог, што ягоны бацька і ягоная любая Даша здольныя на такое... маці, плачучы, сказала, што ў лістах яму нічога не пісалі, каб не зрабіў з сабою чаго, каб не засіліўся там з думак, і ўпрошвала прыняць усё, як ёсць: дзеці ж невінаватыя; укленчыла, прасілася дараваць, галавой білася ў істэрыцы і Даша, казала, што не давалася яна, што ссільнічаў бацька, а той маўчаў і апускаў вочы да падлогі: што зроблена, тое зроблена, скандалу не хацеў, але і прабачэння ў сына не прасіў, маўляў, вырашай сам, як жыць далей... хочаш, заставайся, а не – дык вось бог, а вось парог; узяў тады Сяргей свой вайсковы чамаданчык, з якім прыйшоў і ў якім той, што сніў начамі, падарункі вёз, за зберажоныя матроскія капейкі купленыя, і пайшоў куды вочы глядзяць, не мог ён там заставацца, як людзям у вочы глядзець... можа, й пагарачыўся тады, але як жыць разам, такое ведаючы, як не зламацца... і вось ужо другі год ён ездзіць так па цягніках, Сібір вялікая... з Іркуцка едзе ў Чыту, з Чыты ў Свярдлоўск, са Свярдлоўска ў Краснаярск, з Краснаярска ў Хабараўск, а то і зверне з транссібірскай трасы куды ўбок... перабіваецца выпадковымі заробкамі – на білеты, на ежу ды на адзенне хапае, а болей яму і не трэба...

*яны* выслухалі яго моўчкі, не перапытваючы і не ўдакладняючы, і пазней не сталі пытацца, каб злавіць яго на хлусні папярэдняй, што студэнт-завочнік ён, бо відаць было: цяпер казаў ён шчыра, з болем, ды і навошта было такое прыдумваць, на сябе нагаворваць – не шукаў ён у *іх* спагады і, падобна, не трэба была яна яму; пра снахацтва і пра тое, што такое можа быць увогуле, *яны* не чулі ніколі, ці было падобнае дзе ў Беларусі, хай і ў мінулым, – таксама не ведалі, але паверылі Сяргею адразу, а ён бліснуў вачыма, сумна ўсміхнуўся і спытаў: “ну што, гуляем?”; хуценька прыбралі са століка рэшткі ежы, згарнулі крошкі, аднеслі праваднiку шклянкі, а Сяргей, расказаўшы пра сябе, быццам нейкі груз з плячэй скінуў, павесялеў на вачах, пачаў сыпаць показкамі, якіх нахапаўся ў дарозе, і ведаў шмат, і па іх было бачна, што хлопец ён з галавой, разумны і дапытлівы, нават крыху філосаф, бо ўсе показкі былі з сэнсам, а не з матамі, увогуле, ён не мацюкаўся зусім, што для расейца было дзівам, зрэшты, ён казаў, што са староверскай вёскі, а таму якраз і зразумела гэта... тут вось варта зрабіць невялікае адступленне і паразважаць трохі пра ролю смеху ў жыцці не проста расейцаў, а сібіракоў, бо склалася ўражанне, што гэта народ сур’ёзны, суровы, як надвор’е іхняе, а гэта зусім не так: у жыцці заўсёды ёсць месца смеху, тут любяць дасціпны жарт і любяць добра пажартаваць увогуле, аднак, што тычыцца канкрэтных выпадкаў, жарты гэтыя грубаватыя, бо вельмі часта жартам лічыцца зласнаватая падколка, а то і здзек, нават падстава, каб іншага дурнем зрабіць, каб пацвяліць яго, падгадзіць яму, прынізіць, апусціць і самому над ім падняцца, узвысіцца ды парагатаць... але робіцца гэта звычайна сярод сваіх, а таму Сяргей у зносінах з *імі* падколак сабе не дазваляў, а даведаўшыся, што яны з Беларусі патрапілі на Сахалін на практыку ў газету і цяпер едуць назад ажно з Сахаліна і ажно ў Менск, каб свету пабачыць, пад канец, на развітанне перад Новасібірскам, расказаў рускую народную показку з падтэкстам: “мама расказала дачцэ казку пра калабка і кажа: вось бачыш, не паслухаўся калабок, уцёк ад бабы з дзедам, і лісічка яго з’ела... а што гэта значыць? як трэба рабіць? трэба заўсёды слухацца старэйшых... ага, кажа дачка, а каб ён не ўцёк, дык яго дзед і баба з’елі б, а так хоць свету пабачыў...”, Сяргей

зірнуў на *іх* уважліва: ці зразумелі намёк, *яны* зразумелі: каб не патрапіць у дарозе лісе на зуб, трэба... ага, тое ж, што і сцвярджалі *ім* родныя на самым пачатку: быць асцярожнымі, дарога разявак не любіць... згуляць на грошы Сяргей *ім* так і не прапанаваў, хоць *яны* даўно здагадаліся, што гэта быў адзін з галоўных ягоных заробкаў, дарэчы, гулялі *яны* ягонымі картамі, якіх у яго сумцы была не адна калода, заўважыў *ён*, калі Сяргей збіраў свае рэчы; пашкадаваў, відаць, наіўных студэнцікаў, а мо палічыў, што няма чаго з *іх* узяць, і проста прыемна, хоць і без уласнае карысці, правёў час у пустым вагоне; пра другі магчымы варыянт заробку Сяргея *яны* даведаліся пазней – Сяргей дапамог *ім* данесці *іхнія* вялізныя і цяжэнныя чамаданы да камераў захоўвання (*ён* заўважыў, як міжволі бліснулі Сяргеевы вочы, калі той узважыў большы чамадан), і параіў паставіць іх у аўтаматычныя камеры – надзейней, чым у ручную кладзь здаваць, бо там і залезці могуць, не прасочыш жа; *яны* пагадзіліся, Сяргей паставіў *іх* рэчы каля камераў і развітаўся, маўляў, спяшаецца, падмігнуў *ім* і пайшоў; *яны* доўга піхалі свае чамаданы ў дзверцы камераў, якія былі амаль роўна такімі ж па вышыні, тры меншыя сяк-так улезлі, а большы, было відавочна, давядзецца ўсё ж здаваць у ручны багаж... нарэшце, справіліся з меншымі, кінулі манеткі па 15 капеек, пачалі набіраць шыфр, і тут *яго* штосьці спыніла, *ён* паказаў сябру знакам: пачакай, а сам зайшоў за шэраг камераў і вызірнуў на другі бок – там стаяў Сяргей і прыслухоўваўся да гукаў, каб улавіць шчаўчкі набіранага шыфру, Сяргей убачыў *яго*, міла ўсміхнуўся, памахаў рукой: “бай-бай” і пайшоў да выхаду – лёгка, рухава, як быццам таньчыў...

Новасібірск – горад-мільянер, трэці па колькасці жыхароў пасля Масквы і Ленінграда, і самы вялікі ў азіяцкай частцы СССР; выходзячы з ягоных маштабаў і кідкай імперскай велічы, бачнай адразу пасля правінцыйных у параўнанні з ім Уладзівастока, Хабараўска ды Іркуцка, цяжка было паверыць, што яму ад заснавання няма яшчэ і ста гадоў (дакладна на той час было роўна дзевяноста...), для чалавека – узрост глыбокай сталасці, а сярод гарадоў – быў ён падлеткам-акселератам: малы, дурны, з дзіцячымі прыхамацямі і жаданнямі... зрэшты, калі зірнуць далей у гады, дык, можа, толькі школьнікам-першакласнікам, а калі яшчэ глыбей, у Рым ды Егіпет, дык і ўвогуле немаўлём, якое толькі вучыцца хадзіць... на гаршок; малады горад, які стаў мільянерам раней за дзевяцісотгадовы Менск, нечым і нагадваў сталічны Менск, у якім з-за войнаў і бальшавікоў амаль не засталося будынкаў старэй за сто гадоў, а яшчэ тады ў Новасібірску, як і ў Менску, якраз будавалася метро, і горад быў шмат дзе перакрыты платамі з вялізнай літарай “М”; перакампасціраваўшы білеты на вечар наступнага дня да Свярдлоўска, *яны* выйшлі на шумную і шматнаселеную прывакзальную плошчу, цалкам пакрытую... снегам, пад’язджаючы да горада ранкам, у мітусні збораў, *яны* і не заўважылі, як зноў уехалі ў зіму, было даволі прахалодна, і сустрэчныя ўжо апранулі-ся збольшага па-зімоваму, адразу кінулася ў вочы, што і людзі былі тут больш падобныя да менскіх, не, і дагэтуль на Сахаліне, ва Уладзівастоку, Хабараўску і Іркуцку былі яны, зразумела ж, у сваёй масе еўрапейцамі, а не мурынамі ці мангалоідамі, новасібірцы адрозніваліся вопраткай: тут было менш чарнаты ды шэрасці, аднолькавасці і ўніформавасці ў адзенні, больш колераў і фасонаў, асабліва здзівілі мужчыны, якія пагалоўна насілі тут рознаколерныя – жоўтыя, сінія, чырвоныя, зялёныя, а таксама нейкія

ненатуральныя ядавіта-хімічна-яркія, словам, усіх магчымых і немагчымых адценняў – шапкі звязаныя з... махеравых нітак... ну, тое, што іх насілі жанчыны, – зразумела, махер лічыўся модным і прыгожым, і ў Беларусі ў жанчын былі такія ж вязаныя шапачкі розных фасонаў, а вось мужчыны... гэта было дзіва, прычым мужчынскія шапкі ўсе мелі адзін фармат – былі яны ў выглядзе кепак з брылькамі, але з-за таго, што сплеценыя з нітак, форму сваю яны не трымалі, а распаўзаліся на галовах каляровымі плямамі, выглядалі нязвыкла і смешнавата, гэта было тое, да чаго *яны* так і не змаглі прывыкнуць, і, гледзячы на гэты кветнік з шапак на тле снегу, міжволі ўсміхаліся... дарэчы, ва ўсім СССР махер тады быў страшным дэфіцытам, даставалі яго па вялікім блаце, а на "чорным рынку" адзін маток каштаваў дзесяць-пятнаццаць рублёў і больш – вялікія грошы для якой-небудзь медсястрычкі ці сакратаркі, што хацела апранацца модна пры месячным заробку ў восемдзясят-сто рублёў... не пакідала ўражанне, што ўвесь махер, усе вагоны, што ішлі ў краіну з-за мяжы, выгрузілі тут, у Новасібірску, каб апрануць мужчынаў, альбо, гэтая думка прыйшла потым, у Акадэмгарадку, мясцовыя вучоныя, акадэмікі-фізікі-хімікі знайшлі нейкі новы спосаб вытворчасці гэтых нітак, наладзілі іх выпуск у сваіх лабараторыях і запоўнілі ўвесь горад... і яшчэ адно кінулася ў вочы адразу, на першай жа вуліцы горада: дрэвы ўздоўж яе раслі тут неяк самі сабой – ва ўсе бакі адразу, кожнае ад кораня ў свой бок, і былі крывыя, што зусім не гарманіравала з геаметрычна правільнымі, прамымі, стромкімі сценамі будынкаў, быў у гэтым нейкі разлад, нейкая разняволенасць і разам безгаспадарчасць, ці што, бо *яны* прывыклі да роўненькіх шэрагаў ліп і каштанаў у Менску; пэўна, гэтая няправільнасць, гэты вольны рост дрэваў дадаваў нейкі шарм Новасібірску і, адпаведна, ягоным жыхарам, але ж ці высветліш тое за пару дзён? прынамсі, відаць, зусім невыпадкова менавіта тут быў утвораны Акадэмгарадок, куды з'ехаліся лепшыя навуковыя розумы краіны, якім вольны палёт думкі і свабода развіцця, як і тым дрэвам, патрабаваўся ў першую чаргу; туды, у Акадэмгарадок, *яны* вырашылі з'ездзіць заўтра, а ў гэты дзень пазнаёміцца са славутасцямі Новасібірска...

што можа быць цікавым у такім маладым горадзе? музеі, тэатры, архітэктура? наўрад ці... зрэшты, пра тэатр оперы і балета *яны* чулі, тут ён і сапраўды быў знакаміты, найперш сам гмах яго, пабудаваны ў 30-40-х гадах, з купалам, пра які пісалі, што таўшчыня яго ўсяго восем сантыметраў пры дыяметры ў шэсцьдзясят метраў, а гэта значыць, што адносіны таўшчыні да дыяметра меншыя, чым у шкарлупіны курынага яйка... у часы Вялікай Айчыннай вайны ў тэатр былі вывезены зборы многіх музеяў Масквы, Ноўгарада, Цвяры, Севастопаля і, што цікава, Смаленска, а значыць, тут мог быць у той час і Крыж Еўфрасінні Полацкай, які вывезлі з Магілёва і сляды якога, кажуць, згубіліся недзе пад Смаленскам... будынак і сапраўды ўражваў сваёй веліччу і, зноў жа, імперскасцю, ён мог бы ўпрыгожыць любы еўрапейскі горад ад Варшавы да Мадрыда; у касах білетаў на балет ці оперу ні на гэты вечар, ні на заўтра не было, што па-добраму здзівіла і яшчэ ўзвысіла горад у *іхніх* вачах; ну, калі так, дык давядзецца наведаць другую славутасць горада – знакаміты на ўсю Сібір заапарк, бо планетарыі ці краязнаўчыя музеі іх не цікавілі, яны пераканаліся не раз у тым, што былі яны па ўсім СССР "блізняцамі-браццямі" з рэдкімі-рэдкімі выключэннямі і адрозненнямі, хутчэй у тым, што тычылася канкрэтнай мясцовасці і яе

прыроды, а ў астатнім усё было падобнае і прадказальнае – мясцовыя героі рэвалюцыі, вайны, перадавікі вытворчасці, снапы, калі раён сельскагаспадарчы, нешта з металу ці шкла, калі ёсць прамысловасць, пара абразоў з разбуранай царквы... дзе-нідзе яшчэ дадаваліся стаянкі першабытнага чалавека з касцямі маманта ды шаблязубага тыгра, аскабалкамі каменных сякераў ды керамікі... а вось заапарк па *іхняй* дарозе быў першы (і ці не адзіны тады ў Сібіры?); яны ішлі па Красным праспекце ў бок заапарка і, шчыра сказаць, ледзь цягнуліся, бо адчулі раптам нейкую надзвычайную стому, яно і не дзіўна: амаль усю ноч прагулялі ў карты, ляглі спаць толькі пад раніцу на нейкую гадзінку, да таго ж і згаладалі-абяссілелі – варта было чагосьці пад'есці адразу;

зайшлі ў сталоўку ці кавярню па дарозе, узялі нейкі супчык, нешта падобнае да макаронаў па-флоцку – іншага і не было – кампот, хлеб ды селі за столік побач з прыемнага выгляду дзядком; хоць і галодныя былі, але штосьці не елася, сяк-так вышкраблі з місак супчык і нехаця калупаліся ў макаронах з naліплымі на іх нітачкамі мяса, дзед моўчкі назіраў за *імі* і, як выявілася потым, стан *іхні* вытлумачыў па-свойму, спачатку спытаў: "вы прыезджыя?", "так", "я і бачу... хапанулі ўжо недзе...", "ды што вы – мы не п'ём зусім... тым больш зраніцы", – дзед раптам шчыра засмяяўся: "я не пра тое, мададыя людзі... бачу, без настрою вы, як у ваду апушчаныя, значыць, хапанулі ўжо ў нас недзе радончыку", "ды не, проста мы стомленыя дарогай і не спалі зусім", "ага, стома, вяласць, галава кружыцца... ведаю... мы то тут людзі ўжо прывыклыя, а новенькія, пакуль не прывыкнуць, адчуваюць, бачу...", і дзед пачытаў ім невялікую лекцыю пра радон і радыяцыю ў Новасібірску; аказваецца, калі выбіралі месца пад горад, яшчэ не ведалі, што такое радыяцыя, вось і атрымалася, што стаіць ён на гранітнай пліце, якая ўтрымлівае значную колькасць радона, гэта такі радыеактыўны газ, які цяжэй за паветра, а таму збіраецца ў падвалах, нізінах, ён не мае паху і колеру, таму адчуць яго немагчыма, ім можна надыхацца і не заўважыць, а тады і пачынаецца санлівасць, вяласць... – дзед казаў гэта і нібыта радаваўся, ці таму, што *яны* хапанулі таго радончыку, ці таму, што знайшоў удзячных слухачоў, – "вы прыехалі і паедзеце, а мы так і жывем тут – купаемся ў радонавых ваннах...", – слова "ваннах" ён вымавіў на манер Папанава ў "Брыльянтавай руцэ", *яны* падумалі, што сустрэлі нейкага гарадскога вар'ята, і вырашылі як хутчэй развітацца з ім; нягледзячы на радонавую радыяцыю, што акружала *іх* ды так і наравіла атруціць сабой, *яны* выйшлі з кавярні-сталоўкі быццам падужэлымі і акрэплымі, настрой палепшаў – ішлося і дыхалася лягчэй, і вяласць, якой палохаў *іх* дзед, некуды прапала: усё-ткі ежа, якая б яна ні была, на малады арганізм уздзейнічае мацней за радыяцыю...

ці трэба казаць, што і заапарк у Новасібірску з'явіўся ў 30-х гадах – калі па ўсёй Сібіры аж да Чукоткі будаваліся канцлагеры для людзей, дык чаму ж не з'явіцца і канцлагеру для жывёлаў... між тым Сібір у Новасібірску, тая Сібір, якая ў Еўропе, апроч іншага, яшчэ і сінонім слова "холад", ужо адчувалася: доўга хадзіць на сіверным ветрыку па мокрым, растаптаным у гразь снезе, які размачыў *іх* летні абутак, сярод вальераў ды клетак, у якіх сноўдаліся з кута ў кут, ляжалі, бегалі, скакалі бедныя звяры ды птушкі, *яны* не змаглі, добра, што тут былі і некалькі павільёнаў для самых вялікіх мерзлякоў – цеплалюбівых паўднёвых жывёлаў, птушак, паўзуноў ды рыб; пагрэцца *яны* зайшлі да малпаў, і адсюль больш нікуды пераходзіць

не захацелася, адна справа глядзець на маўклівых гадаў – змеяў розных калібраў і даўжыняў, якія марудна цягнуць свае целы ўздоўж шкла ці ляжаць, сцяўшыся ў круг кілбасаў, і маўчаць, маўчаць, не скардзяцца, сваім выглядам ніяк не паказваюць, што ім тут кепска, цяжка, голадна, роспачна... ці на рыб, якія бесперапынна, нязводна і пільна глядзяць на цябе сваімі вялікімі круглымі вачыма, і здагадайся, што яны хацелі б сказаць... ці, наадварот, на птушак, пярэстых, яркіх, шумных, якім зіма не зіма, холад не холад і голад не голад, яны радасна шчабечуць, пырхаюць, трапечуць крыллем, распырскваючы вакол сябе дурное шчасце, якое не радуе, а толькі раздражняе... і зусім іншае назіраць, як пакутуюць за кратамі гэтак званыя чалавекападобныя стварэнні, як кідаецца раз за разам на жалезныя прэнты аграмадны гарыла, якому – гэта відаць адразу – хочацца самкі, што ў клетцы насупраць; як хапаецца за тыя ж прэнты вялізнымі лапамі-рукамі-нагамі самец шымпанзэ і трасе, трасе, трасе іх усім сваім целам, не ў змозе зламаць ці сагнуць... бо дастае, дастае-нервуе і гарылу, і шымпанзэ тое, за чым з цікаўнасцю назіраюць нешматлікія наведнікі, асабліва дзясятак школьнікаў разам з настаўніцай, і ад чаго адварочваюцца ды пырскаюць смехам тры дзяўчынкі-старшакласніцы: у вальеры насупраць малпа-самец бясконца спарваецца з пяццю ці шасцю самкамі па чарзе... а яшчэ кажуць, што з усіх млекапітаючых (сысуноў) толькі людзі спарваюцца дзеля ўласнага задавальнення і напрацягу ўсяго года, а астатнія толькі падчас гону ці шлюбнага перыяду і выключна дзеля працягу роду... калі чалавек усё ж не толькі паводле Дарвіна, а і сапраўды паходзіць ад малпаў, дык ён недалёка адышоў ад *іх*, а калі стварылі яго Бог ці іншапланецяне па сваім вобліку ды падабенстве, дык малпы ад чалавека таксама далёка не адышлі і ведаюць, што ёсць задавальненне, а не праца дзеля працягу роду... назіраць за пакутамі жывёлаў, ды яшчэ пад лязгат жалеза клетак і страшны рык самцоў гарылы і шымпанзэ, было немагчыма, а таму на гэтым *іхняя* экскурсія ў заапарк скончылася, *яны* выйшлі з цяжкай думкай: чаму навучыць гэты культпаход у заапарк тых школьнікаў і школьніц (гэта жарт)...

скончылася на гэтым і *іхняя* экскурсія па слаўным горадзе Новасібірску – стома ўсё ж узяла сваё, *яны* накіраваліся ў гатэль, каб адпачыць крыху і выспацца, бо бяссонная ноч і безліч уражанняў знясілілі *іх* канчаткова (тут нехта, таксама стаміўшыся, можа сказаць, што аўтар занадта падрабязна апісвае, як ягоныя героі ехалі, елі, пілі, спалі, насіліся з чамаданамі... не, скажу, вы памыляецеся, абсалютна не падрабязна апісваюцца тут усе клопаты ды дзеянні герояў, да прыкладу, калі вы ўжо настойваеце, дык скажу пра тое, як цяжка было такім, як *яны*, турыстам у любым савецкім горадзе знайсці элементарную прыбіральню, туалет ці як той казаў, сарцір, абазначаны пры ўваходзе літарамі “МЭ і ЖО”, іх проста не было не толькі па ўсёй Сібіры – па ўсім СССР, што такое “нявыкрутка” – зведаў герой Быкава, калі ўпершыню прыехаў у Менск, гэтую бяду адчулі не раз за падарожжа і *яны*, напачатку пошукі прыбіральні адымалі ў *іх* нямала часу, а пад канец вандроўкі яны зразумелі, што лепш не шукаць, не губляць нервы і час, а калі прыспічыць, прамым шляхам накіроўвацца на мясцовы вакзал... забягаючы наперад, скажу, што ў Маскве было яшчэ адно знакавае месца – маўзалей Леніна ля крамлёўская сцяны з прыбіральняй побач, амаль пад ім... што з сябе ўяўлялі гэтыя грамадскія прыбіральні – асобная размова, але не хочацца пра кепскае

ды брыдкае згадваць...), *іх* засялілі ў даволі ўтульным па савецкіх мерках пакоі, хоць жыць давялося ў чатырохмесным нумары з туалетам далёка па калідоры, але суседзі патрапіліся ціхія камандзіровачныя з горада з такой мілай *іхнім* сэрцам і вушам назвай – Балотнае; суседзі вярнуліся з нейкага рэстарана позна, калі *яны* ўжо спалі, доўга не перагукваліся і не дапівалі гарэлку, пашапталіся пра мясцовых жанчын, што іх глыбока расчаравалі, упалі на ложкі і дружна захраплі... а ранкам *яны* выйшлі з гатэля, калі яшчэ суседзі спалі – так і не пазнаёміліся бліжэй з амаль палешукамі – балацянамі;

ехаць у Акадэмгарадок трэба было на звычайным гарадскім тралейбусе па адной з самых доўгіх у свеце электрызаваных дарог – такая даброта, пэўна, была зроблена дзеля зручнасці вучоных усіх рангаў ад малодшых навуковых супрацоўнікаў да акадэмікаў (які ж Акадэмгарадок без акадэмікаў), трохі непрывычна было ехаць на тралейбусе не па горадзе, а сярод лесу, поля і рэдкіх невялікіх вёсачак, відаць, “час пік” тут прыходзіўся на раннюю раніцу і позні вечар, а таму тралейбус быў пустым – парожнім, як выкінутая імі бляшанка з-пад гарошку, а таму бразгаў і грымеў на дарозе, бы стары тарантас, прыпынкі, да якіх ён падкочваў і клацаў дзвярыма, таксама былі бязлюднымі: ніхто не заходзіў і ніхто не выходзіў, ад Новасібірску апроч *іх* ехала яшчэ адна жанчына, якая села далёка наперадзе і час ад часу азіралася на *іх* трохі злякана, як ім падалося... пусты быў і Акадэмгарадок, у які *яны* прыехалі, “праздношатающимися” па ім без справы, былі толькі *яны*, хоць і жыло тут тысячаў дзесяць-дваццаць чалавек, але, па сутнасці, гарадок быў вялікай вёскай, дзе ледзь не кожны кожнага ведаў і кожны за кожным сачыў, вучоныя былі на працы ў сваіх інстытутах, дзеці ў садках ды школах... каму тут гуляць?.. шматпавярховікі стаялі рэдка між няссечанага лесу і хаваліся, губляліся ў ім, *яны* памкнуліся зайсці ў адзін будынак – там пры ўваходзе сядзелі строгія міліцыянты і запатрабавалі пропуск, у другі – таксама, пабадзяліся яшчэ трохі па зімовым лесе, убачылі будынак з назвай на ўвесь фасад “Сталовая” і злавілі добрую – карысную – думку: тут можна не толькі папалуднаваць, а і набыць нешта з харчоў на дарогу да Свярдлоўска, бо ў Новасібірску, яны ўжо змаглі пераканацца ўчора, крамы былі такія ж, як у Іркуцку – толькі голыя паліцы і смурод сустракалі патэнцыйных пакупнікоў; дарэчы, у Акадэмгарадку *яны* так і не ўбачылі аніводнае прадуктовае крамы, мажліва, *яны* не там хадзілі, але, хутчэй, кожны інстытут меў тут сваю сталоўку і свой буфет-размеркавальнік; сталовая, у якую *яны* зайшлі, была звычайная – не акадэмічная – узяць у дарогу тут не было чаго, апроч хіба... катлетаў, і калі *яны* папрасілі даць ім дваццаць штук без гарніру, дзяўчына-раздатчыца паглядзела на іх спачатку як на ідыётаў, а потым торгнулася, каб пайсці і далажыць начальству, бо ці не праверка якая, ці не санстанцыя патрабуе катлеты ў такой колькасці? але спынілася, цікаўнасць перамагла, спытала: “ребят, а зачем вам столько?”, – давялося тлумачыць, назіраючы, як прасвятляецца твар раздатчыцы, як змагаюцца на ім жаночыя пачуцці спачування студэнцікам-падарожнікам і забіраецца ў вусны смяшынка, гатовая перарасці ў рогат, незразумела ад чаго: ад іхняе дасціпнасці альбо дурноты... дваццаць катлетаў на адну талерку не змясціліся, і на дзве ўклаліся з цяжкасцю, ну добра, купілі, але не несці ж іх так да цягніка? талеркі не дадуць, а ў што іх запакаваць? тут зноў трэба рабіць адступленне-тлумачэнне: у Савецкім Саюзе праблема з

упаковачнай паперай была не меншая, чым з туалетнай, найчасцей і там, і там выкарыстоўвалі старыя газеты – якіх якраз, пачынаючы з “Праўды”, хапала; з іх умела скручвалі кулькі і прадавалі так розныя рэчы ўраздроб, для мукі, цукру ды іншых сыпучых рэчаў, гаспадыні мелі спецыяльныя торбачкі, асабліва калі набыць трэба было не кілаграм, а пяць ці дзесяць на сям’ю, камусьці цяжка паверыць, але цэлафанавых ці поліэтыленавых пакетаў, з якімі цяпер пачынаюць жорстка змагацца, у тыя гады яшчэ было вельмі мала, іх берaглі, мылі і выкарыстоўвалі па некалькі разоў... ну і ў што *ім* пакласці катлеты, каб узяць з сабою? праблема... дзяўчына ўбачыла іхнюю разгубленасць над талеркамі і зноў засмяялася – гэта, пэўна, і сапраўды выглядала смешна, а таму *ім* захацелася кінуць гэтыя катлеты – гары яны гарам – і сысці ад сораму, але адлегла дзявочае сэрца, размякла, праз хвіліну яна вынесла *ім* нейкую скрыначку – ці не са сваіх басаножак адшкадаваную, заслала яе праваскаванай паперай – і такую недзе знайшла – акуратна склала катлеты радочкамі, а потым адна на адну і ўрачыста ўручыла *ім*, што і казаць: удзячнасці *іхняй* не было меры... такім чынам, на гэтым, на катлетах, і скончылася іхняе наведанне Акадэмгарадка, на якое *яны* ўскладалі столькі надзеяў, сіні паўдзённы тралейбус у маўчанні адвёз *іх* назад у горад Новасібірск...

так, было крыху за поўдзень, калі *яны* вярнуліся ў горад, блукаць па ім ужо не хацелася – чалавек хутка насычаецца нечым новым для яго і часам трэба даць адпачынак вачам, пераварыць уражанні... вочы і натыкнуліся на вялікі рэкламны стэнд: “Глядзіце! Толькі ў нас! Новую кінакамедыю – “Мы з джазу”! у галоўных ролях Ігар Скляр, Аляксандр Панкратаў-Чорны...”, *яны* спыніліся: а чаму б і не? часу да адпраўлення цягніка яшчэ дастаткова, не сядзець жа на вакзале... квіткі на дзённы сеанс былі – зала запоўнілася крыху больш, чым напалову; ад першых кадраў *яны* не пашкадавалі, што пайшлі сюды – камедыі савецкія рэжысёры ўмелі рабіць, у іх рэдка атрымлівалася сур’ёзнае кіно, зусім не атрымліваліся баевікі і вартымі жалю былі большасць фільмаў пра вайну і ўласна савецкае жыццё, бо ідэалогія забівала рэальнасць, а вось камедыі – самы савецкі жанр, таму што пасмяяцца было над чым, нездарма і ў савецкай літаратуры самымі значнымі дасягненнямі сталі гумар ды сатыра Ільфа і Пятрова, Булгакава, Зошчанкі, Даўлатава, якія зацьмілі і Шолахава, і Салжаніцына па папулярнасці, фільм пра тыя ж булгакаўска-зошчанкаўскія, ільфа-пятроўскія дваццатыя гады атрымаўся дасціпным і смешным, зала страсалася ад рогату, але дагледзець кіно *яны* не змаглі, недзе на другой палове фільма экран патух і ў зале сляпуча ўспыхнула святло, гледачы, прыкрываючы вочы рукамі ад яркіх лямпаў не адразу заўважылі, як з усіх чатырох бакавых уваходаў-выхадаў уварваліся ў залу людзі ў цывільным з чырвонымі павязкамі на рукавах і некалькі міліцыянтаў, “мама, мамачка...”, – застагнала дзяўчына ў суседнім шэрагу, а *яны*, як журналісты, што зусім нядаўна яшчэ працавалі, а дакладней, праходзілі практыку, у абласной газеце, адразу здагадаліся, што адбываецца: аблава на дармаедаў (тунеядцаў) і прагульшчыкаў працы, у іхняй газеце рэпартажаў з такіх рэйдаў не было, а ў іншых яны чыталі справаздачы пад запамінальным слоганам: “вон дармоедов с тепленьких мест – кто не работает, тот не ест!”, дужа актуальна гэта гучала тут, у Новасібірску, дзе есці не было чаго і тым, хто працуе, але важна было знайсці вінаватых, вось іх і знайшлі... пра такія аблавы больш гаварылі і палохалі імі, казалі, што не варта ха-

дзіць удзень у крамы, кіно, лазні, бо паводле пастановы ЦК КПСС, якую называлі Андропаўскай, там праводзіліся рэйды па выяўленні злосных парушальнікаў дысцыпліны – прагульшчыкаў; чуткі чуткамі, аднак вось у такую аблаву патрапілі і *яны*; міліцыянты і дружыннікі пачалі па адным выпускаць з залы людзей, у кожнага правяралі дакументы, тых, хто не змог даказаць, што ён у адпачынку ці пасля заняткаў у школе, інстытуце, адводзілі ў бок; падышла *іх* чарга, *яны* дасталі пашпарты, студэнцкія і квіткі на вячэрні цягнік, здавалася б, дакументаў дастаткова, але не: “студэнты? а чаму не на занятках? з Беларусі? а чаму так далёка заехалі? на практыцы былі? дадому едзеце... цягнік праз дзве гадзіны... ну добра, адпускаем вас, ідзіце...”, уздыхнулі з палёгкай: фу-у... трэба сказаць, што *ім* пашанцавала, *яны* лёгка вырваліся з-пад той аблавы, а што было з затрыманымі парушальнікамі працоўнай дысцыпліны? вядома, *яны* тых выпадковых людзей, якія апынуліся з *імі* ў адной зале як не сустракалі да таго, так не сустракалі і пасля і лёс іхні прасачыць не маглі, казалі, што такіх дармаедаў адпраўлялі на працу ў калгас ці на гародніную базу, паведамлялі пра іх на працу, а там ужо з імі разбіралася начальства ці нехта разбіраўся з начальствам: чаму іхнія супрацоўнікі, у рабочы час ходзяць па кінах... сам фільм *яны* даглядзелі толькі ў Менску, а ў Новасібірску, адсядзеўшы пару гадзінаў на вакзале, дачакаўшыся свайго цягніка, *яны* па першай жа аб’яве на пасадку выйшлі на перон, дзе адбылася чарговая кароткая прыгода з *іхнімі* вялізнымі чамаданамі: справа ў тым, што якраз у гэты момант там стаяў міжнародны цягнік “Масква – Пекін”, праваднікі якога, як толькі ўбачылі *іх* з чамаданамі, адразу ўскочылі з перона ў вагоны – маўляў, хто ведае, чаго чакаць ад гэтых хлопцаў, можа, яны правакатары якія... Кітай тады не дужа сябраваў з СССР і быў даволі закрытай краінай, амаль як цяпер Паўночная Карэя, кітайцы-пасажыры з вагонаў на станцыях не выходзілі, толькі праваднікі, а таму з кожнага вакна *іх* праводзілі здзіўленыя сонцападобныя твары аж да *іхняга* вагона...

гэтым разам у купэ *яны* ехалі не адны, пэўна, ужо наблізіліся да больш-менш абжытых і населеных тэрыторыяў, таму і пасажыраў відавочна пабольшала; *ён* не мог сказаць дакладна, але ў яго даўно склалася ўражанне, што тыя жанчыны, якія працуюць у чыгуначных касах, часам наўмысна падбіраюць у адно купэ зусім невыпадковых пасажыраў, *ім* “падсялілі” (ці *іх* “падсялілі” да) дзвюх прыгожых дзяўчын прыблізна *іхняга* ўзросту, ну, мо трохі маладзей, ці... трохі старэй – у такім узросце цяжка дакладна вызначыць; прыемная кампанія, падумалася адразу, калі *яны* зайшлі ў купэ, бо дзяўчаты ўжо былі там, апярэдзілі, пакуль *яны* цягнулі свае чамаданы; дзяўчаты, калі ўбачылі тыя чамаданы, выйшлі з купэ, каб не перашкаджаць, пакуль *яны* спраўляліся са сваім багажом, засоўваючы яго пад паліцы і наверх у нішу над дзвярыма, цягнік крануўся і пачаў паціху набіраць хуткасць, дзяўчаты вярнуліся, і ў купэ ўсталявалася такая цішыня, што палёт камара падаўся б гулам бамбардзіроўшчыка, бо *яны* неяк за дарогу прывыклі да адноснае адзіноты, прынамсі ў сваіх купэ, альбо, у крайнім выпадку, да мужчынскай кампаніі, а тут дзяўчаты, ды яшчэ прыгожыя, ды равесніцы... сябар дастаў кнігу і ўткнуўся ў яе, у дзяўчат у руках з’явіліся нейкія часопісы, а *ён* ад няма чаго рабіць пачаў ладаваць сабе месцейка на верхняй паліцы – так атрымалася, што ў *іх* і дзяўчат было роўна па палове купэ: па адной верхняй і адной ніжняй паліцы, расклаўшы цюфяк (ці матрац), *ён* пацягнуўся да бялізны і тут убачыў назву часопіса ў руках

у дзяўчыны: яна чытала... беларускамоўны часопіс “Работніца і сялянка”... *ён* як стаяў, так і сеў, з вырачанымі ў здзіўленні вачыма і разяўляным ротам – чаго-чаго, а сустрэць тут зямлячак *ён* ну ніяк не чакаў, дзяўчаты перазірнуліся, пацінулі плячыма і хмыкнулі, *ён* маўчаў, мову яму заняло, а дзяўчаты перазірнуліся зноў ужо нават крыху спалохана ад неразумення, што здарылася, *ён* штурхнуў локцем сябра і кіўнуў яму, паказаў вачыма на часопіс, сябар зразумеў усё адразу і радасна звярнуўся да дзяўчат: “о, дык вы зямлячкі! якая нечаканасць! вось дык сустрэча!”, – сказаў ён па-беларуску, дзяўчаты яго не зразумелі, перазірнуліся ў недаўменні: “што гэта значыць? якія зямлячкі?” – толькі гэтае, апошняе, слова ім было знаёмым, і чаму раптам так ажывіліся хлопцы, якіх хапіла раней толькі на тое, каб павітацца... “мы з Беларусі, а вы чытаеце беларускі часопіс”, – патлумачыў сябар і кіўнуў на часопіс, “что, журнал почитать хотите?” – дзяўчына, відаць, зразумела толькі ківок, і тады давялося перайсці на рускую мову, і праз хвіліну ўсе разам ужо смяяліся, напружанне было знятае, дзяўчаты аказаліся новасібірскімі і ехалі ў Маскву, дзе вучыліся, а часопіс беларускі выпісвала маці адной з іх, бо там была ўкладка па-руску, дзе друкаваліся цудоўныя выкрайкі ды розныя цікавосткі-парады, вось найперш з-за іх і ўзяла дзяўчына часопіс з сабой у дарогу... чытаць па-беларуску спрабавала, толькі ні фіга не зразумела: “якая смешная ў вас мова”, – сказала яна, і *ім* трэба было разумець гэта як камплімент, а потым дадала: “хоць літаркі такія самыя – кірыліца”, “кірыліца, – паўтарыў сябар, – о, дык вы гуманітарыі... мо філфак ці журфак?”, дзяўчаты сумеліся: “не, мы з паліграфічнага...”, часопіс паблукаў па руках, вочы спыніліся на вершы Янішчыц: “...ты пакліч мяне, пазаві...”, і размова зачапілася за адрозненне беларускай мовы ад расейскай і параўнальнае багацце беларускай мовы, тут і “любоў” і “каханне”, прычым беларусы падзяляюць любоў да Айчыны, маці, прыроды, ежы, і каханне да жанчыны, дзяўчыны... “ка-ханьне...” – працяжна вымаўлялі дзяўчаты, амаль без акцэнту, і выходзіла ў іх гэта дужа прыгожа, з грудным “г”, замест “х”: “ка-га-нь-не...” – яны нібы спрабавалі на смак новае для іх слова, якое можа азначаць замілаванне і мілаванне, жарсць і юр, сэкс нават, але не любоў да яечні ці каўбасы... усё проста, вельмі проста: беларус жанчыну кахае, а астатняе – любіць, для расейца ж няма такога падзелу, ён увесь свет любіць аднолькава, адным слоўцам... між тым, яны ўжо сядзелі не паралельна, як спачатку, не хлопцы насупраць дзяўчат, а нейкім незразумелым і невытлумачальным спосабам падзяліўшыся, перасеўшы, сябар апынуўся побач з Аняй, а *ён* побач з Таняй – і калі пазнаёміліся? калі назвалі свае імёны?.. гэта адбылося так натуральна, што ніхто з *іх* і не заўважыў таго... узаемная сімпатыя ўзнікла ў іх ад першага моманту ў купэ, ад першых ацэньвальных позіркаў, і патрэбен быў толькі нейкі час, нейкая зачэпка, якой і стаў той часопіс, каб іскарка, што праскочыла адразу, запаліла полымя агульнага інтарэсу... не прайшло і гадзіны, як *яму* пачало здавацца, што яны знаёмыя сто гадоў і невыпадкова едуць разам... вось што *яму* падабалася ў расейскіх жанчынах, дык гэта непасрэднасць і простасць у стасунках; не, ну, відаць, былі некалі нейкія там князі з графінямі, якія не падпускалі да сябе яшчэ нядаўна зусім незнаёмых мужчынаў, трымаліся горда і незалежна, зацята і непрыступна, можа, і трэба было за імі “ўхажваць” па некалькі месяцаў, перш чым яны дазволяць ручку пацавалаць, можа, і ёсць такія “недатрогі” і цяпер, але хутчэй за ўсё гэта проста казкі для працячкоў:

жанчына таксама чалавек, як казаў адзін філосаф, і "нішто чалавечаскае ёй не чужда", ёй таксама хочацца ласкі ды ўвагі – "ка-га-нь-ня", і часта адразу, у гэты ж вечар, а не праз некалькі месяцаў... забудзем пра графіняў, яны *ім* не трапляліся і трапіцца не маглі, бо засталіся ў дарэвалюцыйным мінулым і згінулі разам з яго перажыткамі, бо за гады савецкай улады шмат народу сарвалася і было сарвана са сваіх нажытых мясцінаў, адарвалася ад сваіх каранёў, ад звычаяў продкаў, захаваўшы не лепшыя з іх, перамяшаліся людзі і на сібірскіх прасторах, сталі больш адкрытымі, а жанчыны – больш даступнымі... пра адгалоскі даўно мінулых часоў, што апісваліся ў дзясятках падарожных нататак, калі гаспадар на знак павагі прапаноўваў госцю сваю жонку на ноч (згадваецца такое пра фіна-ўграў, да прыкладу, якія сталі асновай рускай нацыі, а не толькі пра чукчаў ды іншых паўночных народаў) – *ім* зусім не думалася, гледзячы, як па-сямейнаму рассцілаюць бялізну на ніжніх паліцах дзяўчаты, а вось розныя там Калантай з Цэткін, якія прапагандавалі ідэю пра тое, што пераспаць з мужчынам (аддацца яму) – гэта тое самае, што шклянку вады выпіць, а кожная камсамолка і сяброўка-партыйка проста абавязаная не адмаўляць любому камсамольцу ці партыйцу, які пажадаў яе, інакш выключэнне і пракляцце, – згадалася, бо дзяўчаты слаліся "на дваіх", не чапаючы верхнія паліцы... ноч тут давядзецца апусціць, бо *ён* не памятае ці была яна, тая ноч... проста раніцай прачнуўся побач з Аняй, хоць клаўся, здаецца, з Таняй... як тое здарылася, чаму ўсё пераблыталася, не памятаюць ні *яны*, ні Таня, ні Аня, а толькі верхнія паліцы, якія бачылі ўсё, але сказаць не маглі... а *яны* ж нічога не пілі – нават гарбаты, хоць праваднiца і зазірала ў купэ колькі разоў і прапаноўвала... ноч прайшла ў нейкай гарачцы, і згадваецца толькі, што абдымкі змяняліся не раз; не, тут трэба проста паверыць і не спрачацца, што дзяўчаты і жанчыны ўвогуле – гэта найлепшае, што ёсць у той вялікай краіне з кароткай назвай Расія, гэта найвялікшы цуд-радасць, гэта нешта надзвычай светлае і добрае, уважлівае і спагадлівае, мілае і клапатлівае, шчырае і... і... і больш словаў няма, адны пачуцці захаплення і мілаты...

раніцай дзяўчаты сталі файнымі гаспадынямі, здабылі гарбаткі ў праваднiцы, сабралі стол з хатніх, матуліных, прыпасаў ды прысмакаў (*яны* пра свае катлеты акадэмгарадоцкія пасаромеліся згадаць), былі ласкавымі і чуллівымі, ставіліся да *іх*... ну як да самых блізкіх (хочацца сказаць, як да мужоў, але гэта будзе няпраўдай, да мужоў так не ставяцца, ні на пачатку сумеснага жыцця, ні, тым болей, праз гады...), рабілі ўсё так прыгожа, як і самі выглядалі тым ранкам, прыгожа і нязмушана... а між тым няўмольна набліжалася іхняе расстанне, бо *яны* ехалі не да Масквы, а да Свярдлоўска, як было загадзя запланавана, запраграмавана, і змяніць гэта *яны* не маглі, скажам так, з прынцыпу, хоць ужо не раз пашкадавалі пра тое – можна было, вядома, паспрабаваць дамовіцца з праваднiцай: усё ж асноўны іх білет быў да Масквы, і застацца, што так карцела зрабіць, можна было падчас стаянкі ў Свярдлоўску збегаць на вакзал і перакампасціраваць білет, каб і не разлучацца з дзяўчатамі, але... але... але... вы ж мужчыны, і прынцып ёсць прынцып... а Масква ж і ў *іх* яшчэ наперадзе: абмяняемся адрасамі і пабачымся там... ну вось і нашая станцыя, трэба развітвацца, трэба... нічога не зробіш... усё добрае звычайна заканчваецца на самым цікавым месцы... так, засталося толькі абмяняцца адрасамі, якія звычайна забываюцца адразу ж па развітанні, бо нельга двойчы ўступіць

у адну і тую ж раку, а ўжо ў жанчыну і пагатоў... думаючы гэта, *ён* адчуў непапраўную віну перад дзяўчынкай Надзяй з Уладзівастока, сустрэтай на Курылах, якая шчыра падзялілася з ім радасцю, а *ён* – нягоднік, мярзотнік, гад, сабака, сучы сын, скаціна, нарэшце – знаходзячыся ў тым жа Уладзівастоку нават не згадаў пра яе – ой як сорамна! ой як прыкра!.. ну тое прайшло і забылася, забудзецца і гэтае, засталося абняцца – шчыра, вельмі шчыра – падзякаваць за прыемную кампанію і сысці, як *ён* напісаў за пару гадоў да таго ў адным з першых сваіх (вучнёўскіх, а таму смелых) апавяданняў – "на заплюваны дажджом да лужынаў перон" свярдлоўскага вакзала... дзяўчаты махалі *ім* з вакна, пасылалі паветраныя пацалункі, і за мутным шклом яны здаваліся яшчэ прыгажэйшымі... бязмежнай была ўдзячнасць ім, бо тое, што здарылася ноччу, успрымалася так натуральна, як быццам сам Бог паслаў *ім* гэтых дзяўчат у падарунак, і гэта было шчыра і зусім не сорамна, бо не куплялася за грошы, а проста маладыя людзі шчыра падзяліліся адно з адным той радасцю, што дадзеная ім ад прыроды... гэта саграvала і цешыла, але ад расстання, а яшчэ ад дажджу, хмурэчы і шэрасці, што навісла над горадам, *ім* было гіперпагана на душы, яны нехаця цягнулі свае чамаданы, якія *ім* за дарогу ўжо так абрыдлі, што *яны* не радыя былі, што паслухаліся цётак і дзядзькоў і набралі сахалінскіх падарункаў ды прысмакаў, хацелася кінуць гэтыя чамаданы проста вось тут, пасярод перона, і яны стаялі б нікому не патрэбныя дзень, месяц, год, бо ў тыя часы пра мажлівых тэратыстаў ніхто яшчэ не думаў, не баяўся іх і не выклікаў паліцыю (міліцыю!) да любога забытага клунка... *яны* былі нявопытнымі падарожнікамі, дурнымі, можна сказаць: нельга з сабой у дарогу, асабліва такую дальнюю, браць столькі рэчаў, нават, калі ты хочаш парадаваць сваіх родных нечым незвычайным, прывезеным з далёкага краю, "жадность фраера погубит", – кажуць у такіх выпадках разумныя людзі, і шчасце, што яна *іх* не пагубіла, дзякуй Богу, што не пагубіла; так, не пагубіла, але рукі вырвала, жылы выцягнула, нервы выматала і радасць давала толькі ў моманты, калі выходзілі *яны* з камераў захавання з вольнымі рукамі, і гэта былі тыя хвіліны *іх* падарожжа, якія цяпер згадваюцца як шчасце...

...у Свярдлоўску (будзем называць яго так, хоць неўзабаве яму вярнулі гістарычную назву Екацерынбург) ішоў дождж – дробненькі, восеньска-зімовы, бо часам з дажджынкамі прыляталі і калючыя сняжынкі, якія раставалі ледзь крануўшыся зямлі, па дарозе ад вакзала, перад гатэлем, дождж паступоваператварыўся ў мокры снег, які падаў вялікімі шматкамі, кружляў, бы матылькі, і роўна клаўся на зямлю, не паспяваючы раставаць; літаральна за некалькі хвілінаў снег прыкрыў сабой увесь восеньскі гарадскі бруд, нязгрэбенае апалае лісце, пажоўклую траву, звычайнае мястэчковае смецце, і горад пахарашэў, прыбраўся ў бель, як нявеста... Свярдлоўск, у адрозненне ад раней наведаных гарадоў, уразіў *іх* з першых крокаў, тут не адчуваліся тыя правінцыйнасць і... абласновасць, адчуванне якіх, пры ўсёй прыгажосці і непаўторнасці, пераследавала іх нават у мільённым Новасібірску, тут і вакзал, і прывакзальная плошча дыхнулі на *іх* адразу ледзь не сталічнай, вось ужо дакладна – імперскай, пампезнасцю: па ўсім адчувалася, што гэта горад не толькі з багатымі традыцыямі, а і проста багаты горад; і жыхары яго, і ўлады маюць уласную годнасць і сочаць за тым, каб не моцна адставаць ад Масквы ды Ленінграда і быць прыкладам для ўсёй Сібіры; геаграфічна Свярдлоўск таксама быў у Азіі, але, як і Уладзі-

васток, Іркуцк, Хабараўск называць яго азіяцкім горадам не выпадала, гэта быў сучасны еўрапейскі горад ва ўсім і па ўсім; еўрапейцы называлі яго “Вакном у Азію” на манер Піцера, які быў вакном у Еўропу, а насамрэч быў ён хутчэй вакном у Еўропу для ўсіх тых, хто жыў за Уральскімі гарамі, а цяпер і для *іх*; *яны* заўважылі потым, што гараджане вельмі не хацелі мірыцца з гэтай прыналежнасцю іх да Азіі і ўсяляк адмаўлялі яе, маўляў, гэты падзел чыста ўмоўны, прыдуманы нейкімі вучонымі, і каб яны, тыя гора-географы, правялі мяжу на паўсотню кіламетраў далей, Свярдлоўск быў бы ў Еўропе... чаму ім так не хацелася быць “азіятамі”, можна было здагадацца – слова гэтае ў Савецкім Саюзе мела такое ж негатыўнае адценне, як і слова “чукча”, можа, нават і яшчэ больш негатыўнае і адмоўнае: слова “азіят” азначала чалавека адсталага, неадукаванага, некультурнага, ішло гэта, відаць, ад пагарды рускіх да жыхароў сярэднеазіяцкіх, “бавоўнавых” рэспублік; не раз даводзілася чуць на адрас таджыка ці кіргіза, узбека ці туркмена ад рускіх: скажыце нам дзякуй, што мы вас не толькі піс*а*ць навучылі (маўляў, далі – навязалі – кірыліцу замест арабіцы), але і п*і*саць стоячы (бо раней, да рускіх, азіяцкія мужчыны і мачыліся седзячы, як жанчыны, што, улічваючы іх звычаі і адзенне, – доўгія халаты ці кашулі-сукенкі ніжэй калена, зусім не дзіўна, між іншым), але што датычыць культуры ды пісьма... дык расейцы цалкам вычысцілі з кніг па гісторыі ўсе ўспаміны пра двухтысячагадовую цывілізацыю сярэднеазіяцкіх краінаў, якія дасягнулі найвышэйшага па тым часе развіцця ў навуцы, літаратуры, медыцыне, матэматыцы, астраноміі, архітэктуры, будаўніцтве вялікіх гарадоў і, нарэшце, у паэзіі... так, у паэзіі, якой і сёння захапляецца ўвесь свет: Нізамі, Наваі, Хаям, Фірдаўсі, Шыразі, Рудакі... а з падручнікаў выходзіла, што нібыта і сапраўды гэтыя народы да прыходу расейцаў, а затым савецкай улады, нічога не мелі, апроч кішлакоў, статкаў бараноў ды ішакоў, ды і тыя належалі баям, а яшчэ – брыдкіх брытых галаварэзаў ворагаў-басмачоў, з якімі змагаліся такія міла-справядлівыя і прыемныя з выгляду чырвонаармейцы Сухавы з дабрадушнымі Пецькамі... аднак страшна не гэта, страшна тое, што вырасла ўжо каторае па ліку пакаленне “савецкіх”, а насамрэч “умоўна рускіх”, людзей, бо слова “савецкі” *павінна* было замяніць у імперыі ўсе нацыянальнасці, усе народы, якія *павінны* былі размаўляць на адзінай для ўсіх мове – рускай, а значыць быць па сутнасці рускімі, а не савецкімі – такая прымітыўная хітрасць імперцаў... новыя пакаленні шчыра верылі казкам з падручнікаў, і пераканаць іх было немагчыма, зрэшты, пад гэтае кола дэнацыяналізацыі і русіфікацыі патрапілі ўсе народы краіны саветаў, апроч хіба прыбалтаў, у якіх яшчэ на зусім блізкай памяці – усяго нейкіх сорак гадоў прайшло – былі свае незалежнасць і дзяржаўнасць, а што ўжо беларусы-бульбашы нічога не мелі, акрамя лапцей (якіх яны да расейцаў сапраўды не мелі, а толькі скураны абутак), ды каўтуноў (бедны Някрасаў, ікаецца яму...), дык тут і даказваць нікому нічога не трэба было... і калі размова заходзіла пра Вялікае Княства Літоўскае ды шляхту, адказ быў гатовы адразу ж – з тых жа падручнікаў: княства літоўскае? – так, літоўскае; дык што ж вы хочаце: літоўцы і ёсць прыгнятальнікі і заваёўнікі, яны, а не вы, лапцюжнікі, стварылі ВКЛ ад мора да мора... аднак – гэта асобная і доўгая размова, пра ўласнарасейскую “гордасць”, выхаваную на падручніках, поўных хлусні на карысць “старэйшага брата”, хоць гутарка пра тое не-не ды і ўзнікала ў *іх* з сябрам, з адною і тою ж высновай: шчасця на хлусні не пабудуеш, а тым болей дзяржаву, як толькі пачне адкрывацца праўда і

расплюшчацца вочы, рухне гэты калос на гліняных нагах – такі лёс усіх імперый, якія нараджаюцца ў крыві, а гінуць у лайне... *яны* пагаджаліся з гэтай сваёю высновай і дадавалі са шкадаваннем: “жаль только – жить в эту пору прекрасную, не доведется ни мне, ни тебе...” – на шчасце, *яны* памыліліся...

тут варта нарэшце сказаць тое, пра што яшчэ не казалася з-за *яго* хваравітае сціпласці: справа ў тым, што *яны* з сябрам ужо спрабавалі свае сілы ў прыгожым пісьменстве, у складанні вершыкаў ды шрайбанні прозы і даволі сур’ёзна звязвалі сваю будучыню не толькі з журналістыкай, але і з літаратурай, а таму ва ўсіх гарадах па дарозе іх цікавілі мясціны, звязаныя з пісьменнікамі, што ў іх нарадзіліся і жылі, Свярдлоўск быў багаты (заўважце, як часта ўжываецца гэтае слова “багаты” ў адносінах да Свярдлоўска) на музеі пісьменнікаў-землякоў, якія *яны* вырашылі наведаць у першую чаргу, Павел Бажоў і “Малахітавая шкатулка”, Дзмітрый Мамін-Сібірак і “Прывалаўскія мільёны” – іхнія музеі былі ў тых дамах, якія яны некалі купілі за ганарары, туды *яны* і накіраваліся ў першую чаргу; літаратура – гэта, безумоўна, цікава, але быць у Свярдлоўску і не наведаць геалагічны музей немагчыма, дзе яшчэ пабачыш такія самацветы, залатыя самародкі ды і проста камяні розных колераў, узораў, якімі багатая ўральская зямля, а краязнаўчы музей, створаны тут у сярэдзіне пазамінулага стагоддзя, які праз гады захаваў свае багацейшыя калекцыі, а музей выяўленчага мастацтва... па дарозе з музея ў музей яны зазірнулі на мясцовы рынак, які таксама быў багатым, прынамсі, тут *яны* зноў убачылі не толькі мяса, але і, упершыню пасля Уладзівастока – ананасы, бананы, апельсіны, вінаград, хурму, не кажучы ўжо пра кавуны і дыні... увогуле, тут можна было купіць усё, мусіць, і зброю, але *іх* гэта не цікавіла, таму *яны* набылі трохі садавіны на вечар, прайшліся па рынку як бы ў працяг экскурсіі і з сумам пераканаліся, што багацце тут, як відавочна, і ў горадзе, цесна суседнічала з беднасцю; *яны* міжволі спыніліся каля бабулькі, якая прадавала нешта непатрэбнае не толькі ёй, але і большасці наведнікаў рынка, якая пазірала на патэнцыйных пакупнікоў з такой надзеяй, што прайсці міма *ім* не выпадала, старыя, але не антыкварныя, а проста скарыстаныя, а можа, і апошнія ў яе “гаспадарцы” рэчы – лыжкі, відэльцы, шклянкі, кубкі... *яны* купілі лыжкі, далі бабульцы грошы – больш, чым яна прасіла, і сказалі, што рэшта не трэба, калі яна кінулася шукаць капейкі, а потым паклалі назад на яе посцілку “купленыя” лыжкі; бабулька не зразумела спачатку: як так, вы ж заплацілі? а потым, зразумеўшы, выцерла слязінку, што сцякала па шчацэ – ад ветру, канечне, і спытала: “вы откуда, молодые люди?”, “издалека...”, “я так и поняла... дай вам Бог здоровья...”, і доўга яшчэ глядзела *ім* услед з паднятай у благаслаўленні рукой...

музеі і славутасці горала *яны* меркавалі працягнуць аглядваць і назаўтра, і ранкам на выхадзе з гатэля сустрэлі свайго будучага “экскурсавода” – “бамжа” з выгляду (і знешні выгляд, як выявілася, не падманваў), які з гонарам назваў сябе “бічом”, што азначала – “былым інтэлігентным чалавекам”, не зважаючы на змятую, зваляную вопратку і шматдзённую няголенасць, ён трымаўся з пачуццём уласнае годнасці, не тое, каб высока дзёр галаву, а проста ягоная ўпэўненасць у сабе, нармальнасць і самавітасць бачыліася ва ўсім: у постаці, у манеры размаўляць – ён не навязваўся, але абяцаў быць карысным... ён назваўся былым выкладчыкам і кандыдатам нейкіх навук, не філолагам ці гісторыкам, хоць і вельмі начытаным, з працы яго звольнілі

пару гадоў таму, жонка прагнала з кватэры, жыў ён у падвале суседняга з гатэлем дома на трубах ацяплення, ягоная адукаванасць і дасведчанасць адчувалася ледзь не на фізічным узроўні ў нейкай пругкасці, дасканаласці і лёгкасці мовы, – словы ліліся з яго ручаём, струменілі, пераскоквалі з каменьчыка на каменьчык не кожнаму ў вусны ўкладзеных тэрмінаў, паняццяў, азначэнняў... а яшчэ ён выявіўся ярым антысаветчыкам, чаго не ўтойваў ад *іх* з першае хвіліны знаёмства: настолькі адкрыта, што *ім* падумалася нават пра нейкую правакацыю ці падставу – “я вам покажу в городе то, что ни одна коммуністіческая сука не покажет... в этом городе ещё не всё снесли те, кто был ничем, а стал всем...”, нянавісць ягоная сягала ў глыбіню некалькіх знішчаных “большевичкамі” пакаленняў ягоных родных, бо спачатку ён павёў *іх* да двухпавярховага дома, які некалі належаў ягонаму прадзеду... ім заставалася толькі слухаць ды верыць... пра савецкае салаўкоўскае ды гулагаўскае мінулае, вынішчэнне купцоў, а потым кулакоў, як класа, *яны* ведалі, тут ён вялікіх адкрыццяў для *іх* не зрабіў, а вось пра тое, што “учудили советы” ў Свярдлоўску зусім нядаўна, *яны* пачулі ўпершыню, пра гэта ў газетах не пісалі – аказваецца, ад эпідэміі “сібірскай язвы” ў горадзе пару гадоў таму памерла з паўтысячы чалавек: “эти псевдоученые с лаборатории военного городка выбросили в атмосферу споры страшнейшей из болезней – облако накрыло городской район, готовили отраву капиталистам, а отравили своих...” – ненарматыўнай, як ён казаў, абсцэннай, табуіраванай лексікі для псеўдавучоных Слава (ён так скарочана назваўся, сказаўшы, што да таго Славы, які КПСС, адносінаў не мае) не шкадаваў, кажучы, што, на жаль, адборным у Расіі бывае толькі мат, і маты ягоныя ліліся натуральна, выкшталцона – адборна – гучалі зусім не пахабна і так дарэчы, што і матамі не ўспрымаліся; гэта, вядома, абсурд, парадокс, аднак расейскі мат, да месца ўжыты, прабачце, культурным, яшчэ раз прабачце, адукаваным чалавекам ягоную мову толькі ўпрыгожваў і ўзбагачаў... і тут хочацца праспяваць оду расейскаму мату, бо калі Элачка-людаедка абыходзілася ў свой час трыццаццю словамі, дык простаму савецкаму бамжу хапала двух-трох, якімі ў розных варыяцыях, склонах ды спражэннях ён мог выказаць любую думку, просьбу, загад, свой настрой, пачуцці, жаданне...; і не ад сваёй абмежаванасці, а таму, што і сапраўды словы гэтыя сталі ўніверсальнымі і ўсемагутнымі... расейскі мат суправаджаў *іх* усю дарогу, увесь час знаходжання ў Расіі, і чулі *яны* яго не толькі ад бамжоў ці праваднікоў, але і ад немалых начальнікаў, і ўсюды ён “строить и жить помогал”, і ўявіць Расію без яго немагчыма... “экскурсія” па Свярдлоўску працягвалася аж да вечара і была яна не такой цікавай, як сам Слава, *яны* ведалі гэты тып людзей, былі такія ледзь не ў кожным савецкім горадзе: яны казалі праўду-матку пра тое, што адбываецца, іх лічылі ідыётамі, юродзівымі, дурачкамі, хворымі, часам нават дысідэнтамі, лячылі ў псіхбальніцах, саджалі ў турму, а яны былі самымі шчаслівымі ў СССР, бо абсалютна вольнымі і ў псіхушцы ці ў турме... часам Слава пачынаў загаворвацца, забываць пра іх, а то і нібыта нешта прароцтваваць з шырока расплюшчанымі і застылымі на адной кропцы вачыма: “ёсць людзі, – раптам казаў ён, – якія, здаецца, прыгожа апранутыя, і самі знешне прыгожыя, а ад іх усё роўна як га...ном пахне, і ты адчуваеш той пах, што ідзе ад іх ледзь не фізічна... бойцеся такіх людзей, усяляк пазбягайце сустрэч з імі – гэта самыя страшныя людзі... яны ўсё больш лезуць ва ўладу, яны і пагубяць краіну”, а потым: “не будзе, не будзе,

не будзе, нічога не будзе – ні грому, ні маланкі, ні ветру, ні буры, вайны не будзе, а дом разваліцца... прыляціць самалёт, маленькі, як матылёк, крыллем над Крамлём махне – і ўсё разваліцца, усё, што будавалі ды не дабудавалі, разбурыцца, бо на крыві будынак гэты стаіць...”; Слава прабыў з *імі* цэлы дзень і, шчыра, трохі надакучыў сваімі размовамі, раптоўнымі “адлётамі” і тым, што на іх звярталі залішнюю ўвагу сустрэчныя, але *яны* не змаглі ад яго пазбавіцца, бо не хацелі: кармілі, паілі, далі грошы на развітанне на пероне ля цягніка, куды ён правёў *іх*, і доўга стаяў там ды махаў услед іхняму вакну ў вагоне...

Свярдлоўск, радзіма будучай жонкі *ягонага* сябра, пра што ён яшчэ ведаць не ведаў і думаць не думаў, застаўся не проста ззаду, а ў мінулым, ззаду, але не ў мінулым заставалася і ўся вялікая Азія, дзе пражылі *яны* амаль пяць месяцаў свайго яшчэ не такога і доўгага жыцця, яшчэ трохі – і *яны* пераедуць хай і ўяўную, але мяжу паміж двума кантынентамі, вернуцца ў сваю такую родную і мілую, такую малую і шляхетную Еўропу... цягнік ля знака-помніка, на якім справа было напісана “Азія”, а злева “Еўропа”, не прыпыніў ход, а з усяго разгону ўляцеў у Еўропу, толькі машыніст крыху запознена даў гудок... у *іх* было такое ўражанне, што яны ўжо дома, ну, амаль дома, бо колькі тых кіламетраў заставалася да Масквы, а там яшчэ трошкі, і *яны* ў Менску, бо гіганцкія адлегласці, па шчырасці, крыху дасталі і абрыдлі; клаўстрафобіяй у сваёй маленькай (зноў жа, адносна чаго глядзець, калі Сібіры – то так...) рэспубліцы *яны* не хварэлі, *ім* хапала ейных прастораў, рэк і азёраў, гарадоў і вёсак, і не трэба было прастораў чужых... *ім* ужо хацелася цішы, спакою і ўтулку – свайго, роднага... *іх* узбуджанасць і радасць заўважыў адзіны спадарожнік, што быў з *імі* ў купэ – мужчына гадоў пяцідзесяці, у спартыўным касцюме, які яго маладзіў, нягледзячы на лысіну на паўгалавы і сівыя скроні: “домой едете, ребята, или из дома?”, “домой...”, “студенты? а где учитесь? журфак? понятно...”, разгаварыліся, аказалася, вось ужо кіно дык кіно, Шукшын дый годзе, мужчына гэты быў прафесарам, які ездзіў фальклор збіраць па Сібіры, па вёсках, дзе жылі ў тым ліку і... перасяленцы з Беларусі... “з Беларусі? дык мы з Менску...” тут ужо прыйшла чарга здзіўляцца прафесару: “не можа быць... я думаў, вы масквічы... а што ж вы тут рабілі? што згубілі? шпіёнілі...”, пасмяяліся разам, і прафесар расказаў, што па Сібіры шмат вёсак, дзе, далёка ад цывілізацыі, пасярод тайгі, кампактна жывуць беларусы, якія дагэтуль захавалі сваю мову, свой фальклор, свае звычаі, праўда, амаль не засталося тых, хто нарадзіўся ў Беларусі, але ёсць іх дзеці, ужо таксама немаладыя, якія перанялі ад бацькоў мову, песні, прыказкі ды прымаўкі, пакуль не позна, пакуль яны ёсць, і ездзіў прафесар па аўтэнтыку і такое багацце для сябе адкрыў... у лёгкай, прыемнай размове пра *іхніх* землякоў, якія праз гады захавалі сваё слова далёка ад радзімы, прафесар так захапіўся, што нават наспяваў некалькі запомненых ці завучаных песняў з запісаных, праспяваў так, як спяваюць жанчыны на Палессі, з падводкамі і падцягваннем-падвываннем у канцы радкоў: “у-у-у-у-ў...”, і дыхнула на *іх* такім родным, такім сваім і такой настальгіяй, што хацелася абняць прафесара і плакаць... прафесар між тым казаў пра тое, што яго найбольш здзівіла ў беларускіх вёсках, раскіданых па Сібіры, часам далёкіх адна ад адной, але падобных укладам жыцця, архітэктурай дамоў, убраннем унутры іх, уразіла яго грунтоўнасць і гаспадарлівасць беларусаў, асабліва бачная ў параўнанні з суседнімі вёскамі, населенымі мясцовымі расейцамі і нават

украінцамі, беларусаў па менталітэце ён параўнаў з немцамі: усё акуратна, дагледжана – адразу відаць, што людзі грунтоўна ўсталяваліся на зямлі, а расейцы паводзяць сябе так, нібы ўсюды яны часовыя, і часовасць гэтая бачная ва ўсім – ні дамоў талковых, ні платоў каля іх, ні гародаў, ні жывёлы ў хлявах... усюды закінутасць і безгападарчасць – “пьянь да рвань”, ну, гэта не дзіва, казаў прафесар, бо расейцы ўсюды пачуваюць сябе прыхаднямі, бо жыве ў іх душах прыродная “качэўнасць”: пабылі тут, вытапталі зямлю, абабралі і пайшлі далей: “рыба ищет где глубже, а человек – где лучше...” – вось іх прынцып...

*яны* слухалі прафесара і дзівіліся, наколькі дакладна ён характарызаваў большасць з людзей, што жылі па азіяцкім баку Уральскіх гор, *яны* самі аднойчы гэта таксама прыкмячалі і чулі ад расейцаў на тым жа Сахаліне, у Хабараўску – мы тут не затрымаемся надоўга, падзаробім грошай і паедзем жыць “на юг или к вам, в Беларусь...”, і гэтая часовасць іхняе прысутнасці на багацейшай зямлі, недагледжанасць, неадбудаванасць, абшарпанасць і разбітасць іхняга побыту сляпіцай лезла *ім* у вочы напрацягу ўсёй адной шостай часткі планеты Зямля, качэўнікі яны і ёсць качэўнікі, як кажа прафесар, стапталі зямлю тут, адбярэм дагледжаную ў суседа... а прафесар працягваў – з іншага боку зусім не дзіўнай падалася яму і “часовасць” украінцаў, асабліва заходніх – львоўскіх, бо яны пачувалі сябе чужымі тут – гвалтам вывезенымі – і марылі толькі пра адно: вярнуцца ў неньку-Украіну, дадому, што і рабілі пры першай магчымасці, беларусы ж абжываліся стала, русіфікаваліся паціху, асіміляваліся і рабіліся больш рускімі, чым самі рускія; моладзь родную мову яшчэ ведала, але ўжо не размаўляла на ёй, тут вядома, паўплывала школа, а многія ўжо і ў пашпартах пісаліся рускімі, хоць іхнія бацькі, бабулі і дзяды спрэс былі беларусамі, і імкнулася моладзь у горад, як і паўсюль па Расіі, і песні дзядоў ды бабуль ім непатрэбныя і нецікавыя... хоць і на такой сумнай ноце скончыў размову прафесар, але ягоныя сімпатыі да беларусаў былі настолькі відавочнымі і шчырымі, што і *яны* пагрэліся крыху ў прамянях дабрыні да сваіх землякоў... міма вокан прамільгнулі Перм і Кама, недзе паблізу былі ўжо Кіраў і Вятка, стаяла глыбокая ноч, а спаць не хацелася, прафесара можна было слухаць бясконца, аднак ён зірнуў на гадзіннік і сказаў: “дзякуй, маладыя людзі, за кампанію, час позні, дагаворым заўтра – цягнік у Маскву прыбывае ў другой палове дня...”, назаўтра за гарбатай гутарка працягнулася са спрэчкі, якую распачаў *ён*: “вось вы збіралі фальклор у Расіі, значыць, ён рускі, хоць і па-беларуску?”, “не, гэта фальклор беларускай меншасці ў Расіі”, “вы так і пазначыце?”, “а як жа...”, “не ведаю, я часта чую шмат беларускіх песняў, запісаных на Смаленшчыне ці на Браншчыне, Пскоўшчыне – на землях, дзе жывуць крывічы, і цяпер гэтыя песні выдаюцца за рускія народныя... як і казкі, паданні, запісаныя там жа...”, “а з чаго ты ўзяў, што яны беларускія?”, “ды па тым, што яны ў нас здаўна спяваюцца як народныя, і мелодыя супадае, і словы, і мова, нават сучасныя рускія выканаўцы, спяваючы іх, акаюць, дзекаюць і цекаюць...”, дарэмна *ён* зачапіў гэтую тэму, бо прафесар са злом абурыўся: “Смаленшчына – исконна руская зямля, і тое, што там ёсць памежныя гаворкі, не азначае, што яны беларускія, гэта дыялект рускай мовы, як і...”, добра, што прафесар замоўк своечасова, намякнуўшы, але не сказаўшы тое, што думаў – беларуская мова таксама дыялект рускай... інакш бяскрыўдная напачатку гутарка перарасла б у жорсткую

спрэчку, бо ні прафесар, ні яны не саступілі б тут ні паўкроку... да Масквы ехалі моўчкі, перакідваліся толькі асобнымі, неабавязковымі словамі, і *ён* пашкадаваў, што зачапіў гэтую тэму, бо прафесар быў русафілам і іншым быць не мог, ён быў патрыётам сваёй зямлі, як і *яны*, і тут не было месца спрэчкам, бо кожны з іх меў сваю думку і, адпаведна, сваю неаспрэчную рацыю; зрэшты, беларускі патрыёт заўсёды зразумее патрыёта расейскага, а вось расейскі патрыёт наўрад ці зразумее любога іншага патрыёта, няважна – беларускага, татарскага, эстонскага, башкірскага ці ўкраінскага... бо патрыётам можа быць толькі ён, усе астатнія – нацыяналісты, бандэраўцы, а то і, прабачце, фашысты... і якая ўжо тут можа быць гутарка, а тым болей сумоўе...

з Масквой *яны* звязвалі асаблівыя надзеі, бо толькі тут, з усёй дарогі ад Хабараўска, мелі *яны* нейкіх знаёмых, а дакладней не нейкіх, а самага блізкага свайго сябра, з якім адвучыліся на журфаку чатыры гады, былі разам на бульбе, а потым і ў будатрадзе ў Карэліі, але ў гэтым годзе ён кінуў менскі журфак і паступіў у маскоўскі літінстытут, бо цвёрда вырашыў стаць пісьменнікам... ён жыў у інтэрнаце на Шабалаўцы, непадалёк ад знакамітай тэлевежы – там *яны* яго і знайшлі; за нейкія два месяцы Воўка, так *яны* яго звалі, цалкам асвойтаўся ў вялізным мегаполісе, стаў не проста сваім сярод новых аднакурснікаў, а лідэрам; лідэрства ж у гэтакіх "творчых" калектывах вызначаецца проста: ім становіцца самы таленавіты па агульным прызнанні... Воўка і сапраўды пісаў класную прозу – яны ў гэтым маглі не раз пераканацца, бо ў Менску сябравалі, збіраліся разам і чыталі адзін аднаму свае творы, у Воўкі проза была глыбокая, густая, вобразная, стыль адточаны, бунінскі, ніводнага слова лішняга, кожнае на сваім месцы... першы вечар у Маскве прайшоў у знаёмстве з Воўкавымі аднакурснікамі, вядома, за пляшкамі з далёка не напоем "Бураціна" – грошы ў *іх* былі ды і закусь адпаведная: далёкаўсходняя ікра лыжкамі... літінстытутаўскія хлопцы і дзяўчаты былі такімі ж простымі, як і *яны*, сімпатычнымі і дружалюбнымі, але тут гэтага было мала, тут на першым месцы ў іхняй іерархіі было тое, як ты пішаш і што ты напісаў... Воўка быў па-за канкурэнцыяй, ды і *іх* адразу ўзняў высока, так, што не паверыць яму было нельга: "глядзіце, – казаў ён сваім аднакурснікам, – вось гэтыя хлопцы з Менску пішуць у сто разоў лепей за вас... не разумею, што вы робіце ў літінстытуце, хто вас сюды прыняў... вы займаеце чужыя месцы, іхнія месцы...", – літінстытутаўцы слухалі свайго "гуру" і маўчалі, цалкам пагаджаючыся з ім і не спрачаючыся, часам нехта з іх уставаў, ішоў у свой пакой, прыносіў тэкст і чытаў, і *яны* пераконваліся, што мае рацыю Воўка: слаба, нецікава, ні густу, ні сэнсу... але не казалі гэта гаспадарам, а толькі паціскалі плячыма, калі нехта з іх казаў: ну як, класна ж, праўда? – маўляў, вам відней... гарэлка скончалася некалькі разоў, і некалькі разоў літінстутаўцы лазілі праз фортку на першым паверсе, бо ўваход у інтэрнат быў зачынены, да таксістаў па "водку", і працягвалася чытанне прозы і вершаў, толькі ўжо не сваіх, а літінстутаўскіх класікаў, такімі ў той год былі вядомы ім Рубцоў і зусім невядомы Прасолаў, абое памерлыя бясслаўна, і слава іх дагнала толькі ў гэтыя гады; верш Прасолава "Я умру на рассвете, В предназначенный час, Что ж, одним на планете Станет меньше из вас..." гучаў да "рассвета" не адзін раз з розных вуснаў; прыходзілі старшакурснікі, чыталі яго, хітаючыся ў рытме паэта Ляпіса Трубяцкога з фільма "Дванаццаць крэслаў", усе слухалі, жуючы ў гэткім жа рытме салёную кету і гарбушу, і гэта абсалютна не было смешна...

а потым падымаліся празаікі, якія ў той год адкрылі для сябе Уладзіміра Набокава, неслі нейкія лісткі з перапісанымі ад рукі і надрукаванымі на друкарцы пятымі копіямі апавяданняў, бо ягоныя кнігі ў краіне саветаў не выдаваліся, і чыталі, чыталі захліпваючыся, балдзеючы, растаючы ад шчасця... і не канчаліся гэтыя лісткі і вершы, і не канчалася "водка" ў таксістаў, і не канчаліся сахалінскія прысмакі – усё ж недарэмна, ой як недарэмна *яны* цягнулі свае вялізныя чамаданы!.. ужо ўзыходзіла сонца над Масквой, калі *яны* клаліся спаць, і Воўка сказаў *ім* пра літінстытутаўцаў: "вашае шчасце, што яны перакінуліся на Прасолава ды Набокава і перасталі чытаць сваю графаманію, якой я тут ужо наслухаўся..."; яшчэ адзін момант: сярод студэнтаў былі хлопцы і дзяўчаты, і дзяўчат было больш, як гэта звычайна бывае ў ВНУ, але *яны* іх не заўважалі... дзяўчат для *іх* не было... то бок, зноў жа, яны былі, але не было жмяканняў ды абдыманцаў з імі, не было пацалункаў, нават сяброўскіх, і не было нічога далей, што магло б быць... бо то былі не проста дзяўчаты, а калегі, якія пілі столькі ж і гаварылі столькі ж, колькі і ўсе іншыя, чыталі тыя самыя вершы і прозу, захапляліся тымі ж імёнамі і творамі, былі роўнымі сярод роўных ва ўсім, і нейкія адрозненні не заўважаліся, нават не адкрытыя – знешнія, не тое што прыхаваныя – фізіялагічныя... мо таму, што ў Воўкі ў Менску была жонка, а ва Уладзі ў Маладэчне – нявеста, у *яго* ж тады нікога не было, але і для *яго* нікога не было, апроч сяброў і сябровак, з якімі было цудоўна і займальна праводзіць час...

у Маскве *яны* прабылі ажно чатыры дні – удвая больш, чым у іншых гарадах... але што такое Масква – абавязковыя Крэмль, Арбат, Трэцякоўка, Рускі музей... помнікі Гогалю, Пушкіну, Маякоўскаму, Крылову... рэстараны, кавярні, піўбары з піўнымі аўтаматамі, у якіх няма посуду, затое ёсць піва па 20 капеек... і кнігарні, кнігарні, кнігарні, дзе штодня выкідваюць розныя дэфіцытныя кнігі і бываюць аўтограф-сесіі класікаў... у маўзалей *яны* не пайшлі прынцыпова, толькі пабачыўшы даўжэзную чаргу да яго, што там глядзець: фіш на блюдзе – пасмяяліся, тады яшчэ не ведаючы, што працытавалі Бродскага, бо вершаў ягоных не чыталі, аднак здзівіла *іх* не гэта ўсё – *яны* ж прыехалі з не толькі халоднае, але і галоднае Сібіры... здзівілі іх маскоўскія крамы – умела сталіца пусціць пыл у вочы *замежнікам*, якія *за межы* савецкай сталіцы ездзілі рэдка, у Маскве можна было знайсці і купіць усё, часам з чаргой, часам без чаргі, але ўсё, што душа пажадае; *яны* зайшлі ў звычайны гастраном і ўбачылі ў ім пабіты блакітнай плесняй сыр-ракфор, пра які ў Менску толькі чыталі ў кнігах пра буржуяў, што жуюць рабчыкаў і ракфорам заядаюць, усяго тры рублі за кіло – галандскі сыр часам каштаваў даражэй; адразу захацелася купіць той ракфор... колькі браць? – ды кілаграм, што драбязой займацца... прадавачка пачула – кілаграм – памкнулася важыць, а потым спынілася: і перапытала: "мальчики, а вы когда-нибудь пробовали его, этот сыр? нет! тогда возьмите граммов двесте для начала, или нет – возьмите сто...", яны здагадаліся, што са сваёй шырокай душы ледзь не паўтарылі ўладзівастоцкую памылку з арэхамі, купілі сто грамаў – сыру, зразумела, выйшлі, разгарнулі паперу і пачалі азірацца, адкуль раптам з'явіўся такі непрыемны пах даўно нямытых шкарпэтак... пах ішоў ад сыру, і есці яго з непрывычкі (а адкуль ёй быць, той прывычцы!) можна было толькі зашпіліўшы прышчэпкай нос... дык вось чаму адгаворвала іх прадавачка... у абед зайшлі ў звычайную сталоўку, узялі боршч, сок і нешта рыбнае на другое – добры кавалак

рыбы смажанай у нейкім соусе, аказалася – асяцёр... не ў рэстаране, а ў звычайнай забягайлаўцы далікатэс з далікатэсаў – ну ты жывеш, Масква... не кажучы ўжо пра поўныя прысмакаў і, галоўнае, каўбасаў, універсамы, а імпартная вопратка і абутак ва ўнівермагах... чэргі, праўда, былі, але стваралі іх не масквічы – у рабочы час яны выконвалі пастанову Андропава, чэргі стваралі жыхары Разаншчыны, Валагодчыны, Тульшчыны, Уладзіміршчыны ды іншага блізкага і далёкага Падмаскоўя, якіх масквічы люта ненавідзелі, ехалі яны сюды на электрычках, якія так і называліся – "каўбаснымі", бо што рабіць, у Падмаскоўі ў крамах была амаль такая ж пустэча, як і ў Сібіры...

начававалі яны ў Воўкі ў інтэрнаце літінстытута, і кожны вечар паўтараў папярэдні, часам нават у падрабязнасцях, чамаданы іхнія, ды і кішэні, добра-такі апусцелі, зноў былі вершы і проза да раніцы, але, па ўмове Воўкі, толькі не сваё, а класіка... у апошні маскоўскі дзень *яны* паехалі ў Перадзелкіна – да Пастэрнака, схадзілі на могілкі, пастаялі каля сціплага помнічка на ягонай магіле, потым па прысадах пайшлі да былога ягонага лецішча, здаецца, яшчэ не музея, прынамсі, афіцыйна не музея, прайшлі паўз дом і скіравалі да знакамітай перадзелкінскай крынічкі, здалёк угледзеўшы, што *ім* насустрач ідзе даволі высокі мужчына; ідзе мерна, няспешна, доўгае, ледзь не да зямлі паліто восеньскі вецер прыціскае да ног, на шыі гарыць полымем яркі шалік... паэт няйначай, вершы піша – *яны* пажартавалі так і з нясціхлым смехам на вуснах наблізіліся да чалавека, наблізіліся і пазналі: сапраўды паэт – сам... сам Вазнясенскі... трэба сказаць, што ў савецкія часы было непараўнальна іншае стаўленне да літаратараў і шмат хто вядомым рабіўся вельмі рана – да 40 гадоў (сёння такія лічацца маладымі, ледзь не пачаткоўцамі), а Еўтушэнка, Вазнясенскі, Раждзественскі, чый узлёт прыпаў на хрушчоўскую адлігу, і раней за 30 сваіх гадоў сталі "кумірамі мільёнаў", якіх ведалі ўсе нават у твар, а тым больш пазнавалі іх адразу такія як *яны* – хто і сам спрабаваў пісаць... смех застыў на *іхніх* вуснах, і *яны*, агаломшаныя нечаканкай і сваім дурнасмехам, моўчкі прайшлі міма жывога класіка, міма чалавека-помніка, чалавека-гісторыі, волата паэзіі ўжо тады, прайшлі не павітаўшыся, нібы не пазнаўшы яго, чым, напэўна, моцна пакрыўдзілі паэта... не спыніліся, не папрасілі аўтограф на якім-небудзь знойдзеным у кайстры сшытку ці аркушыку, не ўзялі з сабою загадзя ягоныя кнігі – ведалі ж, куды едуць, словам, асарамаціліся... незадаволеныя сабой і знерваваныя, *яны* падышлі да крынічкі, прыгаршчамі папілі славутай вадзіцы, патапталіся ў гразі, бо крынічка яшчэ не была агароджанай, і на зваротным шляху зноў сустрэліся амаль на тым самым месцы з тым самым паэтам, які вяртаўся да свайго дома, што быў побач з пастэрнакаўскім, зноў прайшлі паўз яго моўчкі, не павітаўшыся, не выправіўшы папярэднюю памылку, і калі мінулы раз паэт нібыта памкнуўся да *іх*, то цяпер ён ішоў гледзячы некуды наперад і не заўважаючы *іх*: гэтак ходзяць помнікі... вось так, без дай прычыны, *яны* ўзялі і пакрыўдзілі вялікага паэта сваёй няўвагай, які рэзка дадаў кроку і прайшоў скрозь *іх* (яны расступіліся), як вецер між дрэў, як сонца між хмар, "ну вось, – падумалася яму, – збілі з рытму і настрою чалавека, глядзіш, сёння верш не напіша, і стане літаратура чалавецтва меншай на цэлы верш..." – шчыра падумалася, без здзеку і сарказму, зусім не скептычна, і, пэўна, не аднаму *яму* так падумалася, бо далей, да самай чыгуначнай станцыі, *яны* ішлі моўчкі, яшчэ больш незадаволеныя самімі

сабой, і толькі ўжо ў электрычцы Воўка парушыў маўчанне і сказаў, відаць тое, што не дагаварыў па дарозе: “у царкве, якую мы бачылі непадалёку ад могілак, служыць знакаміты айцец Мень...”, – сказаў і замоўк, не патлумачыўшы, чым жа знакаміты той айцец Мень, усесаюзная вядомасць да якога прыйшла ўжо ў часы гарбачоўскае перабудовы, і тады ж яго тут, непадалёку ад царквы, напаткала і смерць ад сякеры “невядомага”, так, невядомага і па сёння забойцы, і чалавецтва стала менш на цэлую душу... у маўчанні *яны* даехалі да вакзала, потым да інтэрната, затым зноў да вакзала – цяпер ужо свайго – Беларускага, пагрузілі ў вагон апошні раз свае чамаданы і паехалі ў Менск... родны, самы лепшы горад не толькі ў СССР, але і ва ўсім свеце,

і горад пабольшаў...

*Менск, 2013; Вісбю, 2019.*



Людміла Паўлікава-Хейдарава



...Годнасць! Якой аблудзе
служыш? З якой маны?
Не прадаюцца людзі,
калі не рабы яны!..

# Спеў здарожанай душы

* * *

Хай не ведаю – хто ты,
і не варажу.
Як далонь –
падаю на знаёмства душу...

***ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!***

Паз'ехалі з вёсак
народныя дзеці.
Сталіца, заробкі,
дзе лепей на свеце...
Забітыя вокны
фанерай, кардонам...
– Жыве Беларусь!

...Усё больш за кардонам.

Пазычылі мову
ў другога народа.
Па-польску, наогул,
красуня – урода.
На пальцах гаворыць
нямко без’языкі.
– Жыве Беларусь!

...Усё больш на пазыкі.

Мы ў роднай матулі
няродныя дзеці.
З гадамі ўсё меней
нас робіцца ў свеце.
Няма ў нас вайны
і няма халакосту...
– Жыве Беларусь!

...Усё больш на пагостах.

* * *

Радзіны, храмы, суполкі, працы...
Гушчарнік зайздрасці, пыхі межы.
Усім павінны і ўсім належым –
а да сябе – дык і не дабрацца.

А час блыхасты мігціць бязважка,
і кожны ў часе – адно прахожы,
і верна служыць нам геній божы –
жыццё тутэйшае, як цяльняшка.

Хто ж мы такія на гэтым свеце,
дзе ўсё даецца крывёй ды потам,
дзе ўсё трапляе ў было ці ў потым...

...У свет наш з плачам прыходзяць дзеці...

* * *

Мы – Слова плоць.
І нам адплата:
за слова праўды ці ілжы
у кожным з нас
Хрыстос распяты
на бессмяротнасці крыжы.

* * *

Паўстануць горы і рухнуць сцены,
і сонца свету праб'ецца з хмар –
і будзе жудасна рушыць з цемры,
як навічку на падмосткі сцэны,
па горнім шляху – у светлы Храм.

Прастора – іншых прастораў дзверы,
замкі ўва мне і ўва мне ключы.
Не азірнуцца б на покліч цемры,
не спатыкнуцца б на вокліч цемры
па промню Ісціны ідучы...

### У ГАРАХ

Дождж нахрапісты
вочы дзяўбе.
Годзе ўжо,
наталіў неспатолю!
Кожны крок
адгукаецца болем.
Крок наверх.
Колькі іх да сябе?

### СПЕЎ ЗДАРОЖАНАЙ ДУШЫ

Зямля мая, зямля надзеі,
я зноў з табой, люблю цябе я,
нібы ў юнацтве халадзею
ад гэтых слоў –
люблю цябе.

Калі навучалі чужому кланяцца,
мяне ашчаджала ты цішай ураніцы,
забытыя сцежкі пад ногі кláліся,
забытыя словы ўсплывалі ў памяці.

Зямля мая, калыска долі,
мая душа шчыміць ад болю,
як птушка, просіцца на волю
ад гэтых слоў –
люблю цябе.

Калі па табе ўжо складалі рэквіем,
мяне падымала ты зёлкамі-лекамі,

жыццё спавядала – атрутнымі рэкамі,
мурамі ўтравелымі і калекамі.

Зямля мая, зямля надзеі,
я зноў з табой, люблю цябе я,
нібы ў юнацтве халадзею
ад гэтых слоў –
люблю цябе.

* * *

Выходжу ў поле. Вечнасць і дарога
нязбытным вабяць, клічуць – здаганяй!
Як птушка, адлятае з асцярогай,
дыстанцыю трымае небакрай...

* * *

Над дахамі Менску – ноч.
Вецер-свавольнік свішча.
І калыхае Свіслач
долі маёй вянок...

* * *

Акно расчынена. У раме я і ты,
як дзве безабаронныя мішэні...
...Здзімаў пад ногі белыя лісты
скразняк сутулы з зоркамі ў кішэні...

## *РАСФОКУС РЭАЛЬНАСЦІ*

На вуліцы Прытыцкага
пажар.
Ад хаты, што гарыць,
разносіць вецер
праз крону дрэва
дым па белым свеце,
і патыхае ў твары гар і жар.

Машыны зазяваліся,
але
ніхто не пасігналіць разявакам,
відовішча засмоктвае,

што вакуум,
што ўшчэнт галодным
страва на стале.

Вось і Тарасава. Ды што ў ім? Божа мой!
Дарогі перакрытыя. Абвесткі
наўкол пра небяспеку. Ну і весткі!
Як быццам кажуць: не хадзі дамой...

А што дамой? Не надта і ахвота,
як быццам запаўзла туды змяя.
Сям'я? Так, ёсць яна, заможная сям'я:
сабака, два каты ды адзінота.

Але ж куды? І дзе яны, дарогі?
Зірнула на руку... Ну й каляя!
Пярсцёнак з жэмчугам згубіла недзе я...
Хай сыдуць разам з ім мае трывогі!

* * *

Люблю дарогу думкі – напраcткі.
Навошта далікатнічаць з сабою?
На кроснах долі тку свае радкі
з любові, палыну і лістабою...

* * *

Былое! Твой учэпісты палон,
што пастка! Неадчэпны, як праклён,
дзе мы з табой жывем яшчэ дагэтуль,
там нашае няўрымслівае лета,
тры поўні і адзін смаркаты ветах,
што зазірнуў пад раніцу ў акно...
...Былое... Не мінаецца яно!

А тут дажджы...

### *ПАХАВАННЕ ПЧАЛЫ*

Прыгублены мой.
Прыгублены мной.
Так і быць.
Ты хочаш мяне забыць.

Хочаш мёду любоўных мар.
Богам – на лёсу майго алтар.
Голаў далоў!
Джаліць любоў –
Гіне пчалой.
Узнімае з далоняў хмар
Сонца высокае сваё чало...

* * *

Ноч у душы варочаецца –
зорны калматы звер.
Доля мая, прарочыца,
што мне чакаць цяпер?

### *БЕЛАРУСКАЯ МОВА*

*Ахвярую Алесю Бяляцкаму*

над брукам вякоў
пышная астра цвіце
на квёлай назе

*12.09.19 г.*

* * *

На халодным ветры
квітуць яснакветы.
Не заплюшчаць вочы
нават паначы.
Адцвітае ў садзе бабінае лета.
Не вярнуць пялёсткі,
не дапамагчы.

...Адцвітае ў садзе бабінае лета...

На халодным ветры
цвітуць мае кветы.
Не пытаю, дзе ты,
дзе тваё цяпло...
Адцвітае ў сэрцы бабінае лета.
Што магло саспела,
што было, сышло.

...Адцвітае ў сэрцы бабінае лета...

## *ЗА ВОЛЬНУЮ БЕЛАРУСЬ!*

Святы. Пачатак года.
Радзіму трымаць за б...дзь!
Судзяць сумленне народа –
тых, хто не ўмее маўчаць.

Анёлы! Ці з вашай згоды
дасюль Курапаты ў крыві?
Судзяць душу народа –
тых, хто яшчэ жывы.

Годнасць! Якой аблудзе
служыш? З якой маны?
Не прадаюцца людзі,
калі не рабы яны!

*8.01.20 г.*



Віктар Казько



...ай, што вы да мяне прычапіліся
са сваімі «пусть и ничего».
Мне хапае сваіх тудой, сюдой, ая, хая і няхая...

# Нашчадкі казённага лёсу

***Аповесць***

## I

Ён быў і на каліва пазбаўлены музычнага слыху. Пэўна, яшчэ пры народзінах мядзведзь добра патаптаўся па яго вушах. Але музыку ён чуў. Дзень, асабліва вечар і ноч, былі спрэс музычнымі. Спявалі яму, што раздражняла яго, і адбіцца ад той назолы ён быў нядольны. Нядольны таму, што да сыходу, калі ад яго адступаўся сон, а ноч рабілася адной толькі ціха непрабіўнай цемрай, не мог зразумець і разгадаць, чые гэта спевы, чыя музыка і голас гучаць у ім. Навошта і чаму верабейкам і салоўкам закалыхваць яго, пацвельваюць дурнаватай галаснасцю маладога шпачка.. Нешта абяцаюць, некуды клічуць, як у прорву перакульваюць у сненні.

А то быў голас, музыка і спевы зямлі, космасу, сусвету, што падсвядома насіў ён у сабе, сам таго не ведаючы.

Запасіў, калі прачынаўся, набіраўся і поўніўся з усходам сонца, босымі нагамі ступаў на зямлю і зліваўся з ёй. Зямля прымала яго і аддавалася яму, бо інакш не магла насіць яго на сабе ці ў сабе. Спеўна вітала яго.

Сусветна светлы і пякельны надрыў зямнога існавання. Нябесны пошчак галубінай і ластаўчынай бесклапотнасці. А паміж небам і зямлёй пацвельванне шпакоў. Арганна-храмавае жоўта-бубнавае бласлаўленне сонца. Сапраўдны, замест музыкі, сумбур, як было тады на слыху музычна адукаваных людзей.

Але ён быў непрабіўна глухі і на гэта. Хаця, неспадзеўкі, часам у тым сумбуры ўсё ж прарывалася яму нешта новае, празрыстае, як слёзка на вейках сухіх вачэй. З-за аглухласці ён не мог уцяміць, што такое і гэта. Але ў такія хвіліны адчуваў, што расце і робіцца больш лёгкім. Адчуваў ці не прагу і жаданне мо тых жа лятуча-выспелых ужо дзьмухаўцоў – узняцца і паляцець.

І, падобна, а мо і на самой справе, уздымаўся. І ляцеў, ляцеў. У невядомасць новага дня.

Упершыню гэта выразна працюкнула яму на чужыне, калі ён сышоў з набітага тропу і па цаліку, прыгінаючыся долу, хапаючы рукамі мерзлую чорную траву і ніцае наскальнае кустаўё, падзёрся да вяршыні гары, у скалы, у іх маўклівую каменную пыху. Там яго чакаў ужо высачэзны і здаравенны чорны дзядзька, прыціскаючы да грудзей вялізны і таксама чорны і здаравенны камень, які, па ўсім, меўся быць вугалем – антрацытам, што колісь угрэў тут у халодную ноч першаадкрывальніка радовішча таго ж вугалю.

– Ну, здароў, дзядзька Федзя, – павітаўся ён з учарнелым ад часу, ветру, дажджоў, снегу і адзіноты каменным, а не выключана, і чыгунным чалавекам. – Высока ж ты ўзабраўся, але ж і я дапяў да цябе.

З-за вугалю, што трымаў той Федзя на грудзях, ён не мог убачыць, азваўся ці не ён на яго пытанне. Але калі павярнуўся і стаў у каленях яго абутых у чобаты ног, амаль захлынуўся ад убачанага перад сабой – блакітнай вышыні і чысціні неба. Далёка ўнізе непадступна сталёва-крыштальна гулліва віхляла струмянёвым азадкам паміж крутых скал незамерзлая яшчэ рака. Над галавой здзіўлена зялёнымі вачамі глядзелі на яго камлюкаватыя, паўсталыя на камянях хвоі, а мо і з камянёў – кедры. А хутчэй – піхты. Напятае імі, вышынёй і гаючым крышталём ракі неба і на марозе аж жаваранкава звінела першабытнасцю.

Вось тут і прыдаліся яму музыка, спевы, голас зямлі і космасу – сусвету. Толькі ён і тады не надта паверыў у той голас. Проста зазвінела, як здалося яму, увушшу. Але ж, хоць і не чуйны, як ужо хто нарадзіўся і вырас сярод гэтага разлогавага разнамоўя, ён імгненна адказаў яму знямелай разняволенасцю свайго існавання, прысутнасцю паўсюдна і нідзе.

А гэтая – паўсюдна і нідзе адначасова – прысутнасць і адсутнасць яго паўсюдна, як і ўсякая дасканалая пэўнасць пераўтварылі яго ў неіснавальнае нішто, нябачнасць, нібыта схавалі пад шапкай-невідзімкай. Схавалі не толькі ад усяго свету, але і ад яго самога. Толькі ў той нябачнасці, неіснавальнасці асабліва выразна гучалі непрысутныя і тут, у ім, спевы, галасы, гукі. Разняволеная музыка вады, неба і гор.

Так азываўся яму свет, зямля і сусвет над ім, перад ім і ў ім. Усё тое, чым быў і з чаго складаўся ён сам, што рэдка кім пазнаецца, прызнаецца, асэнсоўваецца і ўсведамляецца. Сваё ж, незаемнае, незапазычанае, і есці не просіць. І гэтае сваё каменна і крышталёва крынічна бруілася ў скальных, стагоддзямі магутна створанымі чорных жылах, пражылках і праломах

гары, на якой ён уцвердзіўся. Імкліва струменіла на зямлю па струнах сонечных праменняў у сусвет. Трапятка аказвала сябе на пракладзеных уначы месячных сцежках і асцюжана хавалася на спачын дзённымі зоркамі ў глыбокіх вірах горнай ракі.

Усё гэта было сапраўдна і неаспрэчна прыгожа і высока. Якраз таму недасягальна і неіснавальна будзённа звыкламу разуменню, зроку, слыху і адчуванню. Толькі чамусьці з нічога – балюча і горычна. Сляза запасілася ад гэтай неіснавальнасці ў грудзях. Запасілася, гарэла, але так і не выказала сябе на суха палаючых шчоках. І, як гнаны гэтым недасягальным і задумліва горычным, ён пачаў спускацца са скалы ўніз да дарогі. Яму патрэбна было яшчэ шмат прайсці. Ён вывучаў чужыну перш-наперш нагамі. Так рабіў кожны раз на новым месцы. Не адступіўся ад сябе і цяпер.

У спартовую залу, дзе на той час трэніраваліся баксёры, ён трапіў ужо ў другой палове дня, хаця ісці было і недалёка. Але такая ў яго хада. Нездарма меў ён прозвішча Наждак Маруда. Лічы, што гэта – Маруда – зусім не прозвішча, а прадвызначэнне лёсу і жыцця. Здаўна здатная наша вёска на такія лёсавыя прозвішчы. Назаве, нарачэ, што ў сук улепіць. Вулічнае і велічнае, ці выкрывальна пагардлівае, яно прыстае, прырастае як да сабакі. На ўсю пароду і на пакаленні, радавод – адначасова прозвішча і мянушка. Так адбылося з ім і яго продкамі і прашчурамі. Носіць, мае ён у сабе не толькі сваё мінулае, але сённяшняе і будучае. Будучае сваіх нашчадкаў.

З Наждаком ці не тое ж самае. Але тут ён ужо не спрычынены. Гэта часовае ўжо, на адзін толькі год. Наждаком быў кожны стрыжаны пад нуль – абнуляваны – хто яшчэ не адбыў у шахтавым горна-прамысловым вучылішчы першага курса. Маўляў, ты яшчэ не хто іншы, як толькі наждак. Дарэчы, прыстасаванне хвацкае, у слясарнай справе без яго як без рук. Дурні прыраўнялі яго макацоўбіну да інструмента. Хаця мо ўжо і не такія дурні. Суцяшаюць жа: не сумуй, не сумуй, малаток, балдой будзеш.

Ці не тое ж і тут: дай толькі нашаму цяляці воўка з'есці. Паходзіш у наждаках год, а там і чупрына адрасце, і зубы праражжуцца ды выскаляцца. І будзеш ты зноў чалавекам, які адбыўся і збыўся з наждака. Бо так заведзена, пэўна, ужо на гэтым свеце, тым больш у так званай прафесійна-тэхнічнай адукацыі: усе сапраўдныя майстры, спецыялісты – людзі з колішніх наждакоў. Не трэба наракаць. Хто не хварэў, той не ачуняў, хто сёння яшчэ не біты, ні разу не ліцаваны, – той будзе наперадзе бітым і ліцаваным.

То ці не лепей адразу загадзя, усё: за аднаго бітага двух жа нябітых даюць. Не з бухты ж барахты казана. Свет на гэтым трымаецца. Па крайняй меры яго свет. І таму – трымаецца.

Маруда торкнуў засохлыя, заінелыя, са шчылінамі ў палец дзверы ў задыхлівую бойкай залу. Але яны, прымарожаныя, не паддаліся. Тады ён крыху напрогся і ўзняў іх уверх. Дзверы лёгка расчыніліся, няшчытна падагнаныя, пэўна ж, не надта дбайнымі гаспадарамі, падобна, з пустадомкаў. Гэта тычылася не толькі дзвярэй. Ці не ўвесь пасёлак быў хоць больш і двухпавярховы, але барачнай драўлянай забудовы. Даўняй, угнута панылай і перастаяла ўжо змрочнай. Адметнасць колішняга няўчасся і хапатлівасці, як заўжды: сёння што ўжо ёсць, а заўтра, ого, заўтра. Але гэта заўтра, падобна, запознілася, збілася з тропу і размінулася з сёння.

Ці не таму, калі чарговая маскоўска-крамлёўская камісія запытала ў старшыні тутэйшага райвыканкама, па чутках, былога матроса з крэйсера «Аўрора», што трэба для ўмацавання савецкай улады ў раёне, той адказаў:

– Другі залп «Аўроры».

Залпа не было, і ўсё засталося, як было. Нават старшыня выканкама ацалеў. Раён і пасёлак разрасталіся, непадалёк будавалі яшчэ адну шахту і вугальны разрэз. Аброслыя толькі часовымі – на сёння, што значыць ці не назаўсёды, – шанхаямі, марсамі і нахалаўкамі, як грыбамі-порхаўкамі, барачна стаўленымі, сметнікава выпнутымі ў першай палове дваццатага стагоддзя са змрочнага падзямелля шахтаў з вугалю, згарэлага ад яго попелу. Мо таму гэтыя паганкавыя грыбы адчулі прыдатнасць ім глебы, эпохі, чорна, панура вякуюць, як сам час, завіслы тут. Учэпіста трымаюцца паміж небам і зямлёй, лунаюць паміж быццём і небыццём за кавалак хлеба, за капейку, шклянку гарэлкі, пладова-выгаднай атруты – мальвазіі.

Трымаюцца страчанымі жыццямі стваральнікаў і творцаў, здабытчыкаў пякельнага агню, шмат і шмат якіх адляцела ў вечны нябесны вырай. Але гэтыя, калісь адляцелыя, усё ж нешта і пакінулі тут, хаця б тыя ж бунтоўна праслыя шанхаі, саматужныя нахалаўкі, азызлыя ўжо сёння баракі. Помнікі, што і яны былі некалі людзьмі. Жылі на гэтым свеце.

«Шахцёры, – падумаў Маруда, – на грашах ядзіце і сядзіце і грашыма паганяеце. А каб жыць па-людску, шахцёрамі жыць...» Гэта ён не ў асуджэнне, а папросту пра тое, на чым спатыкалася яго вока. Але дасталася і непасрэдна блізкаму яму. Што ўбачыў ён на тую хвіліну перад сабой. «Спартсмены, – падумаў ён ужо пра спартыўную залу, – морды біць, юшку пускаць дык хапае і часу, і спрыту, і сілы. А вось дзверы паправіць – дык тут вы ў кусты. Спартсмены...»

Ён быў зусім не з’едлівы і не злосны, гэты Маруда, але пабурчаць любіў, пайкі б на вячэры не пашкадаваў, дай толькі выкрыць нешта ці некага. Перш, чым штосьці ўбачыць, Маруда адчуў пах чалавечага поту і зноў мармытнуў сабе пад нос: «Глядзі ты, і яны тут рабацягі, шчыруюць, як за грошы, адзін я, выходзіць, гультай». І засмуціўся, бо і сапраўды выходзіла: гультай ён, таму і ў кішэнях у яго руб-коп ды нешта ў лоб. Усе пры справе, а ён блэндае па пасёлку.

Сёння быў дзень практыкі. З майстэрняў Маруда выйшаў разам з усімі. Але гэтыя ўсе паспелі ўжо дабегчы да інтэрната, пераапрануцца, паабедаць і набаксавацца. А Маруда ўсё ідзе, усё на паўдарозе. Навошта завітаў у спартыўную залу, ён і сам не ведае. Але раз занеслі ногі, напэўна, так трэба. У яго часта ногі ведаюць больш за галаву.

Тут, у зале, Маруда ўбачыў работу, цяжкую, злую. Пар каля дзесяці падлеткаў – змакрэлыя, што бычкі пад дажджом, а вочы як у здарожаных валоў, што цягнуць ці не стог сена па коўзкай балотнай дарозе – апантана скручвалі адно аднаму насы, галовы, шкілетна, косткава выпрабоўвалі, вадзілі карагод, трэсліся, падскоквалі. І білі, білі адзін аднаго. А задаволены гэтым мардабоем быў толькі адзін маленькі, не надта стары, хоць ужо і лысаваты зграбны чалавечак. Ён вёртка круціўся, узяты ў кола распаранымі хлопцамі, іх чорнымі пальчаткамі. У роце ў чалавечка быў свісток, і ён час ад часу высвістваў:

– Чысцей, чысцей... Куды адкрытай пальчаткай? Ніжэй корпуса не дазволена, не дазволена...

Гэта быў фізрук вучылішча, чалавек, улюблёны ў бокс і гімнастыку. Мо таму і ўлюблёны, што ні гімнаста, ні баксёра з яго ў свой час не атрымалася, хаця нос яму ўсё ж звярнулі і навучылі рабіць стойку на адной руцэ. Апошняе фізрук не раз дэманстраваў і пры Марудзе, калі Маруда скакаў цераз «каня» і вершнікам уссядаў на ім:

– Глядзі, што чалавек можа!

Маруда спаўзаў з «каня» і злосна адказваў:

– А мядзведзь можа ўсю зіму праспаць у бярлозе.

– Ну і што? – не разумеў фізрук.

– А нічога – хуценька гаварыў Маруда, – мядзведзь можа і на вушах стойку на паўгода зрабіць, прыцісне і не кратаецца. І ніколі не мыецца, а ўсе яго баяцца.

Калі трэба, Маруда ўмеў адказаць. І зусім няпроста ён сёння ўжо тры бітыя гадзіны ў дарозе. Не спяшаўся сёння Маруда таму, што хацеў зразумець сваё новае жыццё ў вучылішчы: ці то ўцякаць тут з урокаў, з тэорыі, як у дзетдоме, ці то не. І другое хацеў ён зразумець... Ціха, па сакрэту ўсяму свету: электрычнасць хацеў Маруда зразумець, хаця б той самы шахтавы пускальнік – магнітны, выбуховабяспечны. А ціха таму, што з яго, Маруды, ужо смяюцца: ну што тут разумець, кнопку націснуў – і спіна мокрая. Так-то яно так, але не зусім: спіна і ніжэй спіны мокра, але ж і мазгі нараскіраку.

Уяўляеце сабе: стаіць маленькая такая скрынка, ну, не зусім маленькая, як добры бохан хлеба – каню ці слану. Маўчыць, есці не просіць. І ўсё вакол маўчыць. А націснуў ты кнопку – і пайшло-паехала. Адкуль толькі што бярэцца? Гэта, гавораць, электроны там па дроце бегаюць. Адкуль жа ў іх, нябачных, трасца ім у бок, такая моц? Гэтае пытанне Марудзе было на засыпку. На ўсё жыццё. Значна пазней, амаль напрыканцы, яму пашчасціла пагаварыць пра гэта з міністрам энергетыкі краіны:

– Сам рабіў шахтавым электраслесарам пятага разраду, тэхнікум на горнага механіка, інстытут прайшоў, а як быў ёлупнем, так і застаюся. Ведаць не ведаю, што такое электрычнасць.

– А ніхто не ведае, – адказаў міністр, пэўна, не з дурняў быў. – Адзіны толькі студэнт на экзамене бажыўся мне, выкладчыку: «Вучыў, вучыў, і ўчора яшчэ ведаў, а сёння...» Я яму пяцёрку паставіў: геній.

Пытанне ў Маруды было, але мо няўхвальнае, ніхто яму пяцёрку не ставіў і геніем не абзываў. А электроны, што нябачна яго вачам і розуму працягвалі бегаць, нібыта злодзеі ўначы. І ўсё цішком. Нічога нідзе не адбываецца, зацята маўчыць электрон. І не зразумела, хто з іх двух сапраўдны чалавек, хто электрон. Каб зведаць гэта, хоць краечкам вока і розуму адчуць, і пайшоў Маруда без абеду ў белы свет як у капеечку. Немагчыма ж, каб з нічога – нешта. Узяць хаця б дуба – з жолуду. А хвоя ўвогуле – з нябачнасці, з семкі ці не з камарыка памерам. Як і сам Маруда... Невядома, з чаго: ні самому паглядзець, ні людям паказаць. Не, тут трэба варушыць і варушыць макацоўбінай, клёпкамі – зноў жа, ці на самой справе існавальнымі.

Па разуменне нябачнасці неіснавальна-існавальнага пайшоў белым днём Маруда шукаць электрычнасць і электрон, што стоена жывуць у дроце. Пайшоў шукаць іх па наваколлі. Упэўнены, што канцы іх недзе ўсё ж павінны быць.

Ён вось, Маруда, калі па вуліцы бяжыць, што пад канём, зямля дрыжыць. А тут ні гуку і ні груку. Шукаць, шукаць трэба: не ў інтэрнаце пад ложкам. Як жа ўбачыш іх, гэтыя электроны, адчуеш, калі не спазнаеш, не ўведаеш таго ж наваколля, пасёлка, вуліц, дарогі. Мо ён недзе размінуўся з імі і не пазнаў, таму што не зведаў яшчэ як след гэтага мястэчка. Няма ў ім яшчэ Маруды, як яму таго ж электрона.

Такім ужо ён, гэты Наждак Маруда, удаўся, такім Хамой няверачым, усё яму перш-найперш трэба памацаць уласнымі рукамі. Пазнаёміўся з Федзем Волкавым, паслухаў каля яго, як галосіць ці спявае на адзіноце сусвет, і пацягнуўся ў жыццё, у пасёлак. У гліняным кар'еры непадалёк ад майстэрняў патрапіў на двух шахцёраў. Дзіўных такіх: усё на іх шахцёрскае – боты, каскі, брызентухі, а ў руках не адбойныя малаткі – пажарныя брандспойты. Шахцёры ледзьве ўтрымлівалі гэтыя брандспойты, з якіх з гусіным сіпам, чадавым шыпам вырывалася аж ссінелая вада і ела гліну, як аўтаген есць жалеза.

– Гарыць? – маючы на ўвазе пажарныя брандспойты, спытаў Маруда.

– Яшчэ не гарыць, але можа загарэцца...

Маруду было неўцям, што тут можа загарэцца.

– Вугаль, браце, вугаль, – адказалі яму.

– Які ж тут вугаль? Гэта ж гліна.

– А без гліны ні вугалю, ні чалавеку нікуды. І каб ён без патрэбы не загарэўся, патрэбна і гліна. Толькі яна пульпай завецца. Пульпа – вада з глінай – сцякае ў шахту. Так мы двух зайцоў забіваем: выпрацаваную прастору буцім і ад самазгарання вугаль захоўваем, як цукерку ў фанцік загортваем. Зразумела?

– Не, – пакруціў галавой Маруда. – Бачу толькі фанцікі, без цукерак. Я ў электрычнасці больш кемлю. Электраслесар я. Хутка ім буду, а пра ваду і гліну нічога не ведаю.

– Вось і дрэнна: пра электрычнасць ужо ведаеш, а пра ваду і гліну ні бум-бум. Хаця без вады ні туды і ні сюды.

– А што пра яе ведаць? – здзівіўся Маруда. – Халодная яна... Добра п'ецца... Мокрая. А гліна...

– А яшчэ – вось ты сам з гліны і вады, як гурок зялёненькі. А яшчэ яна, вада, ёсць, што блага п'ецца, – мёртвая, цяжкая і ...жывая вада ёсць, накшталт цябе.

– Я не з вады і не гліны, тым больш зусім не гурок зялёненькі, – крыху нават пакрыўдзіўся Маруда. – Я з Палесся... А жывая, мёртвая – гэта толькі так гаворыцца.

– А вось не толькі гаворыцца. Усё жывое ад вады ідзе і вадой сплывае.

Маруда па ўсім натрапіў на падобнага сябе шукальніка электронаў, мысляра пра жыццё.

– А я не хачу сплываць, – заўпарціўся Маруда. – Не хачу быць ні вадой, ні глінай, не жадаю.

– Гэта ўжо ад цябе не залежыць.

– Залежыць, – настойваў Маруда. – Я электрычнасцю хачу быць.

– А ты ўпарты, але і электрычнасць на вадзе.

– Не электрычнасць на вадзе, а вада на электрычнасці, – сказаў Маруда.

– Няхай будзе так, – лёгка пагадзіўся шахцёр. – Калі табе хочацца так – няхай так будзе. А як вугаль гарыць, ведаеш?

– Мы дровамі абаграваліся, але ведаю, што і вугаль нядрэнна, толькі яго распальваць цяжэй. І ўчадзець ад яго нядоўга. І грубка яго не вытрымлівае, трэскаецца. А яшчэ на вугаль, на распалку яго лучынка трэба, смаловая.

Шахцёр усміхнуўся, і твар ягоны, да таго напружаны, насцярожаны, ажыў, расквеціўся белай стужкай зубоў, пад чорнай аблямцоўкай застарэлага вугальнага пылу на вейках ажылі і вочы, упалыя шчокі, адзначаныя сінімі кропкамі, тымі асаблівымі шахтавымі мецінамі – роспісам бяды і мужнасці,

праз якія даліся яму ў знакі шахта і вугаль, сабраліся ў гармонік. Шахцёр падміргнуў Марудзе і спахмурнеў:

– Бывае, што і дзеўка раджае, што і вугаль не трэба падпальваць. Ляжыць, ляжыць ды й загарыцца. Іншы раз і чалавек так. Добры, лагодны – і раптам як яго бзык які схапіў...

Пра чалавечы бзык Маруда штосьці чуў, як пра бычыны і каровячы, але каб і з вугалем так...

– Смеяцеся, – адказаў ён шахцёру. – А мне яшчэ вучыцца два гады, і прыехаў я ў гэты пасёлак зусім нядаўна.

Сказаў, як і заўсёды, не тое, што хацеў сказаць. Не атрымлівалася ў яго тое, што хацелася. А хацелася, павінна было гучаць прыкладна так: «Хоць я і здаюся сёння крыху прыдуркаватым, але гэта зусім не так, я ж таксама, як і ты, шахцёр, ведаю, як у жыцці здараецца, і скора стану з табой побач. Я ведаю работу і здольны да работы, так што ты чакай мяне, чакай».

Вось як гэта павінна было прагучаць. Так яго, відно, і зразумеў шахцёр і адказаў:

– Нічога, хлопча, нічога. Мы пачакаем і пазмагаемся, пакуль ты праходзіш навуку. Вось гэтая штуковіна – пушка, гідрапушка. І мы, браце, як на вайне. Падмацаванне нам зусім лішнім не будзе.

Апошніх яго слоў Маруда ўжо не чуў.

– Дай! – як нібыта пяцігадовы хлапчук цацку, патрабаваў ён у шахцёра даверыць яму пушку. І той даверыў. Маруда прыпаў да яе, шахцёр павярнуў рычажок. Зямля, здалося Маруду, скаланулася, здрыганулася і ўзняла, ускінула яго. Ён і не здагадваўся, што такі лёгкі. А гідрапушка, нібыта была яна жывой, канём, і конь гэты не хацеў даверыцца Марудзе, імкнуўся скінуць яго з сябе, кідаўся ў бакі, уздымаў і падкідваў угору азадак, самаахвярна здрыгаўся – правяраў, ці можа ён ездзіць, як сядзіць у сядле, ці можна такому вершніку давяраць сябе, ці прывязаны ён да зямлі. І ўсё гэта таму, што Маруда накіраваў струмень вады ў неба. І вадзе там, у небе, не было на што абаперціся, яна цягнула за сабой гідрапушку і хлапчука, шкамутала, вадзіла з аднаго боку ў другі. Маруда прынізіў струмень і паласнуў ім па рыжай, ужо здранцвелай пад лёгкім марозам гліне. Гідрапушка супакоілася, падалася крыху назад, як спужана адкатна падаецца сапраўдная баявая пушка пасля кожнага стрэлу. І Маруда адчуў сябе пушкаром, салдатам, адчуў пад нагамі зямлю, і зямля адчула яго, скарылася.

Невядома адкуль і калі, але гэта было ў ім і раней, толькі ён на нейкі час забыў. А мо і не ведаў, прыдумаў ці атрымаў як апошнюю вестку ад бацькі, які загінуў у вайну. І Маруда адчуў бацькаву вайну, бо інакш яго смерць уявіць сабе не мог.

Маруда зручней уладкаваўся на зямлі, шырока раскінуў ногі, з прыемнасцю адзначыў, што рукі і цела яго набрынялі сілай. І ў вушах закалацілася далёкае, мо і не пачутае ім ні разу на поўную моц, але знаёмае ад нараджэння і з вуліцы «ўра». Гэта ішлі ў атаку яго бацькі, партызаны. Ішоў у атаку і ён, Наждак Маруда, не зусім ён, нейкая толькі частка, што заўжды жыла на гэтай зямлі, ведала гэтую зямлю, змагалася за яе, палівала сваім потам і крывёю, гінула і нараджалася зноў і зноў з поту і крыві. Ішоў у атаку разам з партызанамі яго бацька. Загінуў, і Маруда ведаў, дзе і калі. Таму што думаў, думаў і надумаў. Уявіў, бо хацеў, каб менавіта так, а нікольні не інакш гэта было.

Цяпер, праз амаль паўтара дзясятка гадоў – амаль усё яго жыццё, за тысячы кіламетраў ад таго месца з гідрапушкай ён бачыў, як гэта адбылося. У час аблавы ці блакады карнікі паліцэйскія загналі партызан на могілкі, амаль сямейныя, дзе ляжалі ці не ўсе Маруды. Каля крыжа свайго дзеда ўкрыўся і яго бацька. Так што і новае месца для жыцця, змагання, смерці і пахавання можна было не шукаць. Абысціся адным з яго дзедам крыжом. Толькі магілу выкапаць. А можна было і не капаць. Прылегчы каля дзеда, труна на труну, пакласці, што было звыкла на тых вясковых могілках. Надта ж шчытна былі заселены яны і здаўна. Туліліся параднёна адзін каля аднаго, па-сямейнаму. А сем'і ж былі вялікія. Вось і даводзілася падкладваць. У адной хаце, як жылі – сына да бацькі і дзеда.

Цяпер жа, сын свайго бацькі, нібыта сам заняў яго месца. Такім жа падмарожаным поўднем, таксама, як і ён, шырока раскінуўшы ногі, толькі бацька яго ляжаў на аснежанай могілкавай зямлі каля бярозавага пня. Бяроза не вытрымала шматлікіх пахаванняў Маруд, засохла і памерла. Яе спілавалі. Але жывая яе сіла засталася. Бярозавы пень выкінуў па вясне вясёлыя парасткі, і на адным з іх вецер казытаў счарнелы ліст. Бацька кожны раз, калі лязгаў затворам, выкідваючы стрэляную гільзу, паглядаў на гэты ліст, прыпадаў да залацістага ложа вінтоўкі няголенай, задубелай ад марозу шчакой і націскаў на курок, пакуль былі патроны.

А калі патронаў не стала, не спяшаючыся, таму што ён насіў адно з сынам прозвішча – Маруда, падняўся на ўвесь свой немаленькі рост, распраміўся, узяў вінтоўку за рулю і пачаў чакаць. Дачакаўся. Чужыя нецярплівыя рукі ўжо працягваліся, каб ухапіць яго. А ён нібы схамянуўся, павёў вінтоўкай, як доўбняй. Раз, яшчэ раз. Зямля, як снапамі, усцілалася целамі. Па ім не стралялі, хацелі ўзяць жывым. Ён ведаў гэта і стрымана ўсміхаўся ўжо амярцвела скамянелымі назаўсёды вуснамі. Жывым яго так і не ўзялі. Абкружылі з усіх чатырох бакоў, узнялі на штыкі і скінулі на крыж яго дзеда.

І вось цяпер яго сын Наждак Маруда разлічваўся за бацьку, сёк з гідрапушкі гліну, гліна плавілася, вадка аплывала, як чыгун ці сталь пад аўтагенам, рыжай пульпай бегла да свідравіны, у шахту, каб там, у шахце, не было пажараў.

– Хопіць, хопіць! – крануў яго за плячо шахцёр. Маруда апусціў пушку, падняўся з зямлі, але сіла і запал, нададзеныя яму працай, не праходзілі яшчэ доўга. Яны былі ў ім, калі ён ішоў трамвайнай лініяй у інтэрнат, не прапалі і тады, калі ён збочыў і зайшоў у замецены снегам сонны гарадскі парк. У парку на бетонным падмурку гулялі ў футбол два бетонныя ж футбалісты. Гулялі без мячыка. Мячык адбіты, скінуты з п'едэстала, валяўся непадалёку ад іх. Нейкія жартаўнікі мо хацелі ўкрасці, ды перадумалі. Цяжкі ж ды круглы, нязручна несці, і працверазелі, пэўна, ужо. Маруда паспачуваў футбалістам, падкаціў і прыладзіў мяч на яго законнае месца, пасадзіў на жалезны прэнт, падпёр снегам, палюбаваўся на сваю работу і рушыў далей.

Тут, у парку, калі Маруда выручыў з бяды футбалістаў, яго і напаткала думка зайсці паглядзець бокс. Ён адчуў, што без гэтага дзень будзе няпоўны, без гэтага не пазнае ён да канца пасёлка, свайго новага прытулку. У захапленні яго таварышаў боксам, як у той жа электрычнасці, хавалася нейкая таямніца, своеасаблівы электрон у адным месцы. Нібыта звар'яцелі ўсе, няма з кім па-чалавечы і па вуліцы прайсціся. Адзін зусім. Усе толькі

адно: бокс, бокс, бокс, а яшчэ барацьба. Так уступалі тут у дарослае жыццё амаль усе яго хаўруснікі. Аднастайна. Сумна. Змагарна. Кулачна.

Сумна стала таму, што ён ужо выйшаў з парку і спыніўся на ростанях, дзе помнікава на вякі застыла пакутавалі ў бетоне некалькі чалавек. Па ўсім, павінны быць шахцёрамі, але надта ж нежывыя, не людскія. Скурчаныя мёртвыя постаці, відавочна знявечаныя агнём, але пабеленыя вапнай, як захінутыя саванам. Сavanовае пакрывала было раструшчана, як пагрызена, хаця помнік быў свежы, як яшчэ свежым было пахаванне недзе больш за паўсотню шахцёраў, што загінулі ў шахце ад выбуху і выкіду метана. Шахта была пазакатэгарыйная, выбухова небяспечная. Але і вугаль у ёй звыш'якасны, пад кокс. Таму шахту і не закрывалі, не зважаючы на тое, што здабытае пад зямлёй паліва з забояў вывозілі конскай цягай – сляпымі навечна падземнымі вязнямі-коньмі.

Помнік загінулым шахцёрам быў пастаўлены тут уладамі, як пра гэта чуў Маруда, ці не прымусова і ўпотай. Шахцёры, а большасць іх была з колішніх зэкаў тутэйшых гулагаў, пасля выбуху і столькіх смерцяў аскаліліся і маглі паказаць зубы. І вось так, бетонам на ростанях, камянём па зубах іх задобрылі.

Ад ростаняў прыгорблена і сумна, нібы нясучы на сабе цяжкі мех, Маруда пабрыў сам не ведаючы куды і быў цяпер у цэнтры пасёлка, дзе месціліся крамы, кіёск, універмаг. А грошай у Маруды не было. Асаблівай патрэбы ён у іх і не адчуваў, але ж... Не, няблага, няблага, калі яны ёсць. І Маруда хуценька пакінуў цэнтр. Шмыгануў у першы ж прахадны двор і натрапіў на качагарку. Качагар якраз грузіў на каляску вугаль.

– Як вугалёк? – спытаў яго Маруда.

– Свой, мясцовы, не скардзімся. Заходзь, змерз, відаць.

– Не, мне няма калі, я на хаду сагрэюся. А вы паліце, паліце добра, каб людзі не мерзлі. Вугалю мы дадзім...

– Дробнага, але да фуя, – засмяяўся качагар. Словы гэтыя і смех прыйшліся недаспадобы Маруду, і ён не стаў тут затрымлівацца. Затрымаў яго і надоўга забавіў нейкі дзядок. Сам падышоў да Маруды, калі той праводзіў на змену шахцёраў. Шахцёры цяклі праз яго па прабітай у снегавых сумётах вузкай сцяжынцы, як вугаль цячэ па канвееры, пагойдваліся сярод гурбаў іх апранутыя пераважна ў чорныя шалевыя, футрава-каўнерныя паўпальто-“масквічкі” спіны. І такой няспыннай, суконна-футравай была іх плынь, што Маруда пачаў ужо разумець, чаму з іх невялічкай шахты вугаль вывозяць цягнікамі, чаму мясцовы, шыза-сівы, з тлустым адлівам крыла вароны вугаль самы лепшы. Пачаў разумець, як нябачная электрычнасць жвавымі электронамі імкне па медных жылах дроту і пераўтвараецца ў вугаль. А вугаль зноў жа – у электрычнасць – святло, цяпло, пару. Мо таму пасёлак, у якім ён жыве, падобны на кацёл. Надта ж крутое варыва кіпнем паруе ў ім.

З аднаго боку ракі і маста праз яе, на якім спора і зырка куляўся чаўначком чырвоненькі трамвайчык, скалаў, на якіх помнікава, качагарава ўзлез Фёдар Волкаў, пасёлак сапраўды нагадваў кацёл: уваходныя дзверы ў палаючую топку таго катла, абмежаванага з усіх іншых бакоў тайгой і ракой. Адчуванне катла, чагосьці пазасветна пякельнага, было відавочным зімой, у маразы, калі разам пачыналі на ўсю нябесную далячынь куродыміць і чадзіць усе дамкі, шанхаі, нахалаўкі і двух-трохпавярховыя камяніцы, драўляныя баракі і кацельні з чадава ўскінутымі да аблокаў хвастамі металёвых і цагляных труб.

Кацельна-качагаравы пасёлак напоўніцу пачынаў дыхаць шахтай, яе вогненна-стоенай моцай, сумна адгарэлай, папераджальна неўтаймавана жывой. Вугалю хапала, і яго не шкадавалі. Хаця, як хто, дзе і каму. Шахцёрам ён абыходзіўся амаль дарма. Толькі ж не ўсе тут былі шахцёрамі. Гэтыя не ўсе, дзеці іх, падлеткі наладзіліся здабываць сабе паліва, калі яго везлі з катлавана на коксавы завод і яшчэ некуды, на іншыя заводы, індустрыяльныя качагаркі краіны. Цягнікі не паспявалі і хуткасць набраць, хлапчукі на хаду скідвалі яго з вуглярак долу абапал рэек. Ганялі іх чыгуначнікі, і не толькі. Здаралася, і самі яны падалі з вагонаў, вядома, з наступствамі. Іншым разам пад колы цягніка.

Толькі ён, не без дрыжыкаў, уявіў сабе гэта, як да яго прытупаў сівавусы і ружовашчокі дзядок. Спыніўся, абаперся на чорную кавеньку такімі маладымі, вяснова-ракітнага прыбярэжнага колеру рукамі, што Маруда страпянуўся, падумаў: гэта, не інакш, кавенька ракітай каля ракі жыла.

– Ці не з Беларусі ты будзеш часам, хлопча? – з нечаканым пытаннем звярнуўся да яго дзядок.

– Але ж... – толькі і змог вымавіць збянтэжаны хлопец. – Мо і вы адтуль? Ведалі майго бацьку?

– Адтуль. Але твайго бацьку не ведаў, а мо і ведаў, ды ўжо забыў. А цябе ведаю.

– Адкуль жа вы мяне ведаеце, мы ж ніколі не сустракаліся?

– Ну як жа адкуль, як жа не сустракаліся. Такія свежыя, учынелыя, што дранікі. – Дзядок хітра, як канаплянік, якому выпала добра падсілкавацца ў самыя што ні ёсць моцныя маразы цёплым аўсом з рассыпаных па дарозе конскіх яблык, стрэліў у яго маленькімі сытымі вочкамі: – Я вось сам на такіх учынелых дранiках узышоў. Таму і хлопец яшчэ што трэба. Як ты думаеш?

– Як вы і гаворыце, – не вельмі пакрывіў душой Маруда.

– Бачыш, бачыш. І табе загадваю: не цурайся дранікаў і вугалю не паддавайся. Вугаль, скула яму ў бок, дранікі таксама любіць. Усё на гэтым свеце, калі бульба ёсць, на дранiках трымаецца.

– І электрычнасць?

– А што ты думаеш? Вугаль на дранiках, а электрычнасць – яна ж з вугалю... Ад колішняй бульбы ці, па-нашым, картоплі.

– Дзякуй табе, дзядуля, – адказаў Маруда і забыў пра яго, таму што зноў густа пайшлі шахцёры, толькі ўжо не на працу, а з працы. І трэба было прыгледзецца да гэтых новых людзей. А яны ішлі куды весялей, чым на змену ў шахту. І твары іх былі больш жвавымі, расчырванеліся, распарыліся ад шахцёрскага душу ў мыйцы, і вочы блішчэлі.

– Чаму яны радуюцца? – спытаў Маруда ў дзеда. – Працы яны радуюцца ці яе заканчэнню?

– А ўсяму разам, – адказаў дзед. – У кожнага такая радасць і такі шлях з нетраў вечнай цемры. Таму што бачаць мяне і цябе, таму, што мы іх бачым. Я іх кожны дзень тут сустракаю. І ім задавальненне і дзіва, што я, стары, стары, ды яшчэ жывы, тупаю. Але калі і памру, хутка ўжо, ведаю, нічога не зменіцца, будзе сустракаць іх другі дзед і другі хлопец будзе назаляць яму пытаннямі... Тут, хлопча, не ў людзях справа нават, а ў шахце, у тым, што яна ёсць, што ў ёй адмерла, затоена і пахавана, а яны жывуць. Ад векавечнасці, якой тая падземнасць патыхае, дыхае. Помсціць і помніць. Гарыць і грэе.

– А што ў тым, што яна ёсць і дыхае, гарыць і грэе?

– А гэта, хлопча, я і сам не ведаю. Таму і хаджу сюды кожны дзень. І ты вось прыйшоў, яшчэ не ведаеш, навошта, а ўжо цягне цябе сюды, колішняе цягне і наводзіць. Шахта цягне, зямля цягне.

– А бокс цягне?

– Ну, гэта ты спытай у каго-небудзь маладзейшага. А не то сам паспрабуй, бо ўсё роўна не паверыш, пакуль не паспрабуеш. Мазоль не наросціш, юшкай не ўмыешся. Паспрабуй, хлопча, паспрабуй.

І Маруда пашыбаваў на абяцаную яму спробу, ужо без супынку, у спартыўную залу. Панеслі яго туды самі ногі, а думкі былі занятыя зусім не боксам. Ён і сам не ведае, чым яны занятыя. І ішоў нібыта не па дарозе, як бы гэта быў зусім не ён, а тое, што завецца электрычнасцю, што кіруе ўсім гэтым жыццём. Менавіта бегам бяжыць па дроце, кіруе і рухае. Недарэмна ён, Наждак Маруда, абраў такую спецыяльнасць – электраслесар. На ўсе сто спецыяльнасць. Яго хацелі зрабіць сталяром-чырванадрэўшчыкам. Няблагая спецыяльнасць. Яму падабалася асабліва гэта: чырванадрэўшчык. І ён у дзетдоме сам зрабіў сем шпакоўняў (кожную вясну па шпакоўні), адзін чамадан і паўтары табурэткі. Паўтары таму, што другую табурэтку Маруда адмовіўся заканчваць. Яго накіравалі – дзетдомаўскія гады выйшлі – на медыцынскую камісію, каб потым паслаць у самастойнасць, вучыцца на чырванадрэўшчыка, і Маруда аб'явіў забастоўку, зацяўся, адразу аслеп, аглух і псіхічным стаў. Мяркуйце самі, у наш век электрычнасці ці спецыяльнасць гэта – столяр, хаця і чырванадрэўшчык. Дрэва, дрэўшчык тут галоўнае. А ён сам паляшук. Палясоўшчык, што значыць – з дрэваў.

І Маруда не ўбачыў ніводнай літары на белым аркушы паперы ў кабінеце акуліста, а калі яму стукнулі малаточкам па калене, нервы правяралі, дык ён так матлянуў нагой, што ў доктаркі аж акуляры з носа зляцелі. З камісіі Маруда выйшаў пераможцам: нявартны, нікуды нявартны, нават у столяры. Менавіта тады ён і адчуў у сабе першы раз цягу да электрычнасці, шмат электрычнасці, здавалася: зачапі яго – і іскры пасыплюцца, і ногі, як у той жабы пад токам, задрыгаюцца, як тады, на камісіі. Але Маруда яшчэ нічога не ведаў, нават таго, што яго чакае ў спартыўнай зале. Зусім не ведаў. Ён быў электрычнасцю, электронам, спрытным і жвавым, што вулічны жэўжык-верабейка. Быў скіраваны на справу, у работу. Фізрук спыніўся, паглядзеў на гадзіннік, свіснуў у свой свісток , выпусціў яго з рота і падышоў да Маруды:

– А ты чаго сюды?

– Ды так, – адказаў Маруда. – Галавой, справамі заняты, а сюды спадарожна, адпачыць зайшоў.

– Бокс, значыць, табе не справа?

Маруда паціснуў плячыма.

– А мо паспрабуеш? – падступіў бліжэй фізрук.

Спрабаваць Маруда не хацеў. Не таму, што баяўся. Нічога боязнага, як ён бачыў, у боксе не было: махаюць рукамі багата, а ладу мала, нават юшкі ніхто нікому не можа пусціць. Не мела сэнсу па-пустому мазацца. Дый трэба сказаць, не ахвотнік ён быў кулакамі махаць, у сваім жыцці па-сапраўднаму, да крыві, біўся толькі раз, хоць нагодаў да бойкі ў дзетдоме было вагон і маленькі вазок. А той адзіны раз ён сышоўся са сваім лепшым сябрам. У дзетдом завезлі боты, толькі пяць пар. Вядома, боты лепей, чым чаравікі, таму што гэта боты, а не чаравікі. І кожны імкнуўся атрымаць

іх. Выхавацелька пастроіла хлопцаў у калідоры, агледзела іх абутак. У чатырох чаравікі даўно ўжо прасілі кашы. Тут пытанняў не магло быць. На апошнюю, пятую пару нацэліўся сябра Маруды.

– У цябе ж добрыя яшчэ чаравікі, – здзівілася выхавацелька.

– Гэта яны толькі выглядаюць на добрыя... Сёння з вечара добрыя, а заўтра, вось пабачыце, распаўзуцца...

Яны сапраўды назаўтра распаўзліся. А Маруда пусціў яму юшку. Сябра ў чаравікі на ноч наліў вады і выставіў на мароз на ганак. Але ўзяць іх з марозу раніцай не паспеў, любіў паспаць. На ганку і натрапіў на іх Маруда.

– Ну, дык як, мо не збаішся? – не адступаў фізрук ад Маруды.

– Мы не з пужлівых, не з баязліўцаў.

– Мы, Мікалай другі... Дык вось і пальчаткі ў рукі вашай яснавяльможнасці.

– Не, – закруціў галавой Маруда. – Не царская гэта забава.

– А ты паспрабуй, я добрага хлопца супраць цябе пастаўлю.

– Яшчэ знявечу яго, – ужо гатовы павярнуцца і пайсці адсюль прэч, адказаў Маруда.

– Неквас, Неквас! – закрычаў фізрук. І Маруда застаўся. Ён зразумеў, чаму ногі неслі яго менавіта сюды. З гэтым Неквасам Маруда сустрэўся, як толькі прыехаў у вучылішча. Гэта ён, Неквас, і даў Марудзе зразумець яго месца, тое, што ён тут толькі наждак. Неквас быў ужо другагоднікам, не таму, што засеў, як у школе, на другі год, а таму, што быў на другім курсе навучання. Праз год павінен быў скончыць вучылішча, атрымаць накіраванне ў шахту. Ён прыйшоў у пакой, у якім сядзелі навічкі-першагодкі, наждакі, але тады яны яшчэ не ведалі аб гэтым.

– Здарова, наждакі! – голасна павітаўся. Неквасу не адказалі. Але той не засмуціўся. Пільна аглядзеў кожнага. Накіраваўся да Маруды і выцягнуў з-пад яго паліто.

– Добры палітэц, дзякую, што ты мне падарыў яго.

– Я табе не дарыў. Яно мне самому яшчэ добрае. – Маруда выхапіў з рук Некваса сваё паліто.

– Што, што? Барзееш? Наждак супраць старычкоў? Хвост пісталетам? – Неквас сцяў кулакі. Сцяў кулакі і Маруда. Але Неквас чамусьці цягнуў, не адважваўся ўдарыць яго. А Маруда не мог першым падняць руку, ён мог толькі даць здачы, але не пачаць бойку. Стаяў, чакаў. У адно імгненне толькі збялеў ажно і закалаціўся ўвесь, як у ліхаманцы.

– Ну, глядзі, Наждак, мы яшчэ сустрэнемся...

І вось сустрэліся. Фізрук выклікаў супраць яго Некваса. І бойка павінна адбыцца ў адкрытую і на вачах усіх. Маруда павінен даказаць, што ён не наждак. Не наждак! А калі наждак, то ладны. Вось чаму і не лезе яму ў галаву навука, чаму ён не можа зразумець схему пускальніка, разабрацца ў электронах і электрычнасці. Яму стала горача. А што, калі не дакажа, калі паб'юць яго. У Некваса, ён чуў, ёсць разрад па боксу, другі юнацкі. А ён, Маруда, яшчэ і не нюхаў, што такое сапраўдная бойка, што такое бокс. Але фізрук ужо нёс яму пальчаткі.

– А без гэтых, без пальчатак, нельга?

– Нельга. Здымай бушлат!

Маруда зняў бушлат, паправіў гімнасцёрку, рэмень і нацягнуў пальчаткі. Рукам у іх было па-панску мякка, цёпла, але нязвыкла. Ён адчуваў сябе ў гэтых пальчатках, напэўна, не лепш за каня, якому першы раз надзелі хамут і паставілі ў аглоблі.

– Бокс! – свіснуў у свой свісток фізрук. Маруда яшчэ краем вока злавіў яго паблажлівую ўсмешку і такую ж усмешку свайго саперніка, калі крочыў яму насустрач. Той стаяў на месцы, чакаў яго і, ужо не тоячыся, усміхаўся. І тут Маруду так захацелася даць яму па гэтай усмешцы, так захацелася, што аж у носе засвярбела. Даць не пальчаткай, літасцівай і мяккай, а голым кулаком – костка ў костку, скура ў скуру. І ён падумаў: ці не спыніцца, пакуль не позна, і скінуць пальчаткі? Бо можна распаліцца, разысціся і страціць галаву. А без галавы не ведаеш межаў. Падумаў так, але не спыніўся, толькі яшчэ больш угнуўся і, як загіпнатызаваны нерухомым, нібыта савіным на мыш, позіркам Неквса, увайшоў у гэты яго позірк. Неквас стаў у стойку: правая нага наперад, рукі на ўзроўні грудзей. А ў Маруды рукі матляліся, нібы ў агароднага пудзіла. І сам ён у вялізных рабочых чаравіках, так званых гаўнадавах, на якіх перасцерагальна блішчалі нікеляваныя заклёпкі, у доўгай, як спадніца, чорнай і месцамі ў салідоле гімнасцёрцы нагадваў пудзіла.

Ён ушчыльную наблізіўся да Неквса, упёрся грудзьмі ў яго пальчаткі і разгубіўся, не ведаў, што рабіць далей. Неквас коратка і небалюча, але з пагардай тыцнуў яго правай, левай у падбародак. Барабанным дробам сыпнуў па рэбрах.

– Што ж ты, гад, біць не б’еш, а толькі гладзіш... грэбуеш?

Пасля гэтых слоў Неквас ударыў. Ударыў па носе, вымусіў яго гучна чмыхнуць, зазлаваць, распаліў жарсць. І рукі Маруды самі ўзляцелі на грудзі. Ён адскочыў ад Неквса, каб вальней было замахнуцца, замахнуўся, не па-баксёрску, а па-сялянску, мо нават па-бабску, і гахнуў, як дрывакол уганяючы сякеру ў жылавы цурбан, як касец, што пасылае касу ў здзірванелую траву. Замахнуўся скуранай нязграбнай рукой, як цэпам на таку. І трапіў у паветра. Неквас скарыстаў гэта і падзяўбаў яму цэлай серыяй няўлоўных удараў у лоб, шчокі, падбародак. І пакуль ён дзёўб, Маруда зноў паспеў змеціць усё тую ж паблажлівую ўсмешку фізрука і пагарду ў вачах Неквса: дзяроўня ёсць дзяроўня...

– Давай, давай! – падбадзёрыў фізрук Неквса. Але гэты яго вокліч успрыняў і Маруда. “Давай, давай!” – загуло ў вушах, і ён супакоіўся, адчуў у руках сілу, адчуў, што сёння паб’е Неквса, хаця ў таго і другі юнацкі разрад па боксу. Паб’е, таму што бокс – аказваецца, таксама работа. А работы ён, Маруда, ніякой і ніколі не цураўся. У працы ён заўсёды наперадзе, хоць і прозвішча мае Маруда.

– Бокс, бокс, бокс! – зноў, як пугай, засцябаў паветра фізрук.

“Зараз вам будзе бокс, бокс, бокс”, – падумаў Маруда і пайшоў працаваць рукамі. У адным шалёным тэмпе, калі галоўнае – не трапіць у праціўніка, не заваліць трапным ударам – аглавушыць, не даць яму ачухацца, збіць з панталыку, прымусіць перасцерагацца і нават баяцца. Паганяць, давесці яго да страты сябе, непаразумення і тады ўжо віць з яго вяроўкі.

Чаму Маруда абраў гэтае “паганяць” напалам з няўмельствам і бязладдзем, ён і сам не ведаў. Усё адбылося імгненна. Імгненна Маруда зразумеў, што толькі так можа перамагчы Неквса. Калі танчыць, то і круціцца. Неквас спрактыкаваны, ведае ўсе правілы. Ён ужо ўпэўнены ў сваёй перамозе. Нічога, нічога, Маруда не ведае гэтых правілаў, затое ведае іншае. Дзетдом. Як гарыць вугаль, і, каб патушыць яго, патрэбны не толькі вада, але і гліна, пульпа. Маруда быў яшчэ наждаком і глінай, але ён адчуваў, як па ім ужо забегалі, забегалі электроны. І твар у Неквса,

смуглявы і пляскаты, нагадваў яму накрыўку пускальніка. Таго самага, электрычную схему якога ён ніяк не мог агараць. І ён цягнуўся да гэтага твару, імкнуўся памацаць яго рукамі і зразумець, што ў ім, як толькі што на практыцы цягнуўся да пускальніка. Злаваў на сябе, што не ўдаецца ўхапіць, адчуць яго змесіва, напаўненне электроннай крывёй.

Неквас закрываўся, адступаў, скакаў ад яго ў адзін бок, другі, узлятаў на месцы пеўнікам. Знарок зняможана павісаў на ім, прыліпаў усім целам, захопліваў, вязаў і не выпускаў рукі. Маруда вырываўся, вылузваўся з яго абдымкаў, адштурхоўваў ад сябе і, бычына, выставіўшы наперад галаву, наступаў, наступаў. Бойка дык бойка, без дурняў. Няма чаго паказуху разводзіць. Цяпер у яго рухах не было той ранейшай мітусні, хоць староннямy воку цяжка заўважыць і сістэму, нейкі лад, таму што працаваў Маруда ўсё з тым жа запалам, які прыходзіць да кожнага з нас, калі мы захопленыя працай, аддаёмся ёй, нават такой, што не вельмі нам падабаецца. Падыходзім з павагай і робім самааддана і сумленна, каб потым не перарабляць. Бо такія мы ўжо ёсць, такімі зрабілі нас на кожную працу. Да сканчэння не толькі працы, але і да свайго скону. Бо ніхто і ніколі, апроч нас, на яе не здатны. Яна твая, і толькі твая. Гэткая зацятасць да справы, жыцця, як шлюбная змоўленасць, вядомая і селяніну на таку і ў полі, на сенажаці і на дрывотні, і шахцёру пад зямлёй. Як шахцёр і селянін і баксаваў Наждак Маруда.

І пальчаткі больш не перашкаджалі яму, хаця без іх, вядома, было б лепей, зручней. Ён шырока размахваўся, але ўжо не так шырока, каб яго мог сустрэчным ударам апярэдзіць Неквас. Біў з-за пляча, з-за вуха, сыпаў і коратка, тычкамі. Ганяў Некваса па зале, як тыя сава, ліса ці кот ганяюць мыш, пакуль яго не аглушыў свісток фізрука. Маруда спыніўся на паўзамаху, на паўкроку, як спатыкнуўся, з цяжкасцю, але ўсё ж утрымаў занесеную мо для апошняга, самага моцнага ўдару руку, са здзіўленнем агледзеўся вакол: што гэта ён тут натварыў, і пайшоў да фізрука. Працягнуў яму свае спатнелыя, добра стомленыя рукі. Той зняў з іх пальчаткі.

– Я запісваю цябе ў секцыю, – сказаў фізрук. – Удосталь нахабнасці, імпэту і злосці. З цябе выйдзе добры баксёр.

– Я гэта ведаю без запісу..

– Ну вось і дамовіліся...

– Не, паспрабаваў – і хопіць. Я не хачу баксёрам. Не жадаю.

Маруда накінуў на плечы яшчэ цёплы, угрэты целам бушлат і пайшоў на вуліцу. А ў вушах гучала: “бокс, бокс, бокс”. І яшчэ нейкі званочак дзынкаў глуха, ледзь чутно. Званочак не надта прыемны яму, якога ён нават пабойваўся. Не ведаў чаму, але закрыў далонямі вушы, каб не чуць. Толькі дарэмна, дарэмна. Адчуваў гэтую дарэмнасць зусім іншым месцам: адальюцца, адальюцца кату мышчыны слёзы.

Напамінак пра тыя слёзы – папярэджанне ўсім і кожнаму, хто жыў побач з ім. Каб надта не вытыркаліся, таму што раз пашанцавала, два, а на трэці – ужо і разлік. Усё ж роўна дзеліць Бог. Герой то ты герой, але не забывайся і пра гемарой. Адстаяў ён свой палітон, пабіў Некваса ў боксе – час і сплаціць за гэта. Час мышцы ў норку ці пад венік – спрадвечна наканаванае і нарачонае, паважанае тут, чым хрышчоны і ён нададзенымі яму стагоддзямі і бацькамі прадчуваннямі і прадбачаннямі. Таму загадзя нешта муляе яму, вярэдзіць душу. І рэжацца, рэжацца будучы боль ужо і будучая сляза.

## II

З такім няпэўна прадчувальным болем і непралітай слязой, мулка стоенай усярэдзіне, ён і заснуў. Заснуў Наждаком Марудам. А прачнуўся сам не ведае кім: Аем, Хаем, Сюдэмам-Тудэмам. Усё гэта яго мянушкі. Шматаблічны быў гэты Маруда. Мо таму што не прыстасаваўся яшчэ да жыцця на новым месцы, у чужым пакуль яму краі. Не адбыўся, як не цалкам нарадзіўся. І каб адбыцца, павінен ці не адмовіцца ад самога сябе, ад таго, якім і кім ён быў учора, ад запаведана свайго, ад сябе. Толькі адразу перамяніцца, трапіць у тое новае сваё нараджэнне, іншае жыццё, не ведаў як. А хацеў, дамагаўся.

Вось таму і быў шматаблічны: скінуў старую скуру, як гэта прарабляюць гады ў пэўную ім пору абнаўлення, а новую не нарасціў. Таму кожным ранкам такая процьма імён, мянушак і прозвішчаў. І ўсе сапраўды, неаддымна ад яго – на яго маўленне, здольнасці і нават патаемныя жаданні. Такога дабра ў ім хапала, як у сабакі блох. Ён быў, як і ў дзяцінстве, мноствам. Яшчэ не развучыўся нават лятаць, у снах і крышачку на яве, калі прачынаўся. Раннем і надвячоркам, калі ўсё ім палётна лёгкае альбо напята цяжкае, і хочацца вылузнуцца з гэтай начной яшчэ лёгкасці і дзённай напятасці цяжару – у блакіт ці цемру пачатку, а мо й заканчэнне. А яшчэ у дадатак да гэтага ён не страціў прадчування таго, што ўжо было, што магчыма будзе. Недалёкага, імгненнага прадчування, як камарыны ўкус. Да страты сябе адчування іншага, навакольнага – росту травы, засяроджанасці на ўласнай існасці мурашкі, руплівай радасці быцця чмяля.

Ці не адсюль яго тудэма-сюдэма – тудой ці сюдой... Гэта так ён гаворыць, няздольны згадаць, колькі ў яго дарог, сцежак, накірункаў, а яго перадражніваюць, з яго пацвельваюць. Бо гэта нязвыкла сібірскаму вуху і слыху – няправільна. Правільна – толькі “туда или сюда”, “здесь или там”. А яго як за язык хтосьці цягне, горлам выпявае сваё, што і выклікае смех і здзекі, нібыта вялікая розніца – як і кудой ісці – у лоб ці па лобе. Галаве ж, лобу таму ж аднолькава. Баліць. А хадзіць можна ўсяк і ўсюды, калі ёсць ногі, а да іх прыкладзена галава. Вочы з дарогі не збочаць.

І таму Маруда не зважаў на кепікі сібіракоў: сібірак – сракай аб лёд брак. Усё Марудзе было добра і па-добраму. Абы толькі кожны дзень развідняла, сонечна днела. А ён, як хвоя на пясочным бугры ў бары: зімой і летам адным цветам. Таму карані яе глыбокія, стрыжнёва бурштынавыя, смалістыя – на распал, падпал і лучыну.

Ай, што тут перайначваць, чаму ці каму пярэчыць, калі і так коратка і ясна: што каменем па шкле, што шклом аб камень. А перад тым, да каго туга даходзіла, пераканаўча і галавой, і рукой махнуць, пахітаць галавой з двума макаўкамі – гарбамі, як у вярблюда – да бабкі не хадзі, верная прыкмета пароды і шчаслівай долі. І зноў: ай, што вы да мяне прычапіліся са сваімі «пусть и ничего». Мне хапае сваіх тудой, сюдой, ая, хая і няхая. Як гаворыцца, не вучы вучонага...

Так ён неўпрыкмет стаў Аем, Хаем і Няхаем, Тудэмам і Сюдэмам. Як трошкі наноў нарадзіўся. І гэта было, пэўна, зусім няблага. Бо ці не ў кожнага з вялікіх, выбітных людзей, якіх ён кніжна спазнаў, было падвоенае імя: Ульянаў-Ленін, Джугашвілі-Сталін, Галянішчаў-Кутузаў, Міклуха-Маклай і нават Брэшко-Брэшкоўская.

Ай жа – просценька і цёпленька. Хаця, здаецца, і ненаскае, замежнае, нязвыклае, загадкавае звычайнаму вуху. Як тая ж айва, напрыклад, якую ён і ў вочы не бачыў, але не прэч убачыць, а пашчасціць, і ўкусіць, ці то надкусіць. А яшчэ ў яго Аі прыхавана нешта пагрозліва казачнае, што звязвае яго з Каем са «Снежнай каралевы», жорсткім і бязлітасным. А таксама з Каінам. Толькі гэта ўжо царкоўнае, забабоннае. Даўно было і, па-ўсім, няпраўда. Ён жа просты дзвюхлітаравы вынятак з гэтага прозвішча. Ай, і ідзіце ўсе тудою і сюдою – туды, туды. Куды і як штодзень ходзіць ён, дзе месяцца цяпер усе яго прозвішчы, імёны і мянушкі. А яму карціць уведаць, спазнаць не толькі галавой, розумам, але і вокам, нагамі, – навобмацак і на слых – куды гэта ён заехаў. Ці такія ж людзі, дрэвы, рэкі і тут, якія ў яго былі раней.

Так разбэрсана і раскідліва разважаў Ай, не ганячы і не надта аспрэчваючы сябе. Думаў у той дзень, калі гэта здарылася. А здарылася якраз у нядзелю, яго спакойна раздумлівы дзень – ні заняткаў па тэорыі ў класах, ні слясарнай практыкі ў майстэрні. Вольны, незапатрабаваны навучэннем час. Хочаш – закідвай пад ложак бушлат: на ложку сярод белага дня ляжаць забаранялася. Прыдуркі, так званыя санітары, хадзілі па пакоях і сачылі за заведзеным распарадкам пражыцця ў абшчаге-інтэрнаце. Спаць жа пад ложкам пад салідолавы пах інтэрнатаўскай замазучанай падлогі парушэннем не было.

А не жадаеш пад ложак – падалей ад гэтага водару – на вуліцу, у пасёлак, збіраць недакуркі-бычкі, пудзіць і пасвіць цыганкава-смуглявых ад шахтава-вугальнага пылу вераб'ёў, нібы яны самі рабілі ў шахце і без мыйкі. Сабачыцца з гайнёй мясцовых, бяспрытульных сабак, якія, падобна згаладалым і замурзанным навучэнцам рамеснага вучылішча, падцяўшы жываты, туляюцца па антрацытавым завуголлі шахтавага паселішча сярод збітых сумётаў кулідкава-чорнага, як хлеб у печы, снегу.

Той снег у тую бясхмарную, толькі дымава-засмужаную зіму быў Аю зусім не даспадобы. Бо ўваччу стаяў іншы. Бліскучы і малады, як мяккае і ўкрыўнае льняное пакрыва. І нагадваў сваё, пакінутае і адрынутае, накрухмалена сінявокае і ружовае. Сырадой ці нават малодзіва, якім струменіла ацёлачнае прадвесне. І ён у тым спажыўна-сырадойным снезе, як у рачной плыні, густой і напакаванай рухам падвод, мінакоў, тых жа сабак, засяроджаных і некуды скіраваных ускінутай пысай, галавой і танклявымі нагамі – нявыказанага і негалоснага, амаль вясновага падворкавага штодзённа зімовага клопату. Гаркава-салодкага дыху дыму здзічэлых ад адзіноты на гонтавых і чаротавых стрэхах хатаў загарэлых на маразах комінаў, стаўбуркова цягавітых і курадымна засмучаных.

Адно толькі, мо і падсвядома, хутчэй падсвядома, усцешвала Ая: далёкія дымы і снягі, таксама ж падсвядома, мелі адзін пачатак, непадзельна ў адзінай повязі з гэтымі. Толькі дарога гэтай повязі надта ж доўгая, тысячы і тысячы кіламетраў. Таму, пакуль дацягнуліся адзін да аднаго, сустрэліся, учарнелі – здарожыліся. Дымы прыпалі, ахапілі яго свядомасць і прылеглі там адпачыць, снягі сумётава запякліся ў прыгаркавыя кулідкі чужынскага, а цяпер ужо і яго хлеба.

Самотна яму было ў той вольны дзень у інтэрнацкім пакоі рамесніцкай вучэльні. І пакінуць яго не хапала духу. Смактала, вярэдзіла душу цьмянае прадчуванне пагрозлівай непазбежнасці таго, што, пэўна, ужо недзе спелілася і хутка тут павінна з ім адбыцца. І ён адчуваў панылы,

нястрымны цёк непазбежнасці, як паветра і зямля адчуваюць набліжэнне навальніцы, а старое і высокае, адзіна ацалелае ад былога лесу дрэва на голым полі прадчувае грымотны выбух нябёс і агнявы роспіс на ім маланкі. Не выключана, спапяляльных, смяротных яму.

Такім ужо нарадзіўся Ай, здатны на прадчуванні, прадказанні і таму абачлівы. Нешта было ў ім набытае ці дараванае, пракаветнае, пра што ён і сам ведаць не ведаў і нават не здагадваўся: трэцяе вока ці лішняя вілюжка ў галаве ў працяг носу. А мо і непатрэбшчына адной з макавак, дадзеная не толькі на шчасце, але і на турботы, гора. Таму ён ці не заўсёды крыху апярэджваў час і забягаў наперад самому сабе, што было нядобра, бо няправільна. Лёсава, жыццёва няправільна. Прымушала жыць напружана і ўвесь час подбегам. Пра такіх гавораць, што з імі добра га... но есці. І хапаткое, штучна паскоранае жыццё набягала не ў простым існаванні, а ў бясконца неадольным чаканні невядома чаго, не заўсёды ўласцівага яму. Вымушанага і навязанага, хмарнага і тумановага, як сам побыт гэтага шахцёрскага насельніцтва і яго ж першага года навучання ў горнапрамысловай вучэльні нумар чатыры перад тым, як зайсці ў шахтавую клець, клеткава адгарадзіцца ад паверхневага жыцця. Самастойна, па сваёй жа ахвоце, спусціцца ў чорна адчыненае, распрацаванае і гулкае стоенымі неўчарэлымі рэхамі стагоддзяў падзямелле – у якасці шахтавага электраслесара – слесарчука.

Увогуле чаканне з прадчуваннем былі сэнсам яго існавання і істоты, перапоўненай імі, што ўжо было, пэўна, і няблага. Прымушала не спаць у шапку, а хаваць тую ж шапку запазуху, калі не было чаго ўкрасці і куды рухацца, часцей да здзіўлення і аслупянення, што аж заціліўкаць карцела ці назаўсёды знямець: куды ж гэта чэрці мяне занеслі. І праглі вочы і ногі працягу светлага дня, сонца, дарогі. Чаканне і прадчуванне ён месціў у сабе, але не здагадваўся, што яны ўвогуле сутнасць той зямлі і чалавека, якога ці не пендалем, падсрачнікам выпхнулі на гэты Божы свет з запаветам доўжыць, працягваць саміх сябе і сабе падобных.

Апошняе колкае і мулкае прадчуванне Ая спраўдзілася, спрацавала на поўны жывот, хаця больш здатна было прычыніцца на галадуху. Але разабрала яго падаць голас, пэўна, адразу, як ён толькі ў вечаровым ужо прысмерку апынуўся каля рамеснай сталоўкі вучэльні. Згаладаў, шлэндаючы за вывучэннем новага месца свайго існавання.

Дый наедак быў не надта, як заўсёды, хаця з галодным усё ж раўняцца можна было. Ад сталоўскіх прысмакаў жывот толькі па-кацінаму каўкнуў і пакрыўджана стаіўся. Хаця мог ужо і звыкнуцца. Звычайная на казённы кошт ежа, сыходзячы з васьмідзесяці капеек на дзень. Але варта адзначыць, васьмідзесяці падземных капеек. Паверхневыя спецыяльнасці харчаваліся ўвогуле толькі на шэсцьдзясят капеек. А будучым шахцёрам на сняданак давалі яшчэ і сметанковага масла на дваццаць капеек.

Такім чынам, кармленне было роўнае, амаль усім аднолькавае: жыць будзеш, а ўсё астатняе... Заўсёдная і надта пляскатая, як шахтавы шуфель, і вельмі, вельмі салёная сухарэбрыца-камбала з бульбяным пюрэ і падлівай. Пюрэ чамусьці сарамліва загарэлае, але нараканняў не выклікала. Родная, добра, што не абрыдлая яшчэ капуста, альбо шрапнель – пярлоўка. Усё сваё, спажыўнае. А вось заморская рыба камбала... Нездарма ўсе ў адзін голас гаварылі, што яна такая пляскатая таму, што на яе налёг увесь Савецкі Саюз.

Да слова, забягаючы крыху наперад. Гэта ў даперабудовачны час такая танная пралетарыяту рыба набыла праз дзесяцігоддзі ўжо свабоднаму, вызваленаму ад саўковасці пралетарыяту ці не галавакружную цану. І хаця такая ж нязменна пляскатая, як пры развітым сацыялізме, так і пры пачатку капіталізму, стала прысмакам. А ў той час усеахапляльнай кукурузы і гучнагалоснага ДіПу, што значыць дагонім і перагонім Амерыку, зразумела, неяк па вясне, калі малады жывот надта ж незгаворлівы, а трэска на трэску ўжо лезе, на бунтоўна агульным сходзе вучэльні дырэктару ці загадчыку сталоўкі задалі пытанне: чаму яна, пляскатая камбала, ды такая яшчэ салёная. Нехта адзін, мо надта дасведчаны, выгукнуў:

– Дык марская ж!

І загадчык сталоўкі згодна падтакнуў:

– Так, марская, а ў моры, кожны ж ведае, вада салёная.

Зала выбухнула рогатам і пагадзілася: праўду кажа. Вада ў моры на самой справе салёная.

А ў той знакавы дзень Ай, напакаваны айчыннай, хаця мо крыху і падмарожанай – салодкая была – бульбай і заморскай і надта ж кашчавай і салёнай, што сляза сіраты, рыбай камбалой, адчуў ці не параднёны ў яго страўніку голас толькі што спажытага абеду – супу рататуй, дзе замест мяса...

Трывожны і папераджальны голас... Адчуў яго мо і яшчэ нечым, чым мы ўсе робімся відушчымі, калі хоць і запознена, але ж крыху пачынаем думаць і нешта цяміць. І ў нас выспявае прарочы голас: не к дабру, не к дабру такая дабрыня, замілаванасць і сытасць. Нешта будзе, вой, будзе штосьці. Прарочы голас незалежна на галодны ці на сыты страўнік. Часцей і больш усё ж на сыты, задаволены, калі хочацца ўжо і відовішча, калі душа спяшаецца ў рай, а ногі – у міліцыю. У галаве ажывае і калоціцца рэха яшчэ нязбытага дня і нечага адначасова пагрозлівага і прыемнага, што папярэдне было ў ім.

А было... Быў час не замарочвацца яшчэ адным збытым днём, а чакаць вартага яго заканчэння. Наждак Ай, Маруда, Няхай ды інш., стаяў у натоўпе падобных сабе рамеснікаў абодвух тэрмінаў навучання. Натоўп у тым калідоры перад замкнутымі на ключ дзвярыма сталоўкі – з'ява ў час сняданку абеду і вячэры, часцей усё ж вячэры, звычайная. Бо з ночы нашча жывот яшчэ спіць і не надта нахабны, а пасля таго, як паабедаў – жывот таго не зведаў, бо крупінка за крупінкай ганяліся з дубінкай. Кішка кішцэ б'е па башцэ. А вячэра была яшчэ больш патрабавальнай, прагла свайго напоўніцу. Вось чаму сталоўку кожны вечар бралі штурмам, зноў жа, згодна з рамесніцкай прымаўкай, як яўрэі Ташкент.

Калідор быў напружаны пахамі пазадзвернай кухні і, непасрэдна ў ім, цяжкім, прылеглым да сценаў і падлогі смуродам машыннага масла, змешанага з даволі прыемным, саладжавым пахам згарэлага і жывога каменнага вугалю, дыхам падземных і надземных прафесій навучэнцаў, ліхаманкавай узбуджанасцю іх маладых гармонаў. А найбольш – галоднай і несаступна хіжай нецярплівасцю першымі прарвацца ў сталоўку і заняць месца за сталом. Усё гэта нагадвала і пераўтварала доўгі і даволі вузкі калідор у штосьці падобнае на пачатак, а мо і завяршэнне страўніка, чэрава.

Звычайна Ай пазбягаў агульнакалідорнай прагі ўрывання ў ліку першых да ежы, як увогуле ніколі не пнуўся каго б там ні было апярэдзіць: ай, маё мне дастанецца. А тут яго як падпіхнуў хтосьці пад мікіткі. Спрацавала статкавае, чароднае: сярод ваўкоў жыць – па-воўчы выць.

Заскрыгатаў у замку сталоўскіх дзвярэй ключ. Натоўп хвалева, чорнагімнасцёркава-плынна ўзбурыўся, збіўся ў гайню, пачаў працаваць кулакамі па агаладалых рэбрах тых, хто быў збоку і наперадзе. І ў гэтай глыбінна руплівай працы Ай быў не з апошніх, таму што яна была асвячона і запаветана тымі, хто раней за яго прайшоў тут. Забаранялася толькі надта ўжо распускаць рукі, біць па твары – мо й каб не пашкодзіць зубоў перад вячэрай. І Ай асабліва рукам волі не даваў, рабіў імі ўпраўна, але і ашчадна. З ім абыходзіліся гэтаксама ж.

Ды толькі нечакана ён адчуў, што яго рэбры выпрабуюць надта ж сур'ёзна. Яны аж трашчаць і курчацца, нібы пад кавадлам. Адбылося гэта каля самых дзвярэй сталоўкі, мо ўжо нават і на парозе ў сталоўку. Першае памкненне Ая – адказаць таксама кавадлава. І ён адказаў. Адказаў аплявухай, што ў змаганні за хлеб, кандзёр, камбалу і бульбу не ўхвалялася. Больш за тое, амаль забаранялася. За кандзёр змагайся, але рукам волі не давай, да твару не датыкайся.

Да гэтай пары тае неагалошанай забароны Ай свята трымаўся, і не толькі ў адстойванні свайго месца пад сонцам, як ужо казалася тут, ніколі і нідзе быў няздольны падняць руку на сабе падобнага, ударыць першым. Хаця запавет яму і тым, хто побач з ім, быў адзіны і непарушны: калі табе пагражаюць, бі першым, і тым пераможаш і ўратуешся.

Душа Ая не трывала такога першынства. Ён і сам не ведаў, чаму. Хутчэй запаведана, падсвядома. Нешта не тое, пэўна, было закладзена ў яго. Бацькі рупіліся, рабілі яго, рабілі, ды нешта недарабілі. Але пры ўсёй яго недаробленасці і непаўнавартасці лічыць Ая анёлам і херувімчыкам таксама памылкова.

Было ў ім усё, што і ў іншых яго равеснікаў і хаўруснікаў. Інакш бы не выжыў. Мо нават больш, чым у іншых было. Толькі прыхавана, замкнута пад ключ. Зашпунтована, запячатана паштовым і гарэлачным казённым рудым сургучом. Таму што гэта здавалася яму чужым, насланым. Баяўся ён самога сябе, сваёй здушанай жорсткасці і гневу, чаго падсвядома меў усё ж лішак. Баяўся жахліва дрыготкай прагі крыві і нават забойства, калі чужая крыўда, здзек і ўласная бездапаможнасць жыўцом здзіралі з яго чалавечае, агаляючы да страты прытомнасці і непрабіўна аспіднай цемры, у якой мільгала толькі адзінае: нішчыць, нішчыць і нішчыць.

Мелася такое ў яго натуры, як і ў часе, хаця і непраглядна, далёка і, здаецца, асобна ад яе. Але ён унікаў нават такога ведання пра сябе, як і кожнай бойкі. Унікаў да той пары, у якую ён ужо губляўся. Губляўся рахманы Ай, нараджаўся ці не кат. Нехта зусім іншы. І таго іншага несла тудой і сюдой, лесам, балотам, дрыгвой і багнай. Да асэнсавання чаго, дарэчы, ён сам не ўсведамляў. Векавой прысутнасці і існавання ў ім тых, хто пракаветна жыў і гібеў у родных яму хмызах, балотах, дрыгве і багне, што абуджалася толькі тады, калі нехта пагражаў пазбавіць іх гэтай юдолі, – стаялі да ўпору, біліся насмерць. Адстойвалі, сплочвалі за сваё гібенне, хаця плата заўсёды была непамернай, толькі ім, нябогам ужо, тады было ўжо ўсё роўна.

У такія імгненні абуджэння і праяснення Ай перш-наперш непадуладна адчуваў і ўласнае разбурэнне, і знікненне на гэтым свеце. І цяжка было вярнуцца ў самога сябе, асабліва калі ў руках меліся камень, цагліна, а часам і нож. Хаця да нажа ніколі не даходзіла. З нажом у яго была адчайная непаразумеласць і варагаванне. Нож дзіўны і невытлумачальны. Ён да мораку баяўся яго, адразу ж астываў і халадзеў.

Нож уладарыў ім. Пераўтвараў з безазіральнага забойцы ў кволага назіральніка. Назіральніка і за нажом, і за самім сабой, што думаў, як пра нейкага пабочнага, чужога сябе і нажа: ускінуцца і ўдарыць, ці стрымаецца. І падсвядома ведаў: не ўдарыць і не даткнецца, бо па жывому і з жывым рабіць гэтага нельга, забаронена. Грэшна. Але ж ці ведаў, ці прытрымліваўся гэтага ж нож са сваім сталёва бязлітасным розумам. Прадвызначэннем. Здольны і без яго жадання, нават насуперак яму здзейсніць сваё, пакінуўшы пасля гэтага пустату, цьмянасць шкадавання. Гуллівае рэха суму, настоенае на крыві незваротнасці. І ў той жа час шчымлівую цікаўнасць: няўжо ўсё так хуценька і назаўжды. Крохка і проста. І простасць сапраўды горш за злачынства. Ёсць, ёсць усе падставы азірацца на самога сябе. І самога ж сябе баяцца: слабая, слабая нажу жывая істота чалавек.

Але, як Ай баяўся самога сябе, так і яго крыўдзіцелі баяліся яго скамянела застыглай раз'юшанасці, ратаваліся ўцёкамі. А ён, астываючы ўжо, адчуваў выгаранне нечага чыстага і недатычнага ў сабе. Цяжкае памяншэнне, страту сябе і свайго часу і прасторы.

Чаму так непамысна і адзінока стала яму, калі значна пазней ужо на вочы трапіла выказванне выбітнай пісьменніцы, што бедавала па эліце і адсутнасці пастыраў грамадства і з гэтай нагоды сцвярджала: вайна не толькі жахлівая, але і парадаксальна-прыгожая. Не нам яе асуджаць. Толькі мімаволі прыгадаўся Янка Брыль і яго пытанне элітарнаму савецкаму пісьменніку Андрэю Бітаву, з якім яны разам ляцелі на нейкі міжнародны пісьменніцкі сімпозіум. У гаворцы з Брылём Бітаў зазначыў:

– А ўсё ж рабаўладальніцкі лад быў залатым для чалавецтва.

На што Іван Антонавіч спытаў:

– А табе па які бок, Андрэй, у тым ладзе хацелася быць?

У сувязі з гэтым яшчэ адно выказванне шасцігадовага хлопчыка:

– Мама, а праўда добра, што немцы на нас напалі?

– Што ж тут добрага?

– А мы ўсю Еўропу ад фашызму вызвалілі.

Вось такія, як кажуць, пірагі: прага ўмоў, здольных тварыць прыгажосць: выбітная элітарная пісьменніца, выбітны элітарны пісьменнік – інжынеры чалавечых душ і шасцігадовы хлопчык, як у іх галовах крывава-чаравальна пераварваецца мінуўшчына і сучаснасць. Што можна дараваць дзіцяці і можна нават ухваліць яго: думае галавой, а ці даравальна гэта сталаму розуму. І ці не ёсць гэта кляты саўковы сацрэалізм, барацьба харошага з лепшым. Хаця ўсё ж больш нагадвае сённяшні шызарэалізм.

У пацверджанне гэтага зноў жа не хачу нікога асуджаць. Толькі крыху меншым за таго хлопчыка я бачыў і чуў, як жыўцом гараць у хляве людзі. З тымі людзьмі наканавана было гарэць і мне з маці і сястрой: прыгожа, хаця і парадаксальна. З пункту гледжання дроў, людзей і будучыні. Прыгожа і парадаксальна гараць забітыя на вайне, сцягнутыя ў адзін касцёр нябожчыкі, пра што ў сталінградскай начы на рыбалцы распавёў мне выпадкова сустрэты чалавек:

– Усхопліваюцца, ускідваюцца на ногі, як жывыя. І рукі – у неба, нібыта памерлыя моляць аб літасці, ці спяшаюцца туды як мага хутчэй адысці, у вырай.

Адыходзяць ужо аднойчы забітыя на іншай зямлі, але не пахаваныя, скінутыя, як у Стыкс, у раку смяротнасці. Нябожчыкі адплываюць ужо

канчаткова ў вырай. А па іх з берагу страляюць з вінтовак, забаўляючыся, прагныя да прыгажосці і відовішчы мае больш дарослыя хаўруснікі, падлеткі ваеннай пары, што спазналі толькі крывавую прыгажосць забойства, выраслі на крыві. І нябожчыкі, раздзьмутыя ласкавым летнім цяплом смерці, перад тым, як канчаткова супакоіцца, выбухаюць вясёлкавымі на сонцы пырскамі вады. Чаравальна. Відовішчна. Прыгожа. Хараство, хараство – проста жах. Шызарэалізм.

А яшчэ з таго даўняга пэтэвэшніцкага часу Аю давялося бачыць амаль татара-мангольскую арду ў бойцы, праўда, невядома з кім і за што. Мо і з самім небам і з той вечнасцю, пракаветнасцю, з якой абудзілася іх пячорная прага забойства. Абудзілая з аднаго толькі поклічу па інтэрнаце:

– Нашых б'юць!

Двух слоў хапіла, каб узняўся двухсотгаловы інтэрнат. Наматаўшы на рукі чорныя шырокія форменныя рамяні з літымі металёвымі спражкамі, амаль салдацкія ці, хутчэй, дэсантава-марскія, выхапіўся на падворак чорнай лавай налыса стрыжана і віхурна-валасата, выліўся ў вузкія пасялковыя вуліцы і знішчальна пацёк, галопна, капытна, інаходна і простым гулкім бегам рабочых гаўнадаўна-скураных чаравікаў.

Калі магчыма жывое ўвасабленне жаху, злосці, прагі неадкладна на некім спагнаць іх, то яно было на яве, маладое, статкава-забойнае, з ясна асветленымі дзённым сонцам вачыма і з адным памкненнем: біць, крышыць, нішчыць усё, што трапляецца на шляху. Без разбору, дзе тут чужыя, якія б'юць нашых, ці свае, якіх б'юць чужыя. У гушчы гэтай згуртаванай, раз'юшана-абуджанай лютасці знаходзіўся і ён, Ай, калі пайшло на тудэма-сюдэма, схавацца, ухіліцца было немагчыма. Таму, што ні кажы, а кароста заразная хвароба. Як неспатоленая варожасць і прага бойкі, чужой крыві. І, пэўна, невылечная, невыводная, падобная невытлумачальнаму нашэсцю прусакоў, клапоў ды вошай.

Што ўжо дадзена ці нададзена свету і чалавеку, тое ўжо няздольна пакінуць і адысці ад яго, як падарунак часу, у дадзеным выпадку – дваццатага стагоддзя і ўзбуджанай і абуджанай стоўпленасці чалавекаў на абмежаванай прасторы – планеце Зямля. У прадчуванні ў далейшым яшчэ большай стоўпленасці і скучанасці, што выбірае, ці наадварот – не выбірае, хто тут чужы і лішні, не свой, як і таго, хто ўсё ж свой.

І ў той карагоднай кадрылі бягучага і будучага Ай безумоўна быў прыгавораны танчыць разам з усімі. Пытанне, канечне, біў бы ён ці не сабе падобных сустрэчных, кожнага, хто б падвярнуўся пад яго фабзайны рэмень з бліскучай і цяжкай, накшталт салдацкай, спражкай. Рашучасці біць ён у сабе не адчуваў, нават засцерагаўся. Асабліва біць па твары – косткі там крохкія і кроў блізка. Марудзіў, прымяраючыся ўдарыць. Ды так, каб і твар не пашкодзіць, і каб той твар амярцвела не сплыў кроўю.

Але гэта так, як гавораць, для бедных. А на самой справе гайнёва пад'юджаны: біў бы, біў. Смяротна, апантана ўдарыць імгненнасцю пакарання, гневу, сваёй крыўды, пасля здзяйснення якой запознена пакутваў бы пакаяннем і жаласлівасцю. Але ж, але ж, нездарма гавораць, што пакаянне і жаласлівасць нараджаюць самую вялікую жорсткасць, бязлітаснасць. Усе жалобнікі і міратворцы свету – з жаласлівых. Жаласлівасць іх да першай крыві, без розніцы, сваёй ці чужой. А далей – гэта ўжо вадзіца.

Пра аднаго з такіх жаласлівых пазней ужо, у сталасці, ён чытаў і жахаўся. То быў харват, усташ, з тых, што ў сябе дома звярына нішчылі

сербаў, яўрэяў, цыган. А гэты малады харват не здолеў перамагчы сябе. Ні немаўляці раструшчыць галаву, або злавіць яго на штык у паветры, ні забіць цяжарную жанчыну, распароць ёй жывот, як гэта рабілі іншыя, выдзерці адтуль яшчэ ненароджанае дзіця і жыўцом ўсадзіць туды другое, жывое яшчэ, немаўля. Усташы, яго хаўруснікі, ужо лічылі яго недачалавекам, пасміхаліся і здзекваліся, не прымалі ў свой хаўрус.

Аднойчы роту, у якой ён служыў, наведаў камандзір, палкоўнік. Усташоў вывелі на пляц. Загадалі расстраляць некалькі адлоўленых сербаў. Яўрэяў, цыган – хто цяпер ведае. Здзейсніць гэты расстрэл па загадзе камандзіра выпала маладому і жаласліваму ўсташу, на руках якога яшчэ не было чалавечай крыві. Юнак наадрэз адмовіўся. Тады палкоўнік аддаў каманду прынесці дваіх немаўлят. Аднаго забілі адразу ж. Другога паклалі долу галавой пад ногі жаласліваму жаўнеру.

– Скачы і трушчы! – выгукнуў палкоўнік.

Малады ўсташ засляпіўся, заплакаў і падпарадкаваўся – скочыў і раструшчыў галаву дзіцяці.

Сам потым распавядаў на судзе: столькі крыві пасля гэтага пусціў. Столькі забітых ім, засечаных сякерай, зарэзаных нажом, і не толькі ў сваіх хатах, але і ў цэрквах, храмах, дзе шукалі паратунку людзі, што і не злічыць, бо сам быў ужо павязаны крывёю. А кроў, пушчаная ў статку, у зграі, асабліва братняя, абвалаквае, цугляе куды мацней за аброць, путы, кайданы, бо гэта ўжо нябачная і неасэнсаваная нават воля, розум, загад і – прымус натоўпу. Натоўп жа паўсюль адзін, з яго не выпасці, не вылузнуцца. Стопча, раструшчыць павязаны ўжо сваёй крывёю і пакутамі тваёй смерці.

Пралілася крывіца насуперак запавету: не забі, тушы святло, засявай поле снапамі. Так, пэўна, яшчэ ў незапомныя часы нарадзіўся ці не кожнаму сёння вядомы валагодскі канвой – з людзей ціхамірных, незласлівых і памяркоўна лагодных. Але адзін толькі крок у забароннае направа, налева – ад спагады і следу не застаецца. Казённа-арганізаванай гайні не да спрадвечна-карэнна свайго, завешчанага часам. Звер вырваўся на волю. Звярынае прагне чалавечыны.

Ці не так і з Аем. Заступілі дарогу, далі па рэбрах, засляпілі вочы. І ў ім ўсё засляпілася. Добра ўрэзаў па рэбрах свайму крыўдзіцелю. Так урэзаў, што аж кулак ўзрадавана ўскрыкнуў, загарэўся і да чужога твару дацягнуўся. Удала дацягнуўся. Ай упэўніўся ў гэтым ужо пасля вячэры. Крывавая дарожка кроплева пачыналася ад парога сталоўкі і па прыступках лесвіцы вяла на другі паверх.

Добра, удала агрызнуўся. Малайчына. Так напышліва паспеў ён падумаць пра сябе, як адразу ж і асеў, здзьмуўся. Юшку таму хлопцу, канешне, варта было пусціць. У свой час у той жа сталоўцы Ай падцікаваў, як ён зняў з яго шыняля хлясцік. Здымаць адзін у аднаго хлясцікі з шынялёў у навучэнцаў ГарПУ – гэта была нейкая хвароба. Невытлумачальная і бязглуздая. Бо ні гандлю імі, абмену, продажу ці якой-небудзь іншай карысці ды патрэбы не было. Здымалі без патрэбы, без неабходнасці. Нібыта гэта была нейкая спартовая гульня, дурнаватая і бессэнсоўная. Куды падзеліся потым знятыя хлясцікі, ніхто не ведаў і не задаваўся такім веданнем. Але ці не палова гарпавушнікаў хадзіла ў шынялях без хлясцікаў і бедавала не менш гогалеўскага Акакія Акакіевіча. А мо падсвядома менавіта з гогалеўскага “Шыняля” і тут пачалі ўжо расці ногі? Праўда, шыняля ўжо

курататага, бясхлясцікавага, кастрыраванага дваццатым стагоддзем, якое апранула пакаленні і пакаленні ў тыя ж шынялі ды бушлаты. Вайсковыя, цывільныя, студэнцкія, фабзайцаўскія суконна-шэра-чорныя і сінія. І ў рэшце рэшт драўляныя.

Зампаліт вучылішча, майстры вытворчага навучання, у першую чаргу адказныя за сваіх навучэнцаў, пільна сачылі не толькі за падапечнымі, але і за іх формай. У шынялі без хлясціка немагчыма было выйсці ў людзі, пайсці ў пасёлак. І ці не палова першагодкаў тых хлясцікаў не мела, цікавала, дзе, у каго і як яго цібрануць. Не толькі з патрэбы, але і пра запас, калі іх хлясцік усё ж нехта таксама цібране, што і прарабляла другая палавіна. Гэта было амаль узаконена, як ранішняя фіззарадка. Адно толькі дзіўна – хлясцікі кралі рэгулярна, з году ў год няспынна. Але адкуль браліся новыя, яшчэ не ўкрадзеныя, і куды дзяваліся старыя, ужо ўкрадзеныя, ніхто не ведаў і ніколі так і не дазнаўся. Савецкі кругазварот хлясцікаў у вучылішчы так нікім не быў выкрыты. У тым ліку і Аем.

Ён ведаў і трымаўся толькі аднаго: хлясцік трэба берагчы, як зрэнку вока. І Ай бярог, але не ўбярог. На адну толькі хвілінку пакінуў свой шынялёк на вешалцы без нагляду – і капцы. Хлясціку капцы. Прыкмеціў, што ў тую хвіліну каля вешалкі круціўся маларослы хлопец з групы шахтовых электравознікаў другога года навучання.

“Шакал, – падумаў пра сябе Маруда. – Шакал і крахабор”. Гэтую падлючую пароду ён добра ведаў яшчэ па дзетдоме. Увогуле ў дзетдоме дзяленне ішло на тых, хто трымаў вярхушку, быў на самым версе. Першакі – ім собілі шасцёркі – шакалы і крахаборы. Поскудзь, адкіды. Яны і стваралі і падымалі вярхушачнікаў, бо не мелі, па ўсім, самастойнасці, зародкавай самасці. А паміж гэтымі дзвюма пародамі ўжо знаходзілася шалупонь, да якой належаў і ён, Маруда. Існавала хоць і прыніжана, але вольна, па меры магчымасці, разумна і не прыручана, самастойна.

Пэўна, дзеля іх і існавалі ці не штучна створаныя вярхушачнікі, каб трымаць шалупонь у лейцах. Створаныя па волі і невыказанай падтрымцы патаемным жаданнем выхавацеляў, таму што з іх дапамогай зручней было астуджаць самадастатковую вольніцу шалупоні. Звычайна ў кожным пакоі, у кожнай палаце непрыручанай шалупоні, у большасці малалетак, меўся стараста з вярхушачнікаў. Ложак яго месціўся на лепшым месцы, каля акна ці грубкі, каб было цёпла, светла і ўсе іншыя былі навідавоку яму. Вакол яго сметнікавымі мухамі віліся шакалы, шакаляты і крахаборы. Услугоўвалі, засцілалі пасцель, чысцілі чаравікі. Адным словам, ногі мылі і ваду пілі. А ён, як сапраўдны турэмны наглядчык, падаваў насельнікам палаты каманды: адбой, пад'ём, на фіззарадку, памыўку і лінейку ці на нейкую работу.

Хто не дачуваў ці не спяшаўся выканаць загад, атрымліваў поўху, у нос, па карку ці абкладаўся падаткам: на сняданак ці абед не есці самому сваю пайку, пернік, цукерку – несці дазорцу. Невыкананне такога чыншу, аброку зноў жа каралася. Каралася ўсё: не так ступіў, не туды паглядзеў – няма больш пільнага і горшага наглядчыка, як свой, амаль родны. Ранкам, яшчэ ў час засцілання ложкаў і праціранне іх ад пылу, дазорца пільна сачыў за кожным, трымаючы ў руках бялей белага насоўку. І гора таму, калі на насоўцы ад ложку пасля праверкі заставаўся шэры след. А дазорцы мелі сабачы нюх на такі след, на непрацертасць парэнчаў ложкаў.

Дзіўна, але такая ж іерархія калектыўнай дзетдомаўскай жыткі панавала і на волі, у самастойнасці. Вярхушачнікі часцей за ўсё пасля дзетдому калі

не папаўнялі турмы, то проста здзьмухваліся. Падклад, што ні гавары, паказваў сябе. Беззародкавай пустапарожнасцю, як гэта адбываецца і з птушыным, курыным ці качкавым падкладам. Падманным падкладам пустога яйка, часцей так званага баўтуна, каб утрымаць, падахвоціць птушку на гняздзе дзеля пачатку і працягу іх роду.

На тое ж дзіва, шакалы, шакаляты і крахаборы-пустадомкі ў час яшчэ далёкага тады, але ўжо адчувальнага будучага ліхалецця, выбіваліся ў вялікія начальнікі, алігархі, як цяпер бы гаварылі, а некаторыя з іх нават і ва ўсенароднa-абраныя прэзідэнты. І толькі памяркоўная шалупонь як была, так і заставалася галасракай памяркоўнай шалупоннню.

Як ні горка, але ў зямной нашай Галгофе нічога не змяняецца, нягледзячы на ўсе перамены, перабудовы, галоснасці, крутыя павароты ладу, часу і прасторы. Як калісь, так і сёння – кожнага жыта па лапаце. І той жа лапатай па адным месцы, не ўлічваючы яшчэ і граблі. Усе, здаецца, такія процілеглыя канцы ўрэшце рэшт сыходзяцца і вяртаюцца да свайго пачатку, толькі больш дробязна і ў той жа час ўсеахопна, нават дзяржаўна, жорстка і мярзотна. Крывава нават. Пэўна, усё ж жывому, як і дзяржавам для свайго працягу, патрэбна зверхнасць, імперскасць – нежыць дзеля раўнавагі свету, жыцця і смерці. Так, значна пазней ужо, думаў Маруда. Думаў, але недзе і паважаў, шкадаваў падклад – дазорцаў-вярхушачнікаў. А вось шакаламі і крахаборамі пагарджаў і грэбаваў. Ва ўпор не хацеў бачыць іх, таму і змаўчаў, калі на яго вачах знялі з яго шыняля хлясцік. А з другога боку, што тут зробіш: шакалёнак. Малы нехлямяжы, але над ім – наждаком яшчэ – бо з другога году навучання.

Не схоплены за руку – не злодзей. Але і схоплены першагодкам, наждаком другагоднік таксама ні ў якім разе не злодзей. Гэтую навуку Аю выклалі яшчэ на самым пачатку вучобы ў ГарПУ. Выклалі хаця і паказальна, на вачах ці не ўсіх наждакоў-першагодкаў, але, дзякуй Богу, не па рэбрах. Трэба адзначыць, што ўвогуле Ая ў вучылішчы асабліва не краналі, нават другагодкі. Ці ў ім было нешта засцерагальнае, ці тут адыгрывала сваю ролю яго пасада сярод навучэнцаў. Ая адразу па прыездзе на першым жа сходзе, першагодкам яшчэ, пасля месяца працы на ўборцы ураджаю на цаліне абралі старшынёй старастата вучылішча. Шышка, бугор ці скула вялікая адным, а другім – нішто на роўным месцы. Толькі ўсё ж мы звыкла абыходзім і мінаем якія б там ні было бугры, вялікія і малыя. Таксама не вярэдзім сваіх скул, стараемся голай нагой не наступаць і на шышкі. Але, зразумела, да пары да часу. Таму што хто яго ведае, як там павернецца і абернецца ўсё заўтра.

Вось так адбывалася і з Аем. Сам ён ніколі надта не настыраўся і не пёр на ражон, не лез у начальства. Што ні кажы, гэтая сцежка з аднаго боку хоць і выбітная, але коўзкая і ці не ў адзін канец, хаця каму як... Аю было прыемна ступаць на непрадсказальнасць і дваістасць такіх сцежак. Яны ўсцешвалі яго, нібыта вясновага грака перад свежай разорай, дзе курчыўся тлусты выпаўзак-чарвяк. Толькі ён, Ай, быў грэблівы, не пасягаў на абяцальна лёгкае, але пагражальна дрыгвянае і багнавае. Абачліва трымаўся шалупонна-сярэдзіннай памяркоўнасці, асабліва на людзях, калі праводзіў свае старастаты.

Хаця тут, пэўна, ён трохі хібіць. Неасэнсавана нават, не ведаючы самога сябе. Справа якраз зусім не ў тым, каб схавацца сярод сабе падобных, сярэдзінных – у статкавай большасці і меншасці. Не жадаючы, не прагнучы і

не дамагаючыся, ён жадаў, прагнуў і дамагаўся. Таму што быў паглынальнікам усяго таго, што ўводзіла яго ў выбітную рэальнасць. І гэтая рэальнасць захоўвала яго і прымушала давяраць самому сабе на людзях і ў самоце.

Хаця варта адзначыць, тое давалася яму не проста і не лёгка, час набягаў надта ж няпэўны, зацугляна-непрадказальны нават для шалупоні, ці іншымі словамі – маладой змены, як у той час было на слыху. І таму абачлівасць не мінула Ая бокам і тады, калі ён прыкмеціў, як з яго шынялька знялі хлясцік.

У першакі ніколі не пнуўся, але сваім не папускаўся, сваю праўду адстойваў упарта, але моўчкі, ніколі не браў горлам. Знешне ці не кожнаму саступаў і ў хадзе, і ў спрэчцы саступаў. Але ад свайго не адмаўляўся. Цішком насіў сваё ў сабе. Упэўнены, прыйдзе час і ўсё стане на свае месца, яго праўда акажа сама сябе. Гэтая вера – акажа сама сябе – была галоўнай. Застыглых жа на сваёй праўдзе, стойлавых праўдарубаў, калі не могуць пабіць іх словам, б'юць кулаком, цураюцца прымаць у свой хаўрус. Адно з асноўных правілаў і непісаных запаветаў дзетдома: калі ты хочаш быць хоць кім ці чым сярод сабе падобных, не пніся, што жаба – лопнеш ці кілу нажывеш.

І Ай нідзе і ніколі не вытыркаўся і залішне не пнуўся – апроч справы, работы. Асабліва калі гэта падабалася яму і была патрэба браць, як гаворыцца, на пупа. Між тым і без асаблівай натугі ён быў заўсёды прыкметны. Яго вылучалі сябрукі, настаўнікі, выхавацелі. Вылучалі ў дзетдоме і ў школе. Падсвядома ён усё ж адчуваў, што яго рыхтуюць – у начальнікі, савецкія начальнікі таго разліву і часу.

Яго вылучалі, яго абіралі. І варта сказаць, што абранне тое ў кожным выпадку таго часу і ладу было амаль беспамылковым. Свае разумелі і бачылі сваіх. Улады былі заточаныя на сабе падобных, на сваіх, як сёння б сказалі, лідараў, харызматаў. Так ужо была яшчэ ў маленстве падзелена нават шалупоневая парода. Як гаварылася: “птицу видно по помету”.

Між тым Ай, не зважаючы на гэтае прадказальна-відавочнае будучае, нідзе не хібіў, нідзе ні пад каго не падладжваўся. Заставаўся самім сабой. Бо быць самім сабой, адкрываць сябе – прыстойна і бязмежна, па-людску цікава. Цікава мець свой лапік, зямлю, сваё жыццё і сябе. Такіх было мала, хаця Ай і думаць не думаў пра гэта, таму што іх заўсюдна і паўсюдна кот наплакаў... Жменька. І ў той жменьцы, у сцятым кулаку яго рукі ён бачыў і Паўліка Марозава, і Аляксандра Матросава, і Марата Казея, і, адмаўляючы розумам, але захапляўся сэрцам усімі піратамі Карыбскага мора на чале з аднаногім капітанам Сільверам.

Ай пытаў сябе, ці здольны ён паўтарыць іх жыццё і подзвіг і нават гвалт, зайздросціў іх лёсу. Пасвячы карову ў лесе і пры балоце, губляў ае, яднаючыся з імі. Трызніў імі, летуценна марыў паўтарыцца ў іх. Толькі ж прырода ўпарціцца і наколькі можа пазбягае паўтарэння. Паўтарэння мінулага – карцінай алеем, намаляванай намі. Нашым бягучым, не заўсёды праведным. Ці не спецыяльна яна адбірае і абірае для гэтага лабаста напятых прарокаў, ведуноў, празорцаў – Дарвінаў, Марксаў, Талстых, Дастаеўскіх, Ленінаў, Сталінаў ды іншых правадыроў і павадыроў, гучных, а часам і людажэрных айцоў маўкліва панылай айчыны.

А Зямля круціцца, пэўна, усё ж крыху інакш, чым мы сабе ўяўляем. Зямля, на якой крывава пагуляла гісторыя. Ветрана і без шлюбу, пусціўшы ў свет байструкоў, бастардаў і людажэрцаў. Каб даць ім волю толькі з

кардонкай, пропускам у іншы свет. Наша мінулае, сённяшняе і будучыня ці не гучна смяюцца з нас усіх школьных падручнікаў, пачынаючы з буквара, з вышыняў нашых старажытных курганаў. А мы, як груганы, пажыццёва зняволеныя прывіднасцю свайго ж жыцця, кружым над самімі сабой, сваімі пазбытымі ці падманна забытымі жаданнямі, мроямі і лёсамі. А прастора і час, як гавораць, нязменныя, разводзяць нас не толькі па нашых магілах, але і па розных сцежках. Па нашых лёсах, ніколькі не падуладных аніякім зямным уладарам, ладам і нават імгненням і вечнасці. У росквіт, заняпад і застой, у існаванне без чалавечага твару. З усмешкай, смехам, рогатам адлучэння і разлучэння са сваёй існасцю.

Вось так гэта адбылося і з Аем. Ён, а таксама ўсе астатнія на Зямлі, як і сама Зямля, лічылі, што на планеце стаіць дваццатае стагоддзе. Але менавіта тады, у другой палове яшчэ нявыпрацаванага веку, пачыналася стагоддзе дваццаць першае. Другое тысячагоддзе ад нараджэння Збавіцеля, якога ўсё ж распнулі без уваскрашэння. А верх браў зусім ужо іншы. Над пакаленнем, што ўваходзіла ў час і прастору, карагодзілі таксама ж іншыя. Спрадвечныя лаўцы чалавечых душ. Найноўшыя творцы, абяцальнікі, дабрадзеі і дойліды нашага шчасця.

Ай быў асабіста знаёмы з імі, сам не ведае, з якога часу. Але раней яны былі сціплыя, лагодныя і памяркоўныя. Ветлівыя і ласкавыя: кось-кось, і ў аглоблі потым, у час росквіту дабрачыннасці, справядлівасці і дабрадзейнасці. Прыходзілі ў няўцямны час Быка ці пярэваратня воўка, калі ў яго ўжо не было ні рук, ні ног. Нічога не было. Толькі цьмяна, невядома як і чаму захаванай памяці, напаўстрачанай руху і разумення думкі, што ледзь тлела, але супраціўлялася, чаплялася за кволае адчуванне, што гэта не на яве, толькі сненне, сон, у якім ажываюць пачвары.

Так, пачвары ажывалі, толькі сном і сненнем гэта не было. Так усё ж, пэўна, ажывае нашае мінулае. Ён адчуваў гэта, калі прахопліваўся ўначы, а ў вачах, не паспеўшы адысці, пакінуць яго, стаялі ЯНЫ: дзве ці тры невыразныя чорныя постаці, а пасярэдзіне Ён – чалавек не чалавек і пачвара не пачвара. Толькі штосьці з гэтага адначасова і выразна мелася. Непрыхільнасць позвы, загаду і цягі невядома куды і дзеля чаго. Клікалі, спачатку запрашалі, а потым пагражалі. Напаўчалавек-напаўпачвара хацеў некуды звесці яго, ці то на неба, ці то пад зямлю – усё роўна ў небыццё, у якім, абяцалі, ён будзе раскашаваць. Ён адмаўляўся, ён і ў несвядомасці, у трызненні хацеў закончыць вучылішча і стаць шахтавым электраслесарам першай рукі – так тады велічалі слесара пятага разраду.

Каб хоць неяк наблізіць той час і адпавядаць званню не толькі слесара, але і сапраўднага шахцёра, кожны раз перад сном, каб пазбегнуць пачвараў, Ай па сваёй ахвоце збягаў у іншы свет і іншае жыццё – рабіў вынаходнікам. І як здавалася яму, даволі ўдала. Так для механічнай выгрузкі вугалю з забою ён прыдумаў вуглепагрузачную машыну з заграбучымі лапамі, як у крата. Толькі сталёвымі. А яшчэ вынайшаў вуглездабывальную машыну, пражэрлівую, ротава-зубатую. Тым ротам, зубамі накшталт свярдзёлак машына грызла вугаль і сыпала яго на канвеер. Толькі як потым высветлілася, ён дарэмна ў бессані парыўся, вынаходзіў веласіпеды. Вуглепагрузачная машына была ўжо вынайдзена да яго, і нават імя мела “С-153”. Больш за тое, яна рабіла і на паверхні, чысціла вуліцы, грабла і прыбірала снег. І гэта, апошняе, асабліва крыўдзіла яго. Так напружваў і тлуміў галаву, і ўсё дарэмна.

І ўрубаўка ўжо рабіла ў забоях шахтаў, а пазней будавала метро і тунелі – бетанаваныя хованкі багацеям ад прыхадняў з іншых планет, якімі яны самі ж і з’яўляліся. Значна пазней ён ішоў следам з шуфелем і за падобна вынайдзенай ім вугалепагрузачнай машыне, падбіраў, ачышчаў ад парэшткаў у сподзе забою вугаль. Часам зняможаны губляў нават прытомнасць. Варта было б памаракаваць яшчэ трохі, ды тую “С-153” не гнаць з шахты з-за яе груваскасці ці прыдумаць нешта меншае і больш вёрткае. І Ай намогся і прыдумаў. Прыдумаў, як увогуле здабываць вугаль і карыстацца ім без машын, шахцёраў і шахтаў. Хаця адна машына ўсё ж была патрэбна, толькі яе можна было і не ўлічваць, – буравая, свідравальная ўстаноўка. А каб дабрацца да залежаў вугалю – дзве свідравіны. У адну з гэтых свідравін запалку, перад другой – трубу, ацяпляльную батарэю – чайнік альбо нават чыгун. Усё, можаш угравацца ў хаце, піць гарбату, сёрбаць кулеш ці есці бабку. Вугаль сабе гарэў пад зямлёй, а на паверхню выдаваў цяпло.

Але, як потым высветлілася, гадоў ужо праз дваццаць, і тут яго абышлі, абакралі, і не хто-небудзь – акадэмік Чынакал. Яго гэта была ідэя. І куды ж пэтэвэшніку да акадэміка... А з акадэмікам Чынакалам пазней сустракаўся, знаўся з ім, як з хаўруснікамі-наждакамі. Нічога быў дзед, з хахлоў-украінцаў. Пасаліўшы, можна было есці. Хаця ён і так быў прысолены – сівізной. Але прызнацца акадэміку, што яны аднадумцы, Ай не наважыўся, саромеўся. Шкада было дзеда, нібыта ён раўня яму, акадэміку.

Не прызнаўся ў аднадумстве з ім, як і другому акадэміку, геолагу і пісьменніку Абручову, у тым, што ён, Ай, таксама адкрыў, вынайшаў зямлю Саннікава. Пасяліўся на той Зямлі, калі стала няўсцерп на гэтай. Ці не з маленства, пэўна, там жыў. Ёсць, ёсць такая бласлаўлёная Зямля. Але зноў жа ці яму, дзятдомаўцу, пэтэвэшніку, гаварыць пра гэта акадэміку-пісьменніку. Тым больш Абручоў гаварыць і слухаць пра адкрытую ім зямлю не пажадаў. Як не пажадаў гаварыць аб найвялікшым сваім адкрыцці, якім ці не скарысталіся пазней фашысты, – гіпотэзе полай Зямлі, магчымасці жыцця сярод ледавікоў Антарктыды. Вось пра нейкую акамянеласць, знойдзеную ў акіяне каля мыса Ньюфаундленд – калі ласка. А што тая акаменеласць перад зямлёй Саннікава, якой яны валодалі, што яна перад геніяльнасцю думкі, перад гіпотэзай аб пабудове планеты.

Слухаючы Абручова, Ай адчуў шкадобу вялікай страты ў сваім жыцці. Ды, пэўна, і ў жыцці гэтага старога ўжо чалавека, які дубеў у халоднай гасцініцы непрытульнага гарадскога горнага пасёлка ў Сібіры. У няўклюдным, даўно зношаным драпавым паліто, у чаравіках “бывай, маладосць” ён прыехаў туды на нейкую навукова-геалагічную канферэнцыю менавіта з-за акамянеласці. Ай пранікся яго недагледжанасцю, не выключана, старэчай бажавільнасцю, як яму і не было Зямлі Саннікава. Існавала адна толькі акамянеласць, на якую, здалося Аю, быў ён падобны і сам. Акамянеласць, адкрытая ім і закрыўшая яго.

Так Ай развітаўся са сваім вынаходніцтвам. Вынаходнік у ім, падобна, таксама акамянеў і скамянеў. На змену яму прыйшлі з мінулых грэшнікаў і яго прашчураў вось гэтыя ці то пачвары, ці то людзі. Начныя прыхадні невядома якіх светаў і, па ўсім, не надта прыхільныя да яго, Ая, і да гэтай зямлі, усё ж крыху падобнай на сонечную краіну, зямлю Саннікава. Ай быў бы і рады з дасціпнасці прыгарнуцца да іх. Толькі нехта ці нешта шкодзіла яго прыязнасці. Папярэджвала і засцерагала, пагражала небыццём.

Асабліва не падабаўся яму галоўны з начных наведнікаў яго явы, сненняў альбо трызнення. Цяпер, як заўжды ў няўчассе ліхалецця, бязмежжа містыкі, разгуле прывідаў і касмічных прыхадняў, яго б, пэўна, абазвалі чорным чалавекам ці чалавекам у чорным. Толькі ён быў не чорным і не ў чорным. Светлым і ў светлым, хаця і ў буйную чорную і белую клетку часучовага пінжака, пры востраносых лакаваных “штыблетах” чорных, шабельнатвары і ці не з рожкамі. Хаця тыя рожкі, пэўна, Ай прыладзіў ад нелюбасці яму, ужо без снення, на яве. Рожак у яго не было, гэта больш ад пачутага на бабінай печы, ад гаворак яе таварак на попрадках за верацяном.

Гэтая пачвара гняла, душыла яго, пазбаўляючы голасу, мовы, нават стогну, сцяўшы нерухомасцю, нібы абцугамі. Ад непраяўленага і не заўсёды адчувальнага болю Ай ускідваўся на жалезным пэтэвэшніцкім ложку. Прачынаўся, але, ахутаны цемрай ночы, не даваў сабе прызнацца, што гэта толькі цяжкі непрыемны сон. Сон, насланага аднекуль, пэўна ж, папярэджання. Таму што такія ўсе нашыя сны і сненні. Вешчыя, прадракальныя, светлыя ці змрочныя. Сны нашай збытай, засыпаннай стагоддзямі памяці, ці прадказаннем таго, што ўжо было ці яшчэ будзе. Відавочнасць таго, што ўсё сваё мы носім у сабе. Што было ў нашым пачатку, тое будзе і ў канцы, кола нашага жыцця павінна замкнуцца. Гэта было і надзеяй і адчаем.

Аю – адчаем. Ён адмаўляў такому трызненню мінулага і будучага. Жыў і хацеў жыць толькі сённяшнім. І трошкі, зусім трошачкі – мінулым, але ж недалёкім, без вайны ўжо. Ён прагнуў, маліў сасніць і адбыцца зноўку ў гэтым сваім недалёкім мінулым. А тут не любае і людскае – абы што. А тое добрае і людскае адышло, як у ваду, у пельку канула. Засталося, калі ўсё ж засталося там. Там, недасягальна далёка, захінутае, забітае сённяшнімі трызненнямі і сненнямі, хаця часам не-не і прабіваецца вонкі...

...Бяжыць дзяўчынка па вясновым садзе, па белай і ружовай квецені расхінутых, зачаравана раскрыленых, устаялых ад віхуры і маразоў яблыняў. Бяжыць па шчодра-плодным лапіку зямлі. Бяжыць, як ручай бруіцца і тчэцца з празрыстай крынічнасці вызвалена вясновага долу, са слюдзяна-абуджанага крылца стракозкі, росна плакучай травінкі. Як малечае жаданне сувойна-белага прышэсця сноў уначы. Паўтору і паўтору іх аблуды будучым, якое недзе ёсць, але як жар-птушка ніколі не дасца сталай яве. Няспраўджана адгарыць. Такая ўжо зададзена кожнаму з нас будучыня, што толькі сніцца. Нашая ўсё ж аблудная будучыня. Бяжыць дзяўчынка па вясновым садзе, як ластаўка, абеленая сысподу святлом нябёс, лунае над прасвечаным наскрозь велюравым покрывам прастрочанай сонечнымі праменямі невялічкай і таксама белай аблачыны. І жаўрук п’яна захлынаецца ад ні кроплі не пралітай з той аблачыны і ад водару мая, што сягае на ўсім свеце амаль да сонца.

Маю шчаслівага і няшчаснага, адраджальнага і пакутлівага. Двухлікага, літасцівага і безлітаснага, спасланага зямлі і чалавеку Януса. Пра што дасведчана нават трава, што адраджаецца і цікуе, і падвясельвае май, каб потым, потым... Ашчадна сакавіты, ахутаны белым і ружовым покрывам, нараджаецца і дужэе першы яблык. Жытнік. На пачатку зеляпушны, а ў сваю ўжо пару, на яблычны Спас, крамяна-чырвонабокі. Зведзены сёння наш гатунак першых яблык.

Бяжыць дзяўчынка па садзе. Бяжыць серпікам, гнуткая, усмешлівая. Абяцальным пруцікам вербалозу, цененькая, як Месяц коціцца па небе на

маладзіку, што ў травень і серпень абвяшчае спрыяльна ўстойлівае полю і чалавеку надвор'е. Скіраваную ў сусвет, на зямлю руплівую заможнасць і працяг.

Сведчанне таго працягу – у чорна-залатой аздобе чмель, што ўжо, падобна кволаму парастку, вытыркнуўся з улоння зямлі і цяпер задаволеным гудам уцалоўвае дзьмухаўца. Як яшчэ адно сведчанне працягу – бяжыць дзяўчынка маем па квецені зямлі, водар якой горнецца і абдымае ўсё існае, зямное і нябеснае. І бессаромна, набрыняла вызваленыя і саспелыя грудзі зямлі, берагоў рэк і азёр парадзіхава дыхаюць, зацяжараныя ў маразы зімы. І рыба апладняе будучыню вясновых водаў.

А дзяўчынка коціцца недаспелым яшчэ гарошкам светлай сукенкі. Гэта ад яе пачатак усіх вёснаў і квецені садоў лунае русай касой сярод ружова-напружанай квецені яблыняў. Засяроджана і працавіта цярэбіцца сярод маладой, нясмелай яшчэ лістоты майскі жук. Азываецца дню, сонцу, святлу і свету. Той самы мядова-літы майскі жук, які па ўсіх пісаных і непісаных, фізічных і навуковых законах не можа, няздольны, не павінен лятаць. А ён лятае. Хаця і нядоўга. У маі раз у чатыры гады выпаўзае з глыбу матухны зямлі, прыпадае да белі і гаючай зеляніны бяроз, а мо і да іх бярозавіку. І зноў цагельна-падмуркава кладзецца ў ацепленую ці не спецыяльна пад яго зямлю. На чатыры гады, да ўваскрашэння.

За ўсім гэтым – чмялём, жуком і дзяўчынкай, як сувязное звяно існасці і працягу, зачаравана і мо нават трохі асалавела сочыць Ай. Ён сядзіць на яблыні, як некалі стаяў пад ёй яго далёкі прашчур. Ён абаронца і абярэг гэтага саду, дзяўчынкі. Таму што ў дупле пры самай зямлі, каля пачатку яблыні з неведама якіх даляў клубкова прыкаціліся змеі, гады-гадзюкі. І таксама прагнуць свайго працягу ў вясновым яблыневым садзе.

Ай не пярэчыць, не аспрэчвае і не пагражае існаванню і нават вясноваму іх памнажэнню: усё жывое хоча жыць, і гадзюкі вартыя будучыні. Толькі гэтыя нейкія падазроныя. Не ў купінна-балотна-шэрую клетку, а колка-чырвонымі палосамі. Такіх гадаў Ай перасцерагаецца. Яны зусім не свойскія. Ай адчувае, што павінен абараніць ад іх і дзяўчынку ў садзе, якая бяжыць, птушына распасцёршы рукі, і пругка амалоджанае голле яблыняў, найбольш мінулагодняе – так званыя дзічкі, лашчаць яе аголена дыхаючыя жывыя рукі.

А каля дупла, якое абралі сабе пад жытло гадзюкі – нежыць, пацяруха ці не могілкавага жвіру, рудая трава, падобная адыходам, спарахнелым парэшткам чужой даўніны. Даўніны, якой, па ўсім, калярова пазначаны і самі гадзюкі. Атрутнай і брыдкай. Ай адчувае, што павінен і здольны заступіць дарогу той даўніне. Бо ён толькі-толькі пачынаецца, прарастае, працюкваецца з квецені яблынь, як і дзяўчынка на сцежцы, якая ці не ў будучыню вяровачкай вядзе яе і знікае, хаваецца ў водары мая. А гадзюкі забралі сабе збалелае, гнілую плоць дрэва. Той яго даўні боль, яго колішнюю хваробу, якую Ай адчувае і сёння па галіне, на якой сядзіць. Гэта яго боль.

Ён зліўся з яблыняй. Поўніўся водарам яе дыхання, галасамі яе голля, квецені і памяццю. Дрэва прыняло, усмактала яго ў сябе, сваім вяснова саспелым росквітам надавала тое ж і яму: разуменне і пранікненне туды, што было і што яшчэ будзе. Падземнасцю сваіх каранёў, што сыціліся жыватворнасцю крынічна-глыбінных водаў, абуджала ў ім чалавека. Чалавека, які стварыў гэта плоднае цуд-дрэва амаль з нічога. З падсвядомага жадання радаваць нечае вока, зрабіць яго відушчым на прыгажосць і смак.

Мо і сасніў такое жаданне, як і сваё жыццё. Сасніў, аблашчыў, выпеставаў, надаў яму, зямлі і свету сябе. А мо і наадварот. З таго ж нічога дрэва стварыла яго. Яны пабраталіся, пабраліся пад наглядам адабральна жоўтавокай, у шлюбнай царская кароне поўні ці пад прамянямі сонца, што на вякі злучыла і зычыла ім. Таму і бяжыць па маі, па вясновай квецені саду дзяўчынка.

Бяжыць, бяжыць дзяўчынка.

Пад хуценькі калыханкавы перабор яе лёгкіх босых пятаў Ай заснуў, як гаворыцца, без задніх ног і спаў без просыпу да пад'ёму, не пускаючы ў тую ноч мінулае – чорную поскудзь, што зводзіла яго. Адбіўся светлым сненнем нязбытай памяці. Але не цалкам. Поскудзь хадзіла побач, вілася над ім і злосна імкнула праўвацца ў яго светлы сон. Але Ай быў захаваны і схаваны маёвай квеценню дзетдомаўскага саду. І дзяўчынкай, што бегла праз яго. Дзяўчынкай, якую маёвы сад і нарадзіў. Ачамурэлы, аблашчаны яго квеценню заснуў яшчэ ці ўжо невядома кім. Таму што гэта быў яго час. Час ушаноўваць, памнажаць і пасвіць свае сненні аблудай будучыні. Яго душнік, дзверы і засланка ўваходу ў нешта іншае. Добрае і не вельмі – справа не ў гэтым. Іншае, інакшае... Той жа свет Зямлі Саннікава, сіненька-хісткі агеньчык вугалю. У квецень мая, бель і блакіт яго водару, водару яблыняў, сярод якіх бяжыць, бяжыць дзяўчынка.

Шарэла, калі Маруда ўвесь яшчэ праз край у запале ўчарашняга боксу, жарсці бойкі і напоўнены светлым сненнем, мроямі пазнавання адкрыццёва дарожнага зусім ужо сабраўся рушыць да інтэрната, як атрымалася непрадбачанае. Шанцавала яму на прыгоды ў той дзень, як, дарэчы, і ўвогуле. Няўдалы ён быў. Мо дарэмна кінуўся, даверыўся сабе. Збег з інтэрната ад навярэдлівага прадбачання і чакання кары, расплаты за сутычку і юшку другагодніку. Хаця кара яго не хвалявала. Ведаў – яна непазбежная. Але хацелася адцягнуць яе, схавацца. Толькі яму не надта шчасціла.

Каля шкляной, у задумцы з празрыста-тоўстага і зеленаватага шкла накшталт марской хвалі, а цяпер цьмяна-пахмельнай непрагляднасці забягалаўкі пад назвай "Блакітны Дунай", па-пасялковаму – "Бабскія слёзы" сабачая гайня напала на дзяўчыну. Прыціснула з усіх бакоў у вузкім праходзе паміж шкляной сцяной і вялізным сумётам, часткова са снегу, часткова з ванітаў і мачы наведнікаў мясцовай чайханы, а часткова і з жаўклява-ўчарнелых сабачых мецінаў. Мо з-за іх сабакі ў шале і зазлавалі на дзяўчыну. А той не было куды дзецца. Яна толькі слепа плюшчыла вочы, угіналася і хутала нос у футравы шалік, у каўнер паліто, перабірала, тупала нагамі ды войкала.

Гайня была вялікая, агаладалая і згуртаваная, не менш за тузін пасялковых сабак. Зграйна, бадзяжна звыклых, гатовых на напад і на кроў. Высалапленыя, хіжа сасмяглыя языкі і прыціснутыя вушы, паўсталая дыбарам над патыліцай поўсць, пругка і нерухома падцятыя хвасты яскрава сведчылі пра гэта. Заставалася мо толькі імгненне: бразгат клямкі дзвярэй, узыход зоркі на небе ці запальванне святла вулічных ліхтароў, і гайня ў вулічнай п'янай пасінеласці накінулася б на сваю ахвяру.

Маруда ў адно імгненне адчуў і асэнсаваў гэта. Зразумеў, што трэба рабіць. Вылучыць важака зграі, самага крыважэрнага, не выключана, і самага баязлівага і таму злосна чуйнага да таго, што адбываецца навокал. Паспець вылучыць яго, пакуль у ім яшчэ не саспеў крывава-бязлітасны, незваротны пасыл жорсткасці, адчаю і страху, пасля якога адступіць і

перамяніць хоць на зрэнку вока ўжо нічога немагчыма, бо якраз гэта і вымушае да гвалту і злачынства. Усё, як у людзей.

І Маруда справіўся, паспеў сярод тузіна сабак вылучыць, распазнаць важака, завадатара. Гэта быў ці не самы нехлямяжы сабака. Мо некалі і пародны, хатні – след, пракладзены ашыйнікам на шыі, прыкметна праглядаўся яшчэ і зараз – балотна-рудаваты, рослы і лабасты. Але надта ўжо худы, чэрава зусім не відно, адно сухое голле рэбраў ды колка выпнуты ў дзённую ўжо шэрань касцяк хрыбціны. А голас гэтая ці не тагасветная істота падавала зацята ваўчына, рэхам з сярэдзіны чэрава, што ўжо ведала, чаго хацела і патрабавала.

У галаве ў Маруды вастранька паспела яшчэ праблiснуць: з-за чаго такая кашчэіна ўз’елася на гэтую дзяўчыну, не страшней жа за Бабу Ягу. Зграбная, мо нават і прыгожая. А сабакі, хоць яны сабакі, хараство паважаюць. Харашуль шануюць, калі-нікалі толькі гаўкнуць. І то каб сябе паказаць. А гэтыя... Асабліва той, амаль хатні колісь, як на поўню ў бубен месяца б’е, заходзіцца аж ад пустапарожняга брэху, ваўчынага рыку.

І Маруда адчуў, як у ім, нібыта на поўню, набракла, спарадзілася нешта ваўчынае. Аж стрыжаныя валасы тарчма наравілі падняцца, як поўсцю звярынай абрастаць пачала макацоўбіна. І ён па-звярынаму раз’юшана ўпіўся вачыма ў скугольна ўскінутую галаву завадатара. І той адразу, нібы яго цюкнулі па той галаве нечым даволі цяжкім, няўцямна замёр. Крутануўся на месцы, зморшчанай шыяй павярнуўся да Маруды. А неўзабаве апусціў галаву, унурыўся, абмяк тулавам, п’яненька падыбаў прэч ад дзяўчыны. І ўся зграя пайшла за ім ад усё яшчэ прыхінутай да шкляной сцяны ахвяры. Маруда падышоў да яе, адвёў ад сцяны і праз жоўклую наледзь сумётаў вывеў на вуліцу. І яны пайшлі побач, як не першы дзень знаёмыя. Толькі чамусьці вельмі хутка, спора, як пабеглі. Не разлучана, зладжана, нага ў нагу, нібыта салдаты на маршы. Дзяўчына спынілася першай і так нечакана, капытна, дзвюма адразу нагамі:

– Куды мы гэта так чэшам? Не інакш на вяселле?

Ніякавата яму было з гэтай дзяўчынкай. У дзетдоме ён не дажыў да той пары, калі хлопцы накшталт яго пацягнуліся да дзяўчат. Хаця дзяўчаты да хлопцаў ужо цягнуліся. У іх гэта раней пачалося, а мо ніколі не знікала. А хлопцы цураліся: яшчэ чаго не хапала... Але ж, але ж. Не шчасціла яшчэ яму, Марудзе, выратаваць хаця б адну дзяўчыну. Сам жа ён адну з іх ўжо быў і не супраць ад нечага ці некага выратаваць. Адвагі і імпэту хапала, а выпадку праявіць гэта не ставала. А тут усё склалася як па-пісаным. Толькі героем быць, аказваецца, зусім няпроста. Нешта там, у галаве, сэрцы ці яшчэ якім месцы муляе і супраціўляецца. Сапраўды, хочацца і колецца. І “колецца” пачало перамагаць. А дзяўчына нібыта адчула яго. Толькі што ці не праганяла, а тут наблізіла, ды так, што незразумела адразу – наблізіла ці працягвала праганяць.

– Чаму маўчыш? Мо і языка няма?

Маруда паслухмяна і бязглузда высалапіў язык: маўляў, ёсць, на месцы, у роце.

Яна засмяялася. Марудзе пацяплела, тое ж самае, пэўна, перадалося і дзяўчыне, але яна адразу ж прытушыла яго цяплыню:

– Чаго ты бяжыш за мной? Думаеш, дапамог, дык і права маеш. Бяжыш як ашпараны.

Маруда даравала ёй няўдзячнасць. Але на ашпаранага пакрыўдзіўся:

– Сама ты адмарожаная.

Гэта нестыкоўнае “адмарожаная”, пэўна, заела і яе, толькі яна злосна лыпнула на яго лёдава-сінім вокам і нечакана засмяялася ў ружовую рукавічку.

– Даруй, абое мы, падобна, прыпыленыя. Табой ужо і сабакі грэбуюць. Цураюцца, уцякаюць, абыходзяць бокам, як бы ты іх вулічны павадыр.

– Я не вулічны...

– Ты што, намякаеш, што я вулічная?

– Нічога я не намякаю. Проста да сабак у мяне слова ёсць.

– Гэта яшчэ якое слова?

– Сабачае слова: не баяцца.

– І яны ведаюць, разумеюць тваё слова?

– Яны чуйныя. Больш за нейкага чалавека разбіраюцца і разумеюць.

– І даўно ты такі разумны, сабачую мову ведаеш?

– Як пацапаўся з сабакам – адказаў Маруда, – так і ўведаў. Паразумеўся з імі. Праўда, праўда...

І на самой справе так было, ён не хлусіў. А пацапаўся ён з беспрытульным дзетдомаўскім цуцыкам па клічцы Жулік. Сапраўды надта ж жулікаваты быў той цуцык. І сваіх, дзетдомаўцаў, ніколі не чапаў, усміхаўся на ўсе зубы, лыпаючы прыязным чорным вокам. А тут, чым яму Маруда не дагадзіў, толькі пачаў пнуцца, дзерціся на яблыню, што якраз зацвіла ў дзетдомаўскім садзе, а Жулік як з-пад зямлі – на тое і Жулік – падкраўся і цапнуў трохі ніжэй спіны. Не балюча – ледзьве толькі голенькім зубам па яго голай жа паясніцы.

Не балюча, хутчэй свербна і абразліва. Абразліва таму, што на тую хвіліну дзяўчынка, за якой ён даўно цікаваў, мільгнула ўваччу яму на дарожцы ў вецці яблыняў. Жулік, пэўна, прыраўнаваў яго да гэтай дзяўчынкі. Яна ж згледзела, Маруда бразнуўся вобзем, непрыгожа бразнуўся балюча, нібыта добрага выспятка ў адно месца ад зямлі атрымаў па хвастцу. А Жулік перакінуўся на спіну галавой у яго бок, і лапы падцяў і скурчыў па-над бела-аголеным чэравам: вось, маўляў, які я добры і пушысты. Жвавенька перакуліўся са спіны на заднія лапы.

– Гад ты, – аблаяў яго Маруда.

Дзяўчынка засмяялася і прабегла міма. А Жулік засоўгаў чамусьці ўжо сваім хвасцецом па голай зямлі. Нібыта гэта Маруда ўкусіў яго за той хвасцец. Жулікавата ёрзаў і нявінна глядзеў у вочы Марудзе: маўляў, я не я, і хата не мая. І Маруда спачатку злосна, а потым ці не з са здзіўленнем глядзеў у яго на тую хвіліну зусім не сабачыя вочы. Вочы задаволенага немаўляці – нібы словам перакідваліся, думкай абменьваліся.

З тае пары Маруда і пачаў чуць і разумець сабак, а сабакі яго. Які б злосны ні быў сабака, Маруда браў, утаймоўваў яго думкай: я не злодзей, шкоды ні табе, ні твайму гаспадару не зраблю. Так што давай лепш не будзем, як міліцыянеру ці як міліцыянер некаму, даводзіў ён сабаку. І той не заступаў яму дарогу, пагаджаўся: так, пэўна, давай не будзем.

Менавіта гэта Маруда і распавёў дзяўчыне. І невядома чаму расчуліўся. Стаў не ў меру гаваркім:

– А яшчэ я трохі чую і разумею птушак. У мяне была галка, чорная паўсюдна, як агарак, але зграбная, – хацеў мовіць: як ты, але схамянянуўся, можа і пакрыўдзіцца. – Я яе навучыў гаварыць вымаўляць маё імя: Грры-ша, Грры-ша, Грыша. Гэта маё імя, а цябе як зваць?

– Жана, Жана, – ціха мовіла дзяўчынка.

– Таксама добрае імя.

– Згодная, – мовіла Жана. – А што з галкай?

– Жыццё напалохала, уцякла ад мяне мая галка. На поўнае сонечнае зацьменне летам. Раптоўна ўсё так пацямнела, як ноч надышла. І сіверам, холадам да хрыбцін. Мяне ўсяго працяла. І, пэўна, не толькі мяне. Пеўні загаласілі, каровы зараўлі, нават мурашкі ў траву ціхенька, ціхенька пашыліся. І паўсюдна адна толькі ціша стала. Такая, што гала мая захлынулася ёю і варонай закрычала: Грры-ша, Грры-ша. А я не азваўся. Замёрз, залядзянеў, здаецца, холадна так, знобка і самотна зрабілася, нібы я адзіны на зямлі чалавек. Холадна не скуры, целу, а ў сярэдзіне, нібы туды ледаша ўвагналі. І той лядаш у грудзіне вадкім холадам растае і па ўсім целе расплываецца. Мо тое ж і ў галкі. Толькі я сцяўся, ілбом да дуба прытуліўся. А галка пабегла, пабегла бегам ад мяне. А потым і на крыло. І я падумаў – мне б таксама палящець з гэтага дня, канца свету і сонца. А яна лётам ужо ў чорна-зніклае сонца. Ад сонца на небе толькі цыркульная чорная латка. І адно па краях – зыркі абручык. І так мне закарцела тую латку раздзерці, вызваліць сонца, што сам, падобна, учарнеў. Тое ж самае, падобна, і з галкай адбывалася, як з сініцай, што мора рэшатам намерылася вычарпаць. А я зусім бездапаможны, хаця і напяты, паласую чорную пляму, імкнуся вызваліць, агаліць сонца і, падобна, небезнадзейна, бо лёд у мяне ў грудзях растаў. Агеньчык там запаліўся, і я ўжо не да дуба, а да таго агеньчыка прыхінуўся. Мо таму мяне сюды, да вугалю, і пацягнула. А галку я згубіў і страціў назаўсёды. Пайшла яна крыламі ў цемру нябёс. Прапала там, як згарэла. Пераўтварылася ў нябачны мне агарак летняга сонечнага зацьмення.

Маруда ўздыхнуў і замоўк.

– Не, ты на самой справе дурнаваты і блазнаваты, – мовіла Жанна.

Ён пагадзіўся з ёй:

– Так, я такі.

Але яна не сарамаціла і не абвінавачвала, не выкрывала яго:

– Не ведаю, як каму, а мне блазны і прыдуркі падабаюцца. Разумнікаў зашмат. Прыстойнаму блазну і дурню ўжо некуды і ступіць. Нагой не ўбіцца, як ў аўтобус ці ў трамвай. Выкідваюць іх і выкідваюць на хаду. Я таксама выкінутая...

Маруда не адгукнуўся на яе словы. Нешта пачуў за імі збалелае і хваравітае, пра што лепей маўчаць. І таму працягваў свае:

– Звер, птушка, яны натурныя і натуральныя, існыя да схону. І ім дзень – дзень, ноч – ноч. Чорнае дык чорнае, а белае дык белае. Мо і я тым жа летам услед за сваёй галкай паляцеў шукаць сваё белае, пакінуў дзетдом.

– Дык ты дзетдомавец, сіротка казанская, – незразумела са спачуваннем ці то пагардай сказала Жанна. – Таму і такі чорны, як галка, і белы, бялявы, што дзень.

Не, гэта ўсё было моўлена без пагарды, хаця і без асаблівага спачування. Нешта сваё адчуў Маруда, існае і натурнае, балючае стаяла за тымі словамі Жаны. Таму што і вуліца была ўжо ў прадвечаровай хвараватай просіні. І ўсе навокал перад надыходам цемры ночы – здушана-сцятае, маўкліва-змучанае, гарачкавае, разам адбілася і на твары Жаны, крыху чырвона падмаляванымі шчокамі і вуснамі, з наведзенымі лёгкімі ценямі каля веек.

Але раптам усё гэта хаця толькі лёгка пазначанае як бы кранулася, зрушылася і пачало аплываць, вызваляючы прыхавана сутнаснае, сваё. І Жана заплакала. Нават не заплакала, дзве слёзкі ціха выкаціліся з лёдава-сініх адталых вачэй і ручаёва забруіліся на шчоках, штохвілінна набракаючы. Дасягнулі сківіц, пракінуліся праз іх край на шыю. Плач Жаны здаўся Марудзе зусім не горычным ад перапоўненасці, лішку нечага ў ёй і ў ім. Але той лішак, падобна, быў цяжкі і непадымны ёй, як бы месціўся і браўся з галавы, горычна і слёзна працякальнай салёнай памяццю. Тое памятнае, дзявоча-нязбытае, а мо і збытае, і, пэўна, не надта далёкае і радаснае нечакана апякло і Маруду, шчымліва сціснула сэрца, пусціла там слязу.

Хаця вонкава той слязы ён не паказаў. Не да яго твару было той слязе. Хаця якой палёгкай было б на тую шарую гадзіну паплакаць. Нешта, падобна Жане, абудзіць у сабе, узгадаць і адбіцца ад таго, што некалі здавалася надзеяй і шчасцем, а сёння – падманам. Пякуча страпянуцца цёплым былым і сцішыцца бягучым. Абмыць і змыць усё слязой збытай і нязбытай памяці мінулага і будучага, што неадчэпна гоніць і гоніць яго невядома куды. Ад чаго так шчымліва і соладка, хаця і невідушчымі слязьмі плачацца, хочацца плакаць і на чужыне. Прачынаецца, ажывае дагэтуль яшчэ не спасцігнуты боль, свой і чужы. Боль будучы.

*(Заканчэнне будзе.)*



Мікола Гіль



...вечнасць –
гэта калі памерлае
застаецца *жывым*...

# Непазбежнасць

***З кніжкі ламентацый восеньска-зімовых суцемак***

* * *

Ну не маю я права
Дакараць кагосьці
За яго праявы
Абыякавосці!

Гнеў такі, што, здаецца,
Перунамі біў бы,
Маланкамі з сэрца
Усё спапяліў бы!

Ды – праклятая доля:
Гнеў наш нас не хвошча,–
І – дзе мая Воля?
І – дзе мая Плошча?

І зноў абураюся,
Зноў злосць закіпае,–
Так і змагаемся,

*29.XII.2012 г.*

* * *

Ах, вершык, ты кульгавенькі,
Шарэнькі, невыразненькі,–
А бачыўся ж – удаленькім,
Яскравым, прыукрасненькім.

Не собіла, не выпала
Такая доля вершыку,–
Кухарка не дасыпала
Ці цукарку, ці перчыку.

І спёкся ён нягегленькі,
На смак, на подзіў – посненькі,
Ні чорненькі, ні беленькі,
Гэткі цераспалосненькі.

Ды рады быць і поснаму
Прычына ў мяне годная:
Я – аўтар, а па-простаму –
Кухарка яго родная!

*4.01.2013 г.*

* * *

Тхнула ветрыкам з форткі –
І запахла марозам.
Дзень яшчэ ўсё кароткі, –
Не падоўжанне – слёзы.

Паслязаўтра – Каляды,
Быць сцюдзёна – належна;
Ідзе зіма ў агляды:
Ці марозна, ці снежна?

Ух і закуралесіць,
Заюрыць завірухай!
Срэбра-шэрань развесіць,

Каб паменела скрухі.

Замяце ўсе дарогі,
Усе сцежкі лясныя,–
Ні бяды, ні трывогі:
Сны паўсюль снегавыя!

Ды і ў сне думка цвеліць –
Пра вясну ўспамінае:
Як пісаў Караткевіч,
Яна ў снягах драмае...

*5.I.2013 г.*

* * *

Чаго жыву, каб хто спытаў?
Ужо нікому непатрэбны!
А ці ж і быў? – хоць апрастаў
Гадоў нямала, ды – пасрэдна.

Як поўзае за намі цень,
За кожным след у след бясшумна,–
Так поўзаю і я з дня ў дзень,–
Таксама ціха і... бяздумна.

Ці ж льга паверыць, што хакей
Ёсць пуп праблем усёй краіны?!
– Пуп, пуп! – крычыць тэлежакей,
Ім пачынаючы навіны.

А колькі гэтакіх пупоў
За час апошні развялося?!
Іх – як для дурня тых слупоў,
Якіх аб'ехаць не ўдалося!

Хадзіць у дурнях мне ўжо грэх,
Каб і хацеў – спіна не гнецца,
А шчасцем ад яго пацех
Хіба што дурань захліпнецца.

Мяне ўжо ён не дастае –
Магіла гэткіх выпрамляе;
От, пасміхнуся сам сабе –
І ў новы дзень перапаўзаю...

*11.XI.2013 г.*

* * *

“Я буду жыць! – бо я мужык!” –
Сказаў калісь Купала.
І гэта на ўвесь свет вялік
Набатам прагучала.

Мільённы й дужы быў мужык,
Як дуб укаранелы,–
Касіў, араў ва ўсе гужы –
Карміў увесь свет белы!

Свет і трымаўся ўвесь на ім,
Як хорам на падмурку.
Міналі сотні лет і зім, -
А зменаў – ні на жмурку.

Але прыйшоў быў бальшавік,–
І молат спляжыў вёску:
Пад корань ссечаны мужык,
Пан сошкі і пан коскі.

А перш за ўсё пан духу быў
Народнага (і мовы!),–
У вёсцы менавіта жыў
Народ наш каранёвы.

Забіты вёска і мужык –
Сусвет наш беларускі,
Забіта й мова, ці – язык,
Калі казаць па-руску.

А ў горадзе, што стаў калісь
Вялікай нашай вёскай,
Вядуць ўжо не жыццё, а жысць
Расплоджаныя Зноскі.

Хіба адродзімся мы праз
Асвету і культуру?
Наўрад! Гаворка не пра нас:
Мы не тае натуры.

Мы – не жыды, іх шчыт – талмуд,
І вера, й лад жыццёвы.
Не меў шчыта такога люд
Тутэйшы, спрэс вясковы.

Прыгнечаны, бяспраўны, цьмеў,
Кругом абрабаваны,
Сваіх паноў нават не меў –
Гнуў спіну на нязваных.

Нязваныя яго й змаглі,
Як ні вялік і дуж быў...
Мімікрыруюць на зямлі
Халопскія ўсё душы...

*15.XI.2013 г.*

## МАЕ БЯРОЗЫ

Шумяць мае бярозы,
І будуць шумець,
Як згаснуць мае крозы,–
Буду ў зямельцы тлець.

А покуль у трывозе
Слухаю лістазвон,–
Ахутвае ў знямове
Супакой, быццам сон.

У моцы беластволай –
Як вечнасці час;
Не тое, што ў нас, кволых:
Трошкі ўспыхнуў – дый згас.

Пачуюць, можа, ўрэшце
І сыны іх шум
І прыйдуць, каб атрэсці
Думак клопатных сум.

І ўнука, дасць Бог, клікнуць –
Іх жа садзіў дзед,
Калі ў свой час пакінуць
І сыны гэты свет,–

Бярозы ж, як і сёння,
Ўсё будуць шумець,
І салоўкі па вёснах
У лістоце іх пець...

А покуль у трывозе
Слухаю лістазвон –

На нябыту парозе
Бы суцешвае ён...

*1.XI.2014 г.*

* * *

Скуль баязліўцаў процьма?
– Са школы, братка, са школы!
Дзе ж іх гадуюць так порстка?
– А ў той жа школе, брат!

Адкуль рабскіх душаў плоймы?
– Са школы, братка, са школы!
А дзе іх раі раяцца?
– А ў той жа школе, брат!

Адкуль бязроднікаў мноства?
– Са школы, братка, са школы!
Дзе ж іх імпэтна так плодзяць?
– А ў той жа школе, брат!

Якая ж то школы вучыць
На баязліўцаў, манкуртаў?
– Не наша, братка, не наша!
Чужая школа, брат!

*6.XI.2014 г.*

* * *

Такое восені, як сёлета –
З пяшчотным сонцам, з рэдкімі слязьмі,–
Не помню, быццам бы намолена
Была зняверанымі людзьмі.

Замест васьмі пагодаў восені
Была адна – бабіналетні дзень:
Пад зыркім парасонам просіні
Ратай і конь ажно шукалі цень!

Стары цішком прасіў: дай, Госпадзе,
Памерці гэткім днём – каб правялі
Мяне туды паважна, з годнасцю
Усе, хто застаецца на зямлі.

Стары той – я, калі па шчырасці,
Адна ўжо думка точыць галаву:
Каб собіла і мне так, па магчымасці,
Паплыць, як жураўлю, у сіняву...

*16.XI.2014 г.*

## НЕ КАЖЫЦЕ...

Не кажыце мне: будзе добра ўсё! –
Не кажыце!
Пакажыце мне, дзе наша, сваё?–
Пакажыце!

Не кажыце: зможам, усе ж змаглі! –
Не кажыце!
Пакажыце мне, дзе нашы арлы? –
Пакажыце!

Не кажыце мне: моладзь вунь расце! –
Не кажыце!
Адкажыце мне: вашы дзеці дзе?–
Адкажыце!

Не кажыце: ўсе патрыёты мы! –
Не кажыце!
Патрыёты вы – толькі да зімы! –
Памаўчыце!

*22.XI.2014 г.*

## ЯКІ КОШТ ЗАПЛАЦІМ?

Адзін маскоўскі ліберал
З экрана смальнуў смела
(Ён біў пад дых, каб напавал):
“Расія, ты – здурнела!”

Ён смальнуў дваццаць год назад,
Калі пайшла Расія,
На ліберальаўскі пагляд,
Наперак іх месію.

Дыягназ слушны быў тады?
Не знаю. А вось сёння

Яна здурнела сапраўды,–
Да шалу беззаконня!

Шаленства знак – імперскі сверб,
Што ахапіў эліту.
І недарэмна царскі герб
Паўсюдна зноў прыбіты.

І зноўку міф пра “рускі свет” –
З трыбун, газет, экрана:
“Вярнуць усё за Крымам ўслед,
Што страчана-забрана!”

І за цаной не пастаіць
Расія – мае вопыт!
І як нам быць, і як нам жыць
Пад гэткі ейны клопат?

І ў нас пануе “рускі свет”,
Насаджаны гвалтоўна,
Ужо наш суверэнітэт
На вісельні “двухмоўя”.

На Украіне льецца кроў,
Па яе долі плачам...
Ратуй нас, Божа, ад сяброў! –
Мы які кошт заплацім?!

*23.XI.2014 г.*

* * *

Дзеці, ўнукі –
Сваім жыццём:
Наўме маладое!
Сам я кволы,
Гол, як сакол,–
Займішча старое!

Дзе ты, клікну,
Жытцо маё,
Жыта зеляное?
Колас збіты,
І я не жаў
Сваё палавое.

Зерне долу,
Не ў клець маю,–
Міма, ядранoe!
Там і пуста,
І мыш на зуб
Не знойдзе святое.

Клець без кладзі –
І ўсё яно,
Маё нажытое.
Даў я дзецям
Што меў адно –
Слова залатое:

Купалава,
Максімава
Ды Каласавое!

*25.XI.2014 г.*

Міхась Зізюк



...што з намі будзе далей?

Што будзе далей з краінай?..

# Вясковыя гісторыі

Вёска... Для адных, у тым ліку і для мяне, вёска – гаючая крыніца, да яе заўсёды хочацца прыйсці, спатоліць даўнюю смагу пахам свежаскошанай травы. Ёсць і такія, што вёскаю пагарджаюць – чаго толькі каштуе зневажальны выраз “ну, ты, вёска, калгаснік”. Трэція ж ставяцца да яе нейтральна, яны пра вёску ўспамінаюць толькі з гастранамічнага ці турыстычнага пункту гледжання. Хтосьці і ўвогуле ведае вёску толькі па малюнках. Бо адсотак вясковага насельніцтва ў параўнанні з ранейшымі часамі скараціўся шматкроць.

Нехта скажа: колькі можна пра вёску, абрыдла, пра яе напісана-перапісана. Між тым, вёска гэта не толькі гісторыя, успаміны і разважанні, гэта яшчэ і паўсядзённае жыццё. Не заўсёды простае і лёгкае, але нямала людзей, якія ніколі не зменяць яго на ўтульную гарадскую кватэру. Пэўная ж доля былых вяскоўцаў, а цяпер гараджан, настальгуе па вёсцы. І толькі вяскоўцы могуць расказаць, што такое вясковае жыццё. А яно не менш цікавае, чым гарадское. Там нярэдка

адбываюцца не менш цікавыя падзеі, там прысутнічаюць не менш харызматычныя постаці, лёсы, характары. І мне захацелася падзяліцца ўспамінамі пра сваю вёску Лучыцы, што на Петрыкаўшчыне, пра тое, як і чым жылі людзі пяцьдзясят-дзевяноста гадоў таму, што любілі, чаму радаваліся. Нейкія падзеі адбыліся ўжо пры маім жыцці, сёе-тое пачуў ад свайго бацькі – карэннага жыхара Лучыц. То паслухайма.

## Бацькі і дзеці

Нядаўна наведаў маму – яны жыве ў сястры ў Жлобіне. Сёлета маме пайшоў восемдзесят восьмы год. Здароўе дрэннае, адна ніяк не зможа. Цяжка было ёй: нас шасцёра, а бацька амаль усё жыццё пасвіў каровы. Дагледзь усіх, а яшчэ гаспадарка, агарод. Таму хапіла маме. Праўда, як мы падраслі, стала значна лягчэй, і ўсё ж...

Сястра адна ў нас, яна глядзіць маму. Хоць гэта не значыць, што, калі б не было сястры, то мама засталася б недагледжанай. Ёсць каму забраць маму да сябе, але ж дачка ёсць дачка. Распавядаючы гэта, узгадаў даўні выпадак з вясковага жыцця.

Жыў у нас дзед Макар са сваёю бабкаю, яе звалі па-вясковаму – Макарыха. Звычайныя вясковыя людзі: ён – высокі, статны, шыракаплечы, яна – наадварот, невысокая, прыгорбленая, увесь час у працы. У іх таксама шасцёра дзяцей гадавалася. Дзеці выраслі і разляцеліся па свеце. Дзед з бабкаю шчыравалі: і дзве каровы, і свінні – усё дзецям, што прыязджалі, торбы ладкавалі. Дзед Макар шмат курыў. І калі захварэў, то кашляў так, што на суседняй вуліцы чулі, а ў грудзях клекатала, нібы варыва якое ў чыгуне ў печы. Ён ляжаў не надта доўга. Бабка адна глядзела яго, дзеці не дапамагалі. Праз год-другі пасля смерці дзеда злегла бабка. Дзеці прыехалі, пакруціліся ды адзін за адным раз'ехаліся. Ніхто з шасцярых не ўзяў маці да сябе, ніхто не застаўся даглядаць. Макарыху глядзелі суседзі, доўга, недзе каля года. Родныя дзеці толькі на пахаванне з'явіліся, пасля з'ехалі. У вёсцы ж засталася занядбаная хата, а цяпер ужо і яе няма.

Я разважаю: можа, не трэба было ім дзяцей пеставаць тымі свінымі кумпякамі, маслам ды грашамі? Можа, дзеці па-іншаму жыццё ўспрымалі б?

## Цімураўскі рух у вёсцы

Сучасныя школьнікі, напэўна, не чыталі Аркадзя Гайдара і яго славуты ў савецкі час твор "Цімур і яго каманда". Праўда, як цяпер высвятляецца, савецкая ўлада добра падфарбавала Гайдара ў прывабны выгляд. Бо тое, што ён вырабляў у часы грамадзянскай вайны, якім быў пасля, зусім не да твару не тое што пісьменніку, а нават і чалавеку. Але ж я не пра Гайдара, а пра яго аповесць.

Тады ж мы ўсе пагалоўна не толькі штудзіравалі аповесць, а нават пісалі сачыненні, у школах арганізоўваўся цімураўскі рух. Некаторыя марылі быць падобнымі на Цімура. Не абмінула такое жаданне і мяне. Прачытаўшы аповесць, я загарэўся ідэяй арганізаваць цімураўскі рух у сваёй вёсцы. Да аднакласнікаў не падыходзіў, ведаў, што падымуць на смех. Пачаў з сябе – было гэта пад канец зімы. Пайшоў пасля ўрокаў па адзінокіх бабулях. Тыя спачатку не маглі ўцяміць: чаго я ад іх хачу? Прыходзілася доўга тлумачыць, што я, во гэтакі "свядомы цімуравец", дапамагаю проста так.

Сёй-той з бабуль прынёс вады, схадзіў у краму. Дык гэта ж дробязь. На трэці ці на чацвёрты дзень зайшоў да старых з прозвішчам Котавы. Яны жылі праз чатыры хаты ад маёй бабулі. У двары ляжала вялікая гара дроў. Даведаўшыся пра мае намеры, бабуля Марыя папрасіла пакалоць дровы. Ды лёгка – падумалася мне. Я ж дома ўпраўляўся і з пілою, і з сякераю. Але ў той кучы большасць калодак была такая, што і дарослаframу як падняць, не тое што мне, падшыванцу. Ды яшчэ сукаватыя. Павалэндаўшыся гадзіны са дзве, я здаўся. Пакінуў сякеру і ганебна, цішком, збег. Карацей кажучы, тая гара дроў адбіла ў мяне ахвоту да цімураўскага руху, які скончыўся, ледзь пачаўшыся.

## Словы

У нашай мове, як, дарэчы, і ў многіх іншых, шмат дыялектаў. Значныя адрозненні, напрыклад, у гаворцы палешукоў з Гомельшчыны і тых, хто жыве паблізу ўкраінскай мяжы ў Брэсцкай вобласці. У нашай мясцовасці кажуць гэтак: наеўса, напіўса, багато. І словы, зразумела, маюцца свае, мясцовыя. Так, гушчар, густыя кусты у нас называюць шалепнікам: во, убіўса ў шалепнік.

Мне чамусьці ўпадабалася слова, якое азначае “дагледзець гаспадарку” – накарміць худобу, прыбрацца ў хляве, прыгатаваць корм, падаіць карову і г.д. І як пра гэта кажуць у нашых вёсках. У маёй кажуць – управіцца, на Наваградчыне – падходжвацца. Зусім цікавы варыянт пачуў ад брататавай жонкі. Яна да высялення жыла ў Хойніцкім раёне. То ў іх гэтае слова нагадвала нешта эратычнае: порацца. Адна жанчына пытаецца ў другой: а ты ўжо папоралася? Багатая нашая мова, багатая і сакавітая.

## Сабака

Жыў у пасляваенны час у нашай вёсцы Хведар, а вясковая мянушка – Лапейка. Неяк Хведар паспрачаўся з мужыкамі, што ніхто не ўгадае, як ён назваў свайго сабаку. Вядома, што ніхто з вяскоўцаў тады асабліва нічога не выдумляў, калі ў яго з’яўляўся сабака. З дзясятак розных сабачых імён кшалту Рэкс, Пірат, Бобік, Жук, Шарык і г. д. Маглі быць выключэнні, але не экзатычныя. Дый суседзі звычайна добра ведалі суседскага сабаку.

Сабраліся неяк мужчыны каля вясковай крамы. Хведар і кажа, што паставіць усім па пляшцы віна, калі мужыкі адгадаюць, як завуць яго сабаку. Калі не – яны купляюць яму літр гарэлкі. Не ведаю, як доўга ішло тое гаданне, але мужыкі прайгралі. Калі яны здаліся, Хведар паклікаў сабаку: Чачэ. І той падбег. Хведар Лапейчын надта хацеў выйграць. Таму ён даў свайму сабаку такое незвычайнае імя, ды яшчэ змог захоўваць гэта ў сакрэце даволі працяглы час. А пачуў я гэтую гісторыю ад свайго таты.

## Браты

У нашай вёсцы ў 70-я гады мінулага стагоддзя жыла адна сямейка: маці, бацька і тры браты. Па-мясцоваму іх звалі Лосікамі. Аповед не пра тое, што было ў бацькі тры сыны, першы... і г.д. Не, яны ўсе вучыліся аднолькава, розумам ніхто не вылучаўся. Хлопцы выраслі, паціху адслужылі, вярнуліся

ў вёску. Бацька памёр. Браты не жаніліся, гаспадарку сякую-такую маці глядзела, а яны калі-нікалі хадзілі ў калгас. Аднаго разу па вёсцы пранеслася навіна: абрабавалі вясковую краму. Узялі гарэлку, каньяк, каўбасу, кансервы, цукеркі і печыва. Адным словам, выпіць і закусіць. Участковы неяк даволі хутка разнюхаў, куды трэба ісці, злодзеяў узялі да захаду сонца. Браты Лосікі яшчэ не паспелі і працверазець. Далі ім няшмат, браты хутка выйшлі. Не прайшло і сарака дзён, як рабаванне паўтарылася. Участковы адразу пайшоў па старым адрасе. Браты соладка спалі ў абдымку з бутэлькамі. Зноў турма, зноў выйшлі, зноў абрабавалі. Пасля трэцяга разу двое з братоў назад ужо не вярнуліся – недзе згінулі. А самы малодшы перажыў яшчэ маці і памёр ад п’янства. Сумная гісторыя. Не ведаю, чаму ўзгадалася. Але братоў неяк шкада.

## Гусі

Гусі выратавалі Рым. Хто ж не ведае гэтай паказкі. У нашай вёсцы, якая распасцерлася на высокім беразе рэчкі Пціч, людзі здаўна трымалі гусей. Улетку, размаляваныя фарбай, яны плавалі паўсюль. Гаспадыні пазначалі сваіх гадаванцаў колерам: хто чорным, хто зялёным, хто блакітным. Так і хадзілі гусі з гусянятамі, як малюнкі-абстракцыі – размаляваныя на спіне, грудзях і крылах.

Сказаць, што гусі безгаловыя, не скажаш. З раніцы іх гналі на рэчку. Затое напрыканцы дня яны самі прыходзілі дахаты. Пры гэтым кожны гусіны статак знаходзіў менавіта свой двор. Халоднымі восеньскімі днямі нашы гусі бадзяліся па палетку, на рэчку іх ніхто не ганяў. І калі яны хацелі есці, гусак падыходзіў да дзвярэй і цягаў за клямку. Яна барабаніла, гэта быў знак – хочам есці.

Я не любіў гусей. Недзе ў чатырох-пяцігадовым узросце гусі паздзекваліся з мяне. Я ішоў па двары, гусак накінуўся на мяне. Пасля гусі мяне прыціснулі да сцяны, гусак балюча шчыпаў сваёю дзюбаю жывот і грудзі, гусі зычна крычалі сваё звыклае “га-га”, а я плакаў. Я добра напалохаўся, ноччу прачынаўся і плакаў. Мяне вадзілі да суседкі бабулі Варвары выбіраць пярэпалах. Дапамагло.

Падлеткам пасябраваў з аднагодкам Сашам з Мазыра – ён кожнае лета кватараваў у бабулі. Не памятаю чаму, але мы з ім вырашылі паспрабаваць смажаную гусь: мабыць, меркавалі, што гэта будзе далікатэс. Дурні-падшыванцы не прыдумалі нічога лепшага, як украсці гусяня. Мы падцікавалі чараду, што пасвілася далей ад берага. Доўга не маглі схапіць хоць адно, гусі спрытна разбягаліся і не даваліся ў рукі. Але нейк нам удалося выхапіць падгадаванае гусяня з кагалу. Вялікім тупым нажом забілі гусяня, сяк-так абскублі, памылі, расклалі агонь і смажылі, нават без солі: проста забыліся пра яе. Шчыра кажучы, ужо і не памятаю смак таго гусяняці. Але з’елі. А вось сорам душыць кожны раз, як успамінаю тую гісторыю. Ды яшчэ шкада няшчаснае гусяня.

## Вясковыя вяселлі

Вяселлі адзначаюць ва ўсім свеце. Паўсюль свае традыцыі і правілы, свае законы і забабоны. Цяперашнім часам многія імкнуцца аглушыць свет размахам, багаццем, экстравагантнасцю, хоць нечым пераплюнуць папярэднікаў:

хто на верталёце лятае ці на паветраным шары, хто на дне мора распісваецца ці на феерверк пускае тысячы даляраў. Як сказалі б вясковыя людзі старэйшага пакалення: дурасць. І я з імі згодзен. Бо няма нічога лепшага за ціхае вясковае вяселле. У ім ёсць нешта цнатлівае, добрае, сугучнае з ладам і душою беларусаў. Узгадаем?

Я яшчэ заспеў тыя часы, калі на вёсках гулялі вяселлі адносна часта, было і такое, што адначасова браліся шлюбам дзве маладыя пары. Цяпер жа ў лепшым выпадку адно-два на год. Часцей вяселлі адзначаліся ў хаце ці ў вялікім самаробным будане ў двары. Каля хаты, дзе гулялася вяселле, з самага ранку круціліся падшыванцы, чакалі маладых. Заклапочаныя бацькі мітусіліся: то ў краму, то ў хату, то ў пограб. Госці, што ішлі на вяселле, пачуваліся вельмі важнымі персонамі, дыбалі з высока ўзнятай галавой.

Роспіс звычайна адбываўся ў вясковым клубе. Загадчык клуба, урачыста-ўзнёслы, апрануты па-святочнаму, чакаў маладых. Само дзейства нярэдка адбывалася пад мясцовы духавы аркестр, у якім некалі паспеў паўдзельнічаць і я – граў на трамбоне. Пасля афіцыйнай часткі загадчык клуба атрымліваў сваю напакаваную торбу ды зачыняўся ў пакоі. Праз нейкі час жонка са скандалам цягнула яго дахаты.

Дзятва чакала падарункаў у клубе. А дарослыя хлопцы аблізваліся ў чаканні сябрукоў: тыя з вяселля павінны былі вынеслі ім пачастунак. Дзеці сваё заўжды атрымлівалі. Па заканчэнні роспісу маладая, нібыта сейбіт, сыпала ў натоўп цукеркі. Аднаго разу мы заўважылі, як маладая пасля такога дзейства расплакалася. Следам забегаў усхваляваны бацька. Як высветлілася, на руцэ ў маладой былі тонкія карункавыя пальчаткі, і шлюбны пярсцёнак саслізнуў разам з цукеркамі. Яго знайшоў мой сябар Саша, за што і атрымаў цэлы пакунак цукерак. Мы ўсе яму зайдросцілі. А ў натоўпе завохкалі жанчыны: дрэнная прыкмета, не будуць жыць маладыя, развядуцца.

Пасля ішла п'янка-гулянка, падпітыя госці ішлі танчыць. У тыя гады на многіх вяселлях іграў на гармоніку самавучка Вася з суседняй вёскі Капцэвічы. Раз праслухаўшы мелодыю, ён лёгка падбіраў патрэбныя лады і выдаваў музыку. Васю паілі, ён не адмаўляўся. Удалы гарманіст ледзь не спіўся зусім, але яго забрала да сябе ў горад старэйшая сястра і тым уратавала.

У танцавальнай зале паўз сцены стаялі драўляныя крэслы. На іх сядзелі жанчыны, сталага і не вельмі ўзросту, апранутыя па-святочнаму, у хустках-шаляноўках. Яны ўважліва сачылі за колам танцораў, каб пасля абмеркаваць: хто і з кім танчыў, як сябе паводзіў, хто і да каго залішне прыціскаўся. Бойкі ў нас здараліся зрэдзь, да вялікай крыві не даходзіла. Назаўтра ішоў другі, а нярэдка і трэці дзень вяселля. Гляджу на сённяшнія ўрачыстасці, а бачу шчырае, па-дзіцячы непасрэднае вясковае вяселле. Хай бы такія й былі.

## Шчаслівы, як Антанінка

Гісторыя гэтая адбылася на пачатку 70-х мінулага стагоддзя. Жыла ў нашай вёсцы жанчына з прыгожым імя Антаніна. Маленькая, рухавая. І хатка ў яе была такая ж маленькая, мо пакойчыкі на паўтара. Радні ў Антаніны на вёсцы не было, адзін толькі сынок. Займела яго Антаніна ад нейкага шабашніка, які з'ехаў, але пакінуў жанчыне надзею на сваё сямейнае шчасце. Хлопчык Сяргей вырас высокім, стройным, чарнявым хлопцам, праўда, дужа задзірыстым. Але маці яго любіла і ганарылася сынам. Вярнуўся ён са

службы ў войску недзе ў 1973 годзе. На працу не спяшаўся, затое штовечар у вясковым клубе гуляў “пад мухай”, ледзьве што – лез у бойку.

Аднаго дня мой сябрук Саша прыбег узбуджаны, з круглымі вачыма і з навіною: у катлаване, што выкапалі пад прыбіральню для новай школы, ляжыць забіты Сяргей Антанінчын. Мы паімчаліся глядзець. Сяргей ляжаў на спіне з расплюшчанымі вачыма і падкурчанай пад сябе рукой. Да ямы цягнуўся след ад абцасаў – падобна было на тое, як бы нехта валок цела. Пакуль прыехала міліцыя, там перабывала ці не ўся вёска. Антаніну, якая страшна галасіла і ірвалася да сына, не пусцілі.

Наколькі памятаю, тады ўсё спісалі на няшчасны выпадак, асудзілі прараба – за тое, што не агарадзіў катлаван. У вёсцы доўга шапталіся пра тое здарэнне, называлі нават імёны забойцаў – быццам бы Сяргей у той вечар зноў з некім біўся. Антаніна хадзіла на могілкі кожны дзень, галасіла так, што было чуваць аж у вёсцы. Пасля жанчына з гора стала піць і хутка памерла. З таго часу на вёсцы на доўгі час засталася прымаўка “шчаслівы, як Антанінка”.

Час няўмольны. Даўно ўжо і знаку не засталося ад Антанінчынай хаты, не адшукаць і магілак “шчаслівай” Антаніны і яе сына. Засталіся яны толькі ў памяці тых вяскоўцаў, хто жыў на той час у вёсцы.

### Умелы кіроўца

З аповедаў таты. У канцы шасцідзясятых трактарыстам у калгасе працаваў Толік М. – невысокага росту, хударлявы і руды. Калі ён усміхаўся, на загарэлым рудым твары выдзяляліся белыя зубы. Яшчэ ён вызначаўся не надта добрым зрокам. І як займеў пасведчанне кіроўцы – вядома было, мабыць, толькі вузкаму колу людзей. Трэба адзначыць, што і кіроўца з яго быў не вельмі важны: пра гэта ведалі многія. Але ж неяк працаваў.

У той летні дзень на лавачцы на пыльнай вясковай вуліцы сядзелі мая бабуля Алена і яшчэ дзве жанчыны. Здалёк паказаўся трактар, але яны не звярнулі на гэта асаблівай увагі: трактар – даўно ўжо звыклы малюнак для вёскі. Але, наблізіўшыся да іх, трактар нечакана паехаў наўпрост на жанчын. Спалоханыя бабулі паспелі падскочыць на лаўку ды прыціснуцца да плота. На шчасце, трактарыст усё ж паспеў спыніць сваю машыну. Пасля адчыніліся дзверы, адтуль паказаўся не зусім цвярозы Толік. Матлянуўшы рудою чупрынаю, ён закрычаў:

– Чаго, старая брыда, пад колы лезеш?!

Збянтэжаныя і спалоханыя жанчыны ўтаропіліся ў Толіка, не ведаючы, што яму адказаць. А той ад’ехаў назад і пакаціў далей па вуліцы.

### Мянушкі

Мянушкі – з’ява распаўсюджаная з даўніх часін. Не буду паглыбляцца ў далёкае мінулае гэтай з’явы, бо нямала хто з гістарычных асоб, дзякуючы тым ці іншым абставінам, займеў новыя прозвішчы. Раскажу пра сваю вёску.

У нашай вёсцы мянушкі распаўсюдзіліся шырока, меў яе ці не кожны другі гаспадар. У кагосьці яна бяскрыўдная, у кагосьці абразлівая, некаторыя займелі сваю мянушку цалкам лагічна, а над паходжаннем іншай трэба доўга ламаць галаву. Так, напрыклад, жыў у нас вясковец з мянушкай Салага.

Гісторыя паходжання такога прозвішча простая: на пачатку 60-х мінулага стагоддзя ён вярнуўся з войска. І на некага з вяскоўцаў па-армейску сказаў “салага”. Для вёскі тых часоў слова з’яўлялася неалагізмам. Да Лёні Зуя і яго дзяцей мянушка прыляпілася пажыццёва. І калі чужынец шукаў у вёсцы Лёню Зуя, вясковец доўга не мог дапетрыць: хто гэта такі? А вось Лёню Салагу ведаў кожны.

А былі мянушкі, над паходжаннем якіх трэба добра падумаць. Магчыма, яны засталіся вяскоўцам ад продкаў, магчыма, сваім паходжаннем абавязаны нейкім экзатычным абставінам: Дух, Бобік, Чорт, Бодзя, Кецаль, Кватар, Мадэльшчык, Мадзяр, Мацапура, Паўгалодны, Дрэкала і нават Рыкша. Былі ў нашых вяскоўцаў мянушкі зразумелыя: Шавец, Грузін, Пячкур, Руды, Таёта, Босая Галава, Хітрык (прозвішча ў чалавека было Елізар), Тэлевізар, Кухар. У аднаго з вяскоўцаў была мянушка Сцяпан- механік. Па вядомай мне легендзе, недзе ў 60-х мінулага стагоддзя ён, пачуўшы гул самалёта ў небе, узняў галаву і сказаў: вось, ляціць, гад, а ў яго чацвёрты цыліндр стукае. Гэтага хапіла, каб стаць Механікам. Адзін вясковец меў мянушку Талашык (так у нас называлі маленькі трактарок Т-16), што вельмі не падабалася яго маці. І калі яна чула такое, то заўсёды казала “крыўдзіцелю”: каб у цябе ў грудзях талэхкала.

Пра аднаго з вяскоўцаў распавёў бацька. У пасляваенны час жыў чалавек, якому далі мянушку Певень. Каб узлаваць вяскоўца, трэба было зрабіць наступнае: паляпаць па баках рукамі, нібыта крыламі, а пасля гучна закрычаць: “певень, ку-ка-рэ-ку”. Вельмі ж абражала яго такая інсцэніроўка. Як толькі, хто рабіў гэтак, вясковец кідаўся ў бойку. Дзеці, ведаючы гісторыю, нярэдка дражнілі нябогу. Той ганяўся за падшыванцамі па ўсёй вёсцы – толькі дзе ж іх дагоніш. Аднойчы здарылася наступнае. Певень дапамагаў камусьці рамантаваць дах. Дзеці падышлі ды абразілі яго. Певень закруціўся на даху, каб разгледзець крыўдзіцеля, падскочыў і, не ўтрымаўшыся, паляцеў уніз. Тады ён добра пабіўся, зламаў некалькі рабрын, нейкі час нават не мог хадзіць.

Нямала мянушак мела паходжанне па назве вёсак – адтуль прыйшлі людзі да нас: ражановец (Ражанова), сакеравец (Сякерычы), касялянка (Кашэвічы), камаровец (Камаровічы) і г.д. Былі мянушкі, якія прыляпіліся ад імя аднаго з продкаў, які “праславіў” свой радавод. Жыло ў нашай вёсцы сямейства, якое злоўжывала алкаголем. Старэйшага з іх звалі Юркам. І пасля ўсё сямейства, дзеці і ўнукі, сталі Юркамі: “вунь Юрка пайшоў”, “Юрка набраўса”. Калі ж пайшлі вядомыя ўсім серыялы, то з’явіліся і новыя мянушкі. Так, адна маладая асоба атрымала новае імя – Хулія. Як яе зваць насамрэч, ніхто і не ўспамінае.

Вось так і жывуць у вёсцы – з мянушкамі ды прозвішчамі. У горадзе такога не пабачыш, там няма такой згуртаванасці, еднасці і вядомасці. Нярэдка людзі не ведаюць нават суседзяў па лесвічнай пляцоўцы. І тыя, хто з’ехаў з вёскі ў горад, назаўжды гублялі сваю адметнасць і мянушку. Яна заставалася толькі ў памяці вяскоўцаў. Дарэчы, сям’я аўтара гэтых радкоў адна з нямногіх у вёсцы не мела мянушкі. Дражнілі толькі з-за прозвішча Зізюк – зюзя-пузя, ці, яшчэ, панам Зюзем – гэтую мянушку падкінуў вядомы польскі серыял тых часоў. Ну, безумоўна, з крыўдзіцелямі біліся. Здаецца, з мянушкамі і з вёскаю той пары сыходзіць нешта вельмі дарагое і блізкае.

## Пра кіно

Пра савецкую ўладу, якая сканала больш за чвэрць стагоддзя таму, моладзь ведае з падручнікаў гісторыі, кніг ды фільмаў. А крывавага правадыра Сталіна пахавалі нашмат раней. Але і дагэтуль ён мае сваіх прыхільнікаў, яны ўсхваляюць тыя часы і свайго куміра. Для іх наступная гісторыя.

З аповедаў таты. На пачатку 50-х мінулага стагоддзя, яшчэ пры жыцці "вялікага правадыра ўсіх народаў", кіно ў вёску прывозіў і паказваў чалавек з прозвішчам Нябаба. Аднойчы ён прывёз нейкі патрыятычны фільм. Без Сталіна, канечне, такое кіно – не кіно. Але няшчасны кінамеханік нешта пераблытаў і няправільна паставіў плёнку. У выніку Сталін у яго хадзіў уніз галавою. Гледачы заціхлі. Апамятаўся Нябаба недзе хвілін праз дзесяць. Святло згасла. Праз нейкі час сеанс узнавіўся, усё пайшло так, як і павінна было быць. Здаецца, аніякага крыміналу. Але Нябаба ў вёсцы больш не з'явіўся. Аказваецца, яго затрымалі ўжо назаўтра, ён атрымаў рэальны тэрмін у пяць гадоў.

Вось бы тых, хто апраўдвае рэпрэсіі і вусатага ката, адправіць у тыя часы. Думаецца, яны б змянілі сваё меркаванне.

## Партыя – наш рулявы

З аповедаў таты. Недзе на пачатку 60-х мінулага стагоддзя ў калгасе ладзілі святочны канцэрт да чарговых угодкаў кастрычніцкай рэвалюцыі. Усе лепшыя сілы калгаса "Шлях да камунізму" мабілізавалі для падрыхтоўкі. Спяваць угаварылі і маладога калгаснага брыгадзіра К. Той спяваць асабліва і не ўмеў, але ж трэба. Перад канцэртам ён кульнуў для смеласці кілішак, пасля падумаў і дадаў яшчэ два. К. павінен быў спяваць песню пра партыю: "Партия – наш рулевой". Захмялелы К. зацягнуў песню, але далейшы тэкст вылецеў з галавы. Таму ён стаяў на сцэне і бясконца цягнуў "рулевой-ой-ой". Спыніць яго не змаглі, пад смех вяскоўцаў пацягнулі за шырму, але і там ён цягнуў сваё "ой-ой". Гэты нумар стаў самым запамінальным.

## Дзядзька Коля

З адзінаццаці-дванаццацігадовага ўзросту я самастойна пасвіў статак калгасных кароў у сто дваццаць галоў – тата працаваў калгасным пастухом. Замены тады ім не давалі, пастух працаваў без выхадных з вясны да позняй восені. Тата хварэў, да таго ж касавіца ды яшчэ якія гаспадарчыя справы. Таму разам са старэйшым братам, змяняючыся па чарзе, лета я праводзіў "круцячы каровам хвасты". Другі статак пасвіў дзядзька Коля па мянушцы Дрэкала – ходарлявы, з тонкімі нервовымі вуснамі і чырвоным узбуджаным тварам. Пра такіх кажуць "у гарачай вадзе купаны". Узрываўся імгненна, ледзьве што – сварыўся, лез у бойку, біўся да крыві, але адыходзіў таксама хутка.

Калі я стаў пасвіць, ён любіў са мною пагаварыць. А для гэтага патрабавалася пляшка чарніла. Ён купляў 0,7, наліваў і мне. У тыя часы я яшчэ не спазнаў смак моцных напояў, болей любіў салодкае. Таму стараўся ўсяляк абхітрыць дзядзьку Колю. Падносіў стакан да рота, а пасля казаў, што каровы палезлі ў шкоду, ці яшчэ што. Як толькі ён адварочваўся ў той бок, я выліваў чарніла, а сам рабіў выгляд, што выпіў. Пасля са смакам еў пячэнне, якое старэйшы таварыш прыносіў з віном. Дзядзька Коля

выпіваў, весялеў і доўга разважаў пра нейкія вясковыя праблемы, вучыў мяне, як трэба жыць.

Праз некалькі год адзін вясковец зараўнаваў жонку, а пасля з дурасці падпаліў сваю хату. Калі пажар заўважылі, збегліся людзі. Мужчыны кінуліся ратаваць хатняе лайно. Дзядзька Коля быў у ліку першых. У той момант, як ён цягнуў штосьці з хаты, узарваўся балон з газам. На дзядзьку Колю загарэлася адзенне, моцна апаліла спіну. Доўга лячыўся ў бальніцы, ледзь не памёр. Дапамог рэцэпт з гусінага тлушчу.

Ужо ў пенсійным узросце дзядзька Коля, у каторы раз пасварыўшыся з жонкаю, прыстрашыў, што павесіцца. Так і зрабіў. Жонка своечасова зайшла ў хлеў, падняла лямант, дзядзьку Колю адратавалі. Пасля быў паўтор, і зноў няўдалы.

Сёлета быў дома на Радаўніцу і заўважыў там дзядзьку Колю, якому цяпер пад восем дзясяткаў падабралася. Прыбіты гадамі, прыгорблены, але яшчэ, як кажуць, на сваіх нагах і пры памяці. Ён стаяў каля агароджы і сумна ўглядаўся ў магілу жонкі, якая ўжо некалькі год спачывае ў лепшым свеце.

## Зроблена на крыжы

Каля вёскі ёсць возера, якое злучаецца з рэчкаю, назву ж мае Млынавое. Як казалі сталыя людзі, некалі там стаяў млын. На беразе, каля возера, утульная і прасторная палянка, побач сасновы лес – цудоўнае месцейка. Улетку моладзь нярэдка бавіла там час. Гэтую гісторыю расказаў малодшы брат.

Недзе ў дзясятым класе сабраліся хлопцы каля возера. Не абышлося без алкагольных напояў. Крыху падпіўшы, хлопцы заспрачаліся наконт таго, хто смялейшы. Адзін з будучых выпускнікоў наважыўся даказаць, што ён смелы. Справа ў тым, што ў сасновым бары, метраў за трыста-чатырыста ад возера, знаходзяцца вясковыя могілкі. І хлапец у цемры адзін пайшоў на могілкі. Ніхто асабліва не верыў, што ён дойдзе. Але, калі той прывалок з могілак стары крыж, усе паверылі, што ён самы смелы. Крыж пакідаць не хацелі – вырашылі, што нядобра гэтак. Тады хтосьці падаў ідэю аднесці крыж на надворак дырэктара школы М., якога недалюблівалі. Сказана – зроблена. Са смехам, купка бэйбусаў аднесла крыж у вёску, а той, самы смелы, паставіў яго каля ўваходных дзвярэй.

Назаўтра па вёсцы бегала ўсхваляваная дырэктарава жонка і ўсім расказвала, што ім нехта “зрабіў” на крыжы, які падкінулі пад дзверы. Усе вохкалі, радзілі, што і як рабіць. Назаўтра дырэктарка з мужам паехалі ў суседнюю вёску да мясцовай знахаркі адрабляць насланнё. Здаецца, адрабілі.

## Гастранамічна-вясёлая гісторыя

Для нашай вялікай сям’і мама гатавала самае простае: супы, бульбу ці бліны. Не мела яна часу выштукоўваць нам прысмакі, а на крамныя пачастункі грошай мы не мелі. Цукар замяняў нам усе ласункі. Калі вельмі галодны – лусту хлеба ў ваду, пасля ў цукар – вось і цукерка. З дзяцінства нас прывучылі да салодкага, таму ўсе малочныя супы мы елі менавіта так – лыжкі па дзве цукару ў міску.

Ажаніўшыся, у дадатак да ўсяго я атрымаў цешчу-кухара – яна ўсё жыццё працавала па гэтай спецыяльнасці ў гарадской кавярні. Перабраўшыся з Хабараўска ў Наваградак, мы з жонкаю і дачкою сталі жыць у цесцевым доме. Неяк прыходжу дахаты і бачу, што цешча згатавала зацірку. Што ж, зацірка дык зацірка. На самой справе ў рондалі была нацыянальная беларуская страва, клёцкі з малаком. Але адкуль мне было ведаць, я ж у вочы ніколі не бачыў клёцак . За сталом цесць са смакам сёрбаў "зацірку". Я смела напоўніў міску, дадаў туды пару лыжак цукру. І заўважыў, як ў цесця акругліліся вочы. Няхай, падумаў сабе, ну, не любіць ён салодкае, а мне што? І як толькі стаў есці, зразумеў, што там бульба. Гэта быў перабор – бульба з цукрам. Што рабіць? Падняўшыся, агледзеўся і ўсю страву выплюхнуў у вядро з кормам для свіней. На што цесць выдаў гістарычную фразу:

– Во, цешча, кухар вышэйшага разраду, згатавала страву – зяць усё свінням выліў.

Смяяліся ўсе, акрамя цешчы.

## Эх вы, дзеўкі маладыя

Жыў у вёсцы Фёдар Н., трохі старэйшы за майго тату, аматар папляткарыць ды папрацаваць языком. У калгасе быў на паляводстве – у нас казалі "хадзіць у брыгаду", г.зн., куды пашлюць, але ніколі не імкнуўся каб рабіць. Пра такіх кажуць, як да чаркі – скоры, як да працы – хворы.

Дзядзька Федзя жыў амаль што па суседстве, таму доўгімі зімовымі вечарамі нярэдка заходзіў да нас, бавячы час разам з нашым татам рознымі вясковымі байкамі ды плёткамі. Асабліва любіў ён пагаварыць пра жанчын, пра іх вабноты, пра любошчы. А ўсё таму, што жонку меў нашмат старэйшую. Таму ён заглядаўся на больш маладзейшых, але волю рукам ды пачуццям не даваў, пабойваўся непатрэбных размоў і сямейных скандалаў.

Дзядзьку Федзі было за семдзесят, калі памерла жонка. Вось тады да яго пратапталі сцежку дзяўчаты гадоў трыццаці. Канечне, назваць іх дзяўчатамі можна хіба па гадах, бо насамрэч то былі мясцовыя аматаркі выпіўкі "на дурніцу" – мелася некалькі такіх у вёсцы і яе ваколіцах. Што там з імі рабіў дзядзька Федзя – невядома, але, як толькі ён атрымліваў пенсію, маладыя "сяброўкі" ішлі да яго ў хату і весела бавілі час. Што ж, кожнаму сваё.

Так доўжылася некалькі гадоў. А пасля вёску скаланула навіна: Фёдара Н. знайшлі забітым у сваёй хаце. Прычым ён быў паранены і хацеў выбегчы на вуліцу, а яму не далі, яшчэ й дабівалі на хаду. Таму ўся падлога ў хаце аж да сенцаў была залітая крывёю, а на сцяне засталіся крывавыя сляды ад рук састарэлага аматара маладых дзевак.

Забойцаў знайшлі хутка. Як высветлілася, у той дзень дзядзька Федзя чамусьці адмовіў дзеўкам у грашах і выпіўцы. Пасля пагроз тыя ўзяліся за справу. Вынік вядомы. Як казаў некалі класік, "о, времена, о, нравы". Толькі ці здзівіш каго гэтым і сёння, нават і тым, што забойцы – маладыя дзяўчаты?

## Што далей?

Працяг тэмы. Недзе ў чэрвені мінулага года патэлефанаваў брат з роднай вёскі: маладога нецвярозага хлопца забілі такія ж п’янтосы. Нядаўна зноў прыйшла падобная сумная навіна. І гэта толькі з маёй вёскі. А такія паведамленні пралятаюць у стужках навін ці не штодзень. Любы адэкватны міліцыянт-участковы пацвердзіць: п’яныя забойствы на бытавой глебе проста захліснулі нашу краіну. Афіцыёз на словах нібыта нешта робіць, а на самой справе нашай дзяржаве, здаецца, толькі выгадна, каб народ співаўся і далей. Такія не будуць задаваць пытанні пра выбары, дэмакратыю, паездкі за мяжу і г.д. Таму і павялічваецца колькасць пладова-ягаднага “бырла”, таму колькасць трагедый не памяншаецца. Шмат п’е моладзь – пагадзіцеся. А што мы? А мы ўсе (гэтак жа і я) маўчым – гэта не з намі, гэта не з нашымі блізкімі, гэта нейкія алкашы. Так, найвастрэйшая праблема калі-нікалі асвятляецца ў друку, нейкія захады быццам бы робяцца на заканадаўчым узроўні, але ўсё гэта ніякім чынам не ўплывае на цяжкае становішча. Лепшыя з моладзі з’язджаюць, а хто застаецца? Калі скончыцца алкагалізацыя краіны? Адсюль і пытанне: што з намі будзе далей? Што будзе далей з краінай?

Анатоль Брусевіч



...Мастацтва дзеля мастацтва,
Паскудства дзеля паскудства,
Вар'яцтва дзеля вар'яцтва...

# Слядамі Энея

### *РАЗМОВА З РАКОЙ*

Аднойчы мяне інстынкты паклікалі
На бераг ракі, і я прагукаў:
«Лавіся, рыбка малая, вялікая!»
І чую – адказ прашаптала рака:
«Сябра, надзею марную выкіні
На тое, што зможаш убачыць улоў.
Малую рыбку і рыбу вялікую
Не звабіць прынадай з адных толькі слоў».

### *СПАДКАЕМЦУ*

Спалі ўсе вершы і лягай на дно
Халодных словаў і гарачых вуснаў,
Жыві, нібыта ты памёр даўно
На алтары ўтаймаванай спакусы.

Забудзь усіх каханак і сяброў:
Яны – віно, дапітае да кроплі.
І жарсці змрок, і светлая любоў
Каштуюць як падраныя пантофлі.

Дык не марудзь, хутчэй аддай радкі –
Пачуццяў вязь на целе думак-вязняў –
Агню, які з'яднае на вякі
Мяне з табой як з дзейнікам выказнік.

* * *

Мастацтва дзеля мастацтва,
Паскудства дзеля паскудства,
Вар'яцтва дзеля вар'яцтва,
І глупства – так, дзеля глупства.
Малітва дзеля малітвы,
Вяртанне дзеля вяртання.
У бой ідзём дзеля бітвы,
Кахаем дзеля кахання.
І ў гэтым ёсць сэнс адметны,
Глыбокі, нават прыгожы!
Жывём, праўда, без мэты.
Яшчэ працуем для грошай.

### *САМОТА*

Самота. Мутны плёс душы –
Не бачна дна.
– Самота, любая, скажы,
Ці ты адна
Мяне чакала праз гады?
– Чакала? Не!
Са мною быў заўсёды ты
На самым дне.

### *ПОЛЬСКАЕ ЛЕТА*

Душнае польскае лета.
Бела-чырвоныя ночы.
Кнайпа. Дым цыгарэтны
Аж раз'ядае вочы.
Хоць не хачу, ды мушу
Выкінуць пару злотых –
Выпіць моцную «пушку»:
Сумна аж да дурноты.

## ТОСТ

Пустэча мая пустая,
Назад забяры мяне!
Мая слепата сляпая,
Перавярніся ў труне!
Дурнота мая дурная,
Налі мне яшчэ віна!
Паэзія, дарагая,
Я п’ю за цябе да дна!

## НЕ ЛЮБЛЮ

Мае вершы нібыта птушкі,
Што вяртаюцца час ад часу
Да сваіх разбураных гнёздаў
У счарнелы, засохлы сад.
Закрываю вочы і вушы,
Не хачу іх ні чуць, ні бачыць,
Не хачу сачыць за іх лётам –
Не люблю вяртання назад.

## ТРОЯ

Закацілася восень за хмары
І спадае халодным дажджом
На крывыя радкі тратуараў,
Рэдагуючы горада том.

Недалёкіх, пустых персанажаў,
Што змянілі душу на спакой,
Смела крэсліць, бо толькі адважны
Мае права застацца герой.

## СЛЯДАМІ ЭНЕЯ

Сцяжынай з’імшэлай,
Не чуючы ног,
Спускаюся ў пекла –
На самае дно.
Мой позірк здзічэлы
Шукае на дне
Прастораў пякельных
Спамін аб вясне.

* * *

Абрынецца ўсё і без нас.
У тартары знікнуць сусветы.
А покуль траянскі Пегас
Няхай нас імчыць з парапету
Уніз – дзе чакае экстаз
І зайздрасць цнатлівых паэтаў,
Сумлення іржавы каркас
І сіні дымок цыгарэты...

## *ЛІСТАПАД*

Па нотах апалай, счарнелай лістоты
Жалобныя песні спявае рака.
У жоўтых радках каламутнага броду
Задумлівай поўні адбіўся дукат.

Маўчыць наваколле. Пад брудам і слотай
Застылі кусты, як вянкі на кладах.
Спявае рака. Берагоў пазалота
Бяззубай усмешкай калышацца ў такт.

Леанід Левановіч



...людзі толькі дайшлі да той мяжы,
якую ўжо даўно перасягнулі пчолы...

# Пчаліная вернасць

***Апавяданне***

## *I*

Уладзіслаў Гаранскі з маленства не любіў пчол, дужа баяўся іх: яму было пяць гадоў, калі ўджаліла крылатая кузюрка, ды ў такое далікатнае месца – пад вока. Распух увесь твар, замест вока ўтварылася барвова-фіялетавая шчыліна. Праўда, праз пару дзён усё сышло, тварык з рабацiністым носам і васільковымі вачыма зноў свяціўся дзіцячай усмешкаю. Але страх застаўся – памяць цела цвёрда зафіксавала тое балючае здарэнне. А вось мядок малы Уладзік упадабаў. На жаль, ласавацца ім даводзілася рэдка, хіба што на Іллю – другога жніўня бацька купляў на кірмашы ў Саматэвічах літровы слоік бурштынава-залацістага мёду з прыбесядскіх красак, лясных малін ды ліпы. Здаралася, бацька раскашэльваўся на мядовы ласунак і на Змітра – восьмага лістапада. Гэты мёд колер

меў шакаладны – грэчка і верас давалі афарбоўку, а водар восеньскага мёду быў яшчэ мацнейшы, меў невыказна прыемны смак..

Пасля школы Уладзіслаў паступіў у Політэхнічны інстытут. У студэнцкія гады ездзіў з будаўнічым атрадам у Казахстан. Працавалі цяжка – будавалі вялізную ферму, але ўвечары ногі самі неслі хлопцаў у саўгасны клуб. Там і ўгледзеў Уладзіслаў сваю палавінку, прыгажуню-беларусачку Насцю. Яна вучылася ў Омску ў ветэрынарным інстытуце. Бацька, аграном, угаварыў малодшую дачку вучыцца, як гаварылі суседзі, на канавала. Дзяўчо з малых гадоў любіла ўсё жывое, таму і ўгаварыць яе было лёгка. Бацька Насці быў заўзятым пчаляром.

– Мы заўтра будзем падглядаць пчол. У цябе ж выхадны – нядзеля. Прыйдзі. Мо трохі дапаможаш. Пазнаёмішся з маёй мамай, з бацькам.

– Ой, Насцюха, дзякую за прапанову. Але я пчол баюся. У мяне алергія на іх...

– Ты будзеш адносіць мядовыя рамкі. Мы з бацькам будзем даставаць іх. Потым трэба круціць медагонку. Навучышся. Блізка ля пчол ты не будзеш. Прыходзь.

Насця адкінула за плечы тугую русявую касу з пушыстым хвосцікам на канцы – каса дужа падабалася Уладзіславу, – прыхінулася, потым абняла кавалера за шыю, моцна пацалавала. У студэнта, будучага інжынера, аж галава закружылася. Хіба можна адмовіць каханай прыгажуні! І Гаранскі прыйшоў.

Мёду накачалі багата. Сямён, Насцін бацька, паказаў, як трэба выкатваць рамкі: спачатку круціць павольна, рытмічна, каб соты не ламаліся, потым перавярнуць рамкі на другі бок, тут можна трохі хутчэй, бо соты ўжо лягчэйшыя, потым перавярнуць яшчэ раз, і тут ужо трэба выкачаць усё дарэшты.

– Увесь мёд не выкатаеш. Пчолы абсушаць. Галоўнае, не паламаць соты. Каб іх льга было выкарыстаць налета, – даводзіў пчаляр Сямён.

Потым селі за стол. Гаспадар naліў стограмовыя келіхі мёду.

– Ці піў калі мядок? – Уладзіслаў адмоўна пахітаў галавою.– Зараз пакаштуеш. Гэта лепей, чымся гарэлка. Насця, дай нам вады.

Насця хуценька прынесла поўныя шклянкі вады. Чокнуліся. Гаспадар прыгладзіў рудаватыя вусы, прымружыў вочы і пачаў з асалодай высмоктваць духмянае пітво.

Тое самае рабіў і Уладзіслаў, ловячы ўсмешлівы Насцін пагляд. Келіх ён асушыў, у горле быццам застраў дзяркучы салодкі камяк.

– Малайчына, Уладзіслаў. Быць табе пчаляром! А я думаю: на каго пакіну свой пчальнік. Насці адной не справіцца.– Сямён памаўчаў і задуменна мовіў далей:

– Хачу вярнуцца дамоў. На Беларусь. Сніцца родная вёска над Нёманам. Паблізу Стоўбцаў. Бацькава хата яшчэ стаіць. Падрамантуем. Збудую лазню. Пчальнік развяду. Я б хацеў, каб мы з табой парадніліся. У вёсцы мяне клікалі Сымонам. Можаш і ты зваць гэтак. Па-нашаму. Па-беларуску. Сваё не забываецца. Вандзе, – гаспадар кіўнуў на жонку, – таксама сніцца родная вёска.

– Анягож. Праўду кажаш, Сымонка, – падала голас Ванда, рослая, станістая кабета, над верхняй губой у яе цямнелася невялікая бародаўка. Валасы Ванда мела таксама густыя, але кароткія, нібы шапка была надзета на галаву. І ў гэтай шапцы сям-там прабіваліся белыя ніткі сівізны.

– Мама некалі, як і ты, баялася пчолак. А потым прывыкла, – пераконвала Гаранскага Насця. – І ты асвойтаешся. Яны палюбяць цябе.

– Пчолы пазнаюць гаспадара. Насця праўду кажа. Бывала, уядаў я жонку: ты родам з-пад Баранавічаў. А там пчаліны гадавальнік. Матак выводзяць. Грэх баяцца пчол, – усміхаўся задаволены гаспадар. – Мой дзед любіў казаць: хай цябе ўджаліць пчала. Таму, што яна лекуе. Ейны яд гаючы. Я кажу іначай: хай цябе пацалуе пчолка!

Святочны настрой панаваў у хаце, Насця спрытна спускала праз кран, на якім вісела сітца-фільтр, свежы духмяны мядок у слоікі. Гэтак жа нязмушана цякла гутарка. Сымон наліў у чаркі гарэліцы, падтрымала кампанію і гаспадыня. Гаранскі лавіў яе пільныя пагляды: яна глядзела на хлопца як на будучага зяця – рослы, плячысты, пекны, з доўгімі жылістымі рукамі, ён падабаўся ёй. Гаранскі не думаў, ці падабаецца ён будучай цешчы, яму карцела, каб хутчэй надышоў вечар, каб зноў зведаць смак Насціных вуснаў. Каб яго пацалавала не пчолка, а каханая дзяўчына.

І быў вечар. Былі гарачыя салодкія пацалункі, прызнанні ў каханні. Пад раніцу маладыя пакляліся быць вернымі да скону.

## *II*

Пасля інстытута Гаранскі застаўся ў Мінску. Уладакаваўся на трактарны завод. Згулялі вяселле. Насця перавялася на завочны факультэт Віцебскай ветэрынарнай вучэльні, пачала працаваць у прыгарадным калгасе. Цесць Сымон стрымаў слова: вярнуўся ў вёску над Нёманам. Збудаваў разам з Уладзіславам лазню, завёў і пчол.

Ішлі гады. Зімы змянялі вёсны, пасля гарачага лета на густых аблоках прылятала восень. У сям'і Гаранскіх нарадзіліся два хлапчукі. Гаранскі любіў сыноў, але праца забірала ўсё болей часу, бо ён ужо быў не шараговым інжынерам, які выйшаў за прахадную і ўсё забыў, можна выпіць у кавярні піўка з сябрукамі, пагаварыць пра жыццё-быццё. А жыццё толькі пачыналася, усё яшчэ наперадзе. Яго павышалі на службе: працаваў майстрам, намеснікам начальніка цэха, а потым і начальнікам. Клопатаў усё болела, аўтарытэт, павага, зарплата і прагрэсіўкі таксама раслі. А вось часу вольнага было вобмаль, Насця бурчала, што ім няма калі наведаць састарэлых бацькоў. І пчол памагчы дагледзець. Гаранскі цярпліва слухаў жонку і ехаў на работу: план гарэў, ад яго рашэнняў залежаў дабрабыт вялікага калектыву.

І тут вясновай салаўінай ноччу выбухнуў Чарнобыль. Родная вёска над Бесяддзю апынулася ў радыеактыўнай зоне, жыхароў адсялілі. Бацькі пражылі на новым месцы нядоўга. І толькі на Радаўніцу на сваіх "Жыгулях" Гаранскі ездзіў на радзіму. Мёртвая вёска зарастала чорным палыном ды крапівою. Сэрца сціскалася ад болю. Мусіць, тады і ўтварыўся на ім першы рубец.

А праз пяць гадоў у Белавежскай пушчы тры "зубры" спляжылі вялікую краіну. Гаранскі разумеў, што гэта наспявала, нібы скула, якая павінна лопнуць. Самы вялікі балючы цвік у дамавіну СССР увагнаў выбух чарнобыльскага рэактара. Завод пачало ліхаманіць. Пастаўшчыкі не выконвалі дагаворы. Новыя трактары запоўнілі ўвесь заводскі двор, ніхто іх не купляў. Доўгімі бяссоннымі начамі Гаранскі спрабаваў зразумець, чаму так адбылося. Засынаў пад раніцу, дый то мусіў кульнуць не адну

чарку. Усё часцей шчымела за грудзінаю, нібы ў сэрцы засела стрэмка. Аднойчы пасля планёркі ён страціў прытомнасць, упаў у сваім кабінеце. На шчасце, зайшла сакратарка, выклікала “хуткую”. Завезлі ў рэанімацыю. Вярнулі да жыцця пасля абшырнага інфаркту.

З высокай, адказнай пасадай давялося развітацца, далі пенсію па інваліднасці. Крыўдна было на душы: яшчэ няма паўсотні, а ты ўжо інвалід, супраць ветру не можаш ісці – задыхаешся, трэба класці пад язык валідол. У Насці ўсё часцей прарывалася: “Казала я табе. Не сядзі суткамі на заводзе. Выйшаў за прахадную і атрасайся ад заводскіх клопатаў. Пра сям’ю думай. Пра жонку. Дык ты ж не паслухаўся... Дзеці выраслі. Пайшлі на свой хлеб. Нам бы толькі жыць цяпер...” Ён пачынаў пярэчыць, што іначай працаваць не мог, разгараўся скандал, даводзілася смактаць валідол або нітрагліцэрын, Насця кусала сябе за язык, змаўкала, дрыжачаю рукою капала ў чарачку карвалол. Яна працавала ў школе, выкладала батаніку ды заалогію, шчыравала на прышкольным участку – была галоўным садоўнікам і кветкаводам, і пасля ўрокаў падоўгу заставалася ў школе. Уладзіслаў сядзеў адзін – сам-насам са сваімі хваробамі, а іх назбіраўся цэлы букет: арытмія, пачатковая стадыя цукровага дыябету, павышаны ціск – так званая гіпертэнзія. Знаёмы доктар аднойчы сказаў:

– Сэрца лечаць не таблеткі. Сэрца лечыць жыццё. Трэба мяняць рытм жыцця. Кідай, браце, горад. Перабірайся ў вёску. На прыроду. Чыстае паветра, умераныя фізічныя нагрузкі. Мудры Гіпакрат некалі казаў: доктар лечыць, а прырода вылечвае... І далей ад тэлевізара і канапы. Ты ж гаварыў, што твой цесць – пчаляр. Самы здаровы занятак – даглядаць пчол. І жонка не будзе крыўдзіцца, – гарэзліва падміргнуў доктар. – Праверана: калі мужчына вечар праседзеў каля тэлевізара, жонка яму не патрэбная. Скандалы ў сям’і калі пачынаюцца? Калі жонка разводзіць ногі, а мужык разводзіць рукі, – усміхаўся задаволены жартам доктар. – Не глядзі серыялаў. Як толькі жонка да тэліка, выходзь на шпацыр. Яна нацешыцца чужым каханнем і захочацца свайго. А тут – асечка... А як твой цесць маецца?

– Цесць пайшоў у лепшы свет. Пражыў восемдзесят восем...

– Во, я ж пра гэта і кажу. Пчалярства – найлепшы занятак. І не адкладвай. Акрыяеш. І будзеш доўга жыць. Толькі не надрывайся. Не хапайся капаць зямлю. У вёсцы шмат цяжкай працы. На пуп не бяры.

Насця паставілася з насцярогай да пераезду ў яе родную вёску, не хацела адпускаць аднаго, і працу кідаць не выпадала – яшчэ тры гады да пенсіі. Сыны не пярэчылі, старэйшы , Ігар, абяцаўся часцей наведваць, у чым бацька дужа сумняваўся: праца ў кампутарнай фірме, малая дачушка, жонка – пястуха-гараджанка моцна трымаюць яго. Малодшы, Аляксей, яшчэ халасцякаваў, дзяўчаты яго зусім не цікавілі, вакол круціліся сябрукі, начамі сядзеў з навушнікамі – фанат кампутарных гульняў. Вучобу ў інстытуце закінуў, адкуль яго вытурылі,

– Я ўмею рамантаваць кампутары. На хлеб заўсёды зараблю. Дыплом зараз нічога не дае. Гэта не пры савецкай уладзе, – такі ў яго быў адказ, калі бацька нагадваў пра інстытут, раіў паступіць на платнае аддзяленне, гатовы быў дапамагаць.

Аднойчы Аляксей прыйшоў дамоў дужа раззлаваны.

– Ну, бацька, упхнуў ты мяне ў гадзюшнік. Абрыдла ўсё. Ненавіджу...

– Каго ты ненавідзіш? Што здарылася?– стараючыся быць спакойным, спытаў Гаранскі.

– Ненавіджу кожны свой крок, як іду на работу. Ненавіджу прахадную. Мурло начальніка цэха...

Так гаварыў сын пра цэх, якому Гаранскі аддаў амаль трыццаць гадоў жыцця. Ён адчуў, як закіпае ўсё ўнутры, шуміць увушшу. Ён укінуў у рот таблетку нітрагліцэрыну, хуценька апрануўся і пайшоў на вуліцу: нібы ўцякаў ад чарговага інфаркту.

Сын да позняй ночы сядзеў з навушнікамі перад кампутарам, перагукваўся з хаўруснікамі, нічога і нікога іншага для яго не існавала., “Чаму лепшыя дасягненні чалавечага розуму ідуць на шкоду чалавеку?” – пакутліва думаў Гаранскі.

## III

Ранняй вясною Уладзіслаў Гаранскі прыехаў у вёску. Была субота, таму прыехала і Насця – усё-ткі гэта была яе родная вёска, яе ўсе тут ведалі, тут жылі яе дзядзькі і цёткі. Вяскоўцы паважалі і Уладзіслава, прымалі яго за вялікага начальніка. Дзень быў сонечны, светлы, а як сонца хавалася за хмарку, усхопліваўся дужа калючы вятрыска. Цалюткі дзень яны грэлі хату, бярозавымі дрывамі выпалілі ў грубцы, двойчы тапілі пліту, бо яна хутка награецца, праветрылі матрацы, прасціpáдлы, кухвайкі, гумовікі.

Сусед, дзядзька Змітрок, запрасіў на вячэру. Частаваліся вяндлінай, вэнджанай на ядлоўцы, кілбасамі пальцам пханымі. Вядома, і Гаранскія прыйшлі не з пустымі рукамі. Першую чарку Уладзіслаў кульнуць не адважыўся, толькі прыгубіла і Насця. Гэта не спадабалася Змітраку і ягонай Юзі, у ход пайшоў славуты беларускі прымус: у нашай хаце госці так сябе не паводзяць, вы нас не паважаеце, грэбуеце нашай гарэліцай. Запівайце бярозавікам – гэта вельмі здорава. Адступаць не было куды, давялося выпіць.

– Вы кажаце: запіваць бярозавікам здорава. А казахі кажуць так: пей смело водка. Вып’еш чаю, чай даёт осадка, – весела згадвала Насця жыццё на казахскай цаліне.

Гаранскі прыгадаў знаёмства з Насцяй, першы падгляд пчол. На душы пацяплела, падумалася, што ён тут акрыяе, набярэцца моцы, ён жа яшчэ не стары, жывуць людзі і пасля інфаркту. Між тым Змітрок прапанаваў выпіць за добрае суседства. Ну, як за гэта не выпіць?! Гаранскі са смакам кульнуў чарку, асушыў шклянку бярозавіку. Насця непрыкметна таўханула яго пад бок: надта распіўся, не забывайся...

На развітанне давялося кульнуць аглаблёвы келіх. Гаранскі адчуў незвычайны уздым, сэрца рытмічна тахкала за грудзінаю, ніякага болю не адчуваў. І ён, і Насця горача дзякавалі суседзям за гасціннасць, за шчырае частаванне:

– Ой, наелася ў вас, хоць расперажыся, – прызналася Насця.

– А помніш Гарпіну Савачкіну? – шырока заўсміхалася Юзя. – Як Савачка памёр, а дзеці разляцеліся, дык яна ўпадабала хадзіць па хатах. Гэткай халяўшчыцай зрабілася. Гарод зарос пустазеллем, а яна прыйдзе да каго...

– Пра яе казалі: майстрыха вераб’ям дулю паказваць... – уставіў свае тры грошыкі Змітрок.

– Было такое, – смяялася Юзя. – Дык вось, бryндала Гарпіна па хатах, цаляла, каб пад абед ці пад вячэру. Сядзе і будзе гаварыць нейкія плёткі. Ну, запрашаюць да стала... Прыпёрлася неяк да нас. А вечар быў калядны. Усяго ў нас было. Дык яна як натаўклася смашняціны, не можа здыхацца. Як ты кажаш, хоць распеpажыся. Гарпіна падперазалася туга, каб спадніца не спаўзала. А як расперазацца? Сорамна ж. Дык яна развязвае паясок і кажа: “Во, у мяне яшчэ матчын паясок. Яна была такая пралля і ткалля...” Мы са Змітраком пераглядваемся. Яна датумкала, што мы ўсё разумеем, хуценька падзякавала і выкулілася за парог. А мы доўга смяяліся...

Калі вярнуліся дамоў, Насця радасна ўсклікнула:

– Ой, і ў нас цёпленька стала!

Ад грубкі ішоў гэтакі цёплы, утульны хатні дух, якога няма і быць не можа ў гарадской кватэры, якая нагадвае каменную клетку, у каго большая, у каго меншая. Зусім іншая справа нагрэтая зімовым ці вясновым вечарам драўляная хата, бярвёны якой нібы памятаюць пошум лістоты, водар жывіцы гарачым ліпеньскім днём. У летнюю спёку хата дыхае мяккай прахалодай, а калі трашчаць маразы, бярвёны трымаюць цяпло.

Насця распранулася, прыхінулася да грубкі, далоні заклала за спіну. Гаранскі падышоў да жонкі, стаў побач. Галава лёгка кружылася, а на душы было светла і радасна, нават мільганула грэшная думка: сёння ў яго з Насцяй можа атрымацца тое, чаго даўно не было. Падумаў і здзівіўся: жонка павярнулася да яго, стала напроці, прыціснула да цёплай кафлі, маўляў, цяпер ты нікуды не ўцячэш, і пачала горача цалаваць, як у далёкія маладыя гады.

– Чула нядаўна жарт пра сучасных мужчын. Сяброўка расказала: “Пакладзеш мужыка знізу – задыхаецца. Пакладзеш збоку, дык ён, гад, тэлевізар глядзіць. Усцягнеш наверх. Уцякае...”

– Не, мая мілая, уцякаць я не збіраюся...

Дрыжачымі рукамі Гаранскі расшпільваў гузікі Насцінай кофты, падалося, што іх зашмат, нарэшце вось яна, яго радасць – цёплыя, яшчэ тугія жончыны грудзі. Як прыемна іх цалаваць, пяшчотна гладзіць, забыўшыся пра ўсё на свеце...

У тую ноч Гаранскія былі шчаслівыя, але ні Ён, ні Яна не маглі тады ведаць, якія выпрабаванні чакаюць іхні сямейны човен.

## IV

І пачаў пенсіянер Уладзіслаў Гаранскі гаспадарыць у вёсцы на беразе слаўнага Нёмана. Памалу капаў градкі, садзіў раннюю бульбу, раздабыў два вазы гною. Ён успамінаў сваё дзяцінства, юнацкія гады – умеў жа і касіць, і сячы дровы, адно за плугам хадзіць не давялося. Соткі чатыры пад бульбу ўзараў сусед Змітрок. Юзя і Гарпіна памаглі пасадзіць. З Насцяй пасадзілі градку цыбулі, часнаку, пасеялі некалькі радкоў кропу, салаты, морквы, шпінату.

– Хай усё будзе сваё, хоць патроху, – прыгаворвала Насця, корпаючыся ў агародзе. – Скарэй бы пенсія! Удваіх лацвей гаспадарыць.

Насця радавалася, што муж выглядае лепей: абветраны загарэлы твар, знікла сетка зморшчынак пад вачыма, быццам разгладзілася, і не сутуліцца, як раней, і на сэрца не жаліцца. Яе радавала і жаданне мужа завесці

пчол. Яна дапамагла пачысціць старыя вуллі, знутры вымыла палыновым настоем, у пчалярскай краме купіла вашчыны, накатала некалькі рамак. У куфэрку, куды не змаглі залезці мышы, знайшліся даволі светлыя старыя соты.

– Бацька быў акуратыст. Пчолы любяць чысціню, парадак. Чуць не дагледзеў – і сям'і няма. Давай падскочым у Навасёлкі. Там жыве дзядзька Павел. І бацька, і дзед ягоныя былі пчалярамі, – прапанавала Насця. – У яго, мабыць, калод семдзясят.

– А ён што, у калодах пчолы трымае? – здзівіўся Гаранскі.

– Ды не. Гэтак у нас кажуць. А вуллі дзядзька называе каранікамі. А меданосныя расліны – мёдадайнымі.

– Гэта правільна. Расліны даюць мёд, а пчолы яго носяць.

Перш чым ісці да дзядзькі, Гаранскі вырашыў разабрацца, што ёсць у ягонай гаспадарцы, што пакінуў у спадчыну цесць. Ён ужо ведаў: вузкі каранік – гэта домік сістэмы Лявіцкага з вертыкальнымі рамкамі, у даведніках пішуць, што пчолы хутка будуюць у іх соты: у генах закладзена – выцягнутае дупло дрэва, але даводзіцца абразаць лісты вашчыны, такія вуллі – гэта дзевятнаццатае стагоддзе. Сучасныя домікі сістэмы Дадана, самыя сучасныя – шматкорпусныя вуллі. Меліся і яны, стаялі пад паветкаю, цесць надзейна схаваў іх ад ветру і дажджу. Ад Насці, з прачытанага Гаранскі ведаў асаблівасці догляду пчол у шматкорпусных вуллях, на іх працуе ўся Еўропа і Амерыка. Аднойчы яму давялося праехаць аўтобусам ад Брэста да Варшавы, яго здзівіла, што спрэс пчолы вяліся толькі ў шматкорпусных вуллях, стаялі карлікавыя яблыні – ніводнага высознага дрэва ў садах не ўбачыў. Малайцы палякі, падумаў Гаранскі, сябе забяспечваюць мёдам і садавінай і нам прадаюць.

Але Насця раіла не чапаць шматкорпусныя вуллі.

– У іх цяжка даглядаць пчол. Бацьку я памагала. Сутнасць вось у чым. Зімуюць у двух карпусах. К вясне збіраюцца ў верхнім. Трэба ніжні дастаць, – ахвотна тлумачыла Насця, каб паказаць сваю дасведчанасць. – Значыць, трэба зняць верхні. А ён цяжкі. А як сям'я падужэе, трэба наверх паставіць другі корпус. Матка перабярэцца ў яго. Пачне чарыць. У ніжні корпус яна не пойдзе – там халадней. Ёй жа, як і чалавеку, трэба трыццаць шэсць градусаў, каб адкладваць яечкі. Значыць, можна карпусы памяняць месцамі: верхні паставіць уніз, а той наверх. А як сям'я памацнее, ставяць трэці корпус. Мядовік. У бацькі ўсё атрымлівалася. Бывала, адкрываем мядовік. Дастаем дзесяць рамак мёду. Яшчэ бярэм колькі рамак з другога корпуса. Два пуды мядку адразу.

Гаранскі слухаў, дзівіўся. І цвёрда вырашыў: буду сяліць пчол у шматкорпусныя вуллі. Праўда, дзядзька Павел астудзіў яго імпэт: маўляў, сценкі карпусоў тонкія, пчолы кепска зімуюць, вясною слаба набіраюць сілу, сам ён ад іх адмовіўся. У Польшчы цяплей, таму і жывуць пчолы ў такіх доміках. Гаранскі зразумеў: дзядзька, як і большасць пчаляроў сталага ўзросту, кансерватар. На развітанне папрасіў прадаць яму пару раёў.

– Раі будуць у чэрвені. Лепшы варыянт – набыць у пчалярскай краме пчолапакет, – параіў Павел.– Яны павінны ўжо быць. Сям'я хутка развіваецца, толькі паспявай падстаўляць рамкі. Да восені могуць даць пуд мёду.

Разам з жонкай Гаранскі паехаў у пчалярскую краму, папярэдне

зрабіў заказ, і вось патэлефанавалі: можаце купіць пчол. На ўсё жыццё яму ўрэзаўся ў памяць вечар, калі з Насцяй пасялялі пчол у каранік. Дрыжачымі рукамі ён павыцягваў цвічкі з кардоннай накрыўкі, адкрыў скрыначку і ўбачыў чатыры рамкі, на якіх шчыльна сядзелі крылатыя насякомыя. На яго патыхнула цёплым мядовым водарам. Пчолы звінелі, трапяталі крылцамі, радаваліся свежаму паветру, промням вечаровага сонца. Насця абкурыла іх дымком з кураля, потым асцярожна пераставіла рамкі ў вулей: на дзвюх была запячатаная чэра – так называў расплод бацька. Пасялілі пчол у вулей-ляжак, які ўмяшчае ажно дваццаць рамак. На гэтым настаяла Насця: пчолы любяць прасторныя домікі. Падставілі новай сямейцы дзве рамкі вашчыны, каб адцягвалі соты.

Тут я вымушаны звярнуцца да майго цярплівага, зацікаўленага чытача. Разумею, што, можа, занадта падрабязна апісваю жыццё пчалінай сям'і, але мой герой зрабіўся апантаным пчаляром, пра колішні страх пчаліных укусаў нават не ўспамінаў, ён падужэў, сэрца рэдка турбавала. Для Уладзіслава Гаранскага адкрыўся новы свет – таямнічы, нязведаны лад жыцця крылатых сяброўак чалавека. Яго цікавіла ўсё, ён сам пачаў майстраваць кармушкі, рамкі, домікі. Мне і далей давядзецца апісваць даволі падрабязна, так бы мовіць, тэхналогію пчалярства, каб учынкі маіх герояў былі зразумелыя.

Штовечар Гаранскі сядаў на лавачку каля вулея і назіраў, як пчолы вярталіся дамоў. Некаторыя садзіліся на прылётную дошку, каб перадыхнуць, было відаць, як хутка пульсуе паласатае брушка – мусіць, здалёку прынесла салодкую даніну. Здарожылася, але доўга адпачываць не выпадае, хуценька лезла ў лётку. Яна здасць нектар прыёмшчыцам, а сама зноў у палёт, пакуль сцямнее, яшчэ зробіць рэйс. У лесе цвітуць маліны, яны даюць нектар з раніцы да вечара, гэта не грэчка, якая выдзяляе мядок толькі даабеддзя.

Дні праз тры Гаранскі распаліў курэль, зазірнуў у вулей і здзівіўся: дзве рамкі вашчыны жаўцелі новымі сотамі. Добра, што Насця накатала некалькі рамак, ён падставіў яшчэ дзве – хай будуюць крылатыя архітэктары, яны працуюць талакой, і ніводная не можа памыліцца. Хіба гэта не дзіва!? Чалавека трэба вучыць будаваць сабе жытло, дый не кожнага навучыш. А ўсё жывое ўмее гэта рабіць ад нараджэння.

З гэтай пчалінай сямейкі пачалося новае жыццё Уладзіслава Гаранскага. Здаралася, джалілі пчолы, замест дымедролу, які рэкамендуюць медыкі, ён выпіваў чарку гарэлкі, заядаў лыжкаю мёду. Пухліна хутка спадала, а з цягам часу арганізм прывык, на колішнюю алергію пчаляр зусім забыўся.

## *V*

У той год яму далі пуцёўку ў санаторый на пачатку сакавіка. Ехаў ён туды з неахвотай: баяўся, што рэзка пацяплее, і ён спозніцца на аблёт пчол. А вясновы аблёт – вялікая радасць для пчаляра. Яшчэ ляжыць пацямнелы снег, а прыпячэ сонейка, і з вулляў з радасным гулам і звонам вылятаюць пчолы. Сям'я перазімавала, дачакалася вясны, значыць, наперадзе вялікае жыццё, поўнае шчырай працы і ў лесе, і ў полі, і ў доміку. А зараз трэба шукаць кусты арэшніку – ён ужо развесіў султаны кветак і дае першы пылок. Зальюць яго пчолы мёдам, утворыцца хлебіна – наедак для маладняка.

Па сіле аблёту пчаляр адразу вызначае здароўе сямейкі, вырашае, каму падставіць мядовую рамку, каму даць сіропу, каб наталіць смагу. Ён сам у гэты дзень маладзее, ён рады, што добра падрыхтаваў пчальнік да зімоўкі, вытрымаў экзамен на сталасць. А зімоўка памылак не даруе, здараецца, што гінуць дзясяткі, нават сотні пчаліных сем'яў.

Тое, чаго баяўся Гаранскі, здарылася. Ён прабыў дні тры ў санаторыі, як раптам рэзка пацяплела, пчолы вылецелі без гаспадара. Перад ад'ездам ён пашырыў лёткі, пачысціў ад падмору, дзве сям'і праслухоўваліся слаба. Пасля аблёту маткі пачалі актыўна чарыць – адкладваць яечкі, едакоў з кожным днём прыбаўлялася, на ўсіх мядку не хапіла. Патэлефанаваў Насці, каб з'ездзіла ў вёску ў выхадныя, але ў яе не атрымалася. Калі не званіў дамоў, Насці не было. Зразумеў, жонка дома не стыкаецца. Няўжо зноў пайшла ў загул ці шчыруе на прышкольным участку... Не заглядвалі ў вёску і сыны. Карацей, дзве пчаліныя сям'і не дачакаліся гаспадара. У белым караніку пад нумарам восем было шмат расплоду, мёду заставалася зусім мала, падставіў ім мядовую рамку, а як пацяплела, згатаваў сіропу, заліў у кармушку. Неўзабаве распушыла жоўтыя, быццам бурштынавыя, коцікі вярба. Калі крылатая працаўніца несла поўныя кошычкі пылку, дык здавалася, што яна едзе ў домік на жоўтых колах.

Дружна працавала і сямейка ў зялёным вулеі пад нумарам сем. Але неяк на пачатку траўня Гаранскі пачуў басавіты гул трутня, які пашыўся ў каранік. Зарана трутні паявіліся, пэўна, будуць мяняць матку, падумаў Гаранскі, трэба паглядзець, што ў іх робіцца. Калі зазірнуў у гняздо, дык вельмі здзівіўся: дзве рамкі былі спрэс усеяны трутневым расплодам. Няўжо матка зрабілася трутоўкай? Дастаў соты з трутнямі, бо калі ўсе выйдуць, дык з'ядуць увесь мёд. Да таго ж іх не трэба столькі, нават калі пчолы надумаюцца раіцца, або ціха зменяць матку, маладой нявесце хопіць паўтузіна самцоў, а тут іх некалькі сотняў. Паставіў рамкі ля дзвярэй куратніка, чубаткі спачатку прыглядаліся, а потым дружна выбралі ўсе лічынкі трутняў. Памочніцы!

У суседнім караніку была іншая бяда: матка перастала чарыць. Яна мелася, калі чысціў ад падмору, бачыў яе. Праўда, уразіла, што яна дужа павольна рухалася па сотах, нібы сонная. І брушка не было доўгім, быццам яна ўсохла за зіму. Летась у гэтым караніку развілася магутная сямейка, багата дала мёду. Можа, акрыяе, набярэцца моцы?

Гаранскі ўзяў гэтыя два каранікі пад кантроль. Засеву не было, а трутневы расплод множыўся. Трэба нешта рабіць. Паслаў метраў за пяць ад караніка дзяружку пад яблыняй, вынес рамкі з пчоламі, вытрас усіх крылатых сяброўак: пчолы вернуцца дамоў, а таўсматая трутоўка ўзляцець не зможа. Зрабіў усё старанна, засталіся на дзяружцы тры нежывыя пчолкі, на трутоўку не падобныя. Можа, згубілася, калі пераносіў рамкі? “Ва ўсякім разе, я зрабіў, што мог, – суцешыў сябе гаспадар. – Трэба купляць плодную, элітную матку. Пра селекцыю нельга забываць”.

Патэлефанаваў у пчалярскую краму.

– Матачкі ёсць. Карпацкай пароды. Дзвесце тысяч рублёў, – адказаў пявучы жаночы галасок.

І вось ён у краме. Бландзіністая, сінявокая, сталага веку кабета падала скрыначку, падобную на маленькі пенал, у адным канцы запас мядку, у другім шчыліна для вентыляцыі. Пад светлай кінаплёнкай мітусіліся сем-восем пчолак, і сярод іх споўдала пчаліная каралева з

белай меткаю на плечуках, з доўгім брушкам, у якім закладзены дзясяткі тысяч будучых дзетак. З вулея плодная матка можа вылятаць толькі з роем, каб перабрацца на новае месца жыхарства. Гаранскі папрасіў яшчэ пару клетачак, каб можна было параўнаць, урэшце выбраў дзвюх матак і паімчаў у вёску.

Падсадзіць у вулей новую матку – справа далёка няпростая. Ёсць шмат спосабаў гэтай працэдуры. Раней Гаранскі перасяляў матку ў драцяную клетачку, ніжнюю яе адтуліну закрываў шматком вашчыны. Калі пчолы прымалі новую гаспадыню, яны прагрызалі вашчыну і выпускалі палонніцу. Яна і сама магла выбрацца, калі адчувала, што пчолы не спрабуюць яе джаліць, ласкава клічуць да сябе. Але спярша трэ было адшукаць старую матку, а яна, усохлая, мала адрозніваецца ад вялікай пчалы. Вядома, што найгорш прымаюць новую гаспадыню сем'і, дзе гаспадарылі трутоўкі.

Знайсці старую матку Гаранскаму не ўдалося. Вырашыў прымяніць новы спосаб, пра які нядаўна вычытаў у часопісе "Беларускі пчаляр". Ён даволі просты: з крайняй рамкі страсаеш пчол у вулеі, можна – з дзвюх, пчолы кідаюцца ва ўсе бакі, па прынцыпе: ратуйся хто як можа, пырскаеш на іх настоем мелісы, чабору, пырскаеш на новую матку і на яе світу і пускаеш у вірлівы клубок. Гаранскі ўсё гэтак і зрабіў. Назаўтра ў першай сям'і пчолы дружна высыпалі на аблёт. Значыць, маладая гаспадыня закамандавала: "Няма чаго сядзець! Чарвы няма, грэць, паіць і карміць няма каго. Усім на працу!"

А дзе ж старая матка? Агледзеў прылётную дошку ажно да самай травы – ніякіх трупаў. Затое далей угледзеў жывы трапяткі камячок пчол у траве, разгарнуў іх лыжкаю, а там – матка! Інстынктыўна падчапіў яе лыжкаю і апусціў каля лёткі, яна хуценька пашылася ў домік.

– Ёпэрэсэтэ! – спахапіўся Гаранскі. – Гэта ж старая, нямоглая матка, якую новая гаспадыня выгнала.

А цяпер яны зноў могуць сысціся ў паядынку, маладая заўсёды перамагае – такі закон прыроды, але ў пчол могуць узнікнуць сепаратысцкія настроі, незадаволенасць новай гаспадыняй, якая ўсіх гоніць у поле, а яны прывыклі даглядаць любімую матачку-бабусю, ласавацца мядком з рамак, што падстаўляў гаспадар. Гаранскі хуценька распаліў курэль, адкінуў вечка вулея, пачаў шукаць, так бы мовіць, сваю памылку, агледзеў кожную рамку, знайшоў новую гаспадыню – з белай кропкай на плечуках, а старой не было.

Пчаляр лаяў сябе апошнімі словамі: яе ён мог зрабіць гэткае глупства! Вырашыў нікому пра гэта не прагаварыцца. Асабліва – ні слова жонцы. Яна ўсё часцей ушчувае: скарачай пчальнік, мне няма калі табе памагаць. Гаранскі ўжо і не разлічваў на яе дапамогу, разумеў, што ў школе спраў хапае, але было крыўдна чуць гэтыя словы ад пчалярскай дачкі, прафесіянала, бо ветэрынары лечаць пчол. Была і крыўда іншая...

## *VI*

Аднойчы патэлефанавала на мабільнік незнаёмая жанчына: ты сядзіш у вёсцы, нібы крот, а твая жоначка гуляе з дырэктарам. Таму ён і трымае яе. Маладых скарачае... Сам разумееш, за якія заслугі. Знайшоў незаменны кадр. А яна ніякі не педагог. І адукацыі не мае. Прыязджай і разбірайся...

Кароткія гудкі мабільніка, нібы аўтаматныя стрэлы, білі ў вушы. Адразу адчуў, як заныла сэрца. Ён акурат быў на пчальніку, стомлена апусціўся на лавачку, пазіраў на прылётную дошку, на якую цяжка садзіліся крылатыя ягоныя сяброўкі, а думкі былі далёка. Дырэктара школы ён ведаў: здаровы, крутаплечы мужык з квадратным нізкалобым тварам, грыўка валасоў набок – тыповы твар баксёра, а не педагога-інтэлектуала. Падазрэнні ў Гаранскага былі, бо дужа шмат часу Насця бавіла ў школе. І ўсё ж верыць не хацелася: мо гэта правакацыя? Мо настаўніца, якую дырэктар скараціў, вырашыла адпомсціць. Адкуль даведалася нумар мабільніка? І што яму рабіць? Ехаць у горад, разбірацца, як параіла ананімшчыца...

Усю ноч пракачаўся без сну. Перад вачыма паўставалі карціны жыцця з Насцяй, знаёмства ў Казахстане, першы падгляд пчол, нараджэнне дзяцей. Мільгануў успамін пра яго кароткі раман з маладой удавой, прафсаюзным лідарам цэха. І першы крок зрабіла яна – запрасіла дамоў на кубачак кавы, маўляў, сынок у бабулі, яна вольная... Раман быў гарачым, але неўзабаве яна выйшла замуж за бізнесоўца, звольнілася з працы. Болей службовых раманаў у Гаранскага не было. Зведаўшы тую ўдавіцу, ён пераканаўся, што з жонкай яму лепей. А муж прафсаюзнай актывісткі, мусіць, зрабіўся алкашом праз яе: адчуваў, што не любіць яна яго, гуляе направа і налева, перажываў, з гора пачаў піць...

“Не, я не сап’юся. Позна ўжо. Дый матор не дазволіць, але сёння трэба выпіць”, – думаў Гаранскі. Пасля поўначы ён выпіў карвалолу, мусіць, малавата наліў вады, пітво аказалася дужа горкім. Сон не браў, думкі віравалі ў галаве: “А можа, паехаць? Цвёрда, рашуча сказаць: кідай школу, не магу быць адзін. Не, не паеду. І нічога не буду казаць...”

А трэцяй гадзіне ночы вырашыў лячыцца іншым спосабам: наліў чарку настойкі на таполевых пупышках. Настойка прыемна пахла, але падалася, як ніколі, горкай, запіў курыным яйкам. Адчуў, як прыемная цеплыня, па словах знаёмага святара – “благодать разлилась по всей периферии телесной”... Гаранскі ўсміхнуўся, захацелася замацаваць супакаенне – кульнуў келіх гарэлкі, настоенай па пылку, які прыносяць пчолы. Некалі дзядзька Павел даводзіў яму, што гэта самы лепшы напой для мужыка, бо тады ён будзе нястомным у каханні... І ў гэтым Гаранскі неўзабаве пераканаўся, бо жонка дзівілася і радавалася, што муж акрыяў, набраўся моцы.

Прачнуўся ён позна. У вокны свяціла зыркае чэрвеньскае сонца, у куратніку залівіста кукарэкаў певень – прасіў выпусціць на волю. Хоцькі-няхоцькі гаспадар падняўся, патупаў па гаспадарцы. У галаве памалу пасвятлела. Як прыгрэла сонца, зазірнуў у вулей, дзе гаспадарыла трутоўка, і ўзрадаваўся: пчолы ўзяліся адцягваць соты на рамцы вашчыны: два тыдні яна стаяла нечапанай, а тут пачалі будаваць – значыць, прынялі новую гаспадыню. Настрой у пчаляра палепшаў. Агледзеў уважліва прылётную дошку вулея, куды ён вярнуў назад старую гаспадыню, трупаў пчол не было, адно бяleліся парушынкі воску – значыць, ідзе рамонт сотаў, – дакладная прыкмета, што пчолы прынялі элітную матку.

Пасля паўдня з гэтага караніка зноў высыпалі пчолы на аблёт, а на траве ля караніка зноў утварыўся пчаліны клубок. Усярэдзіне яго была старая каралева. Уладзіслаў злавіў яе ў карабок запалак, паклаў на верандзе. Карабок запалак стаўся дамавінаю для старой, спрацаванай пчалінай маткі. Раніцай гаспадар пахаваў яе недалёка ад вулея на градцы кабачкоў. Не стрымаўся і сказаў развітальнае слова:

– Дзякуй табе, Матачка. Летась ты выгадавала самую вялікую сямейку, твае дзеці прынеслі болей за ўсіх мёду. І цябе яны вельмі любілі і шанавалі.

Раней такога развітання са старой маткай Гаранскі не бачыў ніколі, пчаліная вернасць вельмі здзівіла. Ён добра ведаў, што пчолы часцяком самі мяняюць старых матак – законы прыроды бязлітасныя: адслужыў сваё, адпрацаваў, твая песенька спета. Успомніў, як дзядзька Павел дзяліўся досведам: якім чынам прымусіць сям'ю памяняць гаспадыню, і каб зрабілі пчолы гэта не рэзка, каб яна да апошніх дзён працавала. Трэба адшукаць матку і акуратна падкараціць ёй адну заднюю ножку. Яна цалкам працаздольная, але кульгавую Каралеву світа вырашыць памяняць; пчолы закладуць матачнік, выведзецца маладая гаспадыня, пры сустрэчы са старой маткай, маладая абавязкова перамагае.

Але чаму світа не дапусціла, каб маладая элітная Гаспадыня знішчыла старую? Яна ўцякала з вулея, і світа яе ахоўвала? Гэта пярэчыла законам Матухны Прыроды. Штогод Гаранскі назіраў, як напрыканцы ліпеня, калі бяднее ўзятак, сям'я ўжо не плануе раіцца, пчолы бязлітасна выкідваюць трутняў, якіх да гэтага кармілі, паілі, выпускалі на прагулку, каб самцы былі ў спартыўнай форме. А тут за каўнер, і прэч з доміка! І варта назад не пускае. Пацешна назіраць, як дзве пчолкі цягнуць таўсматага трутня, а ён упіраецца, сярдзіта гудзе. Яго балюча джаляць, напрыканцы даюць выспятка, і былы прыгажун скочваецца з прылётнай дошкі, кружляе над вуллем, куды не можа вярнуцца. Пэўна, разважае, небарака, чаму не даюць яму ні паесці мядку, ні папіць вады, а схуднелага, затурканага, бязлітасна выкідваюць прэч.

Жыццё ў вёсцы, пчалярскія клопаты, гаючы мядок, укусы пчол, духмянае паветра з вулея паспрыялі: Гаранскі акрыяў, падужэў, рэдка адчуваў боль у сэрцы, хіба перад поўняй. Не раз успамінаў мудрае выказванне Гіпакрата; доктар лекуе, а Прырода вылечвае.

## *VII*

Аднойчы прыехала з горада ўсхваляваная Насця. Уладзіслаў распытаў пра гарадскія навіны, пра сыноў, пра здароўе ўнукаў.

– Усё добра. Толькі Алёша сядзіць па-дурному начамі. Уранні не можа падняцца. Бывае, позніцца на працу. Кажу: "Схадзі ў кіно, у тэатр. З дзяўчынай пазнаёмся". Адмахваецца: "Не трэба мне дзяўчаты..." Няўжо будзе геем? Цяпер усё болей пра гэта і гавораць. І пішуць. І гей-парады праходзяць у Амерыцы. Раней пра гэта ніхто не казаў...

– Было яно і раней. Гэта лічылася калецтвам. Анамалія. Гэта ж ненармальна, калі цягне мужыка да мужыка, а не да жанчыны. Як наканавана прыродай.

– Знаёмая маёй сяброўкі жыве ў Амерыцы. Дык сын яе ажаніўся са сталым мужчынам. Бізнесоўцам. Пабраліся законным шлюбам. Аказваецца, у гэтым штаце аднаполыя шлюбы легалізаваныя. Што гэта робіцца? – у голасе Насці было і здзіўленне, і асуджэнне, і грэблівасць, і трывога за лёс малодшага сына.

Думаў пра гэта і Гаранскі; чаму ў сына няма сябровак, а толькі сябры? Таму ён слухаў жонку вельмі ўважліва, і падзяляў яе клопат, бо лёс малодшага сына даўно трывожыў яго.

– Сяброўка, ну, маёй знаёмай, кажа, што ў Амерыцы такіх людзей усё большае. Прадукты вінаваты. У мужчын паяўляецца шмат жаночых

гармонаў, ці як іх там завуць... Кормяць людзей абы чым. Ганяюцца за прыбыткам. Ой, забалбаталася. А ў мяне ж ёсць іншая навіна. Галоўная. І ведаеш якая? – пільна зірнула на яго жонка.

– Адкуль мне ведаць? Скажаш, дык буду ведаць, – усміхнуўся Уладзіслаў, а сам унутрана насцярожыўся: што там, у горадзе, здарылася?

– Дык вось, мой даражэнькі, кідаю школу. Хопіць! Пяць гадоў пасля пенсіі адрабіла. Годзе. Хай маладыя шчыруюць. І на ўроках, і на прышкольным участку.

Гаранскага гэтая вестка вельмі ўзрадавала: нарэшце ён будзе не адзін, будуць жыць разам, будзе каму і суп зварыць, і ў пчалярскіх справах будзе памочніца, умелая, дасведчаная. Ён за апошнія гады навучыўся абыходзіцца без жонкі, але добра разумеў, што сам сябе не абдымеш. Цяпер у яго пачнецца іншае жыццё. У галаве прамільгнуў успамін пра ананімны званок: мусіць, тая жанчына патэлефанавала ці напісала і нейкаму начальству, таму яго жоначка і пакінула працу. А мо яна вырашыла сама? Гаранскаму карцела, каб гэта было менавіта гэтак. Насця раптам спытала:

– Табе не званіла адна жанчына? Па мабільніку?

Гаранскі аж здрыгануўся ад нечаканасці, але сказаў абыякавым тонам:

– Не, не званіла. А чаму яна павінна была званіць?

– Мая сяброўка, Марыя Іосіфаўна, яна ў пачатковых класах працуе. Неяк пытаецца, ці можна патэлефанаваць твайму мужу? Ці мае ён мабільнік? Яе сяброўка хоча завесці пчол. У мужа стэнакардыя. Ён пенсіянер, перабраўся ў вёску, як і ты. Ёй патрэбна кансультацыя. Дык не званіла, кажаш? Мо патэлефануе, дык расталкуй усё, як трэба.

Цяпер Гаранскі зразумеў, адкуль ананімшчыца дазналася, як яму патэлефанаваць. Пра той званок ён успомніў цяпер з усмешкаю. Як добра, што не паімчаўся ў горад, не рабіў скандалаў, не вінаваціў жонку ў здрадзе. А мо яе, здрады, і не было? Могуць жа і людзі быць вернымі. Менавіта за гэтую якасць Гаранскі вельмі паважаў сваіх падначаленых, якія любілі завод, на якім працавалі. Менавіта таму яго асабліва ўразіла вернасць пчол сваёй старэнькай, нямоглай матцы.

Вернасць насуперак законам прыроды. І чаму пчолы ратавалі яе? Адказу на гэтае пытанне Гаранскі не знаходзіў. Гэта заставалася таямніцай пчалінай сям'і. Апошнім часам пчолы задалі гаспадарам новую загадку. Крылатыя працаўніцы вельмі добра арыентуюцца – куды б ні заляцелі ў пошуках нектару, заўсёды кіруюцца дамоў, ніколі не заляцяць у чужы вулей, бо там варта не прапусціць. Але пчаляры ЗША б'юць трывогу: пчолы вылятаюць і назад не вяртаюцца, гінуць дзясяткі сем'яў, а то і цалкам пчальнікі. Навукоўцы вінавацяць высокачастотныя випраменьванні ад мабільнай сувязі, інтэрнэт, маўляў, гэта парушае пчаліныя лакатары. Іншыя сцвярджаюць: невядомы вірус прымушае пчол пакідаць свае абжытыя кватэры.

## VIII

Але вернемся да нашага героя. Жывучы ў вёсцы, ён добра засвоіў асноўны закон прыроды: бацькі гадуюць сваіх дзяцей, аберагаюць, гатовыя ахвяраваць жыццём, а дзеці, як вырастуць, бацькоў забываюць, затое дзяцей любяць, кормяць, лашчаць – вяртаюць прыродзе тое, што далі ім бацькі. Яго ўразіла, як квактуха кінулася на сабаку Рэкса, калі той наблізіўся да куранят. А месяцы праз два дзівіўся – квактуха дзяўбла падрослых дзяцей, адганяла ад сябе, быццам, гаварыла: ідзіце на свой хлеб, я вас падгадавала.

Усяму навучыла. Сама кважтуха рэзка змяніла паводзіны: перастала квахтаць, круцілася ля пеўніка, той зразумеў, чаго яна хоча – адтаптаў, праз пару дзён яна пачала несці яйкі. А праз два месяцы зноў заквахтала. Гаранскі венікам зганяў яе з гнязда, яна ўпарта садзілася зноў – інстынкт працягу роду быў мацнейшы за страх.

І яшчэ адзін закон прыроды зразумеў Гаранскі: бацькі не ведаюць сваіх унукаў, а ўнукі не пазнаюць дзядоў і бабулек. Любіць, гадаваць унукаў – гэта прывілея толькі чалавека. Гэткай памяццю не валодае акрамя чалавека ніводная жывая істота.

Апошнім часам ён шмат чытаў пра жыццё пчол – ад цесця засталіся спецыяльныя часопісы, даведнікі. І ўсё болей узнікала пытанняў; дзяцінства пчалы праходзіць у запячатанай ячэйцы, выхаваннем і адукацыяй яе ніхто не займаецца. А малеча як толькі нарадзілася, падмацавалася мядком: па краях рамкі месцяцца мядовыя ячэйкі, стараецца грэць расплод. Затым корміць матку матачным малачком, прыбірае вулей, аберагае ад злодзеяў домік, прымае нектар, пылок. На восьмы-дзявяты дзень залозы маладых асобін пачынаюць выпрацоўваць воск. Маладняк становіцца будаўніком. Адцягваюць соты пчолы гуртам, талакою, і ніводная не схібіць, не памыліцца, і ніхто іх не прымушае. Апошнія дзесяць-пятнаццаць дзён пчолы становяцца рабочымі, лётаюць у поле па салодкую даніну. У іх няма святаў і забаваў. Працуюць без перадыху, пакуль не зносяцца крылы. Тады пчолка ўпадзе на зямлю і засне вечным сном. Памерці стараюцца за межамі вулея, каб не даваць лішняга клопату сямейнікам – спраўляць хаўтуры, займацца вынасам цела.

Чым болей Гаранскі чытаў, назіраў, тым болей пытанняў нараджалася. Чаму пчолы ўсё ведаюць? Калі збіраць пылок, калі нектар? Хто імі кіруе? У іх няма ні парламента, ні законаў, ні судоў. Вядома, што ўсім кіруе світа і матка. Менавіта матка вырашае, калі і колькі неаплодненых яечак адкладваць для вырошчвання трутняў. Калі выганяць іх, дармаедаў, бо скарачаецца мёдазбор..

Уразіла Гаранскага кніга бельгійскага пісьменніка Марыса Метэрлінка “Жыццё пчол”. Аўтар сцвярджае, што людзі толькі дайшлі да той мяжы, якую ўжо даўно перасягнулі пчолы. Далей ён разважае: як стварэнні, пазбаўленыя дару мовы і думкі, змаглі ўладкаваць сваё жыццё намнога разумней, чымся людзі. І зрабілі гэта раней за чалавека. Раздумваў Гаранскі пра інтымнае жыццё пчол. “Матрыярхат” паспяхова вырашыў праблемы сэксу. За свой век матка толькі адзін раз любоўю займаецца з трутнямі. Ёй трэба некалькі кавалераў, і кожны з іх расплочваецца за каханне жыццём: той, хто дагоніць у палёце маладую каралеву і аддасць ёй сваю гарачую сілу, падае долу і гіне, як сапраўдны рыцар. Рабочыя пчолы ставяцца да сэксу абыякава. Вось так у вуллі вырашаецца праблема “ложку”, любові, рэўнасці, здрады, вернасці... Спрадвечныя балючыя клопаты чалавечага грамадства.

Пра здарэнне з пчалінай маткай Гаранскі расказаў жонцы, асабліва акцэнтаваў, як пчолы баранілі старую гаспадыню, пра іхнюю вернасць насуперак прыродзе. Насця слухала ўважліва, крадком пільна зірнула на яго. Гаранскі ўнутрана сцяўся: значыць, гульнула жоначка, зноў абудзіўся чарвяк сумневу, але ўнутраны голас запярэчыў: “Не выдумляй глупства. Прыехала жонка, хоча быць з табой, уважліва слухае цябе. Радуйся!”

Тым часам Насця задуменна мовіла:

– Праўда, цікавая гісторыя. Хаця падобнае я бачыла. Загадкі, Уладзічак, тут няма. Пчолы звычайна выганяюць старую матку, і яна гіне ў атачэнні

вернай світы... А ведаеш, пра што я падумала? Як ты змяніўся за апошнія гады! І змяніўся ў лепшы бок..

– У які бок? Правы ці левы? – рагатнуў Уладзіслаў.

Яму хацелася сказаць, што і яна змянілася, не толькі пастарэла, набрала лішнюю вагу... Насамрэч жонка – гэта шчасце, якое з гадамі паўнее. Заместа русявай касы – густая шапка кароткіх валасоў. Такая прычоска некалі была ў яе маці, але Насця яго апярэдзіла:

– Ты не смейся. Гэта праўда. Ты ж быў такі заўзяты тэхнар. Успомні, як дняваў і начаваў на заводзе. А цяпер ты пчаляр, і бульбавод, і садоўнік. І курыны бог. Помніш, у Ялце, на пляжы, мы шукалі каменьчыкі з дзіркай. Курыны бог яны зваліся... Ты памаладзеў, падужэў... Зрабіўся гэткім гаспадарлівым. Пчолы далі табе сілу, здароўе. Трэба нам пашыраць пчальнік. Удваіх лацвей. Як гэтыя сем'і развіваюцца? Ну, з куплёнымі маткамі?

– Вельмі добра. Расплоду многа. Уцяпліў домікі. Ночы халодныя. У наступныя выходныя, калі надвор'е дазволіць, можна браць мёд. У шматкорпусных моцныя сем'і. Мядовікі – поўныя. Па дзесяць рамак мёду. Ды ў другім корпусе, у ніжнім, пару рамак можна ўзяць. Вось табе два пуды мёду ад сям'і. А ў жніўні яшчэ можа быць столькі.

Пра шматкорпусныя вуллі Уладзіслаў сказаў знарок, бо некалі дзядзька Павел дый Насця пераконвалі яго, каб не сяліў у іх пчол, бо аднаму цяжка даглядаць. А ён налаўчыўся з імі абыходзіцца. Інжынер Гаранскі даўно зразумеў: пазванок чалавека, увогуле спіна – гэта не дамкрат і не пад'ёмны кран. Калі трэ было падняць корпус з рамкамі і пчоламі, прысядаў, паціху падымаў домік і ставіў на патрэбнае месца. Неяк Насця пачала яго дакараць, што падымае гэткі цяжар, ён расказаў, якім чынам усё робіць.

– Ты – сапраўдны інжынер, – пахваліла жонка. – І заўзяты пчаляр. Я сумнявалася, што ты справішся з пчалмі (менавіта: пчалмі). Ты ж баяўся некалі іх як чорт ладана. Малайчына!

– Я сам дзіўлюся. Цяпер не мыслю свайго жыцця без пчол. І вельмі люблю сваіх крылатых сяброваk. У Бібліі сказана: чалавек ад пчалы ўсялякай мудрасці навучаецца. Гэта сказана даўно. А вось як піша пра пчаляра сучасны паэт Іван Ярашэвіч:

Ён – адналюб,
Як той у полі дуб...
Здрады не знае.
Толькі пчолак кахае.

Насця адвяла вочы, нічога не сказала пра верш, пра шматкорпусныя вуллі, пра багаты ўзятак. Перавяла размову на гарадскія навіны.

– У Мінску адкрыўся мядовы кірмаш. Мо чуў? Па радыё рэкламуюць. Могуць мёд даставіць дамоў бясплатна. Бо людзі не бяруць. Не вераць рэкламе. Мёд фальшывы... Як добра, што ты не закіс на таблетках. Пчолы цябе вылечылі. Мой бацька часта казаў: мёд – гэта слёзы зямлі. Гаючыя слёзы. І яшчэ ён гаварыў: пчала можа абысціся без чалавека, а чалавек без пчалы не пражыве. Ні ў садзе, ні ў агародзе, ні ў лесе не будзе плоду. Пустэча... Бацька таксама казаў: пчала – сімвал вернасці, смеласці, яна ніколі не адступае. Нават смерці не баіцца – бароніць гняздо, ахвяруючы жыццём... Дарэчы, на кірмаш з'ездзі. Можам – разам. Гэта цікава.

– Я быў летась. Мяне шмат што здзівіла. Ну, напісана: мёд з лясной маліны. А маліна толькі зацвіла. Дык гэтаму ж мёду трэба спецы два ці тры тыдні. Значыць, араматызатар з водарам малін. Так што людзі раскусілі

кірмашовых дзялкоў. Мне тэлефанавалі некалькі нашых пастаянных кліентаў. Чакаюць мядку...

– У мяне яшчэ ёсць навіна. Алёша сустракаецца з дзяўчынкай. Яна працуе на іхнім заводзе. Вучыцца завочна на геаграфічным факультэце. Хоча стаць гідам. Ангельскую штудзіруе... Кажа, што яе дзед быў пчаляром. Алёша збіраецца прыехаць з ёй у вёску.

– Хай прыязджае. Пазнаёмімся... Можа, памочніцай будзе. Гідэса-пчалярка.

Жонка абняла яго, пацалавала.

– Ты рады, што мы будзем разам?

– Канечне, рады. Нават вельмі рады, – прыхінуў да сябе жонку Уладзіслаў.

– Я разумею... Табе было кепска аднаму. І ўдзень адзін, і ноччу... Сам сябе не абдымеш, – ласкавым голасам мовіла Насця. – Удвох нам будзе добра. І жыць. і гаспадарыць. І каля пчол хадзіць...

Гэтыя словы для Гаранскага былі як мёдам па душы. І хацелася верыць: яны будуць жыць доўга і шчасліва. І будуць верныя адно аднаму да скону, як пчолы верныя роднаму вулею, сваёй Матцы і сваёй сямейцы.

*2015, 2019*

Вадзім Корань



...Ляціць чарада,
і не ведае, што вада –
для жураўлікаў
з белай
паперы –
смерць...

# Леташні сон

* * *

Горад душыць,
сціскае шыю пальцамі-вежамі.
Бетонная пушча
з неакрэсленымі межамі.
Абяцаюць нябесную манну
рэкламныя шыльды і акцыі,
але кожны замураваны
ў метро паміж станцыямі
або да горада прыкаваны
і вымушаны глядзець,
як капаюць катлаваны –
і няма куды дзецца.
Людзі ў шматлікіх мурашніках
жывуць паводле сваіх законаў:
раптоўна становіцца страшна –
за смехам не пачуць стогнаў,

за песнямі не пачуць плачу,
за сцэнамі не адчуць болю.
Чарговая ахвяра прызначана –
і хай аб літасці моліць,
трымаючы ў далонях сэрца,
такое трапяткое і шчырае...
Я на ютубе, здаецца,
бачыў гэта ў жывым эфіры
і плакаў слязьмі гарачымі,
сапраўднымі, непадступнымі.
А горад з усмешкай дзіцячаю
даводзіў, што я – наступны.

***АВЕЛЬ***

Авель стаіць на прыпынку пустым,
чакаючы аўтобус, каб ехаць дадому.
Ён не стаў прарокам, не стаў святым,
а жыве сабе ціха невядомы нікому.

Мае аднапакаёвую кватэру,
ездзіць на працу, з працы вяртаецца.
Нядаўна паставіў сталёвыя дзверы
і новыя шпалеры паклеіць збіраецца.

Кінуў курыць месяц таму,
у інтэрнэце сочыць за навінамі.
Ён любіць снежную халодную зіму,
напоўненую агнямі і кал显днымі ўспамінамі.

Біблію прачытаў разоў сто,
робячы ў ёй адмысловыя закладкі,
але так і не ўцяміў чаму і за што
ён быў забіты на самым пачатку.

Ды ён зусім не пакрыўджаны, не,
хіба што здзіўлены трохі і расчараваны,
малюе чорна-белую абстракцыю на сцяне
пад музыку “The Doors”, “Pink Floyd” і “Nirvana”.

Потым спрабуе сном забыцца,
гэта яму ўдаецца, бывае.
І тысячагоддзямі Авелю сніцца,
што Каін зноў і зноў яго забівае,

і рагоча, рагоча, нібы ашалелы,
потым плача, закрыўшы твар рукамі...
Авель прахопліваецца: яму зразумела,
што ён...

Гэта ён,
ён сам сабе –
Каін...

### ***САМОТА***

Самота ўвайшла ў пакой, завесіла фіранкі,
запаліла свечку, адклала запалкі ўбок,
села ў крэсла – і ў ім прасядзіць да ранку,
гледзячы сумнымі вачыма ў паўзмрок.

Самота заўсёды была самотнай –
была сярод іншых адзінай парванай струной,
ёй заўжды выпадала лічба няцотная
і сяброўская ўсмешка была незнаёмая ёй.

Свет самоты стаў даўно ўжо брудна-шэрым,
і якія б не адбываліся ў свеце падзеі –
наўкол шэрыя вокны, столь і шпалеры,
і толькі свечка дае агеньчык надзеі.

Самота зусім не плача і даўно не смяецца,
размаўляе з люстэркам, каб не забыцца на мову.
Самота дыханнем самотным спрабуе сагрэцца –
дзверы замкнула і свечку запальвае новую...

Самота прывыкла, змірылася – такі ўжо лёс.
Тэлефонны званок цішыню разарваў на шматкі.
Самота слухаўку зняла і сказала нясмела: “Алё...”
“Я, відаць, памыліўся... Прабачце...” – кароткія гудкі...

* * *

***I.***

Задуха.
Сонца спякотна смяецца.
Муха
знясілена б’ецца
ў вітраж каляровы
і выйсце знайсці спадзяецца.

То ў чырвонае стукнецца,
то ў сіняе,
то ў залатое –
не мае спакою.
Спрабуе мушыным цельцам
разбіць каляровае шкельца.
Дарэмна,
напэўна.
Такое не раз было.
Ды не паддаецца
і не паддасца
шкло...

***II.***

Фаўст сядзіць за сталом,
жураўлікаў робячы з белай паперы,
каб выпусціць іх у неба
праз дзверы,
а самому
застацца
сярод
вітражоў
назаўсёды.
Зняволеным ці свабодным?

***III.***

Ляціць між аблокаў
белая чарада.
На дождж збіраецца,
пачынае грымець.
Ляціць чарада,
і не ведае, што вада –
для жураўлікаў
з белай
паперы –
смерць...

***IV.***

Дождж ідзе трэці дзень.
Фаўст сядзіць за сталом.
Даўно прачытаную кнігу
павольна гартае.
У шыбу не грукне ніхто
папяровым крылом,
бо ніколі ніхто не вяртаўся.
А Фаўст чакае...

* * *

Мы сядзім на халодных прыступках
і проста маўчым.
Па аскепках неба,
выпадкова разбітага намі,
цені чыесьці (мо, нашы?)
кульгаюць у далячынь,
і так ціха наўкол,
як бывае ў замкнёным храме.

Мы стараліся самі,
але не дарэшты памерлі
і маем магчымасць
дамаляваць, дапісаць, даспяваць,
быць пяшчотнымі, вясёлымі,
смелымі, вернымі,
а яшчэ – шчаслівымі і свабоднымі
стаць.

Гуляць пад дажджом,
вершы пісаць смешныя,
можа, не надта зграбныя,
але шчырыя,
у якіх ты ўсмешлівая
і смешны я,
а яшчэ – сіняе неба
з белымі аблачынамі.

Ліхтары сустракаюць
чарговую звыклую раніцу.
Мы сядзім на халодных прыступках
між шэрых сценаў.
Засталося сціпла ўсміхацца,
пакуль распаўзаюцца
метастазы радасці
па блакітных сцяжынках венаў.

* * *

Не выказаць словамі
нават напалову
душу.
Грахі, як жорны,
ад сажы чорны,
нашу.

Стаю са свечкай,
душа ж засмечана,
хоць і вечная,
але знявечаная,
моцна збітая,
даўно ссівелая,
слязьмі аблітая,
збалелая.
Убранне белае,
даўно не белае,
а чорна-шэрае
і абгарэлае.

Стаю са свечкай.
Наўкол нікога.
І я заплакаў,
і клічу Бога:

– А мой ты Божа,
а мой ты Божа,
я адзін
на раздарожжы...

А Ён стаіць каля мяне
і выцірае
слёзы
мне...

* * *

Светлыя сны – гэта не назаўжды,
знікнуць у небе, як восеньскі дым,
і я застануся адзін, я пачаў прывыкаць.

Час не спыніўся, наперад ідзе,
і я больш не ведаю, хто я і дзе,
а цябе навучылі ляцець і цябе не ўтрымаць.

Сёння сняжыць. Я за ноч пасівеў.
І не сказаў усяго, што хацеў.
А крылаў няма, каб ляцець за табой наўздагон.

Светлыя сны – гэта не назаўжды,
знікнуць у небе, як восеньскі дым,
але ўсяго й засталося, што леташні сон.

*2019*

дэбют

Ксенія Крывецкая



...яна не ведае нікога, і ніхто не ведае яе – выдатныя ўмовы пачаць жыццё спачатку...

# Нарадзіцца нанова

***Апавяданне***

Каця прыехала здалёк. Нават уявіць сабе не магла, як усё складзецца ў гэтым горадзе, але душа квітнела надзеямі. Новая краіна, іншыя людзі, яна не ведае нікога, і ніхто не ведае яе – выдатныя ўмовы пачаць жыццё спачатку.

Летняя раніца гуляла сонечнымі прамянямі на асфальтавых дарожках, у кронах дрэў, перабіраючы кожны лісточак, на люстраной паверхні шыбаў, на дахах і дзесьці высока ў небе, сярод надзей і аблокаў. Раніца кінула ліпавую кветку Каці ў валасы, падарыла яшчэ адну вяснянку і тут жа зазвінела дзіцячым смехам дзесьці ў суседнім двары.

Праходзячы міма рынка, Каця выхапіла поглядам россыпы вялікіх сакавітых ягад на прылаўках – чарэшня. Купіла. Ну, што зараз з ёй рабіць? Памыць няма дзе, у сумачку не пакладзеш, а вось так з ягадамі ў бледназялёным пакуначку ісці на сумоўе неяк не па правілах,

не фармат. А можа, у маёй краіне так прынята? Там, наогул, усе ходзяць на галовах. Ай, пайду: жыццё, сонца, радасць (хай і ў рынкавым пакеце) не павінны кланяцца кімсьці створаным умоўнасцям.

Каця адкрыла дзверы школы, і ў нос адразу ўдарыў пах фарбы – пах вакацый. Увосень дзеці вернуцца ў знаёмую, крыху пастарэлую школу, што ў чарговы раз схавала свае маршчыны пад новым слоем фарбы. Дзеці ператворацца ў школьнікаў, але не адразу, а паступова. І будуць прыладжваць свае летнія целы і гарэзныя думкі да гэтых нерухомых партаў, да гэтых нязручных крэслаў, да гэтых бляклых сценаў, да гэтых сумных пахаў. А яна, Каця, стане іх чарговым начальнікам (хоць і будзе старацца быць усё-ткі настаўнікам). Вось і дзверы з таблічкай «Дырэктар Маргарыта Раманаўна Конанава». Каця пастукала і адразу павярнула ручку – і ручка засталася ў яе далоні. «Добры дзень, можна?» – прамармытала Каця, утаропіўшыся на бліскучы кругляш у руцэ. Яшчэ не прыдумаўшы, як паводзіць сябе, яна пачула за дзвярыма таропкія крокі. Дзверы з сілай расчыніліся, і гаспадыня кабінета імкліва рванулася ў калідор. Быццам не заўважаючы збянтэжаную наведніцу, выхапіла бліскучы кругляш з яе рукі і накіравалася кудысьці ў нетры школы. Адтуль данёсся яе ўладны голас: «Рыгорыч! Рыгорыч! Дзе ты ходзіш! Чаму ручку да гэтага часу не прыкруціў? Колькі разоў прасіць можна?! Што? Дзе ты там? Валэндаешся, бы непрытомны. Зноў п'яны ці што? Доўга мне яшчэ чырванець прыйдзецца за гэткае бязладдзе? Каб праз пяць хвілін усё зроблена было!»

Зноў пачуліся крокі, але ўжо ў кірунку да кабінета. Жанчына вярнулася ўжо без ручкі, расчырванелая ад хуткай хады і эмоцый: «Добры дзень. Праходзьце». Дырэктар села за стол і ўладна паглядзела на прэтэндэнтку ў настаўніцы. Здавалася, яна аналізуе, узважвае і выстаўляе ацэнку кожнаму руху, намеру, нават думцы ў самым яе зародку: «добра», «дрэнна», «не здаў». Пад гэтым поглядам Каця адчула сябе вінаватай ва ўсім зробленым і не зробленым, вучаніцай, якая не падрыхтавала ўрок, якая штурханула аднакласніка на перапынку, нагрубіла настаўніку. Яна затрымалася, няёмка прыкрываючы дзверы, якія чамусьці зноў са скрыпам адчыніліся і ўпарта не хацелі трымацца ў прызначаных ім рамках. «Ды пакіньце, – нарэшце загадала дырэктарка, скрыжаваўшы рукі на грудзях, мабыць, яна ўжо выставіла свае ацэнкі. – Рыгорыч, ведаеце, усё адно звядзе ўсе вашыя стаparанні на нішто. І хутчэй бы ўжо ён адрамантаваў гэтыя распраклятыя дзверы. Вы да мяне па якім пытанні? Дзіця ў школу аформіць?» Яна прыжмурылася і чакальна паглядзела наведніцы проста ў вочы. Тут Каця ўзгадала, што яшчэ не павіталася: «Добры дзень, Маргарыта Раманаўна. Не. Я па іншым пытанні: хачу ўладкавацца да вас на працу. Настаўнікам. Беларускай мовы і літаратуры», – і Каця паклала на стол рэзюмэ, пасля чаго адступілася да дзвярэй, нібы выпхнутая нябачным полем гэтага ўладнага чалавека. «Літаратуры, – задуменна сказала дырэктарка, быццам нешта прыпамінаючы і беручы ў рукі лісток. – А гісторыю ведаеце? У нас гісторыкаў няма. Толькі на практыкантах і выязджаем у апошні час. Але гэта ж не справа, пагадзіцеся. Дзеці вучацца прадмету бессістэмна, а гэта ім, ведаеце, відавочна не на карысць». Жанчына па-ранейшаму глядзела толькі на Кацю. «Ну, я нават не ведаю. У мяне, вядома, ёсць агульнае паняцце...» – «А дзе вы раней працавалі, у якой школе?» – «Я толькі нядаўна прыехала ў ваш горад. Раней не выкладала. Вось, вырашыла паспрабаваць сябе ў прафесіі. Заўсёды хацелася», – Каця сціпла ўсміхнулася, нібы просячы прабачэння

за свае дурныя мары. «Ведаеце, з вашай нерашучасцю, вам будзе нялёгка. А ў цэлым досвед працы з дзецьмі ёсць? Свае дзеці, сям’я? І наогул, жыць ёсць дзе?» – «Так, я здымаю кватэру, тут непадалёк. Сям’і няма, я адна. А працавала я раней у банку». «Калектыў дарослых адукаваных людзей», – зноў перапыніла яе дырэктарка. «Ды як вам сказаць ...» – усміхнулася Каця, успамінаючы сваё папярэдняе месца працы. «Ведаеце, наогул складаная сітуацыя. Спецыяльнай адукацыі ў вас няма, чалавек вы ў прафесіі новы, да таго ж нетутэйшы, але з настаўнікамі ў нас яшчэ больш складана. Зарплата маленькая, мужчыны не ідуць, практыканты, адпрацаваўшы, з’язджаюць. Жанчыны, нават з педагагічнай адукацыяй, ідуць вунь на швейку, там хоць плацяць нармальна, гэта мамам-адзіночкам асабліва важна. Такіх у нас тут, ведаеце, таксама хапае. Так, – яна нахілілася да Каці, – ваша рэзюмэ я пагляджу потым, больш для парадку, эмм, Кацярына Іванаўна, але і так відаць, што чалавек вы прыстойны, гаворка ў вас пастаўлена добра, толькі практыкі зносін замала. Ну, дык што, пагодзіцеся вы на настаўніка гісторыі? Да верасня яшчэ далёка, падрыхтуецеся». Каця сама не зразумела чаму, але ёй раптам стала так радасна і шчасліва. Мабыць, ад таго, што яшчэ два месяцы лета, сонца, або што мара яе спраўдзілася, або што чужы чалавек прыняў удзел у яе лёсе. І хоць ёй так і не было прапанавана прысесці, Каця адчула цёплыя пачуцці да гэтай нервовай уладнай жанчыне з такім надакучлівым словам-паразітам «ведаеце». Яна зноў міжвольна ўсміхнулася: «Я згодная працаваць настаўнікам гісторыі», – і працягнула ёй пакецік з чарэшнямі. – А гэта вам», – зрабіўшы два крокі да стала, паклала яго перад дырэктаркай. «Ой, дзякуй, а я, ведаеце, прапусціла ўсё на свеце. Чарэшня вось паспела ўжо, аказваецца. Ідзіце за мной, я вам падручнікі выдам. Заўтра падыдзеце да сакратара з васьмі да дзвюх, яна вас аформіць і скажа, якія яшчэ дакументы патрэбныя. Хадземце».

Праз некаторы час Каця выйшла на залітую сонцам вуліцу, адкрытая свету і надзеям, прадчуваючы цудоўны дзень. У руках замест пакуначка чарэшні былі падручнікі па гісторыі, на плячы вісела сумачка. Трэба было б яшчэ зайсці ў кнігарню і пашукаць патрэбную інфармацыю ў інтэрнэце. Напэўна, будуць нейкія навучальныя планы. Метадычкі. Чорт, нават параіцца няма з кім. І раптам – «дзінь» – моцны штуршок у спіну адкінуў яе ў бок. Не паспела Каця зразумець, што адбылося, як апынулася на зямлі. Балюча стукнулася плячом. Зусім недалёка пачуўся грукат, на асфальт пасыпаліся кавалкі шыферу, будаўнічага смецця, інструментаў. Нейкім пылам завалакло ўсё вакол. Каця села і разгледзела на даху мужчыну, які спалохана ўзіраўся ў тое, што адбываецца ўнізе, а побач – ровар і хлапчука. Ён моцна абадраў правую руку і нагу. Седзячы на асфальце, ён гучна ўсхліпваў і паціраў выцятыя калені. Кацiны падручнікі валяліся непадалёк, з сумачкі, быццам трыбухі, вываліліся на ўсеагульны агляд дакументы, кашалёк, фанцікі і ўсякія жаночыя дробязі. «Была б чарэшня – ператварылася б у кашу», – чамусьці падумалася Каці. «Гэта ты мяне штурхнуў?» – звярнулася яна да хлопчыка. Ён паглядзеў на яе спалоханым позіркам, быццам зрабіў нешта дрэннае Першым яго жаданнем было схлусіць, а яшчэ – кінуцца наўцёкі. Але боль у нагах перашкодзіў яму. «Я. Я бачыў, як спаўзае гэты шыфер, бачыў, што вы ідзяце. Я спалохаўся, што...» – і ён захныкаў, размазваючы па твары слёзы і бруд, становячыся зусім ужо безабаронным. Вакол сабраліся людзі, хтосьці тэлефанаваў у міліцыю. Хтосьці дапамог Каці падняцца. Вельмі балела плячо.

За той час, пакуль іх везлі ў машыне хуткай дапамогі, аглядалі, пакуль распытваў супрацоўнік міліцыі, Каця даведалася, што яе выратавальніка завуць Пеця Прыгодзіч, яму 13 гадоў. Жыве ён дзесьці на Грачанай. Неўзабаве ў аддзяленне хуткай дапамогі прыехала яго маці. У дзікім хваляванні, з застылым у вачах страхам яна кінулася да сына, кранала яго твар, укленчыўшы, абдымала за ногі, не заўважаючы, як бянтэжыцца яе хлопчык. Потым распытвала лекара, дзякавала. Каця баялася падысці да гэтай жанчыны, баялася, што тая накінецца на яе з кулакамі: бо з-за яе ледзь не загінула любае дзіця. Але ўнутраны закон патрабаваў ад дзяўчыны праявіць мужнасць. Адважылася. «Дзякуй вам за сына. Ён выратаваў мне жыццё», – а ў вачах ужо стаялі слёзы. Каця была поўная падзякі да гэтых людзей і ў той жа час баялася справядлівага гневу, матчыных праклёнаў. «Вы ведаеце, калі б ён загінуў, – і на гэтым слове голас яе задрыжаў, губы перасмыкнуліся, – я б зненавідзела вас, гэтых будаўнікоў, увесь свет і сябе саму, што не зберагла». Яна абхапіла сябе рукамі, пальцы сутаргава сціснулі перадплечча, а цела ўжо хадзіла ходырам ад рыданняў. Каця, узрушана, сама не ў сілах стрымаць слёз, абняла жанчыну здаровай рукой (на левай быў гіпс). Тая не адразу, але вызвалілася і пайшла да сына, які ўвесь гэты час моўчкі сядзеў на кушэтцы, гледзячы ад збянтэжанасці ў вакно. Маці, як і ў першы раз, села перад ім на калені, абняўшы сына за ногі, хаваючы твар, і плакала, плакала, плакала...

Дадому Каця вярнулася толькі пад вечар. Кінула ў пярэднім пакоі сумку, падручнікі і, не ўключаючы святло, прайшла на кухню, села, абапёршыся на стол, і прытулілася да сцяны. Позірк яе бязмэтна блукаў, ні за што не чапляючыся, па старэнькай кухоннай мэблі. Галава яе была так перагружана падзеямі дня, што адмаўлялася думаць, а сэрца – адчуваць. З вялікім намаганнем прымусіўла сябе памыцца і пераапрануцца, адкінуўшы край посцілкі, Каця легла і ў момант заснула.

Раніца скакала сонечнымі зайчыкамі па пакоі, гарэзнічала: ператварала тэкстыльных аранжавых рыбак на прасціне ў залатых, пералічвала Кацiны вяснянкі, казытала за нос і заглядвала пад сонныя павекі. Добрай раніцы! «Добрай раніцы», – прашаптала Каця невядома каму. Першым яе адчуваннем было, што яна прачнулася ў доме мамы. Сум па страчаным, а потым і ўспаміны пра ўчорашнія «прыгоды» разам з болем ва ўсім целе ўжо гатовыя былі задаць тон усяму дню. Так, стоп! Я жывая! Жывая! Мяне ж магло і не быць зараз! Гэтая раніца магла пачацца без мяне. Гэта шанец? Цуд? Заканамернасць? Лёс? Я пражываю новы свой дзень. Дзякуючы гэтаму хлопчыку, Пецю Прыгодзічу. Ён нічога, трымаўся малайцом, хоць яго бок, ох, страшна было глядзець, жывая рана. А мама яго... Не даравала мне. Я ў яе вачах – ледзь не забойца. А не катаўся б яе сын паблізу, мяне і не было б. Падумаеш, нейкую цётку заваліла. Ай-ай, бязладнасць, халатнасць. І ўсё. Нас гэта не датычыцца. А цёткі, гэта значыць мяне, ужо няма. Знікла. А куды ўсё дзяецца пасля смерці? Раптам там пустата? І ўсе гэтыя думкі пра тагасветнае жыццё, пра перасяленне душ – самазаспакоенасць. Каб не так страшна было... І ўсё ж такі я быццам вінаватая перад гэтай жанчынай. Можа, варта даведацца ў хуткай яе нумар тэлефона, пазваніць. Ці ўвогуле не нагадваць пра сябе. Не трывожыць. Забылася, і ўсё. Але так хочацца нешта добрае для іх зрабіць. Асабліва для Пеці. Вартыя жалю высілкі аддзячыць за выратаванае жыццё. Неацэннае – ацаніць.

Яе думкі перапыніў тэлефонны званок. Колькі часу? Незнаёмы нумар. Можа, не падымаць? Не адказала б. Ага, калі б не Пеця, я б ужо нікому не адказала. Так што сёння я адказваю ўсім – пранеслася ў галаве за секунды. «Слухаю». – «Вітаю, Кацярына. Гэта мама Пеці, Валерыя. Вы прабачце за ранні званок. Я папрасіла ваш нумар у міліцыі. Далі. Хацела папрасіць прабачэння. Я ўчора перажывала і, напэўна, груба з вамі абышлася. Пеця сказаў, вы добрая, імкнуліся яго развесяліць, калі вас у хуткай везлі». – «Ды што вы, усё добра. Гэта вам дзякуй. Калі б не Пеця, мяне б тут і не было. Зусім. Вы на мяне заўсёды можаце разлічваць. Я вам абавязаная». Вяснянкі заблішчалі, а залатыя рыбкі на прасціне апынуліся ў роднай стыхіі. Чым скончылася гэтая размова?..

Каця прыехала здалёк. Нават уявіць сабе не магла, як усё складзецца ў гэтым горадзе, але душа квітнела надзеямі. Новая краіна, іншыя людзі, яна не ведае нікога, і ніхто не ведае яе – выдатныя ўмовы пачаць жыццё спачатку.

Нарадзіцца нанова.



## Дзмітро Паўлычка



...Такі мой шлях, хоць цяжкая ступа,

Прабач, мой браце, воіну УПА...

# Аняменне айкумены

* * *

Прагну цябе цалаваць. Паратунак
У пацалунках – ад смерці. Бяры
Келіх у рукі, бо вытхнецца трунак,
І на яго больш не будзе пары.

Гэта бязважкасць. Развеяўся морак,
Зніклі турботы і смутак. Зямля
Нас адпусціла. Мы выйшлі да зорак,
Як касманаўты з свайго карабля.

Не адпускай у сусвет незнаёмы,
Вусны мне дай, не нахмурвай чала.
Ты ў пацалунках не ведаеш стомы,
Бы ў медазбор залатая пчала.

*Пераклад*
*з украінскай*
***Міхася СКОБЛЫ.***

* * *

*Прийди ко мне, брате, у Москову.*

Іпацьеўскі летапіс, 1147 г.

“Прыйдзі, мой браце, да мяне ў Маскву”, –
Мяне паклікаў голас пабраціма.
І зорка дружбы ззяла незгасіма –
Вяла мяне, кружыла галаву.

А пабрацім трызуб дзяржаўны мой
Схапіў і кінуў на зямлю з размаху.
Маю любоў ён асудзіў на плаху
І пагражаў турмой і Калымой.

І ўсё ж мяне, прыхільнік праўды й права,
Не кінуў ён за краты і драты,
Што ад крыві змяіліся іржава.

Ды ўсё пытаў: “Калі ўжо мы браты
І ў нас адны крыжы і хамуты, –
Навошта табе мова і дзяржава?!”

### ВАР’ЯТКА

У двор турмы ў драбінах параконных
Прывезлі мёртвых воінаў УПА.
Да іх вачэй, да ранаў іх чырвоных
Злятала з неба белая крупа.

Знайшлі яе ў сяле, у Прыкарпацці:
“Пазнай сваіх! Тваёй няма віны”.
І адказала сплаканая маці:
“Забітыя – усе мае сыны.

Пяцёра тут і ў лесе – тысяч трыста,
Жывыя ўсе, ты ж згінь і прападзі!”
І страх з’явіўся ў голасе чэкіста:
“Ты, баба сумасшедшая, уйди!”

### СПАЧУВАННЕ

Дзе вы, грузіны, дзе вы, дагестанцы?
Чачня распята ўжо; хоць уначы
Прыйдзіце, гляньце, скора, можа стацца,
Чакае й вас распяцце на мячы.

Заб'юць цвікі у рукі вам і ногі.
Дзень зарыдае, бы ў гарах рака.
І будзеце вісець вы ўздоўж дарогі,
Нібы рабы-паўстанцы Спартака.

Масква нажніцамі крывава кроіць,
Краі раўняе, як з махрой кілім.
Рабы і на крыжах аб волі мрояць,
А вас заб'юць за спачуванне ім.

За спачуванне, што не варта кулі,
Мы ўсе загінем, чуеце, мы ўсе,
Мае браты, чаму ж і вы паснулі,
Як на падушцы, на сваёй слязе?!

### ***МАЦІ***

Сельскі клуб. Чатыры крокі – сцэнка.
Рэквізіт завязаны ў мяшок.
Там калісь дэкламаваў Шаўчэнку
Я – малы вясковы пастушок.

Цень ад лямпы плямай на плакаце.
Я на сцэне ўпершыню ў жыцці.
Сем гадоў ад роду. Мая маці
Знак дае: “Не бойся, не трымці”.

Быў той клуб вялізны, як планета.
Голас мой у вышыні павіс.
Падалося – вішні і ранеты
Паглядалі ўпотай з-за куліс.

Па кутах, дзе панавала змора,
Дзе цыгаркі ўспыхвалі ярчэй,
Бачыў я галоў густое мора,
Тысячы спагадлівых вачэй.

Я стаяў, як на святой паверцы,
Я гарэў над светам, як зара.
На губах маіх, у самым сэрцы
Палымнела слова Кабзара.

Кроў варожая сцякала ў мора,
Украіна сходзіла з крыжа!
Стала маці, як абраз з сабора.
Бліснуў месяц, як лязо нажа.

Хмурыўся жандарм каля парога,
Ксёндз паглядам строгім вывучаў.
“А да тога я не знаю Бога!”
Маці спалатнела на вачах.

Я свяціўся! Заклікаў – ламайце
Казематы пана й халуя!
Пляскала ўся зала. Толькі маці,
Толькі маці плакала мая.

## *У КОСАВЕ НА ІВАНА*

У Косаве на Івана
Паблісківаюць сякеркі,
Нібы ў рацэ гусцеркі.
Там Алекса Доўбуш ходзіць –
Ўецца чуб з-пад магеркі.

Гуцулія кірмашуе пры храме.
Кажа Доўбуш маёй маме:
– Слава Ісусу Хрысту!
(І мяне нібы п’е вачыма)
Маладзіца, па чым ваш хлапчына?

А мама касу заплятае,
Яшчэ маладая,
Заліваецца смехам, цвіце:
– Куме Алекса! Вам аддам задарма,
Але хай падрасце!..

Мама памерла,
І я ўжо сівы.
Маладыя лясы
Ужо з шапкамі гнёзд.
Ніхто не скажа, дзе жыццё падзелася,
Кароткае жыццё, як зайцаў хвост.

Мабыць, дасюль я яшчэ не вырас,
Мабыць, дасюль я яшчэ расту,
Бо па мяне не прыходзіць Алекса,
Не забірае сабе сірату.

## СТАПЧАТАЎСКІЯ ВІШНІ

Ужо цвітуць сады ў Стапчатаве,
Бялеюць вішні ля мяжы.
Магілы маміна і татава
Пялёсткі ловяць на крыжы.

Ляжаць яны, як зерне ў коласе,
Зямелька – смерці сенажаць.
А два пялёсткі ў сінім космасе,
Як два анёлікі, ляцяць.

Адзін пялёстак над магіламі
Крыжоў бацькоўскіх не міне.
Другі ж – залочанымі крыламі
Абвее ў чужыне мяне.

## ПЕСНЯ ПРА СОТНІКА

Над Прутом, дзе зялёнае жыта,
Трыста хлопцаў у бойцы лягло.
Сотнік глянуў нібыта сярдзіта –
Мне ўсяго чатырнаццаць было.

“Слухай, хлопча, аддай раявому
Аўтамат і па сцежках лясных
Крокам руш, незабіты, дадому –
Да бацькоў, да сяброў і да кніг!”

Я аддаў і патроны, і зброю,
Як трава пахіліўся й пайшоў.
Я паперай аброс, як карою,
Я зашыўся у схоў з мёртвых слоў.

Толькі сотнік прыходзіць штоночы,
Бранзавее пад месяцам скронь.
Ён з дакорам глядзіць мне у вочы,
Пасылае мяне на агонь.

“Слухай, хлопча, бяры карабіна,
Кінь нікчэмныя вершы свае.
Не памерла яшчэ Украіна, –
Будзе жыць, як памрэш за яе”.

Украіна, матуля, скажы ты,
Ці не лепей загінуць было
Над Прутом, дзе зялёнае жыта,
Дзе тры сотні паўстанцаў лягло?

## *СОНЦА*

***1***

Сонца выспалася, устала,
памылася, усміхнулася,
зайшло ў стайню,
вывела нашага каня,
села на яго і паехала
спачатку сцежкаю па Юркавым гародзе,
а потым сінімі вяршынямі гор.

А я адвязваў нашу карову
ад жолаба і ўсё бачыў.

Потым мы выйшлі з каровай на пашу,
а там сонца ў расе купалася, смяялася,
да ног маіх босых падкрадалася,
мяне за пяты казытала.

А наша карова
цалавала сонца ў залатыя шчокі,
лізала яму аблічча
і плакала, як над сваім цяляткам,
якое толькі нарадзілася
і не мае сілы падняцца.

***2***

Я стаяў каля нашай каровы
у глыбокай расе,
і сонца стаяла ў расе,
як пастушок,
і мы разам чыталі кніжку.
Я сядзеў у бібліятэцы,
глядзеў у разгорнуты том,
а сонца стаяла ў вакне,
як дзяўчына, што мые шыбу,
і нахілялася да мяне,
і мы разам чыталі кніжку.

Я хадзіў з сонцам у школу,
вырастаў каля сонца,
абдымаўся з сонцам у ложку,
будзіўся сонцам,
заплываў у моры да сонца,
стоячы самотна, як палец,
на плошчах Кіева, маліўся сонцу,
а цяпер каля мяне
шмат людзей, а сонца няма.

Мяне, спавітага сівізною,
сонца пакінула.
Засталіся мне толькі кніжкі,
прачытаныя з сонцам.

### ***БАГДАН ЗАДУРА***

Прысніўся сёння мне Багдан Задура,
Вясёлы геній і сусед-паляк,
Настаўнік мой і творца іранічны,
Што ні выказванне – падвойны змест.
Ён кніжку маіх вершаў пераклаў,
Незгвалтаваных рыфмамі метафар
Кранаўся, як пасвенчанага хлеба,
І цешыўся аголенасцю думкі,
Нібы мастак жывой натурай. Сёння ж
Пытаецца ў мяне Багдан, бы ў вучня:
"Навошта сам сабе ты гэтак шкодзіш?
Ты аздабляеш рыфмамі старымі
Рой думак, што здзіўляюць навізною".
Кажу яму: "Багдане, я на фронце,
І змушаны спяваць, як нашы хлопцы,
А спевы іх – усе зарыфмаваны,
Як коні ў запарожцаў – падкаваны,
І рыфмы тыя – не шкілеты-касцякі,
А залатыя, змытыя слязьмі цвікі.
Такі мой шлях, хоць цяжкая ступа,
Прабач, мой браце, воіну УПА".

### ***АНЯМЕННЕ АЙКУМЕНЫ***

Калі маўчаць нябёсы і лясы
І возера не абзавецца кракам,
І не чутны людскія галасы,
Мне хочацца пагаварыць з сабакам.

Мне хочацца даведацца тады,
Што свет жыве і кроў у ім пульсуе,
Што гарады і вёскі – не клады,
Што я жыву і што жыву не всуе!

Спытаецца цішком, сабе пад нос,
Пра аняменне айкумены хтосьці.
Пагавары са мною, браце пёс,
Або хоць гыркні на мяне са злосці!



пераклады

## Вячаслаў Лявіцкі



...Сквер ад шэрані, як перл, – іскрысты.
Зноўку растрывожышся старым:
«Неакласік» месіць футурыста,
Што ў душы тваёй устаў на рынг...

# Каштанавая элегія

***З «Менскага цыклу»***

### *САЛОДКІ САНЕТ*

На Змітрака Бядулі – у цукерні –
П'е каву думнасць лістападу мерна.
Пейзаж чарнее ўжо без рыс і меж.

Суворы выбар. Будзе лепш уранку
Узвар імберцавы з высокай шклянкі
Пад велічны палёт ампірных веж.

Спакой магнацкі ўсхопіцца ў імгненне –
Чуць лета бабінага набліжэнне,
А ў здобнай бабцы шчэ віруе ром.

*Пераклад з украінскай **Сержа МІНСКЕВІЧА**.*

Нагрэлася дарога. Неўзабаве
І святлафор адрыне лета барвы,
Стынечу прадчуваючы нутром.

Дый раніцаю будзе нам адкрыта:
Хоць *vita brevis*, але *dolce vita*.

* * *

Танцорка ў меднай, незвычайна раскляшонай пачцы
спазнілася на трамвай.

*«Асцярожна, дзверы зачыняюцца...»* –
прагучала ў салоне.

Кляновы лісток толькі прыпаў да шкла,
па-балетнаму скокнуўшы
з сустрэчнага грузавіка.

*«Наступны прыпынак – парк...»* –
прагучала ў салоне.

«Не, я ўсё-такі не паспею на рэпетыцыю», –
вырашыла кляновая танцорка.

* * *

Раптоўны гай, бяроз рудая валасць.
Імжа-бадзяга бамбардуе холаста.
Пусцее паціхутку плошча Коласа.
Пільнуе свой аўтобус Якуб Колас.

Цяжка́я, чорная, бы крык жалобы,
Цераз бардзюр варона пераскочыць.
Пусцее паціхутку плошча.
Пільнуйце ж свой аўтобус.

Тарнач завые, быццам воўк у руі.
А з тым, сіло няхітрае надзеі
Паціху апусцее –
І не ўпільнуеш.

## *ПЕСНЯ НА СВІТАНКУ*

Штосвітанак яны шчыбчаць на працу,
штовечар іх могуць дастаць з-пад зямлі,
бо кожны ранак яны рассейваюцца шпарка
па цяснюткіх канторах –
ружовыя жэтоны
ружовыя жэтоны метро.

Здаецца, амаль усё можна аддаць
за іхні колер –
фарбу слабкае мроі
і распаратага небакраю за цыркам;
пералівы прадмесця, што запалала
праз некаторых суседзяў,
і тоны заспанага вар'яцтва тых некаторых;
водбліск вечнага агню, агорнутага туманам,
і плаўнага пад'ёму, які прадчуваеш паблізу ліцэя, –
ружовыя жэтоны,
ружовыя жэтоны метро.

Гэта, насамрэч, малая інтрыга вялікіх гарадоў –
уводзіць колер жэтонаў:
дзе – сталёвы, быццам рамёны халоднае ракі;
дзе – сіні, нібы цяжкі подых каштанаў,
які чаргуецца з лягчэйшымі ўздыхамі – зялёнымі,
дзе – цяплейшы,
як – вось – у ружовых жэтонаў,
ружовых жэтонаў метро.

Зрэшты, яны ж, напэўна страшэнна задыхаюцца,
яны шторанак шчыбчаць на працу
ва ўніформе
ружовыя жэтоны
ружовыя жэтоны метро,
*ружовыя жэтоны для ружовага метро.*

* * *

Грымні ў гонг – і зашклянее водгук.
Замець ляжа тварам да аблок.
Што баксёрскія пальчаткі, з вогкіх
Дрэваў вараннё твой сочыць крок.

Сквер ад шэрані, як перл, – іскрысты.
Зноўку растрывожышся старым:

«Неакласік» месіць футурыста,
Што ў душы тваёй устаў на рынг.

Стрэчу іх не назавеш ласкавай,
Вось адзін адважна ўспалыхне,
І адправіць іншага ў накаўт,
А дакладней – закуе ў санет.

## *НАЙДЭПРЭСІЎНЕЙШЫ ВЕРШ*

Я ледзь не падаўся ў восеньскую дэпрэсію,
але аказалася,
да яе офіса не так лёгка прабіцца.

Выяўляецца, чарга туды
збіраецца з шостай раніцы.

Апроч таго:
пенсіянераў ды іншых льготнікаў
прымаюць без запісу, хоць потым
часта не выпускаюць, нават на запыты сваякоў.

Усім – абавязкова купіць жоўтыя бахілы
ў аўтамаце, што блазнуе праз мятыя банкноты.

«А ўсё клятая рэформа
па забеспячэнні дэпрэсіўнымі паслугамі», –
азваўся меланхолік з найглушэйшага кутка ў калідоры.

Наагул патрабуюць толькі копіі дакументаў,
якія засведчыў найбольш пахмурны натарыус
(абавязкова з найзанядбанейшанага раёна,
з найшчарбацейшым асфальтам).

«Хто тут начальнік? Ды хто ж тут у вас галоўны?» –
не змаўкаў я,
але мне штораз паказвалі на каляндар.

Безупынна па калідоры гулялі чарга і скавыш
і Шапэн са сваім жалобным маршам.

«От раней была дэпрэсія як дэпрэсія», –
наракаў меланхолік з насоўкаю,
падобнай на патрапаны каштанавы лісток.

Я ледзь не зламаў турнікет
да таго офіса восеньскай дэпрэсіі.

Я ледзь не спаліў той офіс,
як часам гаспадары паляць пасохлыя бур'яны.

Я ледзь не напісаў скаргу на тое,
што тут ледзь не абскардзілі маё «я».

Між тым, адміністратарка абвясціла перапынак
на абед
і папрасіла ўсіх адляцець у вырай.

### *БІЗЭ*

Калі музыка Жоржа Бізэ гучыць з расчыненага акна,
дрэвы песцяць на сваіх рукавах
шаўроны гнёздаў.

(Драгунскі эскадрон,
несумненны драгунскі эскадрон
з таго вядомага твора.)

Чырвонае лісце ўздымаецца вакол дворнікаў,
раз'юшаных, нібы тарэадоры.

Мабыць, выключце Жоржа Бізэ
на сваім прайгравальніку,
інакш здарыцца нешта, годнае оперы.

Напрыклад, з'явяцца і кантрабандысты,
ласыя да партыі тутэйшых арэхаў.

І яшчэ беспрытульны крук горача абурыцца:

*>> Кармэн Кармэн <<*
*!!!!*
*– Найпраўдзівейшы кармэн –*
*гэта я*

### *ДЗЯЎЧЫНКА Ў ПАРКУ МЕЛА РАЦЫЮ*

Як будзеш распакоўваць
вестку з бандэролі жолуда,

тады зразумееш:
дзяўчынка ў парку мела рацыю!
*Тыя, што табе трапляліся ўздоўж прысад, –*
*ніякія не кармушкі.*

Таму ніколі не забывай
прынамсі свой паштовы індэкс.

*Можа, менавіта ён спросціць жыццё*
*панурай вавёрцы,*
*што ўвечары*
*будзе правяраць*
*гэтыя паштовыя скрынкі,*
*развешаныя на галінах.*

### *КАШТАНАВАЯ ЭЛЕГІЯ*

У хмары капюшон у жоўтых лісцях.
Prêt-à-porter на дрэвах ад вятроў.
Трымціць жабо каштана ледзь расхрыстана, –
Апошні гурагану моды роў.

І падаюць на брук з галін пярсцёнкі,
Агністая нявеста – уцякла!
Здымае той парыў на кінаплёнку
Варона-віж узмахамі крыла...

### *WAWEL*

*Дзяўчыне на імя У.*

Падарыў Табе шакаладку *Wawel* і сказаў:
«Гэта твая персанальная кракаўская фартэцыя».

Так і пазбавіўся горада,
які мы абое любім.

Так і страціў той горад,
дзе мы яшчэ не былі разам.

Бо толькі што Ты адкалола кубік,
экстрачорны, як атрады гракоў у цэнтры,
пачала знікаць Сенатарская брама.

Яшчэ адзін адламаны кавалак –
і замкавыя галерэі падталі,
як мелодыя сурмача
на рынкавай плошчы.

Ты ішла гаркаваю пліткай
далей –
і амаль дасягнула вуліцы Гродскай
(я здаў бы Цябе пажыццёва
ў малочны бар «Пад Фемідай», але і ён ужо
растварыўся).

Няма на Цябе Касцюшкі
(знік, як і муры трошкі карамельныя).

Няма на Цябе Пятра Скаргі на суседняй плошчы
(нават намінак на палеміку пазбавілася Ты).

А вавельскі цмок
уцалеў і чмыхаў полымем,
непераможаны, як пагроза ўсмешцы
ў некаторых хітрых ласуначак.

Альда Анарацi



...найлепшыя творы найменш разрэкламаваныя...

# Слава – гэта дым, што хутка развейваецца

## *Гутарка пра італьянскую літаратуру і не толькі*

***Літаратурныя сувязі паміж Беларуссю і Італіяй у мінулым годзе адзначыліся дзвюма прыемнымі падзеямі для беларускай паэзіі: упершыню ў выдавецтве "Carta Canta" ў горадзе Фарлі выйшла анталогія беларускай паэзіі XX стагоддзя "Залатая сонца калясніца" (укладанне Ларысы Пуцылевай), а ў выдавецтве "Controluce", якім кіруюць Альда Анарацi і паэт Арманда Гвідоні, была распачата серыя замежнай літаратуры, якую адкрыла кніга выбраных вершаў Аксаны Данільчык "Песня лёду".***

**"Дзеяслоў":** ***Якія, на Вашую думку, асаблівасці існавання літаратуры ў Італіі?***

**Альда Анарацi:** Складанае пытанне. Вядома, што італьянскі народ – гэта народ паэтаў (а таксама святых і падарожнікаў, але колькасць апошніх няўхільна змяншаецца, у той час як колькасць паэтаў расце ў геаметрычнай прагрэсіі). Але чытачоў

менее з году ў год, таму літаратура, якая на сённяшні дзень амаль цалкам зводзіцца да раманаў, уяўляе сабой аўтастраду, запоўненую велізарнай колькасцю машын, змушаных стаяць у корку. У выніку гэта вядзе і да згубнага застою крытыкі, калі больш не ўяўляецца магчымым "ствараць гісторыю" літаратуры. Гэта руйнуе ўсё: быццам пішуць на вадзе ці на пяску. Нічога не застаецца не толькі таму, што пра любую кнігу памятаюць максімум месяц, але і таму, што крытыкі не ведаюць куды кінуцца, бо ніхто не выдзяляецца яскрава на агульным фоне. Як казаў Гегель, у чорную ноч усе коткі чорныя. Вучні старэйшай школы максімум даходзяць да вывучэння Д'Анунцыа, Пірандэла, Унгарэці і Мантале. Можа быць, і Пазаліні, адзінага італьянскага аўтара, які цалкам належыць гісторыі літаратуры (і кіно) і якога ведае шырокая публіка. Пасля шасцідзясятых гадоў адзін твор варты другога, адна прэмія вартая другой, кніга ні на што не ўплывае. Выключэннем стаў Умбэрта Эка, але адбываецца пераацэнка многіх яго твораў, асабліва раманаў (за выключэннем "Імя ружы"), якія найперш з'яўляюцца кнігамі па філасофіі, філалогіі і гісторыі, дыдактычнымі і складанымі. Але найгорш наступнае: знікла справядлівая крытыка, загадзя рыхтуюцца хвалебныя рэцэнзіі, імкненне хутчэй прадаць паскарае тэрміны, таму што калі ты не апублікуешся на працягу месяца, цябе выкрасляць са спісу кнігарняў і з памяці. Не існуе больш бязлітаснай крытыкі. Толькі некаторыя італьянскія выдавецтвы (напрыклад, *Mondadori, Rizzoli, Feltrinelli, Einaudi*) змагаюцца за рынак пры дапамозе прэмій, перыёдыкі і дыстрыбуцыі, але найперш публікуючы кнігі тэлевізійных зорак, футбалістаў, артыстаў, кулінараў і г.д. Нарэшце, існуюць выдаўцы, якія за грошы публікуюць усіх і ўсё і такім чынам спрыяюць застою кніжнага рынку. Але нельга сказаць, што буйныя выдаўцы робяць лепшы выбар: яны занадта абумоўлены гарантаванымі продажамі замест таго, каб рызыкаваць, адкрываючы таленты. Пісьменнік прыходзіць на тэлебачанне, каб быць усёзнайкам і гаварыць пра рэчы, у якіх ён не разбіраецца.

Гэта не значыць, што не выходзяць добрыя творы, наадварот. Я, апантаны чытач, знаходжу значныя і вартыя прамоцыі кнігі часцей у малых выдавецтвах, чым у вялікіх, і тут таксама заўважаю адну нязменную рэч: найлепшыя творы найменш разрэкламаваныя.

– ***Як Вы лічыце, чаму так адбываецца?***

– Чаму – сказаць складана. Залежыць ад удачы, ад многіх няўлоўных рэчаў (напрыклад: неверагодная кніга Карла Леві "Хрыстос спыніўся ў Эбалі"[1] атрымала велізарны сусветны поспех, але не дзякуючы мастацкасці тэксту, а таму, што ўздымала пытанне поўдня Італіі, і яшчэ таму, што была сведчаннем супраць фашызму); залежыць ад здольнасці манеўраваць з боку аўтара, ад палітыкі, ад любога здарэння. Ва ўсялякім разе, Італія мае адну ўласцівасць: выганяе сваіх лепшых дзяцей і адкідае самыя лепшыя кнігі. Вядомы на еўрапейскім узроўні выпадак Італа Звева, якому адмовілі ўсе італьянскія выдаўцы, нават калі ён стаў ужо вядомым у свеце, і другі выпадак – з Лампедуза, аўтарам "Гепарда", якому спачатку адмовіў Эліа Вітарыні, потым надрукаваў Джорджа Басані, а пасля смерці аўтара ўвесь свет прыйшоў у захапленне ад яго кнігі[2]. Я б мог працягваць і назваць Дзіна Кампану, Федэрыка Тоцы, Гвіда Марсэлі, які здзейсніў самагубства праз адмову выдаўцоў, ды іншых пісьменнікаў (тым, хто чытае па-італьянску, прапаную звярнуцца да адной з апошніх працаў выкладчыка рымскага ўніверсітэта "Tor Vergata" Фабіа П'еранжэлі – "Sulla scena inedita con Guido Morselli").

Тут прыгадваецца думка, што кожны пісьменнік – дзіця свайго часу. Сёння – час грамадства кансумізму. Усё адбываецца на паверхні. Адна выява закрэслівае

[1] Выйшла ў 1945 г.

[2] Па гэтай кнізе быў зняты вядомы фільм Лукіна Вісконці, ішоў у пракаце пад назвай "Леапард".

другую, адна кніга спрыяе пахаванню другой. Вялікая літаратура стваралася на працягу доўгага часу. Паспешлівасць прымушае круціцца вавёркай у коле, пакуль ад знямогі не ўпадзеш на зямлю. Акрамя сапраўднай крытыкі памерла памяць (вельмі рэдка ў школе на памяць вучацца вершы). Я павінен таксама заўважыць, што распраўсюджваецца адна дрэнная звычка. Выхад кожнага новага "рамана" на афішах кнігарні суправаджаецца наступным надпісам: "Сярод найвялікшых італьянскіх і еўрапейскіх пісьменнікаў", або "Найвялікшы аўтар сучаснасці", або "Самы моцны голас новай літаратуры", ці вось яшчэ: "Італьянскі аўтар, што найбольш прадаецца ў замежжы" (хто гэта праверыць?) і гэтак далей. Сярод шматлікіх хваласпеўных эпітэтаў чытач пачуваецца разгублена. Што ён робіць? Паколькі кнігі каштуюць шмат (у сярэднім 16 еўра, а часта больш за 20), людзі ідуць у бібліятэкі, бяруць кнігі, чытаюць бясплатна і эканомяць грошы; больш за тое, калі распаведзеная гісторыя не надта цікавая, ён рады, што не паддаўся рэкламе. Раман Антоніа Скураці[1], які атрымаў прэмію "Стрэга" ў 2019 годзе, толькі ў бібліятэцы Альбана, у непасрэднай блізкасці ад Рыма, замаўляўся 45 разоў, а гэта значыць, было прададзена на 45 экзэмпляраў меней. А паколькі цяпер мы знаходзімся ў стане поўнага эканамічнага крызісу – прынамсі, некаторая частка насельніцтва – не мае сэнсу выдумляць, што нарадзіўся новы Дастаеўскі.

Па шчырасці, варта зрабіць адну агаворку: што датычыцца навукі, тэхналогій, эсэістыкі публікацыя кніг адбываецца інакш і з меншай рэкламай, магчыма, таму, што яны маюць спецыялізаваную мэтавую аўдыторыю.

– ***І няма ніякага выйсця?***

– Хто ведае, будучыня непрадказальная. Добра было б, каб рэцэнзіі і прэміі грунтаваліся на маральных прынцыпах, каб адрадзілася бязлітасная крытыка, вярнуўся адбор (нават калі ён і не заўсёды ўдалы). Сёння, напрыклад, карыстаюцца попытам толькі два накірункі прозы: гісторыі пра часы фашызму (паўтораныя ўжо шмат разоў) ці любоўныя раманы як від масавай літаратуры (тэма, якой аддаюць перавагу пісьменніцы). Трэба было б, каб аўтары яшчэ і выхоўвалі, напрыклад, у адносінах да экалогіі. З другога боку, Дантэ і Фоскала, Парыні і Альф'еры (называю самых значных) пісалі з дыдактычнымі намерамі (у Расіі быў Талстой, але можна назваць і Горкага), у антычнай Грэцыі – Гесіёд, у Рыме – Гарацый, Лукрэцый, Вергілій, Калумэла і іншыя. Сёння – як у сямнаццатым стагоддзі: эскапізм, шматслоўнасць, пустата (паўтару: у літаратуры, бо XVII стагоддзе дало Галілея і Мальпігі, а XX стагоддзе – геніяльных Марконі, Фермі і г.д., калі гаварыць толькі аб Італіі).

– ***Дзе знаходзіцца цэнтр італьянскай літаратуры?***

– Варта памятаць, што італьянская зямля – гэта найперш зямля камун, хоць Кавур ды іншыя дзеячы аб'ядналі іх у адну краіну. Напрыклад, Парыж значыць Францыя, Лондан значыць Англія, Масква і Санкт-Пецярбург азначаюць Расію і г.д. Італьянскі бот – гэта Мілан, Генуя, Турын, Венецыя, Балонья, Рыміні, Перуджа, Асізі, Фларэнцыя, Рым, Неапаль, Бары, Палерма і любы іншы горад ці іх сукупнасць, як, напрыклад, Рымскія замкі. "Паяднаная" Італія застаецца падзеленай на мноства маленькіх "дзяржаў", якія з пункту гледжання гісторыі і культуры знаходзяцца на пэўнай адлегласці адна ад адной. Таму цэнтра італьянскай літаратуры не існуе. Італьянскі геній, прыналежны асобнаму індывідууму, не выклікае сумненняў, як з'яўляецца абсалютнай праўдай і тое, што не існуе знітаванай нацыі. Больш за тое, думаю, што ў свеце мала такіх звадлівых народаў, як наш. Мы гатовыя пакланяцца замежжу, абы толькі не перамог суайчыннік.

---

[1] Гаворка ідзе пра раман Антоніа Скураці «М. Сын веку» («M. Il figlio del secolo») пра Мусаліні.

***– Да якой крыніцы мог бы звярнуцца замежны даследчык ці крытык, які хацеў бы арыентавацца ў сучаснай італьянскай літаратуры?***

– Такіх крыніцаў можа быць некалькі, але найперш я б назваў Таварыства італьянскай мовы “Дантэ Аліг’еры”[1] з кіраўніцтвам у Рыме і з сеткай камітэтаў па ўсім свеце: там не толькі паглыблена вывучаюць творчасць Дантэ і даюць магчымасць удасканальваць італьянскую мову шматлікім аматарам нашай культуры ва ўсім свеце, але і распавядаюць пра літаратуру, праводзяць прэзентацыі кніг, якія потым распаўсюджваюць па ўсёй Італіі і за яе межамі. Генеральны сакратар таварыства Алесандра Мазі часта выступае ў іншых краінах, у тым ліку і ў постсавецкіх, з лекцыямі пра італьянскую літаратуру.

***– Ці існуе нацыянальны літаратурны рынак?***

– Безумоўна. Буйныя выдавецтвы гандлююць па ўсёй Італіі, тэлевізійная сетка пакрывае ўсю паўвыспу, многія газеты выходзяць на нацыянальным узроўні, але ёсць таксама запатрабаваны (у пэўным сэнсе) рынак, які датычыцца кніг па мясцовай гісторыі і г.д.

***– Ці маюцца пісьменніцкія аб’яднанні, або кожны існуе сам па сабе?***

– Калі я быў маладым, існаваў нават пісьменніцкі прафсаюз. Сёння існуюць выдавецкія, тэлевізійныя, журналісцкія кланы. Або ты ўваходзіш у іх кола, або застаешся па-за працэсам – незалежна ад якасці.

***– А такія арганізацыі, як FUIS[2]?***

– Вартая ўвагі. Ёсць і іншыя, напрыклад, CAPIT[3], гаворка і ў гэтым разе ідзе пра цэнтры, якія спрабуюць паяднаюць ідэі і аўтараў у літаратурную арганізацыю. Наш народ імкнецца адасабляцца, а не ствараць каманду: і так паўсюль. Цяпер, хоць у Італіі і няма недахопу ў розных аб’яднаннях, аднак яны не вычэрпваюць супярэчлівую складанасць (можа, гэта ў некаторым сэнсе з’яўляецца стымулюючым фактарам) сітуацыі ў краіне. З другога боку, так было заўсёды, калі толькі мы не жадаем прыгадаць Італьянскую акадэмію, створаную фашысцкім рэжымам. Але я аддаю перавагу разнастайнасці ў вольным выяўленні думкі.

***– У 2004 г. у Расіі выйшла Вашая паэтычная кніга[4] ў супрацоўніцтве з вядомым расійскім перакладчыкам з італьянскай мовы Яўгеніем Салановічам і з яго прадмовай…***

– Я пазнаёміўся з Салановічам падчас працы ў складзе журы прэміі “Penne-Mosca”, ужо даволі даўно. Мы адразу адчулі сімпатыю адзін да аднаго. Салановіч – самы значны расійскі даследчык творчасці Вінчэнца Бэллі, нашага вялікага рымскага паэта. Мы неаднаразова сустракаліся ў Рыме, і аднойчы я даў яму пачытаць сваю на той час яшчэ нявыдадзеную кнігу. Яму спадабалася, і ён удзельнічаў і ў яе перакладзе, і ў падрыхтоўцы публікацыі ў Маскве. Гэта адзіная мая кніга, якая выйшла не на італьянскай мове. Яўгеній Салановіч – значны даследчык, узнагароджаны італьянскім урадам. На жаль, ужо некалькі гадоў я не маю сувязі з ім. Я найгоршы карыстальнік кампутара. Але спадзяюся раней ці пазней з ім звязацца.

***– Вы яшчэ супрацоўнічаеце з прэміяй “Масква-Пенне”?***

– Не. З тых часоў, як памёр мой сябар Іджына Крэаці[5], заснавальнік прэміі,

---

[1] Заснаванае ў 1889 г. паэтам Джозуэ Кардучы, Нобелеўскім лаўрэатам па літаратуры (1906).

[2] FUIS – Унітарная федэрацыя італьянскіх пісьменнікаў.

[3] Маецца на ўвазе найперш F.I.A.L. (Federazione Italiana attivita letterarie – Італьянская федэрацыя літатурнай дзейнасці), якая ўваходзіць у Італьянскую канфедэрацыю народнага дзеяння (CAPIT).

[4] Альдо Онорати. Нелепые вопросы / Пер. с итал. Е. Солоновича, В. Ефремовой, Е. Титунова. — М.: «Podkova», 2004. – 96 с.

[5] Igino Creati (1946-2013), паэт, даследчык літаратуры, культурны дзеяч.

чалавек выдатных арганiзацыйных здольнасцяў (дзякуючы яму прэмiя была адной з самых значных у Iталii i ў Расii), я не ўваходжу больш у журы, хоць на працягу некалькiх гадоў узначальваў таксама прэс-службу. Важнасць гэтай прэмii заключалася ў тым, што ў выбары пераможцы прымала ўдзел шырокае народнае журы, але найперш – у iмкненнi пазнаёмiць чытачоў з iтальянскiмi аўтарамi, перакладзенымi ў Расii, i з сучаснымi рускiмi аўтарамi, перакладзенымi на iтальянскую мову. У мяне захавалiся цудоўныя ўспамiны пра тыя гады.

– ***Акрамя рускай лiтаратуры цi была ў Вас магчымасць пазнаёмiцца з iншымi лiтаратурамi Усходняй Еўропы?***

– Я ведаю даволi добра румынскую лiтаратуру, дзякуючы сяброўству з Джорджэ Папэску, якому я абавязаны перакладам многiх маiх твораў на румынскую мову; мне блiзкая таксама польская лiтаратура, нагодай для знаёмства з ёю стаў – як заўсёды – пераклад маiх твораў на польскую мову, дзякуючы Каралiне Янечка. Зараз я з цiкавасцю наблiжаюся да беларускай лiтаратуры: у iтальянскiм выдавецтве “Controluce”, якiм кiрую я i паэт Арманда Гвiдонi, мы распачалi серыю замежнай лiтаратуры, i яе адкрывае кнiга Аксаны Данiльчык, якая знаёмiць мяне з лiтаратурнымi каштоўнасцямi вашай зямлi.

– ***Вашыя густы ў замежнай лiтаратуры?***

– Расiйскiя аўтары, у тым лiку сучасныя; паўднёва-карэйскiя, якiх ведаю дзякуючы прафесару Хан Хыонг Кону, што першы пераклаў “Боскую Камедыю” на карэйскую мову наўпрост з iтальянскай (i я ганаруся тым, што ён i мой перакладчык); французская лiтаратура, з якой мяне пазнаёмiла (маю на ўвазе нядаўнiя даследаваннi) Саланж Дэ Брэсо, спецыялiстка па Д’Анунцыё (якой я абавязаны сваёй вядомасцю ў Францыi), пасля я павiнен назваць Лацiнскую Амерыку – з яе лiтаратурай мяне пазнаёмiлi паэты Франсiска Бендезе Прыета з Перу i Леонсiа Джанэла Х. з Аргентыны, iспанец Гульельма Гудэль (я iм удзячны за пераклад некаторых маiх твораў). Дзiўны вопыт мне даў пераклад маёй першай мастацкай кнiгi (“Апошнiя значыць апошнiя” з прадмовай Карла Левi i Луiджы Вальпiчэлi, 1966 г.): прафесар Джузэпэ Лачэртоза, эсперантыст, пераклаў яе на эсперанта. Я быў на сувязi з усiм светам i змог пазнаёмiцца з сучаснай кiтайскай лiтаратурай.

– ***Цi iснуе магчымасць сумленнай i яснай дарогi ў лiтаратуры? Iншымi словамi, цi магчыма раўнавага памiж талентам i рынкам?***

– Па вялiкiм рахунку, не. Каб мець камерцыйны поспех, неабходна быць у трэндзе. Паколькi арыгiнальныя творы абганяюць свой час (як было заўсёды), то адразу яны сутыкаюцца з абыякавасцю або з супрацiўленнем рынка i нават крытыкi. Згадаем Мэльвiля, Кафку, Пруста, Дантэ, якi павiнен быў чакаць пяць стагоддзяў, каб яго зразумелi i належным чынам ацанiлi, таго ж Шэкспiра, адкрытага ў паўнаце свайго таленту Самуэлем Джэксанам i г.д. Франсуаза Саган, “Love Story”, “Пяцьдзясят адценняў шэрага” пабiлi ўсе рэйтынгi, аднак знiклi i аўтары, i творы.

***– Якую б параду Вы маглi даць маладому пiсьменнiку, незалежна, iтальянскаму цi беларускаму?***

– Запомнiць папярэджанне Леанарда да Вiнчы: “Час не будзе звяртаць увагу на тыя творы, якiя не звярталi ўвагу на час”. Не спяшацца, быць вельмi самакрытычнымi, слухаць негатыўныя водгукi, якiя вучаць больш, чым пахвала, прымаць паразу, каб расцi, а яшчэ чытаць, чытаць i чытаць, захоўваць, радавацца i пакутаваць разам з напiсанай старонкай i нiколi не iмкнуцца толькi да поспеху. Слава можа дасягацца спосабамi, не звязанымi з мастацтвам, але гэта – дым, што хутка развейваецца. Каб твор застаўся, трэба думаць аб нашчадках. Той, хто разлiчвае на неадкладны поспех, пiша на пяску. У гэтым сэнсе каштоўныя выказваннi пра славу Шапэнгаўэра ў кнiзе “Афарызмы пра мудрасць жыцця”,

а таксама Фоскала ў лекцыях ва Універсітэце Павіі і Леапардзі ў адным з “Маральных эцюдаў” “Пра Парыні ці пра славу”. Працаваць старанна, але ў той жа час успрымаць усё астатняе як гульню, як наступства публікацыі і дзівацтва ўдачы. Лепшы суддзя – час: “Славу раздае смерць” (Уга Фоскала); “Прысуд вынесуць нашчадкі” (Мандзоні). Але я падазраю, што нашчадкі будуць займацца іншымі справамі: выжываннем, улічваючы змяненне глабальнага клімату, спусташэннем Зямлі і біблейскімі міграцыямі, выкліканымі павышэннем узроўню акіяна. Аднак мы не губляем надзею, галоўнае, паспець спыніць забруджванне планеты...

– ***Вялікі дзякуй за размову!***



# Вялікае Княства паэзіі Алеся Разанава

## *Галасы з Літвы*

***Ales' Razanau. Lietuviški punktyrai. Homo liber, 2018. – 96 p.***

### Чытаючы гэтую кнігу

Алесь Разанаў, адзін з самых адметных сучасных беларускіх паэтаў, сваім творчым почыркам, моваю, яе рытмікай, а таксама сваім светаадчуваннем прыкметна вылучаецца сярод сваіх калег. Гэты паэт-філосаф піша вершы, паэмы, версэты, пункціры, ломячы звыклыя жанравыя каноны, творыць тое, што дагэтуль не мела наймення, – зномы, вершаказы, квантэмы.

Аднак нам важна, што ён не толькі самабытны творца, але і адмысловы перакладчык. Прыехаўшы са сваім сябрам у 1973 годзе на некалькі дзён у Вільню, неўзабаве вярнуўся зноў, ужо на паўгода – вывучаць мову, і адтады, асвойваючы абсягі перакладу і знаёмячыся са з'явамі літоўскай літаратуры, наведваўся сюды неаднойчы.

Так, на беларускую мову ён пераклаў вершы А. Малдоніса, С. Гяды, М. Марцінайціса, Ю. Марцінкявічуса і іншых аўтараў, раман Ё. Авіжуса, п'есу К. Саі для тэатра. Мабыць, маюць рацыю знаўцы, калі кажуць, што літоўская літаратура і праца над перакладамі прычыніліся да фармавання мовы паэзіі і асаблівасцяў творчасці самога Алеся Разанава.

Калі Алесь пачаў цікавіцца нашай літаратурай, яго знаёмая, выдатная знаўца беларускай літаратуры, даследчыца літаратурных сувязяў Альма Лапінскене ўзялася перакладаць яго творы на літоўскую. У 2008 годзе ў Вільні выйшла кніга паэзіі А. Разанава "Паляванне ў райскай даліне", а ў 2013 – "Падарунак хроснай маці".

Аднак найбольш усіх нас Алесь Разанаў здзівіў, пачаўшы сам тварыць па-літоўску.

Пры зычлівым садзейнічанні Альмы ён аб'явіў свае пункціры ў нашых культурніцка-літаратурных выданнях "Metai", "Krantai", "Naujoji Romuva", а ў 2018 годзе выдавецтва "Homo Liber" выдала іх асобнаю кнігай – так у нашых кнігарнях з'явіліся "Літоўскія пункціры".

*Пераклад з літоўскай* ***Галіны ЛІНКЕВІЧ.***




Чытаючы гэтую кнігу, немагчыма западозрыць, што пункціры напісаны не нашым суайчыннікам, не тутэйшым, так адмыслова А. Разанаў валодае літоўскай мовай, адчувае яе нюансы, яе асаблівасці, семантычныя пласты, зачароўвае гульнёю слоў.

Тут не ўблытаешся ў гушчар метафар, не натрапіш на пустапарожняе красамоўства, але знойдзеш тое, што неаднойчы бачыла сама і што на гэты раз само зірне на цябе.

У аддзяку Алесю Разанаву за яго ўвагу і любоў да літоўскай мовы, за яго пераклады літоўскай літаратуры на беларускую мову на з'ездзе пісьменнікаў Літвы ў 2018 годзе ўсе сябры Саюза аднагалосна прагаласавалі за тое, каб надаць яму званне ганаровага сябра Саюза пісьменнікаў Літвы: іх у нас трое. Мы ганарымся, маючы ў сваіх шэрагах такога таленавітага творцу, і спадзяёмся, што ён зноў парадуе нас новай літоўскай кнігай.

***Бірутэ ЁНУШКАЙТЭ**, старшыня Саюза пісьменнікаў Літвы*

## Алесь Разанаў і літоўская мова

Алесь Разанаў – паэт творчай канцэпцыі. Яго перш за ўсё займаюць анталагічныя пытанні, таямніца быцця, загадкі жыцця і светабудовы, іхнія ўзаемасувязі і сувязі з людскімі лёсамі. І яшчэ з'ява, з якой ён сам мае справу, – мова. І не толькі родная. А ў ёй не паэтычныя, якімі б яны ні былі, фігуры, а само слова, у фанемах якога гучыць семантычная глыбіня і ў радовішчах якога бачацца ці прадбачыцца закадзіраваныя пласты рэчаіснасці. Паэт імкнецца распазнаць утоены змест слова, яго паходжанне, разгадаць яго код, бо, паводле яго выказвання, кірунак слова, як і зярняці, – знутры. Наогул, мова для паэта – крыніца спазнання свету, з'ява, вартая пільнай увагі. "Кожны народ мае хаця б адзін геніяльны твор, і гэты твор – мова", – кажа ён у адным са зномаў.

Такое стаўленне да мовы, да яе як анталагічнай з'явы становіцца тым заўсёдным імпульсам, які амаль непазбежна ўводзіць у абсягі, дзе мова асвойваецца глыбока і ўсебакова, – у абсягі перакладу. Хачу засведчыць: А. Разанаў – выдатны перакладчык літоўскай літаратуры.

Пасля творчай камандзіроўкі ў Літву, што доўжылася з зімы 1973 па лета 1974 года, ён увайшоў у групу перакладчыкаў, што пачала рыхтаваць да друку двухтомную анталогію літоўскай савецкай паэзіі (выйшла ў 1977 годзе). Над анталогіяй рупіліся 48 перакладчыкаў, сярод іх А. Разанаў меў перавагу ў тым, што мог працаваць непасрэдна з арыгіналам.

Увосень 1982 года, сустрэўшыся ў Мінску, гутарыла з А. Разанавым пра анталогію, спецыфіку перакладчыцкай работы, яе складанасці і асаблівасці. Ён здзівіў мяне тым, што не толькі валодаў літоўскай мовай, а і адчуваў яе. На пытанне, што аказалася самым няпростым пры перакладзе літоўскай паэзіі, А. Разанаў назваў архаічнасць літоўскай мовы. З 86 літоўскіх паэтаў, прадстаўленых у анталогіі, А. Разанаў пераклаў творы 31 аўтара, з іх 16 сам, амаль трэць ад усіх змешчаных у анталогіі вершаў. Рэдактар анталогіі Васіль Вітка прызнаваўся, што А. Разанаў паспяхова, прафесійна перакладае і класіку, і найноўшых паэтаў. І гэты поспех невыпадковы. А. Разанаў – таленавіты творца. Уражвае яго ўспрымальнасць, паэтычнае чуццё, здольнасць паглыбіцца ў светаадчуванне і творчы почырк таго паэта, які перакладаецца, паразумецца з самою існасцю твораў і суадпаведна ўзнавіць іх на роднай мове.

А. Разанаў прымаў чынны ўдзел у перакладзе зборніка Альбінаса Жукаўскаса “Бяздомная любоў” (1974), кнігі паэзіі Юсцінаса Марцінкявічуса “Трава і камень” (1981), Альфансаса Малдоніса “Вадзяныя знакі” (1985). Пераклаў п’есу Казіса Саі “Дзявітабедаўцы” (“Клеменс”), ягоную аповесць для дзяцей “Гэй, хавайцеся!”, а праз некалькі гадоў раман Ёнаса Авіжуса “Час, калі пусцеюць сядзібы” (1989). Тады зноў вярнуўся да паэзіі і ў 1992 годзе выдаў невялічкі зборнік літоўскай паэзіі “Белы замак на гары”, які склалі падборкі вершаў Марцэліюса Марцінайціса, Сігітаса Гяды і Эдуардаса Межэлайціса. Адно з апошніх выданняў – “Выбраная лірыка” Юсцінаса Марцінкявічуса (2019): доля ўкладу Алеся Разанава важкая.

Невядомая мова, мова іншага народа, вабіць А. Разанава як нязведаная глыбіня.

Ад пачатку 2001 года, жывучы ў Нямеччыне, Аўстрыі, Швейцарыі, ён так далучыўся да нямецкай мовы, што, як сам прызнаецца, папросту *гутарыў* з нямецкімі словамі; вынікам такой гутаркі сталіся “Wortdichte” (2003) – самім паэтам напісаная па-нямецку кніга вершаказаў. Пасля гэтага з’явіліся “Der Zweig zeigt dem Baum wohin er wachsen soll” (“Галіна паказвае дрэву куды яно мае расці”, 2006), “Der Mond denkt, die Sonne sinnt” (“Месяц думае, сонца мысліць”, 2011) і кніга нямецкіх пункціраў “Von nah und fern” (“Зблізку і здалёк”, 2016).

Па-літоўску А. Разанаў пачаў тварыць недзе гадоў пяць таму. На запытанне, што яго падштурхнула да гэтага, напісаў: “У маёй суадносіне з літоўскай мовай таіліся зместы, якія хацелі выявіцца і назвацца. Я пачаў ім у гэтым спрыяць – жывыя, выхапленыя з рэчаіснасці, назіранні і фонасемантыка літоўскай мовы пачалі знаходзіць узаемапаразуменне. У кожнай мовы свая рэчаіснасць, фонасемантыка літоўскай мовы адкрывала абсягі, якія не краналіся ні беларускай мовай, ні нямецкай, з якой я таксама меў справу, і я ўваходзіў у гэтыя абсягі з хваляваннем: яны мне былі нейкім чынам знаёмыя. Што яшчэ? А тое, што ім папярэднічала. Мае пераклады з літоўскай, вёсны паэзіі, перакладчыцкія семінары і даўняе, наша з табой, супрацоўніцтва. Ад цябе за колькі гадоў да таго, як яны пачалі ўзнікаць, у часе сумесных чытанняў у Літве я атрымліваў настойлівыя імпульсы: спрабуй... твары... пабудзь літоўскім творцам!.. Недзе, мабыць, у Бірштанасе, сказаў, што адчуў, – што ўваходжу ў размову з літоўскай мовай: літоўская мова пачала мне адкрываць свае зместы. Без гэтай узаемнасці літоўскія пункціры не змаглі б адбыцца”.

Першая публікацыя напісаных па-літоўску пункціраў А. Разанава з’явілася ў першым нумары часопіса “Metai” за 2015 год, тады ў мастацка-культурніцкім часопісе “Krantai” (2015, №3), у часопісе “Naujoji Romuva” (2016, №2), а з нагоды юбілея паэта зноў у “Metai” (2017, № 12). І нарэшце выдавецтва “Homo liber” выдала “Літоўскія пункціры” асобнаю кнігай.

Кніга ўражвае прыгожай, багатай літоўскай мовай, паэтычным чуццём, здольнасцю ўбачыць, пачуць, адчуць нечаканыя суадносіны слоў. Літоўскае слова для А. Разанава быццам скарб, знойдзены ў куфэрку. Пачутыя, выяўленыя паэтам сугуччы натуральна, нібы неўпрыкмет, адкрываюць глыбокія семантычныя сувязі слоў. Побач з сугуччамі, сэнсавымі звязкамі і алітэрацыямі ў кнізе нямала вобразных выразаў, арыгінальных метафараў: сцежку цыруе трава, дождж ідзе па рацэ, сонца тчэ палатно прыцемак і інш. Радуюся, што выдатны, блізкі да нас суседствам, беларускі паэт Алесь Разанаў стаўся і літоўскім творцам.

***Альма ЛАПІНСКЕНЕ****, літаратуразнаўца, перакладчыца*

## Пункціры, што загаварылі па-літоўску

Алесь Разанаў адзін з тых сучасных паэтаў, што надзвычай уважліва ставяцца да дакладнасці думкі, пэўнасці вобраза, семантычнай глыбіні слова.

Як уяўляецца, не абы-якую ролю ў фармаванні яго творчага досведу адыграла

практыка мастацкага перакладу. Шыфруючыся ў памяці, метафары, сімвалы, інтэртэкстуальныя кантэксты твораў паэтаў, якія перакладаліся, захоўвалі ў сабе ўзоры пісьма, да якіх свядома ці несвядома звярталася думка, даючы ім магчымасць мадыфікавацца ў іншай мове і ў іншым пісьме.

Асвойваючы творчыя абсягі і амаль паўстагоддзя адлічваючы ад таго часу, калі ён пачаў перакладаць літоўскую паэзію на родную беларускую мову, А. Разанаў робіць новы крок і з ім як бы вяртаецца ў пачатак – бярэ і дэбютуе літоўскім зборнікам паэзіі “Літоўскія пункціры”. Скажу за яго: *Išvydau Vilnių: /ir jis/many/lietuviškai prakalbo (Убачыў Вільню: і яна ўва мне загаварыла па-літоўску)*.

Летась гэтую кнігу выпусціла выдавецтва “Homo liber”. І гэта першая кніга паэзіі, напісаная па-літоўску паэтам, які прыналежыць іншаму народу і жыве ў іншай краіне, і выдадзеная ў незалежнай Літве.

Пункціры А. Разанава набліжаныя да традыцыі кітайскіх ды японскіх хайку: пластычнае слова, метафарычныя спіралі думкі. Стылёвая дамінанта – пачатковая фраза, што ўвасабляецца ў блізкім ёй вобразе рэчаіснасці ды разгортваецца да небакраю зроку. Шанавальнікам літоўскай паэзіі, што адчуваюць вартасць ёмкай, візуальна змястоўнай фразы, пісьмо “Літоўскіх пункціраў” адгукаецца і кажа шмат.

Як перакладчыку А. Разанаву даводзілася судакранацца з разнастайнымі па гучанні і інтэлектуальнай важкасці словамі літоўскіх паэтаў, амаль з цэлым слоўнікам. Чытаючы яго самога, адчуваеш захапленне, калі чуеш, як у пункціры ажывае і паэтычна, бы формула, гучыць даўняя моўная форма, што сталася амаль забытай: *Eisiva mudu!/ Apsikabina/ Dūmas su ugnimi (Хадзема разам! Абдымаецца дым з агнём)*.

Бальшыня пункціраў распачынаецца тэзай, якой спадарожнічае метафарычнае прачытанне рэальнасці, з’яднанай з ёю: *Upė patvinsta:/ gluosnis/ atvaizdą glosto (Рака разлілася: вярба гладзіць адлюстраванне)*.

Трапляюцца пункціры, якія самі бачаць сябе ў люстраным адбітку: *Švyti takai – / diena/ nueina po vandeniu:/ Trakai (Свецяцца сцежкі – дзень ідзе па вадзе: Трокі)*.

Размаітыя малюнкі пункціраў уводзяцца ў рамкі раздзелаў, кожны з якіх мае ў кнізе сваё найменне: “Sraigė iškelia ragelius” (Слімак выстаўляе рожкі), “Į̨tempia voras stygas” (Напінае струны павук), “Gaidys budina dieną” (Певень будзіць дзень), “Linai mėlynuoja” (Лён блакітнее), “Lipdo kregždės lizdus” (Лепяць ластаўкі гнёзды), “Gandras išskleidžia sparnus” (Бусел развінае крылы) і інш.

Пункцір, якім завяршаецца кніга, здаецца, сімвалізуе і асягнутую вышыню мастацкага мыслення самога паэта, і яго творчае крэда: *Kopia į kalną:/ taką/ laimina koplyčia (Уздымаецца ў горы: сцежку багаслаўляе капліца)*.

Хай будзе багаслаўлёнае імкненне паэта знаходзіць і выяўляць паэтычнае слова, у якім зберагаецца змест мудрасці.

У часе майго знаёмства з кнігай як водгук узнік гэты свой “пункцір”, якім дзялюся: *“Lietuviški punktyrai”: /mintyjančių posmų/linija/link širdies (“Літоўскія пункціры”: лінія думных радкоў скіравана да сэрца)*.

***Арвідас ВАЛЁНІС**, перакладчык, крытык*

## З першых вуснаў

Кожны народ мае геніяльны твор, і гэты твор мова, – паўтараю і пераказваю, што ўведаў. Паэзія, у сваю чаргу, у мове народа ёсць тое, у чым сама мова выяўляецца найпаўней, сама яе сутнасць. Геніяльная сутнасць і крыніца народнага жыцця. Што слухаецца і чуецца.

Слухаючы Алеся Разанава, вучышся чуць паэзію. З першых вуснаў. Калі Алесь бывае ў Вільні ці надараецца якая нагода недзе сустрэцца, заўсёды стараюся не

прапусціць магчымасці. Чэрпаю моц. Моц першабытнай паэзіі, яшчэ не адасобленай ад голасу, ад весткі, якую ён даносіць, ад сілы, з якою гучыць, ад спеву, ад рытуалу, ад святарства і ад святыні. Аб'яўляючыся ў сказе і ў радку, сама паэзія, аднак, месціцца ў найменшым сэнсавым кампаненце мовы – у фанеме. Яна вядзе і ведае, куды вядзе, парадкуючы маўленне і надаючы яму суадпаведную форму. Форму вершаў ці версэтаў, пункціраў ці квантэмаў, зномаў, вершаказаў ці яшчэ якога арыгінальнага жанру, што вынікае з самога чалавечага дыхання, яго напружанасці, яго спадаў і паўзаў; непарыўна спалучаная з чалавечым дыханнем, яна кажа сябе.

У той Алесевай малельні, дзе мова судакранаецца са зместам, становячыся словам, гук вымаўляецца з асабліваю сілаю і самаздзіўленнем – нібыта гучыць і чуе сябе ўпершыню. Свая непаўторная інтанацыя, свая хваля, свая вібрацыя галасавых звязак. Голас ягонай паэзіі не лашчыць і не гладзіць. Ён уцялеснены, ён абцяжараны сэнсам, і, здаецца, ад паэта патрабуецца пэўнае намаганне, каб ён аб'явіўся, каб ён гучаў, бо ўсякі раз ён дастаецца знутры, з глыбіні, з самой сарцавіны чалавечай існасці – ці, як меркавалі старажытныя грэкі, з пячонкі.

Творчасць Алеся Разанава не дае мне забыць старую ісціну, што паэзія па сваёй прыродзе найперш музычнае мастацтва. Такое мастацтва не можа існаваць без памяці – яно суадгукаецца з усімі нашымі, індаеўрапейскімі і ўжо праіндаеўрапейскімі, мовамі і гісторыямі і яшчэ з даўнейшымі адчуваннямі, воклічамі, паводзінамі, мадэлямі светаўспрымання. У лад і мову нашага расхрыстанага свету Алесь, здаецца, пазірае адтуль, дзе яшчэ пануе адзінства, паслухмянае закону жыцця, спраўджваецца паразуменне чалавека і ўсяго боскага тварэння.

Яго творчасць даводзіць, што гэтая памяць не згубілася, што яна жывая і дзейная, што яна здольная вярнуць чалавеку страчаную айчыну, але самой ёй ужо не патрэбныя ніякія рамантычныя крозы і пачастункі. Тут, дзе вядзецца гаворка пра сутнае, ім няма месца.

А сутнае, калі яно насамрэч мае моц гучаць, заўсёды робіцца пачутым – яно ўлоўліваецца мовай і ўкладаецца ў яе транскрыпты: якія – залежыць ад самой мовы і ад таго, хто на ёй піша.

Музычны пачатак мовы – аснова паэзіі, і гэта аснова паэзіі Алеся Разанава: яна першаснейшая за мову. Яна распазнаецца і ў беларускіх, і ў літоўскіх, і нават у нямецкіх словах, якія вымаўляе, чытаючы вершы, Алесь. Заўсёды цікава слухаць, як ён, паэтызуючы, этымалагізуе літоўскія словы, як часам неспадзявана па-новаму гучаць, судакранаючыся і творачы новыя зместы, знаёмыя найменні.

Падручнік літоўскай мовы прачытаны Алесем даўно, аднак у верш – ці ў пункцір – ішлося не ад яго, не ад сказаных ці прачытаных слоў, а з услухоўвання ў мову ў сабе самім, з чытання яе пульсацыі.

Хоць вынік цяпер гаворыць сваё і за сябе, здаецца, што з гэтага ўслухоўвання – і з вынікам гэтага ўслухоўвання – Алесь Разанаў памкнуўся ўжо тады, калі перакладаў "Балады Кукуціса" Марцэліюса Марцінайціса (і да таго ж сам у гэтай кнізе ў ахвоту "пакукуцісаваў" баладамі, якія напісаў сам), калі перакладаў іншыя творы літоўскай паэзіі і прозы, – памкнуўся да цяперашнасці, да зборнікаў "Паляванне ў райскай даліне" (2008) і "Падарунак хроснай маці" (2013, абодва пераклала Альма Лапінскене), урэшце да кнігі, якую ўжо і перакладаць не трэба, да "Літоўскіх пункціраў", перажытых самім Алесем Разанавым па-літоўску.

Гэтак ці так перамяшчаючыся па паверхні штодзённасці, я з задавальненнем згадваю яшчэ той факт, што адлетась Алесь Разанаў стаўся ганаровым сябрам Саюза пісьменнікаў Літвы, адным з трох. Інакш кажучы, ён успрымаецца і прымаецца літоўскімі калегамі як дужа годны, як дужа свой паэт, перакладчык, сябар. Цяпер ужо пэўным чынам і літоўскі пісьменнік.

***Уладас БРАЗЮНАС****, паэт, эсэіст, перакладчык*

## “Літоўскія пункціры” Алеся Разанава

Жыццё творцы, як і жыццё ўсякага савецкага грамадзяніна, які меў свой погляд на рэчаіснасць, было няпростым. Так, у свой час за выказванне сваёй нязгоды з паніжаным статусам беларускай мовы ў сістэме навучання, Алесь Разанаў быў выключаны з універсітэта ў Мінску, дзе ён вывучаў беларускую філалогію. І адно дзякуючы дапамозе іншых пісьменнікаў, што мелі адпаведныя стасункі з тагачаснымі ўладамі, быў пераведзены ў Брэсцкі педагагічны інстытут. Закончыўшы, працаваў настаўнікам у вясковай школе, а пазней у рэдакцыях – газеты, часопіса, выдавецтва, і ўвесь час быў здружаны з творчасцю. Паводле сведчання беларускіх літаратуразнаўцаў, як зазначае Альма Лапінскене, перакладчыца паэзіі А. Разанава, сувязь з літоўскай літаратурай і пераклады з літоўскай мелі ўплыў на фармаванне паэтычнай мовы і характар самой творчасці А. Разанава. Таму не выпадае здзіўляцца, што, паглыбляючыся ў асаблівасці літоўскай мовы і падахвочаны зваротамі Альмы Лапінскене, сам пачаў пісаць па-літоўску. Спатрэбіўся пэўны час, каб, як ён кажа, адчулася сувязь між гукам, значэннем і акалічнасцямі, каб свет пачаў чуцца і бачыцца па-літоўску.

Абраны жанр “пункціраў” натуральна вынікае з самой творчай адметнасці А. Разанава – ёй уласціва наватарская, часам нават эксперыментальная форма; з-пад яго пяра аб’явіліся і займелі назву таксама і вершаказы, і зномы, і квантэмы. У гэтым зборніку літоўскай паэзіі добра відаць, што Разанаў не захапляецца метафарамі і моўнымі аздобамі. Яму рупіць знайсці утоеную сувязь там, дзе гэта дазваляе зрабіць сама мова – так, ён збліжае фонасемантыку паасобных сегментаў пэўных слоў, і тады ў знаках моўнай рэчаіснасці выяўляюцца новыя значэнні: *Žabangose? / Žaibas / apšviečia bangas (У пастцы? Маланка асвятляе хвалі)*. На аснове такіх моўных назіранняў ці, хутчэй, моваю самога сузірання і створана кніга. Яна складаецца з васьмі раздзелаў – у назву выносіцца тое, што заўважаецца зрокам, напрыклад: “Lipdo kregždės lizdus” (Лепяць ластаўкі гнёзды), “Linai mėlynuoja” (Лён блакітнее) і інш. Вядома, усё гэта атулена густой наміткай рухомай і ўселенай у словы сапраўднасці, дзе назвы дапамагаюць размаітым пункцірным вобразам звязвацца ў змястоўнае цэлае. Менавіта ў гэтакім тэсце літоўскай мовы з выяўленнем у паэтычных радках яе магчымасцяў няроднамоўным, але надзвычай чуйным да яе гучання паэтам, мне бачыцца найбольшая вартасць гэтай кнігі: я рэкамендую яе як цікавую і істотную для нашай культуры ўсім аматарам паэзіі.

***Эльжбета БАНІТЭ**, літаратурны крытык*

## Чароўнасць кароткага жанру

Асоба Алеся Разанава выключная ў літаратурных сувязях Літвы і Беларусі. Гэта цягам дзясяцігоддзяў ён даказаў перакладамі літоўскай паэзіі, драматургіі і прозы на беларускую мову, гэта яшчэ раз пацвердзіў створанымі на літоўскай мове “Літоўскімі пункцірамі”. За ягонае культурнае амбасадарніцтва тры гады таму паэт атрымаў ганаровую ўзнагароду – “Зорку дыпламатыі Літвы”.

Выявіўшыся як творца самабытных аўтарскіх жанраў у беларускай паэзіі, А. Разанаў і ў літоўскай паэзіі стварыў самабытны “пункцірны” жанр – не раўнуючы, літоўскае хайку.

У “пункцірах” надзвычай важныя ўнутраныя сувязі слоў, алітэрацыі: *Jaunatis ragina?../Sraigė/Iškelia ragelius (Маладзік заахвочвае?.. Слімак выстаўляе рожкі)*. Імі пранята значная частка вершаў.

Такія “паэтычныя этымалогіі” ўражваюць натуральным тонкім чуццём і вобразнасцю.

З зычных, галосных і іхніх повязяў А. Разанаў творыць алхімію літоўскай фанетыкі: *Ar dar?/Ar gana? – /Dargana/Gano pievą (Ці яшчэ? Ці годзе? – Непагадзь пасвіць луг).*

Толькі паэт "са стараны", пэўна, гэтак здольны пачуць літоўскую мову, яе шэпты і падшэпты: *Patenkintas vapa/puodas:/kvapu/bulvės užpildo butą (Задаволены, мармыча гаршчок: пахам бульбы напоўніў кватэру).*

Можна сцвярджаць, што ў літоўскіх "пункцірах" А. Разанаў гуляе з мовай, дэканструктуе яе вальней, чым у напісаных на роднай мове "пункцірных" аналагах, дзе дамінуе лагічнае разгортванне думкі.

Сустракаецца ў "пункцірах" і простанародная лексіка: *"žemė / kvošisi po žiemos" (зямля ачуньвае пасля зімы);* сустракаюцца і каларытныя рэдкія словы: "kaukaras" – узгорак, "viešmuo" – ручаіна, "lizduojasi" – віе гняздо, "viešniauja" – гасцюе.

Не пазбягае Разанаў і наватвораў: "lašti" (цэдзіцца па кроплях), "prabangauja" (раскашуе).

Другі від "пункціраў" – гэта каляровыя, пірасманеўскія малюнкі: *"išdidžiai / teštmenį neša karvė" (ганарыста вымя нясе карова) , "ežiukas/žiūri dygliais" (вожык дзівіцца іголкамі), "neša/moteris glėbyje/moliūgą" (нясе жанчына ў абярэмку гарбуз).*

Пейзажнасць "Літоўскіх пункціраў" універсальная і разам з тым паўночна прыгашаная.

Вось яно, Вялікае Княства паэзіі Алеся Разанава: літоўска-беларускія краявіды з пеўнямі, жаўрукамі, буслямі. Паэтычны рух у гэтых вершах падкрэслена павольны, штодзённы, ён паступова ўводзіць нас у змену дня і ночы, у плынь пораў года.

Алесь Разанаў у "пункцірах" вельмі суладна гутарыць з прыродай, жывыя і нежывыя прадметы ў яго вершах узаемадзейнічаюць і размаўляюць: *Galbūt nubusi?.. – /Lietus/akmenį įkalbinėja (Можа, абудзішся?.. – Дождж угаворвае камень).*

У "Літоўскіх пункцірах" А. Разанаў плённа спалучае традыцыю і мадэрн, перадаючы адвечныя тэмы прыроды мінімалістычнымі формамі і нечаканымі слоўнымі спалучэннямі. Радкі, сфармуляваныя ім, захапляюць сваёй ашчаднасцю і змястоўнасцю: *Stiebiasi pienė,/stebisi:/jau debesy?(Цягнецца дзьмухавец, дзівуецца: ужо ў небе?)*

Можна смела сцвярджаць, што Алесь Разанаў, застаючыся ў абсягах традыцыйнай лірыкі, адгарнуў новую старонку кароткага жанру – спачатку ў беларускай, а тады і ў літоўскай паэзіі.

***Эвалдас ІГНАТАВІЧУС**, паэт, дыпламат*

Валянцін Акудовіч



...я люблю Парыж, але...

Але Беларусь я люблю болей...

# “Фрагменты”

***З новай кнігі “Трэба ўявіць Сізіфа шчаслівым. (Хронікі беларускага інтэлектуала)”***

*Працяг. Пачатак у №№95-99, 101-103.*

Мы з Ігарам Бабковым сядзелі ў кватэры вядомага культуролага (і нашага выкладчыка) Ігара Вугліка, няспешна бралі кроплю ды разважалі пра пабытовы нацыяналізм Марціна Гайдэгера, дзіўным чынам задзіночаны з анталагічным фундаменталізмам.

Знянацку – у сваёй звычайнай манеры – Ігар Бабкоў кажа:

– Валянцін, пэўна ж, вы яшчэ не ведаеце, што будзеце галоўным рэдактарам філасофскага часопіса “Фрагменты”. Грошы на выданне ўжо недалёка...

Прапанова была файная, толькі, як кажуць у такіх выпадках, – не да часу і не да месца. Тады я меў яшчэ літаратурна-філасофскі сшытак “ЗНО” у тыднёвіку “Культура”, аддзел культуралогіі і замежнай літаратуры ў часопісе “Крыніца”, аддзяленне філасофія/літаратура ў Беларускім калегіюме і палову рэдактарскай стаўкі ў тыднёвіку “Літаратура і мастацтва” (не кажучы пра ўсё не-сістэмнае). І ні ад чаго з гэтага пераліку не меў намеру адмаўляцца. Пра што і сказаў Ігару Бабкову.

Але так яно атрымалася да лепшага. Тады з грамадскай арганізацыяй “Эўрафорум”, якую стварылі Алег Дзярновіч з Ігарам Бабковым, супрацоўнічаў яшчэ зусім малады Валерка Булгакаў. (Як высветліцца праз гады, чалавек неверагоднай працаздольнасці і сціпласці.) Ён і ўзваліў на сябе гэтую ношку – спачатку ў ролі адказнага сакратара, а затым і заступніка галоўнага рэдактара.

“ВОСЕНЬ’96” (так пазначаны выхад часопіса) сталася для нас знакавай падзеяй. Упершыню за ўсю гісторыю Беларусі быў выдрукаваны беларускімі словамі беларускі філасофскі часопіс.

Мы выхваляліся ім стрымана і годна, але выхваляліся дзе толькі маглі (і ці не найбольш у замежжы). Хаця тут адразу мушу ўдакладніць, што перадусім гэта была пахвальба не саміх сябе, а беларускай культуры як такой перад суседзямі. Бо нічога падобнага не мелі ні ўкраінцы, ні прыбалты.

У прадмове “Ад рэдакцыі” Ігар Бабкоў сярод іншага пісаў:

*“Фрагмэнт – гэта частка, якая, тым не менш, паводзіць сябе як цэлае. Нашая ўласная сытуацыя – прыватная, экзыстэнцыйная, нацыянальная, плянэтарная – не дае нам іншае альтэрнатывы. Вось ужо другое тысячагодзьдзе мы выбіраемся з Плятонавай пячоры і паўсюль – адно цені й цені ценяў. Апошняе стагодзьдзе мы нават не прыгадваем пра сьвятло.*

*“Мы ўжо даўно ня думаем”. Прамовіў у адным з сваіх спавешчаньняў Марцін Гайдэгер.*

*“Ноч – лепшы час, каб верыць у сьвятло”, – калісьці запісаў Плятон.*

*Мы самі – фрагмэнты сьвятла, калі адважваемся быць, думаць, будаваць – напоўніцу, з глыбіні сваёй істоты.*

*Нас падпільноўваюць ідэалёгіі й біяграфіі, партыі і краіны, цывілізацыі і культуры. Мы праходзім праз іх як цені і цені ценяў. Тое што мы пакідаем тут, насуперак – адно фрагмэнты”.*

*(...)*

*Зрэшты, мы зьбіраемся практыкаваць ня толькі ўзнёслы “дыскурс праўдзівага”. “Фрагмэнты” – першы беларускі квартальнік, прысьвечаны мысьленьню ў самых розных “рэалізацыях”, школах, практыках“. “Фрагмэнты” – гэта яшчэ й фрагмэнты самых розных жанраў – ад сьціслага акадэмізаванага камэнтару да ідэалагічнай крытыкі, ад аб’ектывуючага аналізу да паэтаваньня над тайніцай Быцьця.*

*(...)*

*Няма сэнсу пісаць пра патрэбу беларускай культуры ў такім выданьні. Ёсьць сэнс гэтую патрэбу абуджаць”.*

Утрымаць заяўлены фармат *квартальніка* не атрымалася. Цягам дзесяці гадоў існавання “Фрагментаў” было выдадзена 11 нумароў. Аб’ём кожнага з іх таксама не трымаўся нейкага вызначанага фармату. Часам нумары былі аж залішне важкімі – недзе пад 350 старонак. Як стасоўна перыядычнага філасофскага выдання, дык гэта відавочна збыткоўна (тым болей у праекцыі на беларускую сітуацыю). Цяпер зразумела, што такім латэнтным спосабам прачыналася будучая “гігантаманія” вялікага рэдактара і выдаўца Валеркі Булгакава. Апошняе ён і прадэманструе напоўніцу, калі пачне выдаваць уласны часопіс/*подзвіг* “Архэ” і кніжную бібліятэку пры ім.

“Фрагменты” друкавалі шмат перакладной філасофскай літаратуры. Яе было нават болей, чым тэкстаў уласных аўтараў. Але гэта не надта турбавала, бо раней у нас не было ні першага, ні другога. Таму ўсё тут было дарэчы, нават нешматлікія перадрукі з уласнай спадчыны...

А далей закарцела адцеміць адну як бы не прынцыповую, аднак вельмі сімпатычную цікавостку. Далёка не ўсе, але многія нумары адкрывалі тэматычныя эсэ Ігара Бабкова. І кожным разам гэта былі невялічкія цуды.

Дзеля прыкладу адзін з іх пакажу.

## Крытычныя інтэлектуалы

Яны мала ўва што вераць і ўжо напэўна нікому ня служаць. Ніцшэ адважыўся назваць іх іхнім небясьпечным найменьнем: спакушальнікі. Яны сапраўды спакушаюць: лепш ня быць кімсьці, чым адно здавацца, лепш быць нікім, чым роля Плятонавых лялек у тэатры ценяў – лялек, матузкі ад якіх сёньня торгаюць усе, хто толькі можа. "Чалавек выбірае хацець нішто, чым нічога хацець", – гаворыць спакушальнік. "Неўзабаве мы будзем адрозьнівацца адзін ад аднаго толькі воляй да супраціву сытуацыі Нідзе і Ніхто", – працягвае Валянцін Акудовіч. "Істотна тое, што сама воля была выратаваная", – каментуе Ніцшэ.

З тых часоў нічога не зьмянілася. І мы зноў, тут і цяпер, вымушаныя паўтараць пытаньні, зададзеныя больш за стагодзьдзе таму: "Што ў нас саміх імкнецца да праўды? Мы хочам праўды: чаму лепш не аблуды? Не сумневу? Не няведы? Хто з нас тут Эдып? Хто Сфінкс?"

"Філязофія беларускага шляху", запачаткаваная Ігнатам Канчэўскім (Абдзіраловічам), амаль стагодзьдзе адбірала з Архіву эўрапейскага мысьлення думкі ды ідэі, якія маглі б "асьвятліць" дарогу. "Беларусь", як праект выхаду зь ценю адной з "магчымых нацыяў", адбыўся. Мы прыйшлі. Ад сьляпучага сьвятла шмат каму хочацца зноў заплюшчыць вочы ды ўявіць сабе наступнае падарожжа. Хтосьці лічыць, што не дайшлі, хтосьці – што прыйшлі запозна і зусім не туды.

І толькі нешматлікія разумеюць, што мы так і засталіся сядзець у Плятонавай пячоры. І сярод гэтых нямногіх зусім горстка адважваецца *запытацца пра праўду*.

У гэтай краіне іх ўвесь час блытаюць з кімсьці іншым. З прафэсіяналамі і інтэлігентамі, з інжынэрамі чалавечых душаў ці адраджальнікамі.

Яны ня дзеляцца паводле мовы і геапалітычнай арыентацыі. Яны ня дзеляцца на шчырых і няшчырых, на сьвядомых і несьвядомых, на маніпулятараў і аб'екты маніпуляцыяў.

У гэтай краіне яны нікому не патрэбныя. Яны дасьпелі, каб называць сябе ўласным небясьпечным найменьнем: спакушальнікі.

* * *

Я не прымаў актыўнага ўдзелу ў працы над часопісам, хаця напрыканцы яго існавання быў нават фармалізаваны як "Заступнік галоўнага рэдактара". Разам з тым хваляваўся за часопіс, быццам гэта было маё ўласнае выданне. Таму без мяне не абыходзілася ні адна прэзентацыя "Фрагментаў" ці то ў Мінску, ці то ў Гомелі, Магілёве, Гародні...

Натуральна, падчас вандровак ды выступаў хапала розных прыгодаў. Але калі мы згадваем тыя прэзентацыі, то чамусьці найперш цешымся з наступнага анекдота...

Перад паездкай у Гомель нехта з палітычных актывістаў папрасіў нас перадаць пакет у грамадскую арганізацыю, што месцілася ў гатэлі для артыстаў цырка. Паколькі заданне было канспіратыўным, то перад будынінай мы спахапіліся, як сябе прадставіць, калі нас запыняць на ўваходзе?

Не памятаю хто, толькі праз некалькі хвілінаў, можа, Алесь Анціпенка, а можа, Ігар Бабкоў прыдумаў легенду. Маўляў, мы тры клоўны з Новасібірска і прыехалі, каб дамовіцца наконт выступаў у гомельскім цырку.

Потым неаднойчы мы прэзентавалі сябе ў розных вясёлых сітуацыях як клоўнаў з Новасібірску. І заўсёды гэта нас моцна весяліла.

Чаму так, аднойчы задумаўся я, але вынік сваёй аналітыкі агалошу пазней...

Мне ў тую пару няблага пісалася, і ладную (ці не найбольш філасофскую) частку той пісаніны я друкаваў у "Фрагментах". Гэта былі вялікія памерам і сэнсава канцэптуальныя эсэ. Да таго ж шмат у чым эўрыстычныя. Сярод іх вылучу эсэ "Разбурыць Парыж" (яно дасць і назву другой кніжцы).

Мне падабаўся гэты тэкст, але ж не настолькі, каб я нават пад алкагольнай кропляй мог прымроіць, што яго стануць вывучаць у сур’ёзных акадэмічных інстытуцыях на аддзяленнях філасофіі (БДУ, ЕГУ, БДПУ імя Танка ці недзе яшчэ) і тым болей у некаторых ліцэях.

Хаця пра *мроі* я сказаў дарэмна. Няма ў маім арганізме нейкіх *ферментаў*, якія б звязвалі напісаныя тэксты з думкамі пра іхні лёс і мелі хоць нейкі ўплыў на маё жыццё. Відаць, таму і на пераклады сваіх тэкстаў на замежныя мовы я таксама практычна не зважаў. Як і на пераклады кніг – за выключэннем, хіба, перакладу кнігі “Код адсутнасці” на нямецкую мову.

З іншага боку, нельга сказаць, каб я не ўсведамляў, што мой сімвалічны капітал, які неўпрыкмет нарошчвалі тэксты, ніяк не ўплываў на стаўленне да мяне іншых літаратараў (як і самога сябе стасоўна самога сябе). Усведамляў, толькі іх сімвалічная роля не была крытычнай. Інакш кажучы, маё жыццё трымалася не поспехам асобных тэкстаў і кнігаў, а нястомнай, – з дня ў дзень, – інтэлектуальнай працай у самых розных фарматах.

Не ведаю, ці змушаюць дзе яшчэ студэнтаў чытаць “Разбурыць Парыж”? Можа, і не. Бо там шмат ухвалы постмадэрну, які на тую пару (2000 год) быў на вяршыні папулярнасці як вялікі інтэлектуальны стыль XX стагоддзя. А цяпер на яго збольшага забыліся. Як на мае глузды, дык дарэмна забыліся, бо постмадэрн першым апазнаў і выявіў глабалізм як універсальную парадыгму наступнага існавання чалавецтва. Затое з гэтай сітуацыі забыўлівасці я пачуваюся больш упэўнена, калі прапаную ў свае хронікі некалькі старонак з эсэ “Разбурыць Парыж”, надрукаванага ў “Фрагментах”.

* * *

“Чаму заможнасць грамадства вымяраецца колькасцю кампутараў на душу насельнікаў, а не колькасцю вячыстых дрэваў, рэсурсамі інтэлектуальнай інфармацыі, а не рэсурсамі пітной вады? Хаця кожнаму зразумела, што для падставовага існавання чалавека вада і дрэвы – рэчы куды больш істотныя за інфармацыю ды кампутары...

Чаму спеласць інтэлекту апазнаецца праз веданне Рыльке і Вітгенштайна, а не праз веданне спрадвечных песень і міфаў свайго народа? Хаця няцяжка здагадацца, што спеўны досвед вясковай бабулькі не менш каштоўны для прасветы сутвы быцця, чым кафедральны досвед прафесара...

Чаму веліч нацыі вызначаецца памерамі народаў, апалоненых яе войскамі і яе культурай, а не здольнасцю праз стагоддзі трымаць чужынны палон, упарта чакаючы пары свайго выбаўлення? Хаця ўжо дзве тысячы гадоў мы жывем у цывілізацыі Хрыста, які агалосіў цярпенне і пакору сярод вышэйшых каштоўнасцяў чалавека...

Падобных «чаму», як грушаў з дзічкі, можна натрэсці безліч, але нават згаданыя тут у апазіцыі «вада», «дрэвы», «рэальная культура», «цярпенне» і «пакора», калі з іх выбудаваць адпаведную сістэму каштоўнасцяў, явяць свету (і нам самім) Беларусь як адну з самых заможных краінаў Еўропы, а беларусаў – як вялікую еўрапейскую нацыю...

Дык у чым праблема?

Дык у тым, што нават калі мы праробім гэтую працу і змайструем тоесную сваім багаццям сістэму ацэнак, то ані свет, ані мы самі – ніхто не заўважыць ні нашай велічы, ні нашай раскошы...

Ніхто (і мы самі) не ўбачыць нас, бо тая карэкцыя зроку, што стагоддзямі фармавала каштоўнасную перспектыву бачання еўрапейскага чалавека, якраз і адбывалася праз высячэнне на паперу лясоў, атручванне мануфактурамі рэкаў,

штукаванне спекулятыўных абстракцыяў, зваяванне плямёнаў і народаў... Праз усё тое, чаго ў нас амаль не было і што ў нас, лічы, не рабілася.

Таму натуральна, што сонца гэтак скарэктаваных каштоўнасцяў запынілася не над намі, а над Парыжам, а мы апынуліся ў яго глыбокім цені, дзе марудна сноўдаемся з вечна задранымі да асвечанай гары барадамі, спатыкаемся на кожным кроку і паныла нэндзім: калі гэта «загляне сонца ў наша ваконца»?

– Дык няўжо нам да скону гібець у гэтым золкім сутонні, няўжо адсюль няма ніякага выйсця на ясны белы свет? – неяк рашуча запытаўся я сам у сябе.

І сам сабе рашуча адказаў:

– Няма!

– Але ж нешта трэба рабіць.

– Трэба, – пагадзіўся сам з сабою.

– А што трэба?..

І тут раптам вымавілася, як выдыхнулася:

– Разбурыць Парыж.

...Тады я адразу і вырашыў, што мушу спехам напісаць эсэ з адпаведнай назвай, каб разгарнуць сваю эўрыстыку ў шыхты лагічна сашчэпленых сілагізмаў і тым самым давесці ўсім занураным у пыныласць беларусам, што ў нас няма альтэрнатывы: альбо мы разбурым Парыж, альбо Парыж у рэшце рэшт сваім цяжкім ценем спляжыць нас – дашчэнту.

Дарэчы, я люблю Парыж, але... Але Беларусь я люблю болей. І таму калі пытанне паўстала рубам – каму знікнуць, а каму заставацца, дык я, натуральна, выбраў Беларусь.

Мэта была вызначаная, са сродкамі таксама асаблівых праблемаў не прадбачылася: мы маем адно з самых моцных войскаў у Еўропе, а калі ўлічыць, што наш вялікі саюзнік заўсёды гатовы ваяваць дзе заўгодна і з кім заўгодна (да таго ж ён кагадзе набыў у Чачні мадэрновы досвед разбурэння гарадоў), то, ясная рэч, Парыжу ўжо нядоўга заставалася зіхацець у промнях нахабна запыненага ім сонца.

Я нават ведаў, што мы зробім перадусім, як толькі руіны Парыжа хоць трохі астынуць...

Найперш мы сфармуем калону трактароў «Беларусь» з прычэпамі, насыплем у прычэпы бульбы і выправім калону да Парыжа, каб засадзіць Елісейскія палі беларускай бульбай.

Было ў мяне і шмат іншых цікавых подумак, якія я збіраўся выкласці ў тым эсэ, што мусіла папярэднічаць рэальным дзеям. Але не выклаў, і эсэ не паспеў напісаць, бо якраз пад той момант даведаўся ад свайго знаёмца, алжырскага габрэя па прозвішчы Дэрыда, што Парыж, авохці мне, ужо даўно разбураны і цяпер усе французскія постмадэрністы займаюцца дэканструкцыяй ягоных руінаў.

Вядома, габрэі разумныя і дасведчаныя людзі, але вядома і тое, што цалкам даваць ім веры ніколі нельга. Таму я далікатна справіўся яшчэ ў іншых вядомых мне французаў (Льётара, Барта, Дэлёза...) наконт лёсу Парыжа, і ўсе яны запэўнілі, што хоць Дэрыда і габрэй, аднак гэтым разам ён сказаў самую што ні ёсць чысцюткую праўду, і таму нам няма ніякай патрэбы скідваць на Парыж расейскія бомбы і садзіць на Елісейскіх палях беларускую бульбу.

Неўзабаве я трымаў у руках кнігу Льётара «Перапісаць сучаснасць», у якой ён якраз і распавядаў пра гісторыю разбурэння Парыжа і пра таго, хто гэткае змог прарабіць без грукату і пылу, а менавіта – пра Постмадэрн.

Сёння пра збаўцу беларусаў ад прыгнёту Вялікага еўрапейскага наратыву (сталіцай якога і быў Парыж) усе хоць нешта ды чулі. Але раўнуючы з тым, што зрабіў Постмадэрн дзеля нашай шматпакутнай бацькаўшчыны, якая да гэтага гібела, упляжаная ў глебу цяжкім ценем Парыжа (а цяпер пакрысе выпростваецца пад лагодным сонейкам, што вісіць прама над намі), мы ведаем да прыкрага мала,

і да таго ж нашае веданне цьмянае, як замурзанае дымам шкло, праз якое дзеці спрабуюць глядзець на сонца. Таму я, вызвалены ад абавязку агітаваць беларусаў за інтэрвенцыю Еўропы, вырашыў скарыстаць лішак часу на ўслаўленне героя, дзякуючы якому мабыць упершыню ў гісторыі людства кожны мае Сонца столькі, колькі яму дазваляе геаграфія, а не ідэалогія...”

* * *

Акрамя самога факта з’яўлення *(першага... беларускага... філасофскага)* часопіса і мноства вартых ўвагі як аўтарскіх так і перакладных тэкстаў, “Фрагменты” вылучыліся яшчэ адной заўважнай ініцыятывай, якую варта адзначыць. А менавіта кніжнай серыяй ”Бібліятэка Фрагментаў”.

Першай літаратурнай серыяй у той пачатковай Беларусі адзначыўся Алесь Аркуш. Называлася яна “Полацкае ляда”, хаця друкавала паэтычныя кніжыцы аўтараў з усёй Беларусі. (Лявон Вольскі, Юры Гумянюк, Славамір Адамовіч...)

Потым падобныя ініцыятывы здараліся яшчэ не аднойчы. Дарэчы, са шчыравання Алеся Анціпенкі займеў сваю серыю і Беларускі калегіюм. Бібліятэка “Беларускі калегіюм” рэпрэзентавала тэксты вядомых беларускіх інтэлектуалаў, што выкладалі ў нашай інстытуцыі.

“Фрагментаўская“ серыя ад іншых нічым асаблівым не вылучалася. Натуральна, яе аўтары былі *a priori* калі не геніяльнымі, дык відавочна таленавітымі. Аднак галоўным сэнсам падобных праектаў было друкаванне вартых кніжак, якія не маглі пабачыць свет у дзяржаўных выдавецтвах. У нашым выпадку гэта былі кнігі Дубаўца, Баярына, Разанава, Бабкова, Акудовіча, Санько, Барысевіча, Мілаша...

А далей пра сумнае... Калі часопіс быў ужо ў самым росквіце, яго разам пакінулі Валерка Булгакаў і Андрэй Дынько. Да таго ж пакінулі неяк непрыгожа і крыўдна для Ігара Бабкова. Прынамсі, менавіта так ён мне распавядаў, толькі я з таго расповеду цяпер лічы нічога не памятаю. А калі б і памятаў, дык не пераказаў. Залішне шмат набачыўся падобных канфліктаў, каб шукаць у іх правых і вінаватых.

Зрэшты, час пакажа, што на тую пару хлопцы ўжо выспелі, каб распачаць уласныя справы. І не абы якія. Андрэй Дынько неўзабаве заступіць на месца Сяргея Дубаўца ў “Нашай Ніве” і разам з тым дапаможа Валерку Булгакаву стварыць славуты часопіс “Архэ”.

Да таго ж, а, можа, перадусім, яны ўжо не бачылі для сябе перспектывы ў “Фрагментах” хаця б таму, што не верылі ў прыгожую будучыню самога часопіса. Рэч у тым, што яго было каму рабіць, але не было каму чытаць. Потым, развітаўшыся з Бабковым, я неаднойчы ад іх чуў, што яны хочуць стварыць выданні, якія будуць мець свайго шматлікага чытача.

Страта Дынько не была асаблівай стратай для Бабкова, а вось без Булгакава часопіс заняпаў значна раней, чым гэта здарылася б, каб той заставаўся ў “Фрагментах”. *Булгакавы* заўсёды нараджаюцца ў адзінкавым ліку. І нават сам Бабкоў не мог яго замяніць.

А цяпер, пазначыўшы галоўную праблему часопіса, здаецца, надышоў час вярнуцца назад і завяршыць сюжэт з новасібірскімі клоўнамі.

Потым, калі часопіс згарнуўся, а анекдот застаўся, я неяк зусім выпадкова запытаўся сам у сябе: з чаго такая трывушчасць у тым дурнаватым сюжэце? І мне нечакана падказаў Ніцшэ:

“Згадаўшы гэтыя словы, Заратустра зноў паглядзеў на натоўп і змоўк. “Вось стаяць яны і смяюцца, – казаў ён свайму сэрцу, – не разумеюць мяне: не на іхнія вушы казань мая” (“Так сказаў Заратустра”).

Выступаючы са сцэны, кожны з нас, відаць, не аднойчы ўпотайкі нават ад

самога сябе падумаў: "не на іхнія вушы казань мая". І з гэтага зноў і зноў адчуў сябе клоўнам, які проста забаўляе публіку.

Дарэчы, у гэтым няма ніякай абразы стасоўна публікі. Як і стасоўна ўласна беларускіх філосафаў. Каб патлумачыць, што я маю наўвеце, зноў звярнуся да Фрыдрыха Ніцшэ ("Філосафы ў трагічную эпоху Грэцыі").

"Слушна сказана, што народ вызначаецца не столькі сваімі вялікімі людзьмі, колькі спосабам, якім ён іх спазнае і ганаруе. У іншыя часы філосаф – выпадковы адзінотнік сярод чужароднага асяроддзя, які ці праслізвае паўз, ці ўпарціцца са сціснутымі кулакамі. Толькі ў грэкаў філосаф – невыпадковая падзея. (...)

Існуе неадольная залежнасць, якая задзіночвае філосафа з наяўнай культурай: але што бывае, калі гэткай культуры няма і знаку? Тады філосаф – непажаданая і жахлівая камета, у той час, як пры больш спрыяльных абставінах ён зіхаціць, што тая загалоўная зорка ў сонечнай сістэме. З гэтага грэкі і вітаюць філосафа, бо толькі ў іх ён не камета".

Сваімі словамі кажучы, беларуская нацыянальная культура і па сёння не набрыняла такім кшталтам моцы ды вартасці, каб зважаць на філосафа не як на выпадковую камету, а як на істотную частку самой сябе, без якой яна заўсёды будзе ўглядацца ў неба пустымі і спалоханымі вачніцамі...

Апошні нумар "Фрагментаў" пазначаны 2006 годам.

*P.S.* Доўгі час вокладкі для "Фрагментаў" ствараў мастак Андрэй Фядорчанка. Потым ён з'едзе ў Швейцарыю, дзе возьме шлюб з мясцовай жанчынай і ўжо ніколі не вернецца, але не пазбавіцца настальгіі па бацькаўшчыне.

Праміне няведама колькі год, і на свой фэйсбучны адрас я атрымаю ліст: "Беларуская философия – самая живая наука, а беларуские философы – самые органичные с природой человека люди)). В «Эўрафоруме» ли, «Белоруском Калегіюме» ли, или на простой даче – они источали позитив, энергию и свежие идеи, много идей. Наверное потому, что тогда еще была жива надежда на скорые перемены в Беларуси, которым они искали смыслы, готовили фундамент. Искать смыслы – это их профессия. Несколько лет, прожитых рядом с *Ігар Бабкоў, Ales Ancipienka, Valiantsin Akudovich, Siarhej Sanko,* дали мне колоссальный интеллектуальный и творческий импульсы. После живых дискуссий сопутствующая им водка становилась нектаром, а немудреная закуска из сала и огурцов превосходила всякие там суши с омарами. За окнами барабанит дождь, а мы поем: «Няма таго, што раньше было...» И ведь сглазили! «Мяне (По Валентину Акудовичу) няма!» Но это не страшно, что «няма»! Я не философ, просто рядом был))".

Уласна, кнігі (тэксты) і ёсць тым, праз што спазнаюцца кшталт ды сэнс творчага наробку, а значыць, і самога жыцця інтэлектуала. А яшчэ тыя крытычныя рэфлексіі іншых аўтараў, што выдрукаваныя кнігі суправаджаюць. Таму я маю намер прэзентаваць у хроніках некалькі сваіх кніг, улучна з іх крытыкай – часам і рэзка адмоўнай.

Здаецца, я ўжо згадваў, што першую сваю кнігу надрукаваў у 48 год. Фармальна так яно і было. Хаця насамрэч надрукаваў яе не я, а Ігар Бабкоў. На той час я зусім не думаў пра нешта такое. Апошнім часам мае тэксты шмат друкавалі як у дзяржаўных, так і незалежных выданнях, і мяне гэта цалкам задавальняла. Тым болей, што гэта пераважна былі не толькі даволі тыражныя, а і паважныя выданні. І таму свая кніга накладам ў 300-500 асобнікаў, якую яшчэ трэба будзе неяк манетызаваць, мяне цікавіла не болей, чым сабаку голая костка.

– На якую халеру мне гэта патрэбна? – сказаў я Ігару, калі ён прапанаваў падрыхтаваць рукапіс кнігі для серыі "Бібліятэка Фрагментаў".

І што б потым Ігар ні казаў, я не слухаўся. Толькі аднойчы ён вымудрыў наступнае:

– Пачакайце, Валянцін, хіба мы робім часопісы ды кнігі дзеля саміх сябе? Не. Мы іх робім, каб мацаваць і шырыць дыскурс сучаснага беларускага мыслення. Таму не думайце, што гэта *вашая* кніга, а думайце, што гэта проста яшчэ адна цагліна на будоўлю Бабілонскай вежы ў беларускай інтэрпрэтацыі.

Ну, пра Бабілонскую вежу гэта я сам зараз прыдумаў. Але словы пра тое, што гэтая кніга не для мяне, а дзеля нашай агульнай справы, моцна развярэдзілі. Да таго ж мне, лічы, нічога і рабіць не трэба было. Адно адабраць розныя выданні з лепшымі, на мой погляд, ужо друкаванымі тэкстамі і прынесці тыя выдані у офіс “ЭўраФорума”. А яны самі перадрукуюць у кнігу пазначаныя мной тэксты.

Спачатку кнігу я называў скрай лаканічна: “Мяне няма”. Алесю Разанаву такая лаканічнасць падалася збыткоўнай, і ён прапанаваў ускладніць структуру назвы. Я нейкі час вагаўся, аднак урэшце прыдумаў: “Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека”.

Потым Ігар Бабкоў будзе жартаваць: кніга харошая, а вось назва нікуды не вартая. Бо хто ні пабачыць на вокладцы “Мяне няма...”, дык адразу і адкладзе яе ў бок. Маўляў, што там чытаць – няма і няма...

Між іншым, назва кнігі не была зусім арыгінальнай у тым сэнсе, што ў 12-м нумары часопіса ”Крыніца” было надрукаванае маё вялікае эсэ, якое называлася “Мяне няма, не было, не будзе”.

Згадваецца, як неўзабаве пасля выхаду эсэ ў вялікім кабінеце “Крыніцы” назбіралася ладная гурма народу і ўсе абмяркоўвалі вось гэтае “мяне няма”. Я нешта тлумачыў пра метафізічную ідэю адсутнасці, як раптам адчуў моцны кухталь у шыю – аж прыгнуўся. І адразу пачуў за спінай вясёлы голас Алеся Разанава:

– Валянцін, вас жа няма. Дык чаго вы ўгінаецеся?!

Згадаўшы тую бурлескавую гісторыю, не магу абмінуць яшчэ адну. Калі кніга ўжо вярсталася нашым выдатным філосафам Сержуком Санько, я патэлефанаваў яму, каб змяніць назву эсэ “Пераміда Хеопса за руінамі Мірскага замка” на “Чарговы Бабілён на руінах геаграфіі”.

– Няма праблемаў, – запэўніў Сяржук.

Праблемаў і сапраўды не павінна было быць, але рэч у тым, што Сержуку мусова трэба было звярстаць маю кніжку ў пераднавагоднюю ноч. Таму ў адсутнасці Дзеда Мароза са Снягуркай ён сам сябе патроху весяліў. Між іншым, не заснуў і са справаю ўправіўся, толькі потым, гартаючы сваю кніжку, я ўбачыў, што адно і тое ж эсэ было надрукаванае двойчы пад рознымі назвамі.

Што цікава, калі нехта з чытачоў і звяртаў увагу на гэткую загадкавую бінарнасць, то моцна не дзівіўся. Маўляў, постмадэрністыя яшчэ не такое вычвараюць...

Між іншым, Ігараў жарт наконт назвы застаўся толькі жартам. Бо менавіта назва і справакавала не абы-якую цікавасць да выдання. Хаця расчытаць яе напоўніцу не шмат у каго атрымалася, паколькі беларускія аўтары раней так (і такога) не пісалі.

З усіх крытычных рэфлексій, якія за два дзесяцігоддзі ў мностве прагучалі паводле гэтай кнігі, я выбраў толькі дзве. Першая належыць Алесю Разанаву, бо гэта Разанаў (*Бліц-водгук на кнігу Валянціна Акудовіча “Мяне няма” ў тыднёвіку “ЛіМ”):*

“Тое, што В.А. кажа, ім жа самім мусіць удакладняцца. Гэта яшчэ пачатак гаворкі, з канца, але пачатак. І як канец – вываратак пачатку, а скрыжаванне – выварат раздарожжа, так і пастулат “мяне няма” выварат пастулата “я ёсць”. Дыскурс экзістэнцыі перайначваецца ў экзістэнцыю дыскурсу.

Зрэшты, справа не ў саміх пастулатах, а ў тым, што яны здольны намацаць, схапіць, высветліць, растлумачыць і актывізаваць у рэчаіснасці, а для гэтага, хочаш не хочаш, цэнтр цяжару мусіць перанесціся з апірышча на крок.

І хочаш не хочаш, а В.А. даводзіцца дбаць пра каардынаты і казаць, *як* мяне няма”, *чаму* мяне няма, *для чаго* мяне няма. Але “мяне няма”, якое мае каарды-

наты, гэта ўжо не зусім “мяне няма”, гэта, па сутнасці, хоць з другога боку, ужо тое самае, што і “я ёсць”, якое распазнае, *як* я ёсць, *чаму* я ёсць, *для* чаго я ёсць.

У нечым, ці не ў самым вызначальным, В.А. ідзе ўслед за Ніцшэ і паэтыку ніцшэўскага нігілізму даводзіць да прыступу ніцшэўскага радыкалізму. Так ён выяўляе сябе, так ён вядзе сваю гульню. І гэтая гульня кажа, што нігілізм не выдумка і не сваволя філосафаў, а непазбежны плён самаістотнага мыслення, якое бярэцца вырашаць (і вырашае) тое, што здольна здзяйсняцца адно духам.

Чым мне падабаюцца дыскурсы В.А., дык гэта франтальным зваротам да кардынальных метафізічных пытанняў, чым не падабаюцца – дык амаль тым жа: сваімі шматслоўнасцю і катэгарычнасцю. Мабыць, на карысць дыскурсу было б, калі б В.А. казаў не “апошняе”, а “перадапошняе” слова.

В.А. адважна кідаецца ў глыбіню і з шумам разгортвае вакол сябе ўсё, што захопліваюць рухі.

Але ён гэтак плыве.

Для ўсіх нас істотна, што ў беларуска-культуралагічным абсягу ёсць гэтакі плывец”.

З другім аўтарам я таксама не меў выбару. Пётра Рудкоўскі нарабіў паводле маіх кніг столькі грунтоўнай (і жорсткай) крытыкі ў розных выданнях, што абмінуць увагай яго тытанічную працу я ніяк не мог. Тут была хіба іншая праблема. У тэкстах Пётры такое мноства цікавостак, што я доўгі час не ведаў, на якой з іх запыніцца. У рэшце рэшт вырашыў рэпрэзентаваць пачатак артыкула:

## «Мяне няма» – роздум інквізітара на руінах Акудовіча

*Пасля прачытання кнігі Валянціна Акудовіча «Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека». Менск, 1995.*

*Бо ў гармоніі праўды*
*левыя і правыя сілы маюць долю сваю.*

Успаміны св. Яна (апокрыф)

Акудовіча няма, але інквізіцыя ёсць. Не-існаванне ерэтыка – гэта найбольш сур’ёзная праблема для інквізіцыі, таму стаўлю сабе два заданні: 1 – знайсці ерэтыка; 2 – высветліць, што ёсць *паміж* інквізітарам і ерэтыком. Нагода выдатная – дзесяцігоддзе выхаду ў свет слаўнага ўжо Акудовічавага дзецішча: «Мяне няма».

Менавіта ў сферы «паміж» інквізіцыя можа найбольш поўна рэалізаваць сваё пакліканне, якое заключана ў яе назве: *inquisitio* – вышукванне, даследаванне, ад*inquirere* – шукаць, дапытвацца. У сферы «паміж» найболей справаў, якія патрабуюць інквізіцыйных росшукаў.

Акудовічава забава арганізавана паводле прынцыпаў *канструкцыі і дэканструкцыі.* «Руіны» выконваюць функцыю рэгулятарнай ідэі, прычым «рэгулятарнасць» тут палягае насамрэч на *дэрэгуляцыі*, адыходзе ад усялякае *regula*. «Руіны» маюць на мэце раз-ладзіць, раз-губіць логацэнтрычны інтэлект, які пагарджае ўсялякімі руінамі і пазбягае бязладдзя.

Тым не менш, аўтар займаецца і *будаваннем:* будуе тэарэтычную мадэль пад назовам «архіпелаг Беларусь», хоць яму самому, мабыць, здаецца, што ён *знаходзіць* гэты архіпелаг сярод руінаў. Акудовіч таксама сварыцца з Богам, і гэтая сварка мае сапраўды *разбуральны* характар: вынікам яе ёсць разбурэнне вобразу Бога, «Словабога», як ён кажа. Ну, ёсць яшчэ пару іншых забаваў (канструкцый-дэканструкцый) у кнізе, але яны занадта бяскрыўдныя, каб маглі зацікавіць інквізіцыю. Таму павандруем трохі па «руінах Бога» і «руінах чалавека».

**1**

Чалавек не мае сутнасці. Ён нявечны. Жыццё яго пазбаўлена сэнсу. Яму *наканавана* толькі «адбыць быццё». Чалавек не мае якойсьці «найвышэйшай» вартасці. Як утрапёна ні пераконвалі б прапаведнікі-аптымісты, «*я – гэта семдзясят кіло костак, тлушчу, цяглiц і вадкасці чырвонага колеру*».

Гэты крайні антыгуманізм Акудовіча спалучаецца з візіяй канца: «*Час чалавека сканчаецца – у самых розных сэнсах. І ў сэнсе часу, дарэчы, таксама*». А «смерці чалавека» папярэднічае «смерць Бога», смерць падставы сэнсу. І ў гэтай прорве нігілізму і абсурду філосаф будуе вобраз факультатыўнага бога для чыста прыватных патрэбаў – Этнас. «Архіпелаг Беларусь». А так увогуле – Бог памёр, пад намі – нішто, над намі – нішто, і «*Я-чалавек – нішто, якое зьяўляецца зь ніадкуль і зьнікае ў нікуды*».

Гэтая выснова грунтуецца на «археалогіі» – філасофскім асэнсаванні чалавечае гісторыі. Мінуў перыяд панавання Татэму, Міфу і йдзе да завяршэння панаванне Тэксту. Разам са смерцю Тэксту памірае і Бог. Крайні антыгуманізм і крайні атэізм – вось вынік археалагічных даследзінаў Акудовіча. І тут закралася ў мяне паняверка: *вынік ці прычына*?

Акудовіч сварыцца з Богам, і добра. З Богам сварыліся і Майсей, і Ёў, і амаль усе пракокі. У Кнізе Ісаі Бог сам гаворыць: «Хадзеце і спрачайцеся са Мной» (1, 18). Але Акудовічава сварка нейкая вульгарная і маналагічная. Акудовіч дакарае Бога за тое, што забараніў Адаму й Еве займацца сексам, заяўляе, што Яго ўцелаўленне – доказ паталагічнага стану, а смерць на крыжы – праява садамазахізму. Каб апісаць усе злачынствы Бога, кажа Акудовіч, трэба было б высекчы ўсе дрэвы ды і таго не хапіла б. Божыя злачынствы пераўзыходзяць злачынствы Сталіна, і людзям трэба было б не чакаць другога прыйсця, а паслаць Богу позву ў суд (толькі невядома, куды пісаць). Такога Бога Акудовіч бачыць у Бібліі, зборніку тэкстаў пра Бога. Увесь час мысляр застаецца верны перакананню, што Бог тоесны з Тэкстам, Бог не існуе па-за Тэкстам.

Адкуль Акудовіч ведае, што Бога па-за тэкстам няма? Адкуль ён ведае, што пасля смерці – смерць? Ці ён ужо быў памёршы, даведаўся, што нічога пасля смерці няма, і цяпер ласкава нам гэта аб'явіў?"

*P.S.* Каб ведаў, дзе ўзяць грошай, то сабраў бы ўсю аналітыку маіх тэкстаў Пётрам Рудкоўскім да купы і выдаў асобнай кніжыцай. Магчыма, напрыканцы нават уклаўся б у крытыку крытыкі апанента і надаваў бы яму трохі інтэлектуальных кухталёў, толькі зусім не дзеля помсты, а каб такім спосабам падзякаваць за ўвагу да маёй не/сціплай асобы.

*(Працяг будзе).*

Альжбета Кеда



...не абмінулі іншапланецяне
маленькае Антанёва
ў глыбіні Налібоцкае пушчы...

# Антанёва

***Старонкі з новай кнігі***

***Антанёва – вёска ў глыбіні Налібоцкае пушчы.***
***Дзівосная казка майго дзяцінства, Радзіма матулі.***
***Мая светлая радасць, але і глыбокі смутак:***
***Антанёва памірае. Даўно няма ні бабулі, ні дзеда,***
***і назаўсёды пайшла мая мама.***
***Усё тут для мяне – адна цікавая, таямнічая легенда,***
***што вырасла з аповедаў бабулі і мамы.***
***Кніга, над якою працую, так і называецца – “Антанёва”.***
***Прапаную ўрывак з яе.***

## Вадзічка з крынічкі

Якраз пасярэдзіне Антанёва выбівалася з-пад зямлі крынічка. Тоненькі струменьчык. Сілаў, каб ракою паплысці, не мела. А вось вадою напаіць антанёўцаў – калі ласка. Зрабілі калодзеж і хадзілі па тую чыстую крынічную вадзіцу. А была яна на

лузе якраз насупраць Аксенінага хлява. Ажно шэсць сем'яў штодня найлепшую вадзічку пілі: Мішулёвы, Лёшкавы, Аксеніны, Лёні Васілеўскага, Фаніка Лядэцкага, аб'ездчыкавы.

Выцякала крыніца каля магутнае ліпы. Жураўлём ваду даставалі зусім невялікім, метраў са тры, бо ж неглыбока. Апалубка была драўляная. Заглядвалі часам дзеці ў крынічныя нетры і жахаліся, угледзеўшы магутнае, пераплеценае карэнне. Падавалася ім, быццам нейкія вадзяныя пачвары затаіліся ў глыбіні...

Ідзе прыгажуня Жэня Лёнева з двума паўнюткімі вёдрамі праз Мішулёў надворак, статная, роўненька трымаецца, бы гуляючы, бы на праменад выйшаўшы. Быццам не цяжкія вёдры нясе. А чаму ў руках? Дзіўна, але ў Антанёве ніхто каромысламі не карыстаўся.

Луг гэты мо й не зусім луг, а так – няўдобіца. Нічога там не садзілі. Называлася гэтае месца Пружменя.

За Пружменяю – лес палоскаю. І лес назву меў – Дзесянціна.

Ну вось, хоць колькі назваў антанёўскае тапанімікі з нябыту вырвала!

## Смерць у Чырвоную нядзелю

Не сустрэлася на гэтым свеце антанёўка Ліда Ульянкава, а ўжо Царукова, са сваёю сваццяю Марусяю Дзямянкаваю. Нявестачка яе Ніна круглаю сіратою расла, бабуля яе даглядала.

Жылі Дзямянкі непадалёк ад маёнтка Кашчыцавага. Двое малых дзетак было ў сям'і. Зімою, у самую халадэчу, моцна захварэў сынок маленькі. У Турэц трэба было, па лекі. А шлях гэты (між Ярэмічамі і Турцом) вельмі небяспечным быў, бо ў адным мястэчку партызаны гаспадарылі, а ў другім паліцэйскі гарнізон стаяў. Людзі між двух агнёў выжывалі. А яшчэ трэцяя бяда – галодныя воўчыя зграі насіліся па зарослых кустоўем, разбітых дарогах. Якраз і натрапіла на такую бедная маладая маці. Шчасце яшчэ, што блізка танк падбіты стаяў. Ускочыла туды, ратавалася ад немінучае страшнае смерці. Ды толькі не адыходзілі звяругі ад свае ахвяры, чакалі на спажыву. Мусіла яна ў танку сядзець, спадзеючыся, каб хто выратаваў. Доўга чакаць давялося. Амаль суткі. Апранутая Маруся была лёгка, бо цёплае адзенне, якое ад нямецкіх пабораў засталося, партызаны падграбалі. Асабліва бяда з абуткам была. На ножках Марусіных – вязаныя тапкі. Забыліся людзі ў вёсках, што такое валёнкі цёплыя...

На шчасце, ішоў нехта дужы па той дарозе, вызваліў ледзьве жывую маладзіцу з звярынага палону.

Адгукнуліся ёй суткі ў халоднай жалезнай пастцы. Прастудзілася моцна, захварэла. Зіма сышла, вясна закрасавала, а Маруся пры смерці ляжыць, апошнія дні дажывае. Балюча ёй так, што сэрца з жалю разрываецца. Не, не цела баліць, яна яго ўжо даўно не чуе. Душа з гора заходзіцца: побач сыночак яе канае. Не ўратавала яна маленькага, не данесла яму лекаў.

Сынок Марусін пайшоў з жыцця на Вербніцу. А сама яна ў Чырвоную нядзелю з жыццём развіталася. Кажуць, тым, што на Вялікім тыдні сыходзяць, райскія дзверы адразу расчыняюцца...

## Кужэльная сукенка

Жылі антанёўцы ў вайну як на парахавой бочцы. Як усе. Але яшчэ горш. Бо лес навокал, Налібоцкая пушча. А хто толькі там не блукаў! З дабром ніхто ў вёску не наведваўся. Але самае страшнае – партызанка, блакада. Каб хоць што ўратаваць, хавалі рэчы ў куфры і закопвалі.

Стэпачка Казёлчыкава таксама ўсё лепшае сабрала і паспела перад блакадай

1943-га закапаць на агародзе. Калі ж вярнуліся зняможаныя, згаладалыя з балотаў на сваё котлішча, на тым месцы згледзелі яму. Дзіва, як знайшлі? Відаць, тутэйшыя, што ведалі звычкі нашых людзей, сховы. Паліцаі ці партызаны. Немцы наўрад ці агароды раскопвалі. Усё забралі. Адно маленькія вышываныя кавалачкі тканіны валяліся...

У куфры схаваная была Стэпаччына сукенка з тонкага кужалю. Вельмі прыгожая, далікатная. Вышываная. Вышыўка на рукаўчыках і кішэньках. Стэпачка ўжо не насіла яе, для Зіны свае зберагала. Вось жа, тыя вышываныя кавалкі і валяліся. Відаць, сукенку на ганучы забралі, паадрываўшы непатрэбнае, каб не муляла, ногі не націрала...

## Праклянцце

Жэня Ёсіпава ў самую ваенную калатнечу, у сорак другім годзе, нарадзіла двойню. Двух хлопчыкаў, Валодзю і Косціка. Малака не хапала, бо якое ж жыццё было, бо есці не было чаго. І карова запусцілася. Крычалі хлопчыкі, з голаду заходзіліся. Думала, не выжывуць. Валодзя выжыў. Косцік памёр.

А ў сорак сёмым, калі яшчэ не ажылі пасля вайны, не абжыліся, яшчэ з зямлянкі не выбраліся, ізноў зацяжарыла кабета. Ізноў двойню нарадзіла. Славіка і Таісу. І тыя ж пакуты! Але вытрымалі, выжылі...

Згадваючы перажытае, тыя жахі, неаднойчы казала суседкам Жэня:

– Калі б я на каго моцна зазлавала і паклясці каго трэба было б, то я б сказала: “Каб у цябе двое блізнят нарадзілася!”

Вось якое страшнае праклянцце. Але хіба ніколі нікога так не пакляла, бо добраю кабетаю была.

## Каб больш не было!

Яны сышліся пасля вайны. У яго чацвёра дзетак, у яе двое. Няма чаго казаць: мачыхаю была нядрэннаю. Жылі ў бядоце. Як усе ў Антанёве ў тыя часы. Мірыліся, усім усё аднолькава. Як сваім дзеткам, так і мужавым.

Але аднойчы згледзеў гаспадар, як мыла новая жонка дзяцей. Спачатку сваю дачушку вымыла, а тады кліча мужаву і ў тую ж ваду кажа лезці. Прамаўчаў, нічога не сказаў. Праз тыдзень ізноў купанне. Нагатавала вады, наліла ў начоўкі і кліча сваю дачушку. А гаспадар на сваю:

– Не, ідзі ты першаю мыцца.

Памылася, з вадзіцы вылезла. Кліча муж жончыну дачку:

– А цяпер ты ў гэтую ваду залазь.

– Што ты, Іванко! Вада ж брудная...

– А маёй дачцэ пасля тваёй брудная не была? Запомні, каб ніколі больш так не рабіла!

Запомніла. Жартачкі з мужчынам бокам вылезці могуць. Ведалі антанёўскія кабеты, хто ў хаце гаспадар.

## Дзесяць метраў палатна

Адразу пасля вайны гэта было. Малодшы брат Надзі Парыневай у лес паехаў, па дровы на зіму. Знайшоў там бліскучую цацку. Шмат такіх на нашай зямлі вайна пакінула. Прыехаў дахаты, паклаў яе на ступку і малатком як лясне. Узарвалася цацка. Усю руку паразрывала, сцягно прастрэліла.

Завезлі хлопца ў шпіталь у Карэлічы. А там палаты перапоўненыя, усюды салдаты, на франтах параненыя. Паглядзеў доктар руку і кажа:

– Будзем адымаць.

А тут якраз па калідоры ішоў нейкі вайсковец, відаць, франтавы доктар. Пачуў ён размову і выдаў свой вердыкт:

– Што вы ўсіх калекамі робіце! Гэтую руку можна выратаваць.

Прыйшла сястра Надзя да доктара і просіць, каб не адымалі руку яе брату, каб вылечылі. На просьбы свае пачула:

– Калі хочаш, каб лячылі, прынясі дзесяць метраў палатна.

– Не ведаю, колькі ў нас ёсць, усё прынясу, толькі лячыце.

Увесь сувой, які нябожчыца мама наткала, дастала з куфра, прынесла доктару. А самі як-небудзь...

І вылечылі, выратавалі руку. Трактарыстам яе брат стаў, усё жыццё працаваў, сям’ю меў. А кім бы без рукі быў? Калекам няшчасным.

## Крывавы шлях

Бедныя, бедныя жанчыны! Не таму нават, што працавалі вельмі цяжка, свету не бачачы. Не таму, што павагі, шанавання нат ад родных сваіх, ад мужа часта не мелі. Не таму, што апрануцца ў што *лю*дскае не мелі. А яшчэ таму, што ніяк не ўмелі з жаночым праблемам рады даць. Дзетак ужо поўная хата, а яны ўсё на свет просяцца. І пусціць няма як, бо ж галота, бо глядзець няма каму. І нічога не ведалі, апроч таго, што ў Мір да акушэркі ехаць і крывёю сваёю ды пакутамі душэўнымі змываць тое балюча-страшнае, што там адбывалася...

Канец саракавых. Самая будоўля ў Антанёве. Жылы рвуць гаспадары, каб хаты падняць, асіліць, каб з зямлянак вылезці. І жанчыны, дзеці дапамагаюць, як могуць. З лесу ў вольную хвіліну не вылазяць. Ягады, грыбы – усё збіралася, каб капейку зарабіць ды нешта купіць для новае хаты.

Ужо другі раз у тым годзе дабіралася яна ў Мір. Сціснула, здушыла ў сабе ўсе пачуцці. Каб нічога не думаць, каб толькі хутчэй. Грошы мела на духоўку для печкі. А для акушэркі ў клумачку сабраныя былі каўбаса, паляндвіца, сыр, масла.

Адбылося ўсё хутка. Боль трываць не ўпершыню. Але тым разам чамусьці ніяк не ўтаймоўваўся, не заціхаў. А трэба было спяшацца, бо машына, на якой магла б пад’ехаць, хутка адыходзіла. Купіла ў жалезнай краме духоўку і даехала да Сіняўкі. А там ледзьве з кузава злезла. Баялася, што хлыне зараз з яе. Шафёр яшчэ зубы скаліў: “Што ты як нежывая сёння?”

Праз усю Сіняўку цягнула тую цяжэразную духоўку, а тады яшчэ ўсю дарогу па лесе, якая як жа ёй здоўжылася. Прыпынялася неаднойчы, мяняла акрываўленае з-пад сябе. А тое скручвала, у духоўку засоўвала: дома памые, бо не раскідацца ж палатном...

Да Антанёва дайшла, па вуліцы не пайшла, каб каго не сустрэць, бо як ні старалася, працякло ўсё, спадніца закрывавілася. За агародамі ўжо ледзьве плялася.

Але духоўку не пакінула. Дацягнула-такі да хаты. А там ужо і ўпала. Боль запанаваў над усім...

А тут мужык у хату заходзіць:

– Уставай. Трэба сена насіць...

## З вожыкам у абдымку

У пачатку пяцідзясятых некалькі зімаў у Антанёве шмат чужых мужчынаў куты наймала. Вазакамі іх называлі. З розных вёсак людзі нарыхтоўвалі лес, выконвалі павіннасць перад дзяржавай. Бо ж чалавек заўсёды ўладзе павінны.

У хаце Пугоўскіх жылі трактарысты, бо вакол прастор і зручна было трактары ставіць. А хата – адзін пакой. Тут і кухня, і спальня. Спаць вазакоў клалі на

падлозе. Рассцілалі сена, пакрывалі дзяругамі, а накрываліся адзеннем, кажухамі, фуфайкамі. Яшчэ і свае сямейкі пяць чалавек было ў хаце. Але ўсім месца хапала.

Ніна гатавала для ўсіх. Вазакі прывозілі сала, крупы. І бульбу прывозілі. Паелі тады антанёўцы смачнае картопелькі. Бо на іхняй пясчанай зямельцы яна нясмачная, вадзяністая, не разварвалася.

І яшчэ адзін кватарант жыў тою зімою ў Пугоўскіх. Вожык Тупцік. Назвалі так дзеці, бо як пачне пад ложкам тупацець, быццам полк ідзе.

Аднойчы ноччу страшэнны перапалох у хаце ўсчаўся. Крыкі, валтузня! Вазак Міша Сукала з Аюцавічаў усіх на ногі падняў. Пакуль лямпу-газоўку запалілі ды трохі ачомаліся, разгледзеліся. Вожык яму пад бок залез. Пагрэцца бедны хацеў. Ды не зразумеў яго Міша спрасонку. Зрэшты, кожны спалохаўся б, каб у яжовых абдымках пабываў.

## Таполевыя пупіхі

Лячыліся нашы людзі тым, што зямелька ўзгадоўвала. Ад ранаў рэзаных, крывавых, ад любое драпінкі асабліва дзейснаю была спіртовая настойка таполевых пупіхаў. Чамусьці ў Антанёве гэтае дрэва не расло. Пазней ужо на Парыневым двары закрасуе магутная таполя. А пасля вайны ні аднае не было. Стэпачка гэты лек заўсёды мела, усіх лячыла. Паўлік ажно на Чорную хадзіў, каб пупіхаў нарваць. Трэба было дакладна ў час трапіць, бо крыху раней – не тое, не ўвабраліся яшчэ пупіхі ў сілу, не такія яшчэ ліпкія, водар не той, моц не тая. А хоць крыху пазней – сыдзе сіла, змарнее гаючы сок. Залівала Стэпачка пупіхі спіртам, гарэлкаю, што ў хаце было. Гадамі лекі быў дзейсныя.

Найбольш рэзаных ранаў у дзяўчат маладых ад сярпа. Сярпок – спраўны памочнік, але крыху не так павернеш, то і бяда. Жала Верка Дашына жыта, завіхалася, каб хутчэй, ды й паласнула сабе па левай руцэ. Па той мяккай падушачцы, што пад вялікім пальцам, трапіла. Ляцела з поля штосілы, руку перад сабою трымаючы, яшчэ з вуліцы крычала:

– Цётка Стэпачка! Даставайце пупіхі!

Страшна было глядзець на акрываўленую руку. Заміж падушачкі вісела мяса, быццам праз мясарубку прайшло. Залілі пупіхамі і ўраз кроў цячы перастала, застыла, сцягнулася парэзаная падушачка...

## Яна праваслаўная, я каталік...

Падавалася б, даўно гэта было, каб праз розную веру ды жыццё маладым людзям скалечыць. А не так і даўно, у сямідзясятыя гады. Настаўнікі, людзі праваслаўныя, трапілі па размеркаванні ў каталіцкую вёску на Шчучыншчыне. Так і засталіся там працаваць, нікуды не з'ехалі. Прыжыліся быццам бы. Муж дырэктарам школы быў. Але калі дачушка іхняя вырасла і пакахала хлопца з каталіцкай сям'і, адгукнулася ім іхняе іншавер'е. Бацькі хлопца не дазволілі ўзяць шлюб са схізматкай. Дзяўчына чакала дзіця. І не загубіла, нарадзіла дачушку. А гэта ж вёска! Кожны пальцам тыкаў, вочы калоў. Як бацькам перажыць было! А ёй, беднай...

Замуж так і не выйшла. У Шчучыне жыла, дачушку гадавала. Але сэрца, глыбокую рану атрымаўшы, не загаілася. Памерла, маючы сорак чатыры гады.

Дачушка яе, разумніца, выдатніца, за жыццё моцна трымаецца. Прэстыжную сёння кітайскую мову дасканала засвоіла. Не прападзе!

Вось толькі старэнькая ўжо мама той загубленай жанчыны не можа з горам змірыцца. Усе размовы яе – пра дачку, пра долю яе нешчаслівую, пра смерць раннюю.

Антанёўка яна, гэтая настаўніца, што не можа змірыцца з трагічным лёсам дачушкі.

## Яна застаецца!..

Самаю стройнаю, прыгожаю была яна між антанёўскіх кабетаў. Ніхто з равесніцаў станіка на штодзень не насіў, а яна насіла. Постаць такая спраўненькая, дзявочая. А працаўніца, акуратніца! Родам з Сіняўкі, у маладосці ў сталоўцы ў Міры працавала. І ўсё добра: хату пабудавалі, дзеткі разумненькія, прыгожыя, здаровенькія растуць. Ды няма ў хаце ладу. Надта злым быў яе мужык. Крычаў на яе, руку неаднойчы падымаў. За што? Раўнаваў. Бо сам быў няверным. Перабраў не адну з няўстойлівых прыгожых суседак.

Захварэў ён на рак лёгкіх. Зрабілі аперацыю ў Мінску. Ажыў, думаў, што ўсё мінулася. А пасля злёг. Так страшна было! Разумеў, што гэта канец. І не мог змірыцца. Не з тым, што памірае, а што яна застаецца. Як жа ён яе ненавідзеў! Гэта ж ён памірае, а яна такая прыгожая, яшчэ маладая, жыць будзе. Прыносіла яму есці, а ён хапаў што пад руку трапіць і пуляў па ёй. Бо сілаў ужо не было. Толькі на нянавісць і засталося...

І па смерці яе не пакідаў. Сніўся ёй. А сон усё адзін і той жа: спускае ёй лесвіцу, патрабуе, каб падымалася. А яна просіцца:

– Пачакай, я ж яшчэ маладая, я ж яшчэ жывая...

Так і дажыла кабета з нядобраю памяццю пра свайго мужа.

## Спявай, колькі ўлезе!

Казёлчыкавы вельмі прыгожа спявалі. Асабліва Стэпачка і яе пляменнік Саша. Выйдзе, бывала, на вуліцу, сядзе на лаўку і зацягне. Люба слухаць!

Аднойчы прыехаў да бацькоў Валодзя Лядэцкі. У Мінску жыў. Сустрэліся з Сашам, выпілі, выйшлі на вуліцу. Саша, як звычайна, песню зацягнуў. Спалохаўся Валодзя:

– Ціха, ціха!

А Саша яшчэ званчэй спявае.

Аказваецца, былі ў Валодзі ў Мінску прыгоды не надта цікавыя. Неаднойчы трапляў ён у рукі міліцыі. А тыя цягнулі ў выцвярэзнік. Ну і далей наступствы розныя, непрыемныя. Толькі выйдзе чалавек на вуліцу крыху на падпітку, і апрануты прыстойна, і нічога дрэннага не робіць, а яго ў кожным месце могуць скруціць і павезці. Не, не была гэта барацьба з п'янствам. На алкаголікаў, што пад крамамі валяліся, не прасыхалі, ніхто ўвагі не звяртаў. Хапалі якраз тых, з каго штраф спагнаць можна было, выцвярэзнікам план выканаць. Здзек з людзей, не інакш. Таму і спалохаўся Валодзя, таму і суцішваў сябра:

– Ціха, ціха! А то забяруць!

– Ніхто ў нас не забірае. Не бойся! Спявай, колькі ўлезе! – зухавата адказаў антанёвец, які ні на якія гарады сваю вёску ніколі не прамяняў.

## Іншапланецяне ў Антанёве

Хто не хоча, хай не верыць. Я веру.

Было гэта ў пачатку сямідзясятых. Пайшлі аднойчы напрыканцы лета маці з дачушкай на поле, што недалёка ад іхняе хаты было. Ноччу пайшлі, як добра сцямнела, гадзіне а дванаццатай. Толькі той, хто зусім не ведае тагачаснага вясковага жыцця, здзівіцца: "Чаго ноччу на поле хадзіць?" Зразумела чаго – красці. У калгасе, праз які людзей пасля вайны да ніткі абабралі. Тым разам па саломку пайшлі. Грабуць, спяшаюцца і высцерагаюцца, каб не згледзеў хто. І раптам нешта неверагоднае творыцца! Магутны промень падае з неба і асвятляе ўсё навокал. Бедныя нашы злодзейкі! Застылі ад жаху, з месца скрануцца не могуць. Бачаць, як пралятае, а затым уздымаецца ў неба нешта круглае. Талерка, іншапланецяне!

Не ведаюць і сёння, колькі тое доўжылася. Мо імгненне, мо больш. Бо страх літаральна скаваў іх. Апамятаўшыся, кінуліся дахаты. Не, дзяружкі з саломкаю не пакінулі.

Назаўтра днём на поле пайшлі. Знайшлі там круглае выпаленае месца...

Паўстагоддзя мінула. Ні адной жывой душы не расказалі пра начную прыгоду. Баяліся, каб у турму не пасадзілі.

– За што? – пытаюся.

– Як за што? А скажуць, што шпіёны. А яшчэ ў псіхушку запруць. Па целевізары расказвалі, як людзей за тое, што з іншапланецянамі сустракаліся, у псіхушку забіралі...

Не ведаю, што там *па целевізары* расказваюць, але дзіўлюся, надзівіцца не магу на нашых людзей.

Вось жа, не абмінулі іншапланецяне маленькае Антанёва ў глыбіні Налібоцкае пушчы.

## Спадчына

Сваё, ад свае кароўкі малачко скісне, паставіць яго гаспадыня ў печ прастылую. Адтане малако. Дастане, на друшляк адкіне, сцячэ сыроватка. А тварог у клінок перакіне. Між дошак паложыць і – пад прэс.

У кожнае гаспадыні прэс свой. Што тут прыдумваць? Навошта далёка хадзіць? Беларусь – краіна камянёў. Які хочаш выбірай. Такія гладкія, плоскія знаходзяцца, быццам хто роўненька абрэзаў. Могуць і не зусім гладкімі быць, з выемкамі, разрэзамі. Таксама файна.

У Ніны Пугоўскае быў незвычайны камень. Вельмі ж колер яна падабала. Ярка-ружовы, з іскрынкамі. Кварц, не іначай. Усё жыццё служыў гаспадыні. І ў Антанёве, і ў Новым Сяле. Бо кароўку да апошняга трымала.

Не стала Ніны, і страціў камень сваю ўтылітарную місію. Але разумела яе ўнучка родненькая, Мірына дачка Таня, што і такі, мо каму непатрэбны, будзе ёй служыць. Прывезла ў Гародню, на лецішча ў Зарыцу адвезла. Месца знайшла пры сцяне, на драўлянай падстаўцы, якая дошкі бабуліны нагадвае. Знак памяці, што ўвабраў у сябе цяпло яе рук. Задумаецца часам, колькі разоў да яго бабуля дакраналася? Многа, вельмі многа. Столькі, каб ператварыць мёртвае ў жывое, халоднае ў цёплае...

Прысядуць часам на лаўку Міра і Таня, два жаночыя пакаленні аднае сям'і, дзве мамы. І са светлым сумам на камень глянуць. І скажа Міра дачушцы:

– Гэта твая спадчына з антанёўскае сядзібы...

---

"Дзеяслоўцы" шчыра віншуюць
шаноўную **Алу Мікалаеўну ПЕТРУШКЕВІЧ**
з юбілеем і зычаць ёй душэўнае трываласці,
натхнення на новыя творы
ды Божае ласкі!

Кастусь Тарасаў



...усё жыццё мяне вабіла мінулае, але цяпер мне стала цікавай будучыня...

# Ветах

### *Малюнкі з дзяцінства*

*Гадоў дзесяць таму я сабраўся напісаць нататкі «Маладзік. Поўня. Ветах». Час ішоў, і вось «Маладзік. Поўня» засталіся ззаду, а цяпер пішу «Ветах»: запісваючы малюнкі з дзяцінства, адчуваеш на сабе цяжар пражытых гадоў, ці інакш – старасці.*

## Учора і сёння

У восем гадоў я быў гарністам у нашым вялікім двары на Маскоўскай вуліцы ў Менску. У сем гадзінаў я падымаўся і выходзіў у двор ды іграў сігнал «Пад'ём». Гэта вельмі добра ў мяне атрымлівалася. І хвілінаў праз пятнаццаць збіраліся ўсе хлопчыкі і дзяўчынкі. Іх галасы мяне радавалі, асабліва, іх пахвалы, і я не магу згадаць што-небудзь больш прыемнае.

А сёння няма каму іграць сігнал, і, галоўнае, нікога не хочацца бачыць. Ніхто не можа так парадавацца, як радаваліся ў нашым дзяцінстве. Цяпер мяне больш цягне глядзець на барвовае неба

на заходзе сонца, на цёмныя аблокі, якія плывуць за гарызонт; у бегу аблокаў, якія пайшлі ў невядомасць, мне бачыцца, што давядзецца і мне таксама сысці ў невядомасць у невядомы час.

## Прывід

Ніколі ў жыцці, нават у 10 гадоў, я не верыў у прывіды. Адзін раз усё ж валасы на маёй галаве ўсталі дыбарам. Гэта было на Кальварыйскіх могілках, мне было гадоў 20, па модзе мінулага стагоддзя мы гулялі там з Віялетай. Калі мы былі каля зачыненага касцёла, раптам пачуліся мерныя крокі ўдалечыні. Яны набліжаліся, але не відаць было, хто ішоў да нас. І раптам на сцяжынцы мы ўбачылі вялікі белы квадрат на адлегласці аднаго метра ад зямлі. У могілкавай цішыні, без святла, гэты квадрат хутка набліжаўся да нас. Мы стаялі на краі сцяжынкі, у жаху, не ў сіле варухнуцца, і валасы сталі падымацца ў нас на галовах. Квадрат з такой хуткасцю нёсся, што немагчыма было і падумаць, што гэта нешта натуральнае. І толькі калі квадрат параўняўся з намі, мы зразумелі, што гэта чалавек, апрануты ў чорныя штаны і белую майку. Гэты выпадак паказвае, што нашыя пачуцці адрозныя ад ведання рэчаў – калі б чалавек у чорных штанах і белай майцы звярнуў на бакавую дарожку, мы ўсе прынялі б яго за з'яўленне прывіда.

Але ў мяне быў іншы выпадак: раніцай пры свежай галаве я бачыў маленькіх людзей, і ніхто не зможа пераканаць мяне, што гэта быў сон. Мне было сем гадоў, я яшчэ не чытаў пра ліліпутаў, і ніколі нават не чуў пра іх. Я прачнуўся, у пакоі нікога не было, за дзвярыма чуліся галасы бабулі і мамы. Уставаць мне не хацелася, сонца асвятляла ўсю сцяну, і раптам я гляджу – па электраправодцы пад столлю, яна не даходзіла да яе 10-12 сантыметраў, ідзе малюсенькі чалавек. Ён быў з парасонам і нёс у руцэ чамаданчык, прайшоў па праводцы да яе павароту на столь і знік у сцяне. Чалавек мяне так уразіў, я нават праз шэсцьдзясят гадоў яго памятаю. Памятаю яго чорны парасон, чорны пінжак, шэрыя штаны, я дрэнна разгледзеў ягоны твар – ён быў не вышэй за 8 сантыметраў. Хто гэта быў, чаму ён ішоў з валізкай, куды ад'язджаў, чаму ён сышоў у сцяну – загадкі, якія мне не разгадаць.

## "Трэба выбірацца"

Маленькая Таня спіць разам са мной на шырокай канапе. Яна варочаецца ў сне, раскідвае рукі, упіраецца нагамі мне ў бок. І вось аднойчы Таня захацела спаць «валетам». Пасярод ночы я прачнуўся, яна сядзела ў нейкім несвядомым стане і хутка казала ўстрывожаным голасам: «Трэба выбірацца!», «Трэба выбірацца!», «Трэба выбірацца!» Потым павярнулася ў звычайны бок і заснула. Я ледзьве паспеў падкласці ёй пад галаву падушку. А ў мяне засталося пытанне – з чаго ёй «трэба выбірацца»?

## Дывізія ў рамках

У годзе, можа, сорак восьмым ці сорак дзявятым, ды ўсё роўна ў якім менавіта, але дзесьці неўзабаве пасля вайны, калі пачалася шырокая мабілізацыя з войска, пайшлі мы з хлопцамі з нашага двара на футбол. Гэта значыць хацелі пралезці ў які-небудзь прамежак паміж раз'ездамі коннай міліцыі, якая ў тыя гады забяспечвала парадак вакол нашага маленькага тады стадыёна «Дынама». Вось ідзем мы міма гасцініцы «Беларусь» (цяпер перапазванай у «Свіслач»). Густы натоўп народу прэ да ўваходу на стадыён, і раптам пасярэдзіне яго ўтвараецца круг дыяметрам метраў пяць, і ў ім стаяць два міліцыянты ў старой яшчэ, пасляваеннай, сіняга

колеру форме, а насупраць іх – мужчына, як цяпер разумею, хлопец гадоў дваццаці пяці – трыццаці. Вельмі стройны, відаць што на лёгкім падпітку, а рысы твару ў яго жорсткія, як у галоўнага героя ў фільме «Халоднае лета 53-га». Паміж імі варожасць, міліцыянты хочуць яго забраць, а ён кажа: «Паспрабуйце! Вы ведаеце хто я? Я – дывізія ў рамках!» І некалькі разоў паўтарыў «дывізія ў рамках». На ўсё жыццё запомніліся і яго інтанацыя, і гэтыя словы, і тое, што два міліцыянты махнулі рукой ды пайшлі ў натоўп у адзін бок, а ён – у іншы. Шмат было тады пасля вайны хлопцаў, здольных гаварыць ад імя дывізіі, з крывавай памяццю, здольных лёгка адабраць чужое жыццё, не шкадуючы свайго.

## Прататып

У мяне ёсць аповесць «Тры жыцці княгіні Рагнеды». Яна атрымалася таму, што там ёсць прататып Рагнеды – Лора. Калі прыглядзецца – у яе ўсе рысы Лорыны. Усе мае галоўныя аповесці ўтрымліваюць яе вобраз. Яе твар, натура, дзеянні заўсёды былі перада мной, калі я пісаў. Я не магу пісаць добра, маё пісанне далёкае ад дасканаласці – Рагнеда складае толькі малую частку Лоры, але для мяне гэта Лора.

## Пустэльніца

Усё размеркавалася па сваіх месцах, калі яна зразумела, што ў людзей непараўнальна розны вопыт. Не могуць быць дарадцамі і суддзямі тыя, у каго іншы вопыт. Ну, няхай гадаюць, думала яна, чаму ёй так хочацца мець дарагое крэсла, абцягнутае атл*а*сам, якое так падштурхоўвае да неабавязковага чытання. Звычка ўтульнага дзяцінства? Не, гэта быў маленькі рэванш за тую дзіцячую горыч, калі на ноч ёй слалі пад сталом саламяны цюфяк. Удзень цюфяк прыбіраўся пад ложак, на ноч яна цягнула яго пад стол; іншага свайго месца ў яе не было, дом быў напоўнены людзьмі; спаць пад сталом было няўтульна, але лепш, чым спаць разам з бацькамі, чыё дыханне, пахропванне, пахі, яе сны, заганялі ў нейкую цемру, у жорсткую першабытнасць. Свой ложак, хай вузенькі, маленькі ложачак, свой ложак, коўдру з падкоўдранікам, прасціну, сваю падушку – атрымаць гэта, здавалася ёй, і будзе ажыццяўленнем шчасця.

Там, пад сталом, было месца яе адзіноты; у цеснай прасторы, абмежаванай чатырма ножкамі і фіранкай плюшавага абруса з самаробнымі махрамі з нітак, у гэтай келлі, недаступнай праменям сонца і абыякавай дарослым, яна была пустэльніцай, спасцігала свет духоўным зрокам, адчувала сябе палонніцай, якую хтосьці шукае, каб вярнуць сапраўдным бацькам, у цудоўны свет...

Многія дзеці гуляюць пад сталом, але жывуць там адзінкі, і ўспамінаць пра гэта яны не любяць, у іх іншы вопыт... Трэба нарадзіцца і вырасці ў такой сям'і, дзе радасна бывае кожнаму толькі ў снах, а дзённая ява – як задушлівы цяжкі сон, і тады, калі не здасіся, цябе будзе ратаваць лютае імкненне адарвацца ад такога цяжару, цеснаты і прыніжаных звычак, ад лёсу, які на ўсіх у такім доме ставіць пячатку жыццёвай асуджанасці. Што крэсла – яна ў ім не сядзіць, але яно, падобнае на прыступку, завяршае памятны шэраг мэблі – самаробныя хатнія зэдлікі, халодныя крэслы чытальнай залы, дзе яна, як у царкве, праводзіла свае вечары і нядзелі, двухногія лавы дзіцячай студыі выяўленчага мастацтва, шурпатыя вулічныя лаўкі, на якіх даводзілася бавіць доўгія вечары, каб прыйсці дадому ў цемры, калі не відаць цяжкага руху абыякавых да цябе людзей. Нічога яны не перадалі ёй, акрамя боязі няшчасця, якое чакае яе. Нават прафесію яна атрымала супраць іх волі, накіраваўшы ўсю ўпартасць на развіццё сваіх здольнасцяў, сваіх карцін, якія адкрываліся ёй у дзіцячых снах...

Залазячы пад стол, у сваю пячору, яна марыла. Можна сказаць, што там яна малілася. Бо малітва – гэта тая ж мара. Там, у змроку, створаным цяжкім аксамітным абрусам, бачыліся ёй няясныя абрысы нейкіх шчаслівых мясцінаў, нейкія людзі іншага фізічнага складу, адкрытыя, з ясным поглядам, дружалюбныя, клапатлівыя, вясёлыя, яны заманьвалі яе ў свой цудоўны свет, ўхвалялі яе мару выбрацца з пячоры. Яна адчувала сябе Дон-Кіхотам, якому стала цесна ў старым доміку сярод камяністых пустак, вячэрняга гітарнага перазвону і вясковай няхітрай любові. У дарогу – вось чаго ёй хацелася, у шлях, каб знайсці гэтую цудоўную краіну, намаляваную ў марах. Цяпер яна ведала, што цьмянае ўбогае хатняе жыццё – гэта часовае яе зняволенне; засталося чакаць, калі скончыцца яго тэрмін, пашыраючы сваю свабоду праз кнігі, выбіраючы з іх усё, што адпавядала мары. Дом быў месцам сну, дзе ў маленькім прасторы пад сталом ствараўся яе свет, і, калі змежваліся павекі, ён чароўным чынам займаў увесь космас, дзе яна адкрывала для сябе таямнічую прыгажосць далёкага начнога неба.

## Мінулае і будучыня

Усё жыццё мяне вабіла мінулае, але цяпер мне стала цікавай будучыня, што будзе гадоў гэтак праз дзвесце. Як людзі будуць жыць там? І ці могуць у ёй захавацца беларусы, якія ў большасці сваёй не ведаюць роднай мовы, гісторыі сваёй краіны, і якіх суседзі – рускія і палякі – заўсёды расцягвалі ў свае дзяржавы?

## Ванька-ўстанька

Бязногі інвалід прадаваў у падваротні па тры рублі вузкую скрыначку, па якой перакульваўся Ванька-ўстанька – люлечка з паперы, у якой быў шарык з падшыпніка. Аднойчы мы знайшлі 50 рублёў і накуплялі гэтых Ванек. Бязногі інвалід быў шчаслівы і адразу ж на сваёй платформе на калёсіках паехаў у «Блакітны Дунай» піць гарэлку.

## Унук Гнатка

Першага лютага Аня нарадзіла Ігната. Я сябе «памятаю» з дзевяцімесячнага ўзросту (так мне распавядалі мама і бабуля) – як мама мяне пранесла пад бамбёжкамі да Смілавічаў, а потым назад у Мінск. А побач ішла кантужаная бабуля і васьмігадовая Зара. А да пачатку вайны ніякіх звестак яны не захавалі. Ніколі не думаў, што выпадзе гонар даглядаць за ўнукам у 68 гадоў. З Татай усё было інакш – я быў здаровы. А цяпер у любы момант можа здарыцца інсульт, і гэта прымушае мяне клапаціцца пра малога: не дай бог, каб я і ён былі на вуліцы адны.

## Зяма

Зяма быў на вайне і хадзіў у салдацкай форме. Гэта быў моцны мажны габрэй. Ён выносіў з хлява варштат, з замацаванай на ім жалезнай бэлькай, і цэлы дзень працаваў з бляхай – паддоны, засланкі выбіваў драўляным малатком. У яго быў сын – Лінька, такі ж поўны і здаровы, і жонка такая ж поўная. Яна высоўвалася ў акно трэцяга паверху і крычала: «Зяма, ідзі абедаць!» Ці «Лінька, бяжы дадому!» – голас у яе быў як труба. Каб не чуць гэтых крыкаў, хлопцы самі гналі Ліньку дадому.

З габрэйскіх сем'яў былі яшчэ Додзік, Эрык Фрыдман, Эрык Разоўскі, Генка Крычаўскі. Ніхто і не думаў, што яны габрэі. Даставалася толькі аднаму з іх, якога бацька цягаў за руку іграць на скрыпцы і ў шахматы. Яго дражнілі «ташкенцкі партызан», чаму і за што – незразумела, проста ён быў крышку інакшым.

## Манах

Былі тры браты Чэхаўскія – Манах, Генка і Сеўка, а яшчэ ў іх была сястра, імя яе не памятаю – яна была нашмат меншай. Генка меў дасканалыя здольнасці. Ён давучыўся да 10 класа, яму прадказвалі залаты медаль, але ён ўляпаўся ў нейкі крадзёж і трапіў у турму. Няўдаліцай быў Сеўка, ён нічога не рабіў, але заўсёды за ўсё адказваў. Але самым страшным быў Манах. Ён мог сядзець на краі чатырохпавярховага дома і скідаць адтуль ката з прывязаным пад пузам хвастом – кот, зразумела, разбіваўся. Напэўна, мы былі рады, калі яго забралі ў войска, у Чарнаморскі флот. Сеўка нават паказваў фота – Манах у матроскай форме, у бесказырцы са стужачкай, на якой было напісана «Крэйсер Наварасійск». Гэты крэйсер раптоўна патануў, калі быў у гавані, і сярод загінулых маракоў быў Манах. Не ведаю больш містычнага здарэння з хлопцамі ў маім дзяцінстве...

## Стары двор

Часам заходжу ў стары двор, дзе прайшло маё дзяцінства. Падыходжу да пад'езда, дзе мы жылі на першым паверсе, да вокнаў кухні і пакоя, у якім жылі бабуля, я і сястра. Цяпер на падворку ўсё па-іншаму. Толькі пад'езды тыя ж, адкуль выбягалі сябры. Двор быў забудаваны хлеўчукамі – восемдзясят хлеўчукоў. На вузенькім тратуары старэйшыя хлопцы і дзяўчаты танцавалі пад патэфон ці акардэон. У першым пад'ездзе жылі Фарберавы – усе нізенькія і тоўсценькія, мы кідалі ім у вокны дымавухі і заліваліся рогатам, калі яны выбягалі на вуліцу з крыкамі «Хуліганы!». Быў тут хлеў радыёмайстэрні – які мы абакралі, зрабіўшы ў даху дзірку, і потым алюмініевымі стужкамі з кандэнсатараў, як на карнавале, былі ўпрыгожаныя ўсе дрэвы на Маскоўскай вуліцы. На самым краі даху над пятым пад'ездам некалі сядзеў Манах – і кідаў уніз котку з падвязанным да задніх ног хвастом. А яшчэ ў доме былі падвалы – у першым была радыёмайстэрня, у другім жыла вялікая сям'я, у якой сын Вова загінуў пад трамваем на нашай вуліцы. У трэцім класе я закахаўся ў дзяўчынку з першага пад'езда і распавёў пра гэта сваім сябрам. Назаўтра на асфальце каля кожнага пад'езда было крэйдай вялікім літарамі напісана «К+Т=Л». Я сціраў гэтыя здрадлівыя надпісы. З сёмага пад'езда, дзе мы жылі, вынеслі хаваць бабулю. Яе пранеслі міма ўсіх пад'ездаў, нібы развітваючыся з імі, у край двара, дзе стаяў аўтобус. А ў хлеўчуку заставалася яе каза, якую я даіў.

## Пачутае

Ёсць нейкая атрута ў неабходнасці тлумачыць сваё, як бы навязваць сябе, пракладаць дарогу да зносін з нямым або глухім. А ён імкнецца да зносін, таму што адчувае ў табе сілу, стрыжань, слуп, на які можна з упэўненасцю абаперціся. І гэтыя аморфныя людзі ахутваюць цябе душным туманам, і цяжка дыхаць. Слабыя спажываюць цябе непрыкметным аблізваннем, як марозіва, ды яшчэ імкнуцца навучыць сваёй праўдзе...

Часцей побач аказваюцца двухсутнасныя, двухстыхійныя: пасля нейкіх павеваў жывога дыхання яны, нібы жабы, што засядзеліся пад сонцам, адчувалі патрэбу скокнуць у бруд. Напрыклад, сказаць: «Ты не ўмееш жыць» або «Ты думаеш толькі пра сябе» ці «Ну, ты шмат хочаш!» Усё ў роўнай меры банальна, раздражняе нечаканаю грубасцю, дробненькай мудрасцю, энергіяй неўсвядомленага вампірства. У рэшце рэшт, калі шмат хацець, то хіба гэта дрэнна?

## Штабік



*Першы шэраг: трэці злева К. Тарасаў, побач злева – С. Ваганаў, апошні злева – У. Смірноў, за імі стаіць В. Крайноў. З архіва Сяргея ВАГАНАВА.*

У нашую дзіцячую кампанію – па тагачаснаму «штабік» – уваходзілі: Славік Крайноў, Генка Фаміч, Віця Генкін, Сярожа Ваганаў, Вова Смірноў і я, з паўнамоцтвамі «камандзіра штабіка», якія ні ў чым не выяўляліся. Напэўна, толькі таму, што ў нас быў хляўчук, а ў ім – каза, а над хлеўчуком – вышкі, дзе мы часам збіраліся і абмяркоўвалі планы на будучае жыццё. Сярод іх – уцёкі ў Францыю дзеля барацьбы за мір.

Потым бацькі пераехалі з Маскоўскай у новыя дамы па розных раёнах і штабік распаўся. Пасля мы разам сабраліся толькі адзін раз, калі мне было 23 гады – на дзень нараджэння.

## ДОТ

Проста насупраць 41-й школы ёсць Галоўнае міліцэйскае ўпраўленне Мінска, якое пабудавана на падмурку будынка, узарванага ў вайну. У ім у часы нашага дзяцінства быў дот, праўда, нядоўга, да маіх 10 гадоў яго разбурылі. У гэтым доце я быў аднойчы. Мы залезлі туды праз байніцу, вельмі вузкую. Дзверы былі пад руінамі будынка, і ўваход адзін – праз байніцу. Старэйшым у нас быў Ігар Новаш, на тры гады старэйшы за мяне. Нас было чалавек пяць, але акрамя Ігара я імёнаў не запомніў. Унутры ўсё было завалена бітай цэглай, і станкі ад кулямётаў на трох сценах, на двух байніцах – завалы. Выгляд дота быў страшны: шэрыя сцены, абломкі, вузенькія байніца, скрозь якую слаба прабіваецца святло. Мне было страшна – а раптам хтосьці падыдзе і заваліць байніцу цэглай.

Ігар Новаш паступіў у марскую вучэльню і патануў, хоць быў майстрам спорту па плаванні.

## Старыя вёскі

У 1953 ці 1954 годзе маці Віці Генкіна (яе прозвішча Сцяпанава) здымала лецішча непадалёку ад Аляхновічаў. Там, за пяць кіламетраў, была вёска двароў на дзесяць, раскіданых як прыйдзецца. Мяне на лецішча прывезла маці Віці ў цесным кузаве грузавіка; пазней я дабіраўся туды цягніком і пешкам. Метраў за трыста ад хаты, якую здымала маці Віці, была плаціна. Возера ў тое лета спусцілі, і мужчыны з мяшкамі хадзілі па рыбу. Мы з Віцем з раніцы да вечара блукалі па мокрым, зарослым багавіннем дне, але ніякай рыбы нам не дасталася. Напэўна, калі б было возера з вадой, уражанні былі іншыя. А так мы блукалі па лесе, разам з мясцовымі хлапчукамі гулялі ў ножыкі і елі зялёныя яблыкі. Тут уклад жыцця быў іншы, чым у горадзе, хоць Менск у той час быў правінцыйным горадам – 200 тысяч прышлага, у асноўным, насельніцтва. Тут былі іншыя колеры – шэрыя. Мужчыны ў картовых штанах, запраўленых у боты, пакрытыя пылам, бабы ў старых сукенках, таксама шэрых, хлопцы ўсе босыя, у шэрых штанах і кашулях. Шэрае стаіць у памяці, магчыма, таму, што мы былі гарадскія, а яны – вясковыя, з пячаткай на тварах – сельскія. А мы яшчэ не маглі разумець, што яны сапраўды такія, як мы.

У 1956 годзе сяброўка маёй маці Патрына павезла сына і хворага мужа на дачу каля моста праз Іслач за тры кіламетры ад Ракава. З яе падказкі мы таксама знялі дачу ў Міжрэччы за чатыры кіламетры ад яе і за сем кіламетраў ад Ракава. Вёска была маленькая – чатыры хаткі, з іх тры даваеннай пабудовы, і адна пастаўленая зусім нядаўна – у пакоі жылі мы, а гаспадары перабраліся ў каморку побач з кухняй. У мяне няма іншых такіх радасных уражанняў з юнацкіх гадоў, як з гэтай дачы ў Міжрэччы. Там быў Пётр – на 20 гадоў старэйшы за мяне, у яго быў 12-гадовы сын. З Пятром мы хадзілі ў грыбы, ездзілі па сена. Аднойчы мы былі на дажынках, дзе Пётр напіўся і вынес бутэльку самагонкі, а мы з яго сынам вылілі яе і набралі ў бутэльку ваду. Пётр прысеў ля ручая выпіць і потым, калі ўсвядоміў, што п'е ваду, ганяў нас па лесе. Міхаіл Пятровіч, шафёр бацькі, навучыў мяне страляць са стрэльбы. На брыгадзірскім кані я вучыўся ездзіць. За тры кіламетры ад нас жыла аднакласніца, я адзін раз з ёй сустракаўся. А яшчэ мы на дарозе спынялі вяселле, бралі адкупныя, і потым каля хаты Пятра выпівалі і закусвалі. З боку нашага дома быў высозны сасновы бор, там збіралі смалу, і паветра было насычана смаляным водарам. Да мяне прыязджаў Алік Сакалоўскі, мы хадзілі ў лес, на рэчку, на якой стаяў млын, і да яго вяскоўцы прывозілі мяшкі жыта.

Тут усё было іншае, нават колер – радасны.

## Жыццё на небе

Нецікава, калі жыцця пасля жыцця на гэтым свеце няма. Тады ўсё пазбаўляецца нейкай паўнаты і сэнсу. Толькі царкве тут рабіць няма чаго. Яна крадзе мары людзей... Лепш было, калі верылі ў Сонца. Яно было творцам прыроды і жыцця на Зямлі, а творцам Сонца быў неспазнаны Нехта, якога нам зведаць не ўдасца.

## Тата

Таня мая ўнучка. Ніколі раней пра яе не пісаў, бо ніколі не пісаў дзённікаў. Гэта таксама не дзённік. Пару гадоў таму назад вырашыў зрабіць некаторыя запісы, каб было што пачытаць Ані і Таце, калі мяне не будзе. У 2007 годзе Таня і я былі на лецішчы. Там некалькі дзён не было ні хлопчыкаў, ні дзяўчынак. Тата малявала і чытала кнігі. Потым з'явіліся хлопчыкі і дзяўчынкі, і Тата цэлы дзень праводзіла з імі. Успомнілася мне, што я таксама рабіў у сваім дзяцінстве – бабуля мяне накорміць, і я ўвесь дзень у двары.

У Таты быў дзень нараджэння. Прыйшлі Сташак і Дзяніс – аднагодкі – з падарункамі, мы з Аняй падсмажылі курыцу, а яшчэ Аня купіла чарэшняў, цукерак, спякла торт "Напалеон". Таня, Сташак і Дзяніс смяяліся наверсе, потым яшчэ прыйшоў Саша – 4-хгадовы свавольнік. Мы з Аняй былі ўнізе і радаваліся, што так весела ўсё адбываецца. Сапраўдны дзень нараджэння, з гасцямі, без дарослых. Потым дзеці пайшлі на ўчастак Сташака і Дзяніса, і адтуль чуліся іх узбуджаныя галасы. Тата вярнулася ў восем вечара – шчаслівая, а мы з Аняй пілі кампот з парэчак.

## Слаўка

Маім самым блізкім сябрам дзяцінства быў Славік Крайноў.

Аднойчы мы лазілі па будоўлі, і ён зваліўся ў скрыню з растворам. Яму пашанцавала, што раствор быў вадкі. Мы скочылі следам за ім, ён хутка ачухаўся, мы адмывалі ягоную вопратку ад цэменту. Яго бацька быў начальнікам аддзела МДБ, які адказваў за бяспеку вышэйшых асобаў. Падчас вайны ён быў у СМЕРШ.

Не памятаю, каб ён калі-небудзь усміхаўся. А мама была цудоўная жанчына. Ведаю, да вайны яна была парашутысткай, а ў вайну – лётала на ПО-2.

Дзіцячы твар Слаўкі часта бачу цяпер сярод любімых твараў.

## Рогава

Рогава – гэта вёска за 40 кіламетраў ад Мінска, убок ад шашы на Маладзечна. У 1952 годзе я правёў там месяц у піянерскім лагеры. Лагер займаў два будынкі – старую школу і новы вясковы клуб, удвая большы за звычайную хату. Школа стаяла на пагорку, унізе праходзіла грунтавая дарога, а яшчэ ніжэй на схіле была крыніца. Вада ў ёй была халодная і вельмі смачная. Раніцай мы ля гэтай крыніцы мыліся. Вада вузенькім раўчуком цякла праз луг да рэчкі. Потым, праз шмат гадоў, я прачытаў у газеце, што гэтая крыніца – святое месца, вада ў ёй гаючая, і там стараннямі ўладаў усё добраўпарадкавана і клопатамі царквы пастаўлены крыж. І гэтак мне захацелася пабываць у той вёсцы, каля крыніцы, дзе мы абліваліся вадой, пырскалі на дзяўчынак, што неяк разам з фатографам Шлапаком, вяртаючыся з паездкі, звярнулі і заехалі ў Рогава. І лепш бы я туды не ездзіў. Крыніцу абклалі камянямі і жоўтай керамічнай пліткай (завецца “кабанчык”), паводле задумы раённага дойліда нарабілі нейкіх загародак для вады (“каскады”), паставілі калонку, запхнулі ў агароджу, металічную і таму заржавелую, наставілі крыжоў. Гаючая слава прывабіла сотні ахвотнікаў на машынах – вакол бруд, смецце, прыязджаюць са слоікамі, набіраюць святой вады на год. Ні школы, ні таго клуба, ні луга – узараны пад збожжавыя, рэчка ссохлася ў ручай, лес адышоў за далягляд. Сумна было згадваць на гэтым фоне даўнія гады, нашыя дзіцячыя галасы, прыгожы першабытны луг і наогул ранейшы пейзаж.

## Ледзь-ледзь не лічыцца

У дзесяць гадоў у мяне, якім чынам не памятаю, апынуліся афіцэрская шабля і сапраўдны паўстанцкі цясак, можа быць, гэта быў меч – шырокі, у даўжыню 60 сантыметраў, з бронзавым дзяржаннем і папярочкай над ім. Я паклікаў майго сябра Слаўку ў наш хляўчук, і мы вырашылі гэтую зброю апрабаваць. Дамовіліся, што будзем біцца – ні калоць, ні секчы нельга. І мы пяць хвілінаў крыжавалі шаблю з цесаком, нам было вельмі прыемна. Раптам Слаўка зрабіў колючы рух – і востры канец яго шаблі трапіў мне ў правае брыво. Добра, што я паспеў прыжмурыцца, інакш страціў бы вока. Гадзіны дзве мы правялі ў хлеўчуку, пакуль вока не пачало бачыць. Потым мы з Віцем здалі зброю ў музей, і цяпер цясак там, сярод зброі паўстанцаў 1863 года, а куды падзелася шабля, я не ведаю.

## Незабыўнае

Мы вярталіся з возера на лецішча, нас было чалавек восем, іншыя размаўлялі між сабой, а мы з Аняй ішлі збоку і спявалі. І яна глядзела на мяне так, як глядзяць толькі ў выпадку крайняй любові. Ёй было гадоў адзінаццаць. Нам было весела ад гэтай любові, ад узаемнага пачуцця захаплення.

Сёлета Ані спаўняецца 30 гадоў. У яе сваё дзіця – 8-гадовая Танечка, цудоўная Тата. І яна вельмі яе любіць. Я адчуваю сябе шчаслівым...

## Лета 1956 года, Савейкі

Савейкі – гэта старажытная сядзіба непадалёку ад Ляхавічаў, якая належала некалі нейкаму пану Савейку. У 56-м годзе я трапіў туды на камсамольскую змену,

то бок усім нам было ад 15 да 18 гадоў. У пакоі жылі – я, Шурык Ганцавічаў, Ігар Пятрушын, Веня і добры хлопчык Гена, які насіў саламяны капялюш ад сонца. Кожную ноч мы не забывалі выпэцкаць гэты капялюш ўнутры па краі падшэўкі зубной пастай, а Гена кожны дзень забываў праверыць яго і атрымліваў "сюрпрыз", які кідаў нас у вар'яцкую весялосць, бы ад фільмаў з Чарлі Чаплінам, дзе кідаюцца тартамі.

З Пятрушыным і Веням мы аднойчы патрапілі ў цыганскі табар. Пайшлі на чыгуначны раз'езд купляць папяросы, а апынуліся ў табары – натоўп бежанцаў з дзецьмі, кацёл неапетытнага варыва, калёсы, сабакі і г.д.

Запомнілася паездка з Савеек у Нясвіж, у замак Радзівілаў, і тое, як я ўсю змену быў пад уплывам гэтага падарожжа. Савейкі – цудоўная пара жыцця, я шмат разоў імкнуўся туды паехаць, але так і не паехаў, і цяпер думаю, што правільна – нельга дарослым наведваць юнацкія мясціны і перажываць юнацкія мары.

Шлягер тых гадоў: «В этот час, светлый и ясный, О, друг мой прекрасный, выйди на балкон». Мне ён падабаецца. Нават цяпер, калі слухаю яго па прымачы, успамінаюцца дні ў Савейках, катанне на плыце па сажалцы, твары дзяўчынак, нашы твары – шаснаццацігадовых.

## Лоры

*Стрела свистнула, кровь брызнула. Вот и все.*

Марына Цвятаева

На кані без сядла, у баі без літасці, у любові да лютасці, у горы да вар'яцтва. Скіфы!

Скіфы – гэта па-грэцку. Па-свойму – сколаты.

Для іх жыццё – дзе сэрца радуецца, смерць – дзе душа гібее, а дзе пакутуе – пекла.

Арлы над стэпам – жывы знак вясны. Сонца ў лютай юрлівасці сарвала з зямлі снежнае покрыва. Выбранніца аддалася яму, ва ўлонне яе ўвайшла сіла пладзіць – і рвуцца з зямлі травы, з дрэваў – ліст, кожнае насенне шукае пару. Зямля ўпрыгожылася зелянінай, нябёсы заззялі сінечай, дзе лепш, чым тут – дзе вырай?

Трымцяць ноздры скіфа, чуючы пах вясны, цёплы вецер – дыханне жыцця. Гараць сінія вочы, прагна, радасна пазіраюць удалячынь, у невядомае, праз стэп на марыва заўсёды недасягальнага гарызонту, ці ў іншы бок – за мора. З таўрычных берагоў – вапнавых, абрывістых парэзаных апоўзнямі, абжытых чайкамі – душамі людзей, забраных морам.

Мора Чорнае – Еўксінскі Понт – вясёлы шлях смелых людзей па руно і шчасце...

Сюды – па руно, туды – па шчасце.

Эліны – па руно, скіф Анахарсіс – па шчасце.

Адыходзіць бірэма, вёслы рэжуць мяккае люстэрка нябёсаў, мора змяняе колер: ля Таўрычаскага берага – смарагдавае, ля грэцкага далёкага – чорнае, а ружовыя, сінія, бэзавыя медузы спяць у нагрэтых хвалях. Сыходзіць бераг, зліваюцца зялёныя пагоркі са скаламі, апускаецца Таўрыя ў бездань на лініі далягляду, і ўжо нічога не відаць, акрамя хваляў і неба.

За кармой – былое, вядомае, наперадзе – невядомае, па якім душа гарыць, не спазнаць – прапасці.

Жыццё даўняе, што ўчарашняе. Чаму туды зазірнуць цягне? Жывога – у тое, што пайшло? Ці не там шчасце абазнанае, і таямніцаю, якая ад прашчура да праўнука пераходзіць, – памятаецца?

2600 гадоў па Млечным Шляху – зоркамі, па небе – сонцам, па зямлі – колам жыцця і смерці пракаціліся. С-кола-ты!

Але і тысячы гадоў для душы імгненне. Не сёння – учора. Плыла бірэма, вёслы рэзалі Понт. За спінай – стэпы, радзіма, свае, адна кроў – радня. Наперадзе Атыка – чужына, афіняне – ім не свае. Тут не крывёю – душой родняцца.

З радзімы на чужыну, ад сваіх да чужых – жарсць сэрца. Сэрца вядзе, а сэрца – да ворага не прыводзіць.

Анахарсіс – сын цара Гнура, яго голас – воля для ўсіх скіфаў. Яго воля – іншым няволя. На радзіме роўных няма, роўныя на чужыне, свае ж – далей за чужых: пачнеш гаварыць – чуюць – не разумеюць. Няма роўных – няма дружбы, дружбы няма – няма шчасця, няма шчасця – навошта жыць?

Адны шукаюць золата, іншыя – славу. Хто шукае золата, не трывае супернікаў, і хто шукае славы, топча тых, хто шукае славы. Лічаныя шукаюць мудрасці. Хто мудры – шукае мудрых, сваю пароду, свой род.

Так Анахарсіс прыйшоў да Салона. Прыйшоў – далей за вароты не пусцілі: навошта чужаку да правіцеля Афін?

Анахарсіс сказаў слузе:

Перадай Салону, што скіф Анахарсіс хоча быць яго сябрам.

Салон, выслухаўшы, засмуціўся нікчэмнасці сваёй славы: ён – знакамітасць Афін, на яго прыходзяць паглядзець, як на дзіва, а скіф, па наіўнасці, нават гатовы стаць сябрам. Анахарсіс? Сын цара, значыць, па праве царскага паходжання? Скіфы, падумаў Салон, невуцтва, стэпавае дзікунства. Чашы з чэрапаў радні. Маркотныя песні, дзікія трызны. Пяцьдзясят трупаў коннай варты на царскіх магілах. Пагарда да вершаў, забарона на мудрасць. Ці гэты скіф не такі?

І Салон адказаў, як адказаў бы дэльфійскі аракул:

– Сяброў выбіраюць на радзіме.

Слуга аднёс адказ.

Мудрасць – цуд, таму яна перамагае хітрасць.

– Ты, Салон, у сябе на радзіме, – сказаў Анахарсіс, – ты і выбяры мяне сябрам.

Але ж і тое, што сказаў Анахарсіс, і адказ Салону, усё гэта ўвайшло ў легенду, якую Дыяген запісаў дзеля памяці пакаленняў. Дык навошта Анахарсіса выклікаць з калодзежа стагоддзяў?

Цікава.

Людзей шмат, лёсаў некалькі: шчаслівы, нешчаслівы, ніякі. І шляхоў жыцця некалькі, і два канцы яго – Бог забірае ці людзі заб'юць.

У мудраца лёс іншы, чым у разумнага, які ў шэрагу цвёрда стаіць, – носа наперад не высуне, на крок у бок не адступіць.

У мудрага такі лёс, што яму першы камень у скронь, нож у рэбры, атрута ў кубак, страла ў хрыбетнік, наскрозь сэрца.

Ціха страла свішча – не пачуеш.

Сэрца, стралой прабітае, – сімвал кахання. І варожасці таксама.

Ціха страла свіснула, кроў пырснула – і па скіфскім звычаі – у яму, а зверху – курган, а на свежым кургане – Трызна.

Не над усімі трызну спраўлялі, над многімі курганка не насыпалі, наадварот – разраўноўвалі, каб бясследна зніклі. Бог ведае куды, людзям не трэба, ім спакойней будзе.

Але як без ведання жыць? Як жыць з пытаннем, якое задаць няма каму і нельга, бо калі спытаць, то сурова спытаюць у адказ: навошта пытаеш? Што за чарвяк точыць твой розум? Раптам чарвяк апору падточыць – абрынецца трон, а трон абваліцца – чалавек упадзе, і стане інакш, чым ёсць, чым нам звыкла. А стане інакш – народ зменіцца. А мы самі ўмеем са свету зжываць.

Барацьбой мудрасці з коснасцю час вымяраецца. Перш чым нашчадкі ўшануюць мудрага, сучаснікі яму нож у рэбры заганяць, атруту ў кубку пададуць, ці каменем у скронь, стралу ў хрыбетнік, пад крыло, каб не біў у звон, не будзіў сонных.

Шлях часу такімі крыллямі высланы, мякка па іх ступаць, губляць – балюча.

Ляціць страла, свіст нячутны...

Анахарсіс – сын цара скіфаў, спадчыннік ягонага мяча, прыбыў з Афін, увайшоў у палац, каб быць сябрам мудраму. З суровасці сколацкай – у вырай, з аднаго часу – у будучыню. Перасёк Понт – і абагнаў час на тысячу гадоў. Калі дакладным быць, не на тысячу: праз тысячу – у нашых месцах гуны готаў секлі. Такім чынам, на паўтары тысячы. Як бы казка – аднак быль, так было. Але калі поўнай праўды трымацца, то дзве з паловай тысячы гадоў трэба назваць. Імгненне – імгненне, і 2500 гадоў – таксама імгненне, калі час па пражытых жыццях лічыць.

Прыехаў Анахарсіс ў Грэцыю – каго ўбачыў, што даведаўся? Сакрата, Піфагора, Платона і Арыстоцеля яшчэ няма, ім праз сто-дзвесце гадоў з'явіцца, а ўсё адно – у наш час, ужо тыя ёсць, хто і сёння нас павучае.

Анахарсіс слухае.

Свет паўстаў з вады, вучыць Фалес. А побач з Фалесам жыве Анаксагор – ён вучыць, што свет паўстаў з агню. Анаксімандр з імі абодвума не згодны, ён вучыць, што ўсё паўстала з паветра. Розныя думкі, кожны мяркуе так, як яму бачыцца, і адзін аднаго стрэламі не даймаюць, і ніхто за гэта іх на кол не саджае. У нас, сколатаў, не так.

Душы шмат, розуму ходу няма, звычай скаваў, як путы. Іншае гора, іншыя радасці.

Гэтыя ад нашых песень сумуюць.

Нашы ад іх трагедый заснулі б. Наш тэатр – гэта калі кроў льецца. Калі ў свята ахвяру на кол саджаюць, а яна не стогне, а застогне – яе з кола здымуць і аддадуць сабакам зжэрці: такога богі не прымуць – слабы. Кол моцных выпрабоўвае. Мы с-кола-ты!

Дарога ў Дэльфы – гарачы пясок, гарачыя камяні. У Дэльфах храм, піфіі, аракул. Піфіі лёсы ўгадваюць, праз аракула абвяшчаецца, не кожнаму дадзена зразумець – што?

Прынеслі ад аракула трыножнік – каму аддаць?

– Самаму мудраму!

Мудрацоў сямёра. Хто з іх самы мудры?

Панеслі да Салона. Ён мудрэц, але яшчэ і кіраўнік.

– Таму і не самы мудры, што кіраўнік! – сказаў Салон і накіраваў трыножнік да Фалеса.

Лёгка адтачыць мудрасць, нарадзіўшыся ў Грэцыі, думае Фалес. У сто разоў цяжэй, нарадзіўшыся ў Скіфіі. Анахарсіс больш варты.

І стаіць пасланец перад Анахарсісам, трымае ў руках святы трыножнік.

Анахарсіс глядзіць – не бярэ. Хвіліна шчасця – гонар радзіме, стэпам, народу, які ведае толькі пачатак мудрасці – бясстрашнасць. Але хіба мудрасць канчатковая?

Мудры аракул: хто скажа: «Бяру!» – не мудрэц. Мудрэц аддасць і будзе рады, што трэба далей шукаць: калі знойдзецца больш мудры – ён павучыцца ў яго. О, слаўныя дні жыцця, мудрыя сябры, незабыўныя іх прамовы!

І зноў бірэма ў дарозе. Дзьміце, вятры, імчыцца карабель па Чорным Понце, пад чорным небам, пад золатам зорак. Прыедзем – зменім; ёсць разумныя – стануць вольныя, не ў тым гонар – быць вышэйнім над дробнымі; быць роўным вялікім – вось сэнс. Ён, Анахарсіс, скіф і цар скіфаў, жаданні – віно для яго, жарсць – жыццё ягонае.

Прыплылі. Коні па вузкіх сцежках вынеслі ў стэп, па стэпавых травах – да царскага горада, да шэра-белых узгоркаў.

Палац, брат, сёстры, нябачныя твары жрацоў. Усё трывалае, з крэменю выбітае, нідзе расколінкі няма. І гаворкі жорсткія, як пятля з конскага воласа.

– Быў у Грэцыі – жыў па-грэцку, вярнуўся – сколат. З'ездзіць – як у сне пабываць, прыехаў – прачнуўся. Горкі сон, ці салодкі – забудзься.

Забыцца – здрадзіць. Мудрасць – дзікунства.

Анахарсіс! Белыя крылы за спінай!.. У мудрага ўсё ўразліва: лоб – для каменя, рэбры – для нажа, горла – для пятлі, сэрца – для стралы. Мудрасць няхітрая, зайздрасць – бязлітасная.

Паляванне ў стэпах. Трава ў конскі рост, коні па галовах зверыны нясуцца, у небе вароны кружаць – ведаюць, будзе ім кроў.

Анахарсіс ў туніцы – белай, як белыя яны там – у Фалеса, Салона, Мілена, у дэльфійскага аракула, які прарочыя крыкі піфіі перадае вершамі.

Белая туніка – белыя крылы, лебедзь сярод ваўкоў.

Страла свіснула... Кроў пырснула...

Страла свіснула... Кроў пырснула...

Азірнуўся Анахарсіс – брат правае вока прымружыў, у левай руцэ лук трымае. Цёмны брат: смерці не спалохаецца – мудрасці баіцца.

Мудры злому перашкода.

*1981, сакавік*

## Ручаёк

Можа, гэта было ў Рогаве, а можа і раней у іншых піянерскіх лагерах. Тады ў малодшых была такая гульня ў ручаёк – станавіліся парамі, і нехта выцягвае каго-небудзь, а пакінуты без пары шукае сабе новага або новую. Усіх выбіраюць, а цябе не. І ў душы такая жуда ад тваёй непатрэбнасці. Тады чуллівая важатая пашкадуе і абярэ цябе. А якую-небудзь дзяўчынку або хлопчыка ніхто так і не заўважае. І вось мяне абрала дзяўчынка – Люда Гарохава – памятаю да сёння. Шчасце быць заўважаным і неабходным. А колькі там у ручайку трымцела хлапчукоў і дзяўчынак у жаданні такога малога шчасця, не менш важнага, чым роля для акцёра.

## Непераходная зайздрасць

Ніколі не хадзіў у садок. Бабуля была маёй выхавальніцай, і ў садок яна не адпускала, бо гэта нібы пазбаўляла яе сэнсу існавання. А мае сябры хадзілі ў садок. Ён быў у завулку Талстога, цяпер гэта вельмі блізка ад Універсітэта культуры. Часта нават не бываючы ў тым раёне, я ўспамінаю, як прыходзіў да сяброў. Яны былі за плотам, на пляцоўцы, там стаяў параходзік з дошак, на ім мачта і рулявое кола – штурвал. Па модзе таго пасляваеннага часу, маіх сяброў вадзілі ў садок у карычневых матроскіх касцюмах і бесказырках са стужачкамі. Я прыходзіў і з-за плота глядзеў, як яны плывуць кудысьці на караблі, і страшна зайздросціў, што я не там, не з імі, не плыву. Вось і праз паўстагоддзя не магу забыць, як мне хацелася на той параход, і быць з імі разам.

А ў нас была каза, і яны мне зайздросцілі, што я магу з ёй гуляць, і мяне не прымушаюць есці манную кашу. Колькі гадоў прайшло, а яны пры сустрэчы ўспамінаюць нашую казу, казляня, вавёрку на дыване, які прыкрываў халодную сцяну.

## Выпадковасці

Двойчы я тануў. Першы раз – у канале радзівілаўскай сядзібы Альба. У тое лета ў нясвіжскім замку, занятым пад санаторый персанальных пенсіянераў, вырашылі зрабіць піянерскі лагер на адну змену ў 40 дзён. І сабралі 100 хлопчыкаў

і дзяўчынак з «прыстойных сем'яў». У Альбу нас павялі на экскурсію. Па берагах каналаў раслі парэчкі – жоўтыя, упершыню іх убачыў, і яны мне падаліся адным з цудаў свету і вельмі смачнымі. Каналаў некалі было дванаццаць, яны прамянямі разыходзіліся ад выспы, на якой стаяў палац, па іх плавалі ў лодках шляхетныя дамы, а яшчэ яны знакамітыя незвычайным паляваннем – тут пускалі па плыні шкляных качак. Госці Радзівілаў па іх стралялі, качкі выбухалі, шкло патанала, гасцям было весела. А калі я тануў, мне было дрэнна ў каламутнай вадзе, якой я наглытаўся, апускаючыся на глеістае дно. Мне быў пасланы выратавальнік у вобразе падлетка, які наступіў на мяне, і такім чынам даведаўся, што ад яго патрабуецца. Ён стаў героем, я – пасмешышчам, і пачуў ад старэйшых хлопчыкаў поўнае іроніі: «Тата, тата, нашы сеткі прыцягнулі мерцвяка!». Я не ведаў, што гэта цытата з Пушкіна. Тым жа летам на рэчцы ў вёсцы Рогава я навучыўся плаваць «па-сабачы», і вельмі ганарыўся, што цяпер магу не баяцца вады.

Яшчэ мяне выпрабоўвалі на жывучасць аўтамабілі. «Козлік» паставіў мне сіняк на сцягно, і, збіты ім на брудны асфальт у самым пачатку праспекта Сталіна, я апынуўся ў лужыне. Нязначныя наступствы... Але я вельмі спалохаўся, што ўчыніў злачынства, патрапіўшы пад машыну, і адчуў пачуццё сораму – здавалася, усе глядзяць на мяне і думаюць – вось ён, злачынец і дурань... І я пабег ад месца здарэння за кінатэатр «Першы». Праз шмат гадоў аўтобус «Кубань», наехаўшы са спіны, адкінуў мяне метраў на дзесяць, і ў выніку мне давялося тры месяцы лячыцца ад сатрасення мозгу. Яно выяўляла сябе бессанню. За тры месяцы я ні разу не заснуў хоць на хвіліну, уначы чытаў, тупа сядзеў за сталом. Потым раптоўна бессань спынілася. Кажуць, што такія траўмы не праходзяць бясследна, і “шарыкі”, паколькі іх шмат, не могуць заняць тое становішча, якое мелі да ўдару аб асфальт. Бо там, як у калейдаскопе – немагчыма паўтарыць ранейшую карціну. Але “шарыкі” маглі б скласціся і ў лепшым парадку, чым было раней. Але не склаліся.

А яшчэ мяне тапіў у Свіслачы каля разбуранага вадзянога млына ў Ждановічах любімы сабака. Яго звалі Кейзі.

## Зялёнае

Яшчэ тут не было дач, ні з боку чыгункі, ні з другога, толькі чыгуначная каса.

Віця і я ляжым на зарослым верасам ўзгорку, глядзім у сіняе неба: дзень спякотны, не відаць нічога – толькі неба і верас. Нам па 18 гадоў, мы ляжым і спяваем. Нераспявалі усе песні, якія ведалі. Нічога не адбывалася, а вось праз пяцьдзясят гадоў гэта цешыць сэрца і кранальна ўзгадваецца.

А праз шмат гадоў мы ідзем – я і Аня – на дачу, і Аня нясе дробненькае кацянё ў кошыку. Раптам перад намі проста на сцежцы – жаба. Аня вырашыла пазнаёміць кацянё з жабай. Яно як толькі ўбачыла жабу, кінулася ў лес, а жаба ў іншы бок. Гадзіну мы з Аняй шукалі кацянё, а калі знайшлі – былі радасныя не менш, чым я і Віця некалі.

Ідучы ў Зялёнае, мы збочваем на сцежку, якая вядзе ўздоўж невялікай пусткі ў лес. Вось на гэтай пустцы аднойчы конь скубаў траву. Наперадзе нас ішлі нейкія дзяўчынкі – гадоў па дванаццаць. У руках у іх былі галінкі. Адна была ў спадніцы, другая – у новенькіх джынсах. Гэтая другая падала сваю галінку каню і збіралася яго пагладзіць. Раптам конь рэзка павярнуўся, разявіў пысу і выдраў з новых джынсаў кавалак тканіны ля кішэні. Мы ўсе анямелі. Дзяўчынку мы суцяшалі як маглі, але калі б не гэтая дзяўчынка, тады накарміць каня захацела б Аня, у яе таксама ў кулачку былі нейкія галінкі. Па сёння мне не хочацца думаць, што б магло тады здарыцца.

## Маленькія прыгоды

Нам дзесяць гадоў, ці каля таго. Слаўка, Генка і я сядзім на вяршыні пагорка, што насупраць кафедральнага сабора, і палім цыгарэткі з чорнага тытуню. Наперадзе праз вуліцу ляжыць замчышча, а за ім двары Татарскага прадмесця, з левага боку – старая Няміга, з правага, зарэчнага – Траецкае прадмесце. На ўзгорку нікога няма, свабода. Нам ніхто не перашкаджае. Мы марым, і ў мяне ёсць ідэя, як можна праехаць цягніком у Парыж, дзе ў сакрэтнасці можна будзе расклейваць улёткі «Мы за мір!» Гэтак жа, як на прапагандысцкай паштоўцы некалькі хлопчыкаў налепліваюць улёткі, а ўдалечыні пад чырвонымі сцягамі ідзе дэманстрацыя працоўных, і мажны паліцэйскі сочыць, каб дэманстрацыя ішла «правільна».

У іншы дзень мы цягніком выправіліся ў Ждановічы. Вагоны былі простыя, без электрычных дзвярэй, хуткасць невялікая, сядай на любое месца, і цябе абвявае вецер. На зваротным шляху мы спазніліся на цягнік і пайшлі пешкам. Зайшлі на ўскраіне горада ў сталоўку завода – яна была ў 30 метрах ад чыгункі – і на трыццаць капеек нам выдалі велізарную міску рысавай кашы і гарбату, а хлеб быў бясплатны. Мы елі трыма лыжкамі з гэтай міскі, з'елі ўсё, былі вельмі шчаслівыя, і нават праз 57 гадоў я гэта памятаю.

## "Укусаны"

Аня купіла сіямскага ката, дакладней, котку. Яна была то ў Ані з мамай, то ў мяне. Аднойчы яна была ў мяне, адзін незнаёмы хлопец па нашай аб'яве даў свайго сіямскага ката – на злучку. Кот быў велізарны. Любоўныя дачыненні не завязаліся, кот увесь час адпачываў на халадзільніку, а побач з ім стаяў радыёпрыёмнік. Калі я праходзіў міма ката, ён суправаджаў мяне позіркам падазроных сініх вачэй. 31 снежня я вырашыў уключыць прыёмнік. Было чатырнаццаць гадзін дня. Толькі націснуў нейкую кнопку, кот узвіўся і ўсадзіў зубы мне ў руку. Ён вісеў у мяне на руцэ і не думаў яе адпускаць. Нарэшце я скінуў ката, ён адляцеў і гатовы быў кінуцца на мяне зноў, а я пачаў дзьмуць на руку, на якой відаць былі сляды ягоных зубоў. Літаральна за некалькі хвілінаў рука распухла. Увечары я прыйшоў да Лоры і Ані з перавязанай рукой, еў у іх левай рукой.

1-га і 2-га студзеня рука балела, і пухліна не спадала. 3-га студзеня я пайшоў да лекара, і там напісалі ў картцы «укусаны» і зрабілі папярэдні ўкол. Аказваецца, сліна ката змяшчае рэчыва, якое адразу пазбаўляе мыш (і маю руку) руху. Трэба схадзіць да ветурача з катом. Я павінен здаць ката на экспертызу, і атрымаць даведку аб адсутнасці шаленства – толькі тады не зробяць 50 уколаў. Я гэта зрабіў: даведаўся адрас экспертызы, прывёз туды ката ў суправаджэнні незнаёмай сястры і мамы таго хлопца, там мы пасадзілі ката на крэсла, нарэшце прыйшоў доктар. Ён, толькі зірнуўшы на ката, заявіў, што кот здаровы, і даў мне даведку. Я аднёс яе ў паліклініку, там мяне выключылі са спісу хворых на шаленства, і са спісу тых, каму кожны дзень тэлефануюць на выпадак захворвання на шаленства.

А з мяне ўсе смяяліся.

## Звалка

На месцы цяперашняга Інстытута культуры была пасля вайны вялізная звалка трафейнай зброі і ўсялякага металалому. Яна займала значную плошчу – ад вуліцы Льва Талстога да Заходняга чыгуначнага маста. Пасля вайны туды прыходзілі цягнікі з пашкоджанымі вінтоўкамі, мінамётамі, зламанымі машынамі. Наш двор

для гульні ў вайну ўзбройваўся ствaламі вінтовак (прыклады былі збітыя). Потым пачалі прывозіць ручныя гранаты без запалаў. У мяне былі ствол і два цесакі, якія я хаваў ад мамы і бацькі пад матрацам на сваім ложку. Да гэтага часу не маю ўяўлення, куды яны падзеліся. Магчыма, бабуля ўзяла маю зброю і выкінула ў памыйную яму. Яма была велізарная, ёй не толькі карысталіся 80 кватэр дома, але і сталоўка, якая была ў нашым доме на першым паверсе. Магчыма, на дне гэтай ямы яны і ляжаць...

### Гульня ў вайну

Калі мне было гадоў дзевяць, была ў нас модная гульня – на трамвайныя рэйкі выкладвалі ў шэраг капсулі для паляўнічых патронаў. І калі кола трамвая іх расціскала – раздавалася чарга стрэлаў. Старэйшыя хлопцы куплялі дробнакаліберныя патроны і клалі на рэйкі. Кулі вылятaлі, і як нікога на вуліцы не параніла ці не забіла – цуд.

### ФЗВ-23

Насупраць нашага дома было ФЗВ-23. Яно з’явілася неўзабаве пасля вайны. Там вучыліся шэсць месяцаў 14-17-гадовыя хлопцы, усе родам з вёскі. Аднойчы зносіны з імі зусім сапсаваліся. Мы білі шкло, а яны кідалі зубны парашок. Часам – напільнікі і камяні. Камень ударыў мне ў скронь, на паўсантыметра ніжэй таго месца, якое было б смяротным. Залітага крывёй, бацька панёс мяне ў паліклініку. Рана зажыла, а след застаўся на ўсё жыццё.

А ў наступную змену адносіны нашага двара і ФЗВ сталі нашмат лепшымі, можна сказаць, прыяцельскімі, а для мяне нават сяброўскімі. З гэтымі фабзайцамі я здзейсніў свой скачок з парашутам. Прозвішча аднаго памятаю па сённяшні дзень – Яшчураў. З ім я сябраваў, калі ён скончыў ФЗВ і застаўся на працу ў Мінску. Ён быў старэйшы за мяне, яго забралі ў войска, і нашае сяброўства спынілася.

### Звышнатуральныя сілы

Бабуля верыла ў звышнатуральныя сілы. Якія – не змагла б растлумачыць. І не спрабавала іх сабе ўявіць. Ведала, што яны ёсць. Не верыла ў бога (не хадзіла ў царкву), але верыла што там, недзе там, жывуць, чуюць, бачаць, памятаюць і ведаюць усё. Хацела, каб унук прыйшоў на магілу і сыграў на акардэоне (я тады вучыўся граць, але так і не навучыўся).

### Рака Бярэзіна. Чарот

Пасля першага курса мы былі на сельгаспрацах у Бярэзінскім раёне. Вёска размяшчалася на беразе Бярэзіны. З нашага боку рос невялікі чарот – метраў на пяць па вадзе. З супрацьлеглага берагу чарот займаў, можа, метраў сто, а можа, яшчэ больш. Не памятаю чаму, але аднойчы мне з двума сябрамі прыйшлося гэтую раку пераходзіць з далёкага боку ў бок вёскі. Калі б не было гэтага пераходу – Бярэзінская вандроўка выветрылася б з памяці. Мы брылі скрозь чарот па глеістым дне, баяліся змеяў, пра якіх расказваў наш гаспадар, смяяліся, калі нага ступала ў яму і здавалася, што тонеш, і наогул смяяліся з усялякіх дробязяў, уся пераправа заняла хвілінаў дваццаць, але гэтыя хвіліны ўрэзаліся ў памяць навечна.

## Балота

Неяк я і браты Сапожнікавы – Генка і Валодзька – паехалі ў Астрашыцкі Гарадок на рыбалку. Цяпер гэтае месца пакрытае вадою Мінскага мора. А тады там было балота, на якім мы пабудавалі будан і ўсю ноч нас елі камары. Мы палілі папяросы, а камарам было напляваць на дым. Мы палілі, адмахваліся, а яны нас елі ежма. Потым пачаў церусіць дожджык, камары зніклі, а мы смяяліся, абкусаныя, з распухлымі тварамі. Нічога не злавілі, але былі вельмі шчаслівыя.

## Зніклы горад

У юнацтве ў мяне быў прыяцель, з якім мы перажылі разам некалькі прыгодаў. Аднойчы ў міліцэйскім пастарунку горада Ялта, ноччу, калі памежнікі затрымалі нас за начлег пад кустом у гарадскім парку і, абвясціўшы бадзягамі, здалі міліцыі, мы, падпісаўшы абяцанне пакінуць горад у 24 гадзіны, памарылі пра будучыню і вырашылі, што ўспомнім гэтую прыгоду ў 2000 годзе на Новы год. Тады да яго заставаўся 41 год.

Вось ужо да 2000 года засталося рукой падаць, прыяцель мой даўно памёр, і іншы прыяцель, з якім мы перажылі іншыя прыгоды, таксама памёр, і успамінаць тыя даўнія нашыя прыгоды магу адзін я. А гэта зусім не тое, што ўспамінаць удваіх. Гэта сумна – у адзіноце гартаць мінулыя дні. Ды і многіх іншых людзей няма, з кім было б што ўспомніць з лепшых гадоў, самых яркіх дзён жыцця – з юнацтва, калі жыццё абяцае поспех, ты вясёлы, і шчаслівы, і ўсё беды схаваныя за паваротамі часу. Але калі б тыя мае сябры былі жывыя, з пачуццём глыбокага смутку прайшліся б мы цяпер па тых вуліцах і мясцінах, дзе гулялі вечарамі ў маладыя гады, дзе прызначалі спатканні дзяўчатам, дзе марылі, якім прыгожым зможам зрабіць наш горад. Ужо і не засталося ад яго нічога, што было гадоў трыццаць назад. Няма маленькіх вулачак Нямігі. Замест сквера на Цэнтральнай плошчы пабудаваны змрочны саркафаг, названы Палацам Рэспублікі. Знятыя круглыя гадзіннікі на рагах вуліц, пад якімі мы чакалі адзін аднаго. І што самае сумнае – усё гэта знішчана з пачуцця нелюбові да горада, прыезджымі архітэктарамі, у якіх не было ўспамінаў, звязаных з вуліцамі, з будынкамі, з крамамі, ці з ракой Свіслач, з паркамі, з плошчамі. Дзеля зручнасці паездак на дачу чыноўнікаў было спрамлена рэчышча Свіслачы, тысячы гадоў яна цякла выгінамі ў прыгожым ландшафце – цяпер ні ландшафту, ні рэчышча, ні поймы – страла асфальту. Знята бульдозерам усё тое, што мы бачылі, усё нашае. Калі кажаш – вось тут быў дом, тут – сквер, тут – прыгожая крамка «Тытунь» – яны глядзяць на асфальт, плошчу, пустэчу і нічога не адчуваюць.

Нічога не засталося ў тых раёнах, дзе я нарадзіўся – радыёзавод, 30-я школа – знеслі. Замест таямнічай звалкі металалому – Інстытут культуры, старая крама «Тытунь» змянілася на «Крэмы і шампуні», дом Оліка Бяльзацкага, каля якога мяне збіў «козлік», знік, кінатэатр «Першы», пабудаваны палоннымі немцамі ў нямецкім стылі, дзе мы глядзелі трафейныя фільмы, знеслі...

## Скачок на цвік

Пасля вайны наш дом па вуліцы Маскоўскай быў самым вялікім у Мінску – у ім было дзесяць пад’ездаў, на рагу з ім знаходзіўся дом з трыма пад’ездамі, два былі разбомбленыя. Кватэры атапліваліся дровамі, велізарны чатырохкутнік быў заняты самаробнымі хлеўчукамі. У хлеўчуках трымалі свіней, кралёў і курэй. Вось аднойчы мы гулялі ў нейкую гульню на хлеўчуковых дахах. Раптам нехта крыкнуў: «Атас!» У бок хлеўчукоў ляцеў здаравенны мужчына з дзікімі крыкамі: «Заб’ю!»

Мы ўсе саскочылі з супрацьлеглага боку, і я наткнуўся на цвік, убіты ў дошку: дошка вялікая і тоўстая, а цвік быў найвелізарны – ён вылез, прабіўшы сандалі, скуру, нагу, і зноў сандалі, на сантыметраў 15. Я так баяўся мужчыны, што садраў з цвіка нагу і дабег да чырвонага касцёла.

І што дзіўна, назаўтра засталася на назе невялікая ранка.

## Бацькоўская вёска

У годзе 1950-м, ніяк не раней, бацька ехаў на машыне ў Віцебск і вырашыў паглядзець на тое, што засталося ад ягонай роднай вёскі. Ён узяў з сабой мяне – вось так я таксама аднойчы ў жыцці пабачыў яго бацькаўшчыну. Мы спыніліся каля бацькавага прыяцеля, калгаснага брыгадзіра. Ён узяў двух асядланых коней, і мы паехалі, я – ехаў з бацькам, седзячы наперадзе. Дзень быў сонечны. Мы ехалі закінутай дарогай, кіламетраў пяць. Я не ведаў тады, што бацька не быў на родным двары з 1932 года – яго пакрыўдзіла маці. Яшчэ я не ведаў – які быў мой дзядуля, калі ён памёр, калі памерла мая бабуля, маці бацькі. Я ехаў у незнаёмае месца, дэталі кароткай размовы бацькі з сябрам мяне не цікавілі. Гэта значыць, я чуў, што яны паміж сабою гаварылі, і ўсе іх словы праляцелі міма вушэй. Нарэшце паказалася вёска. Толькі абшарпаныя коміны – ні платоў, ні пабудоў, ні разбураных дахаў. Толькі аблезлыя коміны з нетаптанай дзікай травой вакол. Бацька і прыяцель паспрачаліся, які з комінаў належаў бацькавай хаце, а я так нічога і не ўбачыў.

Зараз я ўбачыў усё тое жыццё – нямецкія танкі на знявечаных руінах вёскі. Вёска называлася Горкі. Яна так і не адрадзілася пасля танкавага наезду, і пазначана сярод разбураных немцамі дзевяці з паловай тысяч беларускіх вёсак.

Уладзімір Сіўчыкаў



...ню – гэта частка маёй душы,
майго светапогляду...

# Пацалаваны сонцам

***Штрыхі да творчага партрэта Алеся Ксёндзава***

Не магу прыгадаць аніводнага твора – савецкай ці постсавецкай ідэалагемы – яго аўтарства, лічу Алеся Ксёндзава ўзорам чалавечай і мастакоўскай шляхетнасці, а таму вельмі ахвотна пагадзіўся на запрашэнне наведацца ў майстэрню, што месціцца ў “слупку” на дзявятым паверсе.

Майстэрня для мастака – святая святых. З аднаго боку – гэта працоўны цэх, а з другога – куток, дзе можна пабыць сам-насам ці з блізкімі яму, прыязнымі людзьмі. Гэта і храм, дзе, як перад алтаром, мастак можа ўкленчыць перад некранутым палатном. Працуе ён у камбінезоне, запэцканым фарбамі, і ў гэтым сэнсе нагадвае хутчэй сярэднявечнага рамесніка, чым небажыхара. Ксёндзава майстэрня аніяк не расчаравала – надзвычай утульная, але і ледзь не ў ідэальным парадку, своеасаблівая адладжаная “машына для жыцця і творчасці”, як можна было б перафразаваць Ле Карбюз’е, знакамітагага дойліда швейцарскага паходжання. Нават прыдзірлівая кабета мусіла

б назваць гаспадара "акуратыстам", бо ўсе рэчы і прылады – пэндзлі, мастыхіны і палітры, ноўтбук і флэшкі, музычны цэнтр і кружэлкі, найноўшая печ-буржуйка з паленцамі пры ёй, гіпсавая копія галавы кандацьера Эразма дэ Нарні Гатамелаты, чучала вялізнага шчупака, дагестанскі кінжал у інкруставаных похвах, вазоны з дыфінбахіяй і іншымі раслінамі – знаходзіліся на месцах, вызначаных ім мастаком.



*Алесь КСЁНДЗАЎ. Фота Андрэя СПРЫНЧАНА.*

За каваю, згатаванай у джэзве гасцінным гаспадаром, гутарылася разняволена й няспешна. Мы даўно ўжо, не адзін дзясятак гадоў размаўляем на "ты", а таму адкінулі ўмоўнасці і журналісцкі этыкет, каб не размаўляць на штучна-казённым "вы". А пачалі гутарку якраз з альбомаў, прысвечаных мастакам-жодзінцам. З прыемнасцю і цеплынёй згадвалі першы, які даў падставу аб'ездзіць шэсць гарадоў, наладзіць выставу і ў сталіцы. Мелі шмат заўваг ды прэтэнзій да другога, з тых, якія хочацца схаваць і нікому не паказваць. На жаль, укладальніца яго, сама прафесійная мастачка, цяперашняя дырэктарка дзіцячай мастацкай школкі, нібыта малаадукаваная і эстэтычна сляпая чыноўніца збаялася ці пасаромелася прадставіць майго візаві палотнамі з аголенай натурай. Напэўна, і таму гартаў мастак прынесены мной альбом крыху расчаравана.

– Відавочна, што адарванасць ад мастацкага жыцця не йдзе на карысць. Людзей нярэдка паглынае правінцыйнасць. Але бываюць і выключэнні. У суседняй Літве, пераканаўся я, могуць паспяхова тварыць і ў правінцыі.

***– Можа, таму, што адлегласці, прапорцыі там іншыя? Літва ў тры разы меншая за Беларусь.***

– А вось я гляджу развароты Сашы Фралянкова... Што тут скажаш? Бог памазаў яго надзвычай шчодра – проста выдатны жывапіс!

***– Ён таксама кажа пра цябе з вялікім піетэтам.***

– Дзякуй!

***– Ксёндзаў – гэта найперш ню. Прынамсі, я сам стаўлю паміж гэтымі словамі знак роўнасці. А дзе ў гэтым альбоме ню?! Вось партрэт я бачу. Дарэчы, ён вісіць у цябе на сцяне.***

– Гэта дызайнер з адукацыі, была мадэлькай у агенцтве пры канцэрне "Лукойл", які, дарэчы, спансаваў выданне вось гэтага майго каталога.

***– Ого! Я назваў бы яго "Чорны квадрат" Ксёндзава. Вельмі густоўная вокладка – на чорным тле адно толькі залаты аўтограф "ksjondz"! "Вікіпедыя" вызначае цябе Аляксандрам Ксёндзавым, але раней можна было пачуць ці прачытаць і Алесь Ксяндзоў. Адмыслоўцы кажуць, што імя, вібрацыі, якія штодня гучаць пры яго вымаўленні, таксама ўплываюць на чалавечы лёс.***

– Я даўно ўжо звыкся, што пры сустрэчы завуць мяне не Алесем ці Аляксандрам, а проста Ксёндз! Такім чынам ужо ў 1972 годзе дыпломную працу я так і падпісаў


«НАРАДЖЭННЕ ВЕНЕРЫ» (2005).

лацінкаю. Пагаджуся, што пэўны адбітак і маё прозвішча накладвае. Можна ўлічваць і пэўныя абмежаванні, якія ёсць у свецкім жыцці ў ксяндзоў. Таму, мажліва, гэта пераносіцца і на асоб, якія носяць такое прозвішча, хоць і не маюць адносінаў да службы ў касцёле. Не выключаю, што пэўная стрыманасць, пачуццё патрыятызму могуць ісці адтуль.

***– А продкі былі з ліку служкаў Божых?***

– У 30-я гады быў у маім сваяцтве па кудзелі святар, які да таго ж маляваў. Аднойчы ўначы яго забралі, і з той пары пра яго не было аніякіх звестак. Мама калісьці казала, але нават імя яго цяпер напэўна не згадаю. Здаецца, Саўка... Адначасна забралі і майго дзеда, які не ўступаў у калгас, і адседзеў ён ажно дзевяць гадоў. У турме моцна захварэў, а таму яго і выпусцілі перад самай вайной, як аказалася, паміраць усяго толькі ў сорак гадоў. Праўда, я яму паставіў крыж на радзіме... Бабця ў мяне была Вольга Кухлеўская, спрабаваў весці радавод і па яе лініі. Дык вось, у нашым раёне ёсць вёска Шэйкі, у якой амаль што ўсе вяскоўцы – Ксяндзовы!

***– Гэта на тваёй Крупшчыне?***

– Так. Між іншым на старых мапах, XVII стагоддзя, Крупкі пазначаны як Крупка. Па аналогіі з Глыбелькай, Ігрушкай, Курганаўкай, Рудабелкай, Трасцянкай, Шэйкай... А так я аднойчы забіў у Гугл сваё прозвішча, і аказалася, што Ксёндзавых у свеце амаль тысяча трыста! Быў гісторык з такім прозвішчам у Акадэміі навук, быў гітарыст у ансамблі “Верасы”, а ёсць нават такія, што працуюць у амерыканскім аэракасмічным агенцтве НАСА!

***– Але вярнуся да “Вікіпедыі”, якая вызначае твой стыль як “рэалізм”, хаця залічвалі цябе і ў авангардысты, і ў постмадэрністы.***

– Усё ж я належу да рэалістычнай школы, атрымаў даволі грунтоўную акадэмічную падрыхтоўку. Шэсць гадоў адвучыўся на “манументалцы”, чатыры гады – у творчай майстэрні жывапісу Акадэміі мастацтваў СССР, дзе выкладчыкам маім быў Міхаіл Савіцкі. Хаця я дазваляў і дазваляю сабе крокі і ўлева, і ўправа. Мне цікава знаходзіць новыя рысы і ў сабе, і ў сваім мастацтве. Гасподзь адорвае мастака талентам, як алмазам, а творца мусіць усё жыццё наносіць на яго новыя грані, ператвараць у дыямент.

***– Міхаіл Андрэевіч быў строгі настаўнік?***

– Вельмі строгі, нават суворы! Не раз я быў на мяжы выключэння з майстэрні. Аспіранцкай стыпендыі не хапала, хацелася падзарабіць, а таму, бывала, з’язджаў на месяц. Вяртаўся, а тут ужо чакала вымова.

***– Падпрацоўваў як мастак-манументаліст?***

– Вучыўся я ўсё ж не на дэкаратыўна-ўжытковым аддзяленні. Звалася яно тады “Мастацка-дэкаратыўны роспіс”. Нездарма і сёння ў майстэрні ў мяне вісяць фрагменты копій з касцёла Святога Станіслава ў Магілёве. Мне нядаўна

казалі, што ў Смаргоні дагэтуль стаіць старая школка з двума мурамі (на тры паверхі!), якія я распісаў, а дакладней, нарэзаў сграфіта, здаецца, у 1983 годзе. У тым мястэчку муралы мае захаваліся і на выканкаме, і ў будынку пракуратуры! Зрабіў я і некалькі вітражоў, а ў іх ліку ў Высокім, што каля Бярэсця. Але пасля зразумеў, што манументальны – гэта не мой шлях, бо найчасцей працаваць даводзілася брыгадай, а аб'ект прымала цэлая зграя мастакоў, пра ўзровень якіх лепш прамаўчу. Таму я сышоў з Мастацкага камбіната, і заказы час ад часу браў толькі жывапісныя.

***– Усе мы жывем у грамадстве, у соцыюме і не можам не залежаць ад яго. А што для цябе значаць сацыяльныя сеткі?***

– Я карыстаюся хіба што Фэйсбукам. Часам адкрываю, гартаю стужку, часам чытаю аналітычныя агляды, палітычныя артыкулы, гістарычныя нарысы. Знаходжу я там аднадумцаў, прыемных суразмоўцаў, стараюся адсочваць мастацкае жыццё, творчасць маіх калегаў і за мяжою. Праўда, апошнія год-два і Фэйсбук становіцца менш цікавым, бо ўзнікае ўсё больш рознага роду абмежаванняў, цэнзурных момантаў, рэгістрацый. Асабіста я, можна сказаць, пацярпеў і праз працу ў жанры ню – мяне banілі і на месяц, і на тры. І з гэтае прычыны апошнім часам не выкладваю свае працы ў Інтэрнэт.

***– На жаль, колькі мы ні займаемся эстэтычным выхаваннем, колькі ні паказваем узоры мастацтва, пачынаючы ад пячорных і заканчваючы самымі мадэрновымі інсталяцыямі, усё роўна падсвядомае – фрэйдысцкае або ідэалагізаванае – вылазіць вонкі, кожны кантралёр думае, што лепш забараніць і перастрахавацца.***

– Забароны, мне здаецца, усё ж сыходзяць ад канкрэтных асобаў. Але ці маюць яны сэнс сёння? Існуе Інтэрнэт з сотнямі і тысячамі сайтаў, дзе можна паглядзець, што душа пажадае! І чаму тады прыстойная праца, у якой няма і намёку на порна, з цяжкасцю прабіваецца да гледача? Чаму нібыта па просьбе ветэранаў здымаецца банер "Мілавіцы" з рэкламаю станікаў, які іх нібыта абражае?

***– У цывілізаваным свеце, у адным з цэнтраў хрысціянства, у музеях Ватыкана ці ў Сікстцінскай капэле анікому ж не прыходзіць сёння ў галаў замаляваць аголеных біблійных персанажаў на фрэсках Мікеланджэла Буанароці!***

– А што тады казаць пра Індыю, пра сусветна вядомы храм Каджураха?! Нашы міфічныя ветэраны ўзарвалі б яго ці схавалі б пад маскіровачнай сеткаю?

***– Можа ты чуў модныя слоўцы, якія былі пэўны час у трэндзе ў экзальтаваных дзявуль ды маладзіц: "Ой, які ён мімімішны!" або "Ён такі няшка!" У мяне просіцца абыграць своеасаблівую гульню словаў, іх сугучнасць у характарыстыцы: "Ксёндзаў – жывапісец-няшка, што піша нюшак!"***

– У мяне ёсць і куды больш жорсткая мянушка, але я аддаю перавагу больш прыстойнай – поп-артыст! Здагадайся, ад якога слова!

***– Вельмі ёмка і трапна, асабліва калі ўлічыць, што апошнім часам цябе вабяць мадэлі з выдатнымі, багатымі формамі, прычым не спераду, а менавіта ззаду. Падазраю, што ідзеш тут ад Веласкеса,***



*«МІХАІЛ КАЗІМІР РАДЗІВІЛ РЫБАНЬКА» (2005).*

***якога, ведаю, вельмі шануеш, ад ягонай “Венеры з люстэркам”, але пайшоў так далёка, што напісаў “Оду цэлюліту”.***



*«ПЯРЛІНКА-IV» (2003).*

– Жанр, у межах якога з’яўляліся самыя разнастайныя вобразы і тыпы аголеных жанчын – адалісак, алімпій, багінь, жонак, каханак, натуршчыц, пастушак, рабыняў – заўсёды быў папулярны. Ню – гэта частка маёй душы, майго светапогляду. У працэсе працы мастака з аголенай натурай ёсць штосьці, што вызваляе чалавека ад комплексаў і дае яму мажлівасць палюбіць самога сябе. Прычым гэта тычыцца як мастака, так і яго мадэлі. Грамадства ў нас, па вялікім рахунку, заціснутае. Мы – досыць пурытанская нацыя і да пэўнай ступені закамплексаваныя. А з другога боку аголенасці вакол так багата, што людзі здаволіліся ёю. І ў галерыстаў, і ў гледачоў асаблівай цікавасці да ню ўжо няма, а чыноўнікі ставяцца да гэтага жанру нават паблажліва, маўляў, гэта мастацтва невысокага ўзроўню.

***– Але ж ёсць яшчэ куды імкнуцца, мяркуючы па тым, як хітравата ты прымружваешся і падкручваеш свае рудаватыя вусы?***

– Жаночая прыгажосць – па-за часам, па-за нацыямі, па-за краінамі. У мяне няма прывязанасці да пэўнага генатыпу, але ахвотна напісаў бы цёмнаскурую дзяўчыну, скажам, кубінку.

***– На сценах тваёй майстэрні вісяць некалькі фотаздымкаў, а ў іх ліку і досыць эпатажныя. Разам з тым можна пабачыць твае пасты ў Фэйсбуку не толькі з вернісажаў, але і з пленэраў, з лецішча…***

– На возеры Мядзел ма́ю сядзібу. На тым месцы стаяў стары дом, які адной ноччу згарэў па нявысветленых прычынах. У той год я вельмі моцна хварэў. Але паабяцаў сабе, што калі выжыву, дык абавязкова пабудую свой дом. Выжыў і збудаваў. Там, за 150 кіламетраў ад Менска, вельмі прыгожыя мясціны, а краявіды нагадваюць Браслаўшчыну, тую самую Слабодку. Цяпер мяркую, што на сваім лецішчы буду пісаць і краявіды. Там ёсць хутар Рыбкі ці Рыбка, на які можна глядзець і любавацца цэлы дзень, як ён мяняецца. Мяняецца неба, мяняецца агульны настрой, і можна пісаць яго бясконца нават з аднаго месца...

***– І будзе серыя, як у Клода Манэ “Стагі сена” або “Руанскі сабор”?***

– На возеры я адпачываю і душой, і целам. Яно мяне вабіць, там я хораша пачуваюся – у мяне з’явілася яшчэ адна малая радзіма. Адна – гэта дзе нарадзіўся, другая – Жодзіна, месца, дзе вучыўся і дзе пахаваныя бацькі... Большую частку жыцця правёў у Менску, лічыў сябе менчуком, але цяпер маю яшчэ і вёску Мікрашы на Мядзельшчыне.

***– Мы згадалі пра фотаздымкі. Раней для іх патрабаваліся даволі цяжкія апараты і іншыя даволі складаныя прылады, лабараторыя, каб праяўляць стужкі і друкаваць самі фота. Цяпер, маючы мабільнік, айфон ці планшэт,***

***можна рабіць імгненныя здымкі і нават адразу выкадроўваць, апрацоўваць іх. Ці спрыяе, ці дапамагае табе фатаграфія?***

– Фота займаюся даўно, пачаў яшчэ за савецкім часам. Недзе нават захаваліся павелічальнік, кюветы, а таксама валіза, у якой я захоўваю блізу дзесяці фотаапаратаў! Падумваю нават зрабіць у майстэрні паліцу, міні-музей маёй тэхнікі. І сёння я займаюся фатаграфіяй, яна вельмі дапамагае мне ў працы. Жыццё дужа імклівае, час бяжыць неўзаметкі, і нават калі працуеш з ню, дык не можаш занатаваць кожнае імгненне, кожную пазіцыю мадэлі. Фота нярэдка дапамагае штосьці выбраць або ўнесці пэўныя змены.

***– А як рэагуюць на аб'ектыў мадэлькі?***

– Звычайна мы дамаўляліся, працавалі разам, пасля мадэль магла паглядзець аддрукаваныя адбіткі і нават нешта выбраць сабе. Я тлумачыў, што працую ў Акадэміі, маю пасаду (цяпер з гэтым прасцей – захацела, дык залезла ў Інтэрнэт, спраўдзіла, хто я), а таксама абяцаў, што здымкі робяцца выключна для працы, і ніхто, акрамя мяне, іх не пабачыць.

***– Геніяльны тэнар Пласіда Дамінга мусіў разарваць стасункі з нью-ёркскай "Метрапалітэн-опера", а таксама пакінуць пасаду мастацкага кіраўніка оперы Лос-Анджэлеса, бо яго праз 30-40 гадоў (найчасцей ананімна) абвінавачваюць у сексуальных дамаганнях нават тыя, хто абавязаны яму кар'ерай! А ты не баішся абвінавачвання ў харасменце праз, скажам, гадоў дзесяць?***

– Мне будзе вельмі прыемна, што на мяне не забыліся, што мяне памятаюць! Калі хтосьці згадае, што Ксёндзаў заляцаўся да яе, мне як мужчыну гэта будзе пахвальна. Працаваў я выключна на даверы, тым болей, што з многімі мадэлямі і сёння сябрую або падтрымліваю добрыя стасункі.

***– Гэтага не скажам пра наша грамадства і дзяржаву, якія доўгі час былі, можна сказаць, антыгуманнымі. Піянеры мусілі клясціся, што заўжды будуць гатовыя да барацьбы за справу Камуністычнай партыі, а потым людзям убівалі ў галовы, што найсвяцейшы абавязак – аддаць жыццё за дзяржаву і Радзіму. Як ты лічыш, мяняюцца часы ў лепшы бок?***

– Гледзячы на сённяшняе падрослае пакаленне, не надта я бачу патрыятычнага, узнёслага настрою. Мабыць, не дужа знойдзецца ахвотнікаў рызыкаваць жыццём. Многія людзі не ўсведамляюць дарэшты, што гэта ёсць іх радзіма.

***– З твайго дазволу зраблю маленькую рэпліку. Фінскі фельдмаршал, а потым і прэзідэнт Густаў Манергейм казаў, што перш чым апекавацца войскам, трэба забяспечыць людзям той узровень жыцця, які яны захочуць абараняць.***

– Але ж трэба, каб пачуццё патрыятызму гарэла і ў сэрцах, каб людзі не жылі толькі сённяшнім днём, не жылі чыста прагматычна. Акрамя добрай працы і заробку нішто не павінна перашкаджаць мець пачуццё годнасці, дачынення да краіны і гонар за яе, як не перашкаджае гэта прагматычным амерыканцам казаць, што амерыканскі лад жыцця – найлепшы.



*«НЮ» (2005).*



*«НЮ» (2016).*

Эканоміка і заможны лад жыцця пачынаюцца з любові да радзімы. Швейцарцы – сялянская і небагатая нацыя. Яны размаўлялі на розных мовах, пасвілі кароў, рабілі сыр, але тое, чаго яны дамагліся дзякуючы і патрыятызму – гэта сёння no comment. Хацелася б, каб і ў нашай краіне людзі ўсведамлялі, што з любові да яе, да яе гісторыі і звычаяў пачынаецца эканамічны пад’ём. А гэта праз адукацыю і выхаванне павінна была б забяспечваць дзяржава. Тады дзеткі нашыя, прычым самыя працавітыя і таленавітыя, не разбягаліся б па іншых краінах. Ты ж сам казаў мне, што адны з найбольшых патрыётаў у свеце – гэта амерыканцы, грамадзяне краіны, збудаванай руплівымі і цягавітымі эмігрантамі.

***– Так, ледзь не ў кожным, нават прыватным двары можна пабачыць дзяржаўны сцяг і сцяг пэўнага горада, пэўнага штата, але кожны грамадзянін Злучаных Штатаў памятае пра свае карані, пра сваё паходжанне. Да прыкладу, у Брукліне на будынку Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы вісяць бел-чырвона-белы і зорна-паласаты, бел-чырвона-сіні сцягі. Кожны з вернікаў памятае пра сваю беларускасць, як і пра свой амерыканскі пашпарт, кожны паважае амерыканскія законы і культуру, кожны спраўна сплочвае падаткі. Але там любоў і павага краіны, дзяржавы і яе насельнікаў, грамадзянаў – узаемная!***

– Над маім мядзельскім лецішчам лунае бел-чырвона-белы сцяг, а ў дадатак да яго – амерыканскі, зорна-паласаты. А флюгер у мяне – “Пагоня”. Усе начальнікі навокал ведаюць пра тое, але мяне не чапаюць.

***– А я над сваімі лысагорскімі соткамі ў дадатак да нашага святога сцяга раз-пораз вывешваў сіняе палотнішча з залатымі зоркамі, сцяг Еўразвязу, таго міждзяржаўнага аб’яднання, у якое, хочацца верыць, Беларусь раней ці пазней, але ўвойдзе!***

– У нас, як і ў той Амерыцы, таксама шмат народу рознага жыве. Але, на жаль, пераважная большасць з іх не пачуваюцца не тое што беларусамі, – нават грамадзянамі Рэспублікі Беларусь!

***– Прыхадні ў нас не хочуць пачувацца беларусамі.***

– Мая мама казала нават не прыхадні, а набрыдзь! Без залішняй дыпламатыі.

***– Добра, але давай вернемся да творчасці і вытворчасці. З пэўнай доляй умоўнасці можна сказаць, што жывапісны станковы твор мае, як мінімум, тры жыцці: калі задумваецца, прымройваецца майстру, калі знаходзіцца на мальберце ў майстэрні і калі пакідае яе, пачынае існаванне ў галерэі або прыватным зборы. А ці маеш ты палотны, з якімі не хочаш ці не можаш расстацца?***

– Бывае, што твор жыве ў майстэрні працяглы час. Але ўсё роўна, рана ці позна, знаходзіць свайго пакупніка, свайго гаспадара. Калі ў працу ўкладаеш пачуцці, дык мастакоўская энергетычная хваля абавязкова знойдзе хвалю глядацкую. Я

доўга захоўваў сваю першую ню, з якой у 1988 годзе пачыналася маё жыццё ў гэтым жанры, доўга не хацеў яе прадаваць, трымаў як нейкі абярэг, але знайшоўся бізнесовец, які настолькі ўпадабаў твор, што я адступіўся. Заплаціў ён немалыя грошы, апрануў у шыкоўную раму, запрасіў да сябе, каб паказаць у хатнім інтэр'еры, і паабяцаў у любы момант даць на вернісаж, калі мне тое спатрэбіцца. Тады я зразумеў: не хачу, каб пасля смерці ў майстэрні засталіся незапатрабаваныя працы. Я хачу, каб яны разыходзіліся па ўсім свеце, каб апыналіся ў добрых руках, і ўсведамляю: увесь я не памру, бо і ў далёкіх краях будуць глядзець на мае палотны, лапідарна падпісаныя "ksjondz", а памяць пра мяне будзе ўсё шырыцца.

***– Не магу не задаць і такое пытанне: твае аўтарытэты ў мастацтве і твае арыенціры, сусветныя і айчынныя?***

– Найперш гэта Дыега Веласкес, якога ты ўжо згадаў. Гэта для мяне фігура нумар адзін, асабліва ў партрэтным жанры.

***– Дык і вусы твае акурат як у Веласкеса на яго знакамітым палатне "Мяніны"! Ты называў сябе рэалістам, а некалькі гадоў таму выйшаў дакументальны фільм Карыма Айнуза "Дыега Веласкес, або «Дзікі рэалізм»"...***

– На жаль, фільма таго не бачыў, але ж нічога ў жыцці не бывае выпадковага. А што тычыцца нашага мастацтва, дык лічу асобай сусветнага маштабу Аляксандра Кішчанку. Яго творчасць не мае прывязкі да пэўнага часу, яна касмічная! Дзякаваць Богу, мы з ім былі ў добрых, каляжацкіх адносінах, і засталіся ў мяне пра яго вельмі цёплыя ўспаміны. Чалавек ён быў жывы, непасрэдны і смелы...

***– Добра, а як жа Эль Грэка, Пікаса, Шагал, Мадзільяні?!***

– У мастацкай школцы я ўвогуле быў "мадзільяніст". Доўжылася гэтае захапленне і ў інстытуце, покуль на трэцім курсе Гаўрыла Вашчанка заявіў, што калі я не перамянюся, дык ён мяне проста пагоніць. Са скрыпам я намагаўся выконваць вучэбную праграму, больш-менш адпавядаць ёй. Цікавілі мяне і імпрэсіяністы, захапляўся румынам Камілем Рэсу. Многія мастакі мне падабаюцца, але куміраў няшмат. Ма́ю ўжо пэўны творчы вопыт і мушу разбіраць свае творчыя завалы, адкрываць новае ў самім сабе, класці на дрожджы ўведанага ўласны вопыт.

***– Давай яшчэ пагаворым пра такія рэчы як багемнасць, знешні выгляд, манера падачы самога сябе. Бывае, прыходзіш на вернісаж і бачыш, што каля кагосьці круціцца кутка дзяўчат ці сімпатычных кабет. Можна не сумнявацца – гэта Алесь Ксёндзаў у сваім знакамітым капелюшы. Пагадзіся, часам бывае крыўдна, ніякавата і нават сорамна, калі бачыш, як некаторыя мастакі ці літаратары на дыпламатычны прыём ці на значную імпрэзу заяўляюцца ледзь не ў трэніках з пухірамі на каленках або ў зашмальцаваным швэдры. Але апранудца, не абавязкова багата, аднак прыстойна – гэта ж адна з праяваў павагі да тых, хто поруч? Якую ролю ты аддаеш антуражу?***

– Я згодны з тым, што не самамэта – апрануцца акуратна і прыгожа, каб пакрасавацца. Проста для мяне гэта арганічна, я тут нічога не прыдумляю, я так успрымаю ўласную асобу ў мастацкім свеце. Яшчэ ў школцы я зачытваўся мемуарамі



*«ПАЦАЛАВАНАЯ СОНЦАМ» (2016).*


«ХУТАР РЫБКІ» (2018).

мастакоў, тамамі з серыі "Жизнь замечательных людей", знаходзіў там шмат цікавага і чароўнага. Пэўныя постаці на рэпрадукцыях – барадатыя, у капелюшах – здаваліся мне незямнымі, падаваліся паўбагамі. А капялюш я стаў насіць яшчэ ў інстытуце, гадоў з дваццаці пяці, нашу яго восенню і нават узімку! Для людзей, якія прыходзяць на вернісажы спаткацца з мастакамі і іх творамі, цікава, што творца – чалавек незвычайны, крыху рамантычны, адметны, не прыземлены. Зразумела, што ты прадстаўляеш мастацкі свет, а таму проста павінен выглядаць прыстойна. Ты любіш прыгожае, значыць, і сам павінен выглядаць прыгожа, несці прыгажосць і гармонію. Праца мусіць накладаць пэўны адбітак, і калі чалавек выглядае як клерк, значыць і мастацтва ягонае выглядацьме адпаведна: халаднавата, рацыянальна.

***– Мабыць, большасці творцаў уласцівая пэўная тэатральнасць, жаданне ўразіць і нават акторства. Твае пераўвасабленні для сэлфі бываюць досыць нечаканымі. Ты ахвотна надзяваеш вайнахскую папаху, чапляеш на пояс шаблю або нацягваеш казахскі халат і цюбецейку, прымяраеш канацье або стэтсан…***

– У мяне і праўда ёсць нават сапраўдны скураны капялюш з Аўстраліі, упрыгожаны ікламі дзіка і буслінымі пёрамі як абярэгамі, ёсць нямала, я сказаў бы, тэатральна-пастановачных здымкаў. Я вучыўся ўсё ж у тэатральна-мастацкім інстытуце, да гэтага часу сябрую са служкамі Мельпамены. Шмат людзей дагэтуль памятаюць нашы студэнцкія мастакоўскія капуснікі і вечарынкі. Бывала, што студэнты-акторы хадзілі і нярвова курылі за кулісамі, бо самі не маглі зрабіць тое, што вычваралі на сцэне мы. Помняцца і лыжныя паходы, і песні каля вогнішчаў, і канцэрты гурта "Сузор'е". Мне нават часам казалі, што пераблытаў і мусіў паступаць на акторскае аддзяленне замест мастакоўскага. І дагэтуль люблю пераўвасабляцца, але многія здымкі, дзе я ў парыку ці надта экстравагантным адзенні, не публікую і не афішырую.

***– І не прапагандуеш, не афішуеш агрэсіўна свой лад і манеры, як гэта робяць веганы ці прадстаўнікі ЛГБТ-супольнасці?!***

– Зразумела, што не! Але мы ўсё ж мастакі, што па-ангельску гучыць *artists* і ў значэнні "артысты", таму павінны быць арганічнымі ў абодвух увасабленнях.

***– У Веласкеса ёсць ранняе палотно з назваю "Трыумф Вакха, або П'яніцы". Амаль што кожны з творцаў аддаў даніну таму старажытнагрэцкаму божышчу. Кажуць, што ў творчасці алкаголь, як і ў сэксе, – спрыяе натхненню, але замінае выкананню.***

– Калі я працую, дык не ўжываю аніякага алкаголю, нават піва. Мне не патрэбны аніякія транквілізатары ці падобныя рэчы. Хіба што кава. А так я магу і добра ўжыць, не саромлюся. Бывае, што і куды маладзейшых пераседжу за сталом. Так што ўдар трымаць магу, і нават моцны! Але, паўтаруся, для працы мне трэба светлыя мазгі, каб нічога не замінала, каб усё ў арганізме было арганічна.

***– Вось пагадзіся, літаратары могуць крыху зайздросціць мастакам. Мастаку добра – нават не прадаў, а падарыў, скажам, былому суайчынніку, а цяпер амерыканскаму грамадзяніну, пару накідаў ці невялічкі эцюд і можа пазначаць у творчай біяграфіі, што творы захоўваюцца ў прыватных зборах у ЗША, а такім чынам нібыта за ягонай спінай – аўтарытэт і веліч магутнай краіны. А ўяві, як няпроста пісьменніку, каб твор яго пераклалі на ангельскую мову, а тым болей выдалі за акіянам!***

– Тут я магу пагадзіцца, але ж, як кажуць, хто на каго вучыўся!

***– Дарэчы, пра вучобу ці, дакладней, настаўніцтва. Ты выкладаеш у Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў з 1994 года, маеш пасаду прафесара на кафедры жывапісу. А каго ты назваў бы сярод паспяховых вучняў?***

– Сваю нішу ў краявідах заняла Вольга Шкаруба. Удала працуюць Таня Кандраценка, Мікола Чысцякоў, Сяргей Шэмет... Адных толькі дыпломнікаў было ў мяне чалавек пятнаццаць, таму баюся кагосьці пакрыўдзіць, калі зараз не назаву...

***– А ты часта бываеш незадаволены сваім жыццём?***

– Як ва ўсіх людзей, бываюць такія моманты. Але збольшага я задаволены, бо займаюся сваёй справаю, а яна дае мне і любімую працу, і хлеб надзённы. У чымсьці іншым і цяпер сябе не бачу. Таму, калі ў мяне пытаюцца пра шчасце, адказваю, што гэта яно і ёсць. Яшчэ люблю чытаць і гутарыць з цікавымі мне людзьмі. Калі чытаю, бывае, што замыкаецца ланцужок асацыяцый, з’яўляюцца ідэі, якія варта ўвасобіць на палатне...

Незабыўны Пятро Васючэнка казаў, што творца адбыўся напоўніцу, калі стварыў свой адметны мастацкі свет. Алесь Ксяндзоў гэткі свет стварыў і працягвае ствараць. У гэтым свеце ён не ксёндз, а кардынал (прычым не шэры, хоць ужо і сівавалосы!), а мадэлькі і “нюшкі” ягоныя – сыходзяць за высакародных інфантаў і фрэйлін.

Пра гэта сведчаць як глядацкае, так і грамадскае прызнанне. Мастак ладзіў персанальныя выставы ў Нацыянальным мастацкім музеі, быў уганараваны Гран-пры ІІ міжнароднага сімпозіума імя Марка Шагала (1997), медалямі Беларускага саюза мастакоў “За заслугі ў выяўленчым мастацтве” (2003) і імя Францыска Скарыны (2007). Праўда, не стасуецца нават ва ўяўленні ягонае імя са званнямі “Заслужаны” ці “Народны мастак”, бо найперш ён творца элітарны.



*У Палацы мастацтва. Фота Таццяны СТАРАВОЙТАВАЙ.*

Але і сёння Алесь Ксёндзаў поўны задумаў і творчых сіл. Не здзіўлюся, калі ён, заў-

зяты кніжнік, раптам апублікуе свае літаратурныя практыкаванні пад псеўданімам кшталту Алесь Ксёнджык.

А здзіўляць у жывапісе ён умее і найвышэйшай культурай творчасці.

Сваімі шыкоўнымі нацюрмортамі прымусіў згадаць знакамітае “І вось так яшчэ Радзівіл можа!”

Уразіў і нават крыху збянтэжыў нечаканым партрэтам Міхала Казіміра Радзівіла Рыбанькі, парафразай твора ананімнага аўтара, што захоўваецца ў нашым Нацыянальным мастацкім музеі.

Выклікаў лагодную ўсмешку “Нараджэннем Венеры” – своеасаблівай рэмінісцэнцыяй аднайменнага шэдэўра геніяльнага фларэнційца Сандра Бацічэлі.

Прымусіў пазайздросціць белай зайздрасцю нашаму земляку Алесю Аркушу, які мае партрэт пэндзля свайго цёзкі і добрага прыяцеля з назваю “Партрэт паэта”.

Прывёў у захапленне на адным з апошніх вернісажаў у Палацы мастацтва сваёй “нюшкаю” пад назваю “Сіняя панчоха”, якую, праўда, галер*ы*сты падал*і* на цэтліку як “Голубой чулок”, чым панішчылі алюзіі і канатацыі.



*«ЕЗУС» (2014).*

Даў нагоду згадаць палотны позняга Рэмбрандта ван Рэйна, бо падобным чынам гараць, зіхцяць, зырчэюць фарбы на філасофскіх краявідах “Мой край” і “Хутар Рыбкі”.

Містычна-магічнымі палотнамі “Езус” і “Атлантыда” падарыў мажлівасць згадаць творы свайго цыклу “Новая міфалогія”.

Багатымі серабрыстымі і шэрымі колерамі адной з апошніх (па часе напісання) ню адаслаў да палотнаў свайго ўлюбёнага Дыега Радрыгеса дэ Сільва-і-Веласкеса.

Хочацца пажадаць Алесю Ксёндзаву новых дасканалых твораў, паспяховых выстаў у найпрэстыжных галерэях свету, шчодрых калекцыянераў і прыхільнікаў таленту, чарговага, грунтоўнага альбома-аўтаманаграфіі, удалых падводных паляванняў і рыбалак пры хутары Рыбка, а таксама... цемнаскурых мадэлеккубінак з шыкоўнымі формамі.

Эдуард Дубянецкі



...душа мая
так прагне хараства...

# Выратавальны паэтычны сад

***Явар С. Дзівосны сад: выбранае / Святлана Явар; уклад. Т. Барадулі. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 276 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 108).***

З гісторыі беларускай і замежнай літаратуры добра вядома, што неўладкаванасць у асабістым і сямейным жыцці таленавітага пісьменніка нярэдка кампенсуецца яго павышанай творчай актыўнасцю, вынікам чаго часам бывае стварэнне вельмі яркіх і самабытных культурных артэфактаў. Але ж бываюць і адваротныя выпадкі, калі асабістыя праблемы ў рэшце рэшт “падточваюць” чалавека знутры, заводзяць яго ў багну адчаю, адкуль, як яму здаецца, няма выйсця. І, як ні дзіўна, усё гэта можа “сумяшчацца” ў лёсе адной асобы, прыводзячы яе спачатку да жыццёвага і творчага ўзлёту, а пазней да заняпаду, роспачы і ранняга сыходу ў іншы свет.

І вось практычна ўсё гэта выпала ў свой час на нялёгкую долю таленавітай пісьменніцы Святланы Явар (сапр. Сачанка), якая была дачкой выбітнага празаіка Барыса Сачанкі. Нават пры мностве жыццёвых выпрабаванняў яна тым не менш




паспела выявіць сябе як шматбакова адораная асоба ў галіне навукі ды прыгожага пісьменства – найперш у паэзіі і прозе. На жаль, яе жыццё раптоўна абарвалася ў няпоўныя 43 гады і яна не паспела цалкам рэалізаваць свой немалы творчы патэнцыял. І вось цяпер у якасці своеасаблівай даніны памяці гэтаму недаацэненаму пры жыцці чалавеку можна разглядаць выхад у свет кнігі паэтычных і празаічных твораў Святланы Явар “Дзівосны сад”, выбранага са створанага ёю на працягу прыблізна двух дзесяцігоддзяў творчай дзейнасці. У якасці прадмоў да кнігі апублікаваныя невялічкае ўступнае слова яе сястры Галіны Багданавай і пранікнёнае эсэ паэткі й журналісткі Таццяны Будовіч-Барадулі.

Так, Святлану Явар можна з поўным на тое правам назваць паэткай трагічнага лёсу, няшчаснага кахання і сумна-роспачных вершаў, якія заўважна дамінуюць у кнізе. Аднак яна амаль заўсёды спрабавала адужаць шматлікія выпрабаванні й турботы, паспрабаваць змяніць да лепшага свой нялітасцівы жыццёвы кон, знайсці выйсце з самых складаных сітуацый. І такі выхад яна бачыла акурат у творчасці, у духоўным памкненні да высокага, прыгожага, узнёслага:

Душа мая так прагне хараства,
Таму і рвецца матыльком слабенькім –
Замучаным, але яшчэ жывенькім:
Яна ляціць туды, дзе зор жарства.

Адной з найбольш удалых і яркіх метафар Святланы Явар стаў вобраз “дзівоснага Сада”, які яна карпатліва даглядала і дзе вырошчала свае прыгожыя кветкі-вершы, якія потым раздарвала сябрам, сваякам, калегам. Дзе ёй заўжды было ўтульна і спакойна. Дзе яе на пэўны час пакідалі штодзённыя турботы й хваляванні. Дзе яна атрымлівала зарад бадзёрасці і натхнення. Дзе, урэшце, ёй плённа тварылася і дзе яна была сапраўдным уладаром мастацкага слова. Безумоўна, гэты апаэтызаваны ёю ў некалькіх вершах незвычайны “паэтычна-прыродны сад” з’яўляўся ў яе творчасці сімвалам сапраўднай прыгажосці і хараства, куды паэтка наяве ці ў марах заўжды хацела збегчы ад шэрай будзёншчыны і дзе ратавалася ад усіх трывог і душэўных пакут:

Прыступак рад
вядзе ў дзівосны Сад:
там асыпае зоры лістапад.

Вясны пагляд
уміг мяняе Сад:
там апякае вусны сэрцапад.

С. Явар жыла, з аднаго боку, прыемнымі ўспамінамі пра розныя (добрыя ці кепскія) жыццёвыя падзеі, а з другога, шматлікімі марамі й надзеямі на лепшае. Пры гэтым, здаецца, што дамінантную ролю ў яе творчасці адыгрывалі менавіта мары-мроі і фантазіі, якія “падпітвалі” яе паэзію, прыўносілі яркія фарбы ў яе вечна самотнае жыццё. Своеасаблівым лейтматывам паэтычнай творчасці Святланы Явар была неадольная адзінота і адчайныя спробы яе пераадолець. Працяглыя і найчасцей бясплённыя пошукі блізкай душы, побач з якой ёй было б цалкам утульна і якой можна было б паспавядацца, моцна знясільвалі цела і дух, даводзячы літаральна да роспачы, пра што сведчаць наступныя вершаваныя радкі:

Страшней за адзіноту ўсведамленне,
што не знайсці больш роднаснай душы
ні ў першым, ні ў апошнім пакаленні,
каб ссохлы свет каханнем асвяжыць.

У гэткія горкія гадзіны з даткліва-чуллівай паэтычнай душы вырываліся такія адчайна-роспачныя словы, як: "Паветра не хапае, душна // знясіленым маім грудзям... Аддадзены дарэшты сілы // для гонару бацькоў зямлі". І ў такія часы яна хацела збегчы з паўсядзённага тлуму, узляцець птушкай у горныя высі, каб пазбыцца адчування бессэнсоўнасці і тупіковасці будзённага жыцця. Увогуле, матыў палёту з'яўляецца, бадай, адным з галоўных і вызначальных у паэтычнай творчасці Святланы Явар. Таму невыпадкова ў адным з ранніх вершаў яна так сфармулявала сваё патаемнае жаданне:

Хачу застацца ў снах,
у думках і ўспамінах,
як вольны дзікі птах,
кружыў што над краінай.

Паэтка неаднаразова прызнавалася, што толькі натхнёная творчасць хаця б часова вызваляла яе ад пакутаў і перажыванняў, рабіла яе насамрэч шчаслівай, узнёслай і духоўна вольнай:

Калі прыходзіць да мяне натхненне,
то адлятаю ў іншыя краі,
бы птушка ў вырай. Там яно, збавенне,
ад дробязных канфліктаў і грызні.

Але ж такіх хвілін было, відаць, яўна недастаткова, паколькі ўрэшце паэтка не вытрымала такога напружання і, мяркую, на нейкім жыццёвым этапе папросту перастала змагацца са сваім неміласэрным лёсам, увайшла ў стан глыбокай дэпрэсіі, з якога, на вялікі жаль, так і не змагла выйсці. Увогуле, яна добра ўсведамляла хуткаплыннасць жыцця і крохкасць сваіх ілюзій-надзей, таму ёй нярэдка даводзілася перажываць тое, пра што сама яна сказала ў адным вершы: "Толькі кругі па вадзе разышліся – згінула мара, як не было". У яе вершах часцяком адчуваецца аголены нерв, а часам нават чуецца адчайна-роспачны крык самотнай душы:

Ты рвешся прэч – туды, дзе ззяюць зоркі,
дзе месца ёсць надзеі і вясне,
ды не пускае лёс твой, вельмі горкі,
да тых свабод, што бачыш толькі ў сне.

З улікам таго, што каханне (найчасцей трывожна-пакутлівае) адыгрывала ў творчасці і жыцці паэткі адну з вызначальных роляў, цалкам зразумелым выглядае надзвычай цяжкое і балючае перажыванне расстання з рэальным альбо ўяўным каханым. У такія змрочныя часы з яе душы заўсёды вырывалася вось такое (ці падобнае да яго) горкае, але разам з тым вельмі паэтычнае прызнанне-мара: "Дужа хочацца ўбачыць святло // у замерзлым тунэлі расстання". Мяркую, не будзе памылкай казаць, што каханне для паэткі найчасцей выступала не выратавальнай сілай, а крыніцай дадатковых перажыванняў, стрэсаў, а часам нават і пакутаў – асабліва тады, калі яно было не ўзаемным ці падманным. І прычыны гэтага заключаліся не толькі ў здрадзе яе каханых, але і ў немагчымасці паэткі цалкам аддацца каханню, шчыра адкрыцца яго цёпламу асвяжальнаму брызу ці, наадварот, халодным злым віхурам. У звязку з гэтым яна ў адным з

вершаў з непадробным сумам самакрытычна прызналася: “Я не ўмею кахаць, я не ўмею любіць. // І таму давядзецца // пра шчасце забыць”. Таму, відаць, яе каханне найчасцей было не столькі рэальным, пачуццёва-жарсным, колькі мройліва-ірэальным, платанічным. А пры такім “падыходзе” цалкам натуральна выглядалі яе наступныя радкі, з якімі б, натуральна, не пагадзілася большасць сучасных жанчын: “Але не ўцехі пачуццёвай мёд // патрэбен мне цяпер, // а ўвысь палёт”.

Карацей, Святлана заўжды шукала выйсце з жыццёвага тупіка ў самаадданай творчасці, адной з галоўных мэтаў якой была карпатлівая пабудова свайго прыдумана-ўзвышанага і нават ідэальнага свету, дзе ёй было б цалкам утульна і камфортна:

Забыўшыся на свет рэальны,
адным якім так сумна жыць,
ствараю свет я ідэальны,
каб у рэальным не тужыць.

Прыблізна трэцюю частку кнігі займае проза, прадстаўленая тут трохі больш чым паўтара дзясяткамі невялікіх апавяданняў. Большая часткі гэтых твораў ізноў жа, як і ў выпадку з вершамі, прысвечана тэме самоты і звязанага з ёй няшчаснага кахання. Прычым тут гэты дамінуючы матыў пададзены больш канцэнтравана і ёміста ў параўнанні з паэтычнымі творамі, паколькі ў адрозненне ад невялікай колькасці апавяданняў у паэтычнай частцы кнігі ён нібы “размыты” па некалькіх сотнях вершаў. Складваецца ўражанне, што амаль усе празаічныя творы заснаваны на аўтабіяграфічных матывах, а прататыпам большасці гераінь і нават, як ні дзіўна, некаторых герояў з’яўляецца... сама самотная аўтарка. Найчасцей ад змешчаных у кнізе апавяданняў зыходзіць пачуццё безвыходнасці і бессэнсоўнасці жыцця, адчуванне непатрэбнасці сваёй творчасці і нават нейкай асуджанасці на заўчасную смерць.

Пры гэтым, па шчырасці, апавяданні практычна нічога новага нам не гавораць пра светаўспрыманне, характар і мысленне аўтаркі, бо пра ўсё гэта мы ўжо добра ведаем з яе шматлікіх вершаў. Бадай, хіба толькі адно можа дадаць проза ў яе творчую характарыстыку – гэта ўсведамленне шматграннасці таленту Святланы Явар, якая даволі яскрава змагла сябе выявіць не толькі ў сваёй “улюбёнай” паэзіі. Акрамя таго яе празаічныя творы, на маю думку, пераканаўча пацвердзілі, што аўтарка бліскуча валодае беларускай мовай і з’яўляецца выдатным стылістам. Мажліва, гэтая рыса дасталася ёй у “спадчыну” ад таленавітых сваякоў-празаікаў.

Безумоўна, арыгінальнасці і глыбіні многім вершам ды апавяданням С. Явар найчасцей не ставала – ды, здаецца, яна й сама да гэтага ніколі моцна не імкнулася. Сапраўды, яна нікога не хацела ўразіць празмернай ускладнёнасцю, (псеўда) філасафічнасцю, а таксама катэгарычна не прымала пустога арыгінальнічання і “выпендрожу”. Бо яе паэзія – гэта найперш голас (найчасцей крык) душы, і гэты голас практычна заўсёды ліўся натуральна, бы рачная плынь, часам спантанна-імправізацыйна, але ж ні ў якім разе не загадзя абдумана ці доўга апрацавана. Паэтцы ў першую чаргу хацелася напоўніцу выгаварыцца ў вершах, выказаць усю сваю ранімую душу, прычым падсвядома ёю, відаць, ставілася высакародная задача быць у першую чаргу максімальна натуральнай, а не майстравітай, а таксама гранічна шчырай перад сабой і перад людзьмі, а не штучна-арыгінальнай і глыбакадумна-прэтэнцыёзнай.

Карацей, Святлана Явар уяўляла сабой адметны тып надзвычай чуллівай паэткі з тонкай душэўнай арганізацыяй, для якой аказалася немагчымым доўга жыць і тварыць у нашым прагматычна-цынічным і бессардэчным свеце. Тым

не менш яна, нягледзячы на ўсе жыццёвыя выпрабаванні і няўдачы, даволі плённа працавала, знаходзячы ў паэтычнай і празаічнай творчасці пэўную аддушыну ад усялякіх трывог, бед і пошасцяў. Дык хай жа яе дзівосны паэтычны сад чароўным чынам ніколі не засыхае, а толькі квітнее – на радасць усім зацікаўленым добрым людзям. Без перабольшання можна сказаць, што вершы, апавяданні і навукова-папулярныя артыкулы С. Явар пакінулі светлы след у памяці ўдзячных чытачоў, сваякоў, сяброў і проста яе знаёмых. Упэўнены, што творы паэткі яшчэ доўгі час будуць заставацца ва ўспамінах, думках і снах многіх людзей, выклікаючы пры гэтым нямала разнастайных (найчасцей меланахалічна-тужлівых) эмоцый і асацыяцый. І верыцца, што яе неўміручая душа дзесьці высока ў нябёсах яшчэ доўга будзе кружыць над родным краем, над загонам айчыннай літаратуры акурат тым самым “вольным птахам”, з якім паэтка сябе заўжды атаясамлівала.



Леанід Галубовіч



...самапіяр робіцца галоўнай мэтаю існавання беларускіх пісьменнікаў, тактыкай і стратэгіяй іх паводзінаў...

# «Жыццё ў нетрах літаратуры»

***Павел Абрамовіч. Мой спосаб чытання: эсэ, нарысы, артыкулы, інтэрв'ю. Мінск: Кнігазбор, 2019. — (Бібліятэчка часопіса "Дзеяслоў"; выпуск 28). — 160 с.***

Выхад новай кнігі крытыкі ў наш час даволі рэдкая, можна сказаць, маргінальная з'ява. Тым больш, крытыкі актуальнай і чытэльнай. Творчай і ўласна датычнай да сучаснага літаратурнага працэсу, у якім звычная традыцыйна-класічная крытыка страціла сваё троннае месца гэткага незалежнага *трацейскага* суддзі. Стаў адчувальны заняпад крытычнай культуры. Візуальна праглядваюцца *скрэпныя* лакуны групаўшчыны. Сцёрся зрокавы фокус агульнага погляду на каштоўнасці мастацкай творчасці. Амбіцыйнасць і прэзентацыйнасць – вось тыя катурны, на якія стараецца паўстаць і падавацца самаснай і самадастатковай найперш наша сучасная маладая літаратура. Таму са шкадаваннем прызн*а*ем, што сувязь сур'ёзнай крытыкі і мастацкай літаратуры на сёння амаль перарваная, будзем спадзявацца, што часова. Ці то яна (крытыка) не даганяе новых мадэрновых зрухаў і




накірункаў у развіцці цяперашняга пісьменства, ці то сама літаратура не дацягваецца да вышыні і глыбіні пастаўленых задышлівай крытыкай праблем запатрабаванасці да яе чытача і часу. Зрэшты, не так важна, хто вінаваты ў большай ці меншай ступені. Кепска, што ёсць агульныя і, крый Бог, незваротныя страты. Гэта – і разбураная, але наноў не выбудаваная іерархія таленавітага і шэраговага, і сцёртая шкала каштоўнасці мастацкіх набыткаў, і раздробленасць і звужэнне чытацкай аўдыторыі, і адсутнасць альбо размытасць прагнозу і перспектыў развіцця нацыянальнай літаратуры, а таксама яе пачування і месцазнаходжання ў літаратуры сусветнай... Да ўсяго яшчэ дадаецца наш айчынны праблемны спектр яе *беларускамоўнага выжывання*. Менавіта сыходзячы з прыкладна гэткіх трывожных пасылаў і пісалася ды пацiху патэкстава збіралася кніжка Паўла Абрамовіча “Мой спосаб чытання” (эсэ, нарысы, артыкулы, інтэрв’ю), якая пабачыла свет у выдавецтве “Кнігазбор” (бібліятэчка часопіса “Дзеяслоў”, 2019).

Што тычыцца зместу і структуры кнігі, то аўтар вырашыў трымацца не часу напісання і тэматыкі тэкстаў, а месца публікацый тых ці іншых матэрыялаў, ужо ўнутры разбіўшы іх на раздзелы, блізкія па жанрах і гучанні. Іх няшмат: «У “Дзеяслове”» (эсэ, нарысы, артыкулы) і «Па-за “Дзеясловам”» (сацыяльныя сеткі – “Живой Журнал”, Facebook і асобным раздзелам “Мас-медыя”). Адметна і тое, што ўсе тэксты ў кніжцы падаюцца тым правапісам, якім яны друкаваліся (*дзеясловіцай*, *тарашкевіцай* і, як звыкла кажам, *наркамаўкай*). Часова публікацыі крытыка палягаюць у межах ад 2004 да 2019 гг., гэта значыць, ахопліваюць пятнаццаць гадоў беларускага літаратурнага працэсу. У гэтых тэкстах Павел Абрамовіч закранае не толькі сучасную літаратуру (асобныя кнігі і электронныя запісы), але і вяртаецца да нашай класічнай спадчыны (твораў і жыцця Я. Коласа, Я. Купалы, М. Багдановіча, У. Караткевіча), а таксама час ад часу зазірае ў аддаленыя засекі культуры старажытнай эпохі чалавецтва (“Антычны дзённік” ды інш.)...

Папярэднічае зместу кнігі кароткая, але ёмкая прадмова вядомага пісьменніка Андрэя Федарэнкі (“Слоўца ад дзеяслоўца”). Пэўна, абазнаны ў нашай літаратуры чытач адразу ўзгадае, што і сам Андрэй Міхайлавіч сяды-тады спрычыняецца да так званай пісьменніцкай крытыкі, а лепш сказаць, да літаратурнага *дбання* (пільнавання памылкі). Многім з нас добра помныя яго запісы на тэмы творчай пісьменніцкай кухні пад назовам “Сечка”. Калі казаць коратка пра гэты аспект яго літаратурнай працы, то там А. Федарэнка напамінаў калегам пра адказнасць творцы за мастацкае слова перад чытачом і самім *Словам*. Таму і наказ яго тычыцца найперш той самай адказнасці, пра якую раз-пораз забываюць многія нашы сучасныя літаратары. Прынамсі, ён лічыць і напамінае, што *“каштоўнасць слова ў цэлым і крытычнага слова ў прыватнасці пачала падаць, размывацца, губляцца, пакуль зусім практычна не абясцэнілася – падобна, што ўжо ніхто нікому не верыць, нікога ні ў чым нельга пераканаць не толькі словам, а і дзеяннем”*. А што да самой кніжкі П. Абрамовіча “Мой спосаб чытання” і ўвогуле яго творчага плёну як крытыка і літаратуразнаўцы, то А. Федарэнка не сумняваецца ў яго майстравітасці і прафесійнасці, але найперш яго цешыць тое, што выбітны аўтар *“не столькі бядуе па тым, чаго ў нас няма, колькі ўмее знаходзіць нямногае сапраўднае, што ў нас яшчэ ёсць, і дзеліцца радасцю ад сваіх знаходак з іншымі”*.

І напраўду, калі я чытаў жывы, шматтанальны, рознажанравы і стылёва дагледжаны зборнік П. Абрамовіча, мяне не пакідала адчуванне захопленасці. Безумоўна, Павел – адзін з найбольш чытэльных і пры гэтым глыбокіх і

арыгінальных сённяшніх крытыкаў і літаратуразнаўцаў. Нельга не пагадзіцца з ім, калі ён піша, што *“вялікая літасьць да чалавека – нарадзіцца ў лоне цывілізацыі, якая вызнае рэлігію Кнігі”*. Нехта можа сказаць, што гэта штучны альбо занадта напышлівы выраз. А я скажу, што – афарыстычны і даходлівы. Дарэчы, такіх выразаў, на першы погляд нібыта напісаных мімаходзь, у тэкстах Абрамовіча сустракаецца нямала (*“пішы для чытача, сцеражыся тэорыі”*, *“літаратурная крытыка – творчасьць”*, *“хістайся ў сваіх поглядах на сутнасьць і прызначэньне літаратуры...”*). Некаторыя з іх палемічныя, іншыя спрэчныя, але ніводны не пакідае чытача абыякавым. У П. Абрамовіча чэпкія назіранні, аналітычны абвостраны розум, рацыянальнае, але не аднабокае мысленне. Ён не цураецца ні актуальных, ні зацёртых пылам часу, пакінутых нам у спадчыну праблем, літаратурных найперш. Зайздросная ў яго і шырыня поглядаў, і ўсёедная начытанасць, і абшарная абазнанасць у айчыннай літаратуры, і досвед у сусветнай. Як крытык Павел здольны знаходзіць лакальныя болевыя месцы ў сучасным літаратурным працэсе, пры гэтым па-майстэрску ўмеючы не толькі дыскутаваць і спрачацца, але – настойваць і даказваць...

*“Чытанне кніг – службовы абавязак літаратурных крытыкаў. Не дзіва, што многія пісьменнікі не паважаюць іх: крытыкі чытаюць кнігі не для сябе”*, – піша ён у артыкуле “Вытокі прыгажосці”, у якім дзеліцца сваім разуменнем іпастасі чытача, перакладчыка і крытыка. Гэта такі ўваход у кнігу – абапіранне на ўстойлівыя асновы, крынічныя накропленасці, зачаткі вусця... Далей – пра мастацкую дасканаласць, грунтоўнасць і – цытатны россып класічнай дэталізацыі. Пачынаючы ад “талстоўскай меры” і ўзнагароды “буханкай хлеба” за прачытаны ў 1939 годзе верш песняра перад вяскоўцамі, аж да друкарскай грунтоўнасці выдадзеных кніг Караткевіча, бо *“новыя кнігі – нават самыя бялюткія з іх – жаўцеюць за адзін год, патыхаюць вільгаццю і брыдкім клеем, а старыя – яны старэюць годна, шляхетна, пахнуць сухім, але моцным дрэвам з “адценнем” нейкага адмысловага гатунку”...* Чырвонай метай праз усю кнігу П. Абрамовіча праходзіць думка, што мастацкая і паліграфічная якасць кнігі – гэта адна з асноў цывілізаванага грамадства, якая паказвае на развітасць літаратуры і культуры нацыі. Аднак аўтар не абмінае ўвагай і сучаснае развіццё электронных тэхналогій, якія выцясняюць чытанне літаратуры на ўзбочыну наватворнага і новатэхналагічнага жыцця. Небяспека з боку інтэрнэту трывожыць жывы адпрыродны чалавечы інтэлект, ды, каб не ўпадаць у роспач, наш крытык следам за гэтым ранімым роздумам прыводзіць успамін з маленства, калі натруджаныя сяляне рана кладліся спаць і заадно эканомілі электраэнергію, таму, будучы падлеткам, зашыўшыся пад коўдру, ён затоена слухаў па прымачы дэкламацыю “Мёртвых душ” Мікалая Гогаля...

Так, у кнізе шмат цытат, на якіх аўтар акцэнтуе чытацкую ўвагу, яны амаль заўсёды трапныя і дапасаваныя да канкрэтных аўтарскіх разваг, па-мастацку вобразна ўзмацняючы ідэі і думкі крытыка. Наўзбоч адцемлю, што сучасныя маладыя рэцэнзенты чамусьці пазбягаюць цытавання і тым самым пазбаўляюць чытача асабістага погляду на стыль і ўзровень літаратурнага майстэрства аўтара.

Заўважаецца, што, узгадваючы нацыянальную класіку, П. Абрамовіч не пазбягае і не заценьвае актуалій часу. Наадварот, ён як бы падсвечвае іх гэтымі нечаканымі і дзіўнымі прыпамінамі. Да прыкладу, чытаючы нататку пра тое, як завод “Электроніка” арганізаваў вялікую сустрэчу рабочых з У. Караткевічам, і там між усяго пісьменніку задавалі пытанні і пра зніжэнне ролі беларускай мовы ў грамадстве, і ацэнку перакладаў на рускую мову, крытык азадачваецца тым, што падобныя *“пытанні не састарэлі, пісьменнікі і рабочыя, а таксама антыбеларуская дзяржава ў нас і сёння ёсць, але ж чаму так цяжка ўявіць падобныя сустрэчы цяпер?”* А то возьме і саркастычна пад’ялдыкне наш нацыянальны гонар – і паспрабуй ты паспрачайся! *“Пішуць і лайкаюць: хто не любіць дранікі, у таго няма сэрца. Калі дранікі – наша*

*нацыянальная ежа, то чаму іх ніхто не есць у беларускай класічнай літаратуры? Дранікаў няма ў Баршчэўскага, Багушэвіча, Ядвігіна Ш. і Каруся Каганца, Гарэцкага і Зарэцкага, іх ніхто не смакуе ў раманах “На ростанях” і “Людзі на балоце”, нікому не прапануюць дранікі ў кнігах Караткевіча...(...) У цэнтры нашага стала круглай вежай узвышаліся... бліны: “Яшчэ ад рання блінцы пякліся на снядание” (Якуб Колас). У прыватнасці Янка Купала ажно млеў ад бліноў з верашчакай (мачанкай) і сам іх рыхтаваў усюды, дзе можна было, і ў кнігах сваіх таксама: “Але ўсё-такі гэта для нас блін ды яшчэ маслам падмазаны”.* Калі раздумацца, хоць крытык пакідае нас тут сам-насам са сваёй цытацыяй, дык асацыяцыя з нацыянальнай стравай можа да-лё-ё-ё-ка завесці... На тое, відаць, аўтар і разлічваў.

Два нарысы (“Місія – выхаваць нацыю” і “У пошуках свайго чытача”) прысвечаны ўзнікненню і запачаткаванню ў айчыннай літаратуры крытыкі ўвогуле і пісьменніцкай крытыкі ў прыватнасці. П. Абрамовіч піша, што пра тое, як закладваліся *“традыцыі беларускай пісьменніцкай крытыкі, пераемнікамі якой на пачатку мінулага стагоддзя сталі літаратары-“нашаніўцы”, безумоўна, знаёмыя з лепшымі ўзорамі беларуска-польскай літаратурнай крытыкі XIX ст. Як і іх папярэднікі, яны плённа выкарыстоўвалі рэсурс перыядычных выданняў дзеля дасягнення сваіх мэтаў”.* Найперш ён запыняецца на выдавецкай і адраджэнскай дзейнасці першай беларускай газеты “Наша Ніва” і яе крытычным станаўленні, абапіраючыся на вопыт і плён слынных аўтараў гэтага выдання, дадаючы ў заключэнні, што *“З 1909 г., апроч У. Самойлы, на старонках тыднёвіка і ягоных альманахаў рэгулярна выступаюць па праблемах літаратуры і мастацтва Вітаўт Чыж, Мечыслаў Бабровіч, Рамуальд Зямкевіч, Антон Луцкевіч, а тасама Вацлаў Ластоўскі, Сяргей Палуян, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі, Зміцер Жылуновіч, Самуіл Плаўнік і інш.”.* На гэтым фоне заўважна праяўляецца *збядненне* крытычнага цэху і крэатыўнага плёну бальшыні нашых сённяшніх выданняў, ці не праўда? У супастаўнасці часу, развіцця і магчымасцяў – гэтак яно і ёсць. Таму даводзіцца толькі пагаджацца з эмацыйным выказваннем крытыка пра тое, што *“беларуская мова працягнула звыш стагоддзя – гэта светлы радасны цуд і ўадначас – цёмны неспатолены помстаю выклік мове-прыгнятальніку”.*

І, безумоўна ж, не абыдзены ўвагай адзін з тых, хто сваёй творчасцю ў XX стагоддзі найбольш паспрыяў адраджэнню Беларушчыны, як у гістарычным, так і ў моўным аспекце. Гаворка, вядома, пра У. Караткевіча. Артыкул П. Абрамовіча “Бо ён – Рака”, надрукаваны летась у “Дзеяслове”, быў заўважаны і крытыкай, і шматлікімі чытачамі, і прыхільнікамі творчасці вядомага пісьменніка. Аўтар кнігі даводзіць, што Дняпро ёсць сістэмаўтваральнай метафарай у рамане Караткевіча “Каласы пад сярпом тваім”, і ўвогуле, разважаючы пра сімвал гэтай ракі ў творчасці пісьменніка, слушна заўважае, што *“сімвалы і метафары коцяцца, як воды Дняпра, – неверагоднае ўражанне робіць паэтыка Караткевіча! І адно з вытлумачэнняў: Беларусь – тая самая рака, якая аднойчы ўліецца ў вялікае мора свабодных краінаў. Гэта адбудзецца, калі кожны з нас – не як жыхар, а як грамадзянін – асэнсуе: мы ёсць цурок вады і мы ёсць мора”.* Выдатнае вызначэнне.

Але аглядаючы сучасную ніву беларускага пісьменства, задобраную рознымі штучнымі хімікатамі, крытык неяк міжволі губляе свой нацыянальны аптымізм і светлую веру ў высокамастацкае заўтра беларускай літаратуры. Да таго ж, што варта адзначыць, да бальшыні сучасных шараговых літаратараў П. Абрамовіч ставіцца без асаблівага піетэту. І – па яго выкладках – небеспадстаўна, бо *“захопленыя самімі сабой, уласнымі эгаістычнымі перажываннямі і жаданнямі – ах, каб жа з’ехаць у вёску на тыдзень, ды пакасіць, ды на заход сонца паглядзець! – знаходзячыся ў палоне комплексаў і ілюзій, не здзяйсняючы ніякай унутранай працы па духоўным перараджэнні, пераасэнсаванні саміх сябе ў новых рэаліях, не жадаючы культываваць дысцыпліну і цывілізацыю, беларускія пісьменнікі і не заўважылі, як вёска са*

*сваім ідэалам і ўкладам пераехала да іх, у непатрэбныя, неабжытыя нашымі інтэлектуаламі гарады, дзе, абабіўшыся ў сытасці і дастатку, абвясціла канон “чаркі і скваркі”, а затым абрала сабе ідэальнага кіраўніка і ахрысціла нешматлікіх гараджанаў недачалавекамі, здраднікамі Беларусі”.*

Гэта фрагмент з артыкула “Збіць дыханне мордалысаўцаў”. Як бы моцна і доказна на ўзроўні абагульненняў. Ды нешта мне муляе, не хапае фактуры і канкрэтыкі, пакінуты ананімнымі творы і імёны іх аўтараў. А некаторыя моманты і злабадзённыя думкі даволі спрэчныя. Аднак соль у гэтых словах крытыка ёсць і ім зроблены магчыма своечасовы востры крытычны пасыл у бок сучаснага літаратурнага працэсу. Да яго нашым літаратурным *клавіятуршчыкам* трэба прыслухацца (анягож, у надрукаванай гутарцы для “НН” мільгнуў і апаліў нервы такі *пацанскі* пасаж, спадзяюся, не без іранічнага падтэксту: *“...без жалю адстрэльваць графаманаў, збіваць пыху з голых каралёў”*).

У раздзеле “Па-за “Дзеясловам” (сацыяльныя сеткі і мас-медыя), дзе надрукаваныя найбольш вострыя і палемічныя тэксты, П. Абрамовіч, не дакучаючы чытачу, паступова падводзіць яго (ад традыцыйна-класічных) да сучасных тэндэндый у нацыянальнай культуры і айчыннай літарараатурнай крытыцы. Бо ўжо нават, як піша крытык, *“Леў Талстой стаў карыкатурай, пародыяй. Найперш намаганнямі пісьменнікаў-постмадэрністаў, у тым ліку беларускіх, – маладжавымі веселунамі, якія да таго аслепленыя эгаізмам, што не бачаць сваёй блізкай літаратурнай лядачасці, не чуюць, як коціцца ўжо і за іх спінамі чужы здзеклівы смех”.* Не абмінае крытык і сучаснай праблематыкі мужчынскай і жаночай творчасці (ад Катула і Сапфо... да Быкава і Алексіевіч і аж да Хадановіча і Мартысевіч), дзе заяўляе, што не хоча абіраць між імі, а жадае *“чытаць якасную літаратуру і крытыкаваць не мужчын і жанчын, якія абралі літаратуру ў якасьці прафесіі, а іх погляды на жыцьцё і мастацтва, спосабы і крытэры мысьленьня, іхнія стылі і персанажаў”.* Але ў падтэкстах не-не ды прачытваецца нейкае адчуванне стомы, а можа і безнадзейнасці і бяссілля нейкім чынам выправіць і наладзіць літаратурны працэс, які страціў раўнавагу творчай гармоніі і – не-не – ды схіляецца да стыхійнай безалабернай змястоўнасці і дэфармаваных формаў... На яго думку і адчуванне, *“2018 год засведчыў, што беларускім пісьменнікам не патрэбныя літаратурныя крытыкі і іншыя медыюмы – яны самі ўсё патлумачаць чытачу наўпрост. Навучаць іх чытаць іх кнігі і як іх разумець, самі прадмову напішуць і ўсе каментары з пасьлямовамі. (...) Самапіяр робіцца галоўнай мэтаю існавання беларускіх пісьменнікаў, тактыкай і стратэгіяй іх паводзінаў”.*

Чытаць такія высновы людзям, датычным да літаратуры, я думаю, няпроста, а, бадай, нават балюча. Мне – таксама. Аднак узгадаўшы прамінулую гісторыю сусветнай літаратуры, прааналізаваўшы яе ўздымы і пахібы, магістральныя шляхі і паўзмрочныя тупікі, самазгубныя пошукі і патаемныя адкрыцці ды ўзрушэнні, а пасля прыклаўшы да яе планіды нашу нацыянальную беларускую лёсавызначальнасць, я мяркую, мы не павінны пасыпаць галаву попелам, – бо, як пісаў яе самапакутны рыцар: *“перад табою поле бою – тут не адзін паэт сканаў”.*

Дзякаваць Богу, Павел Абрамовіч бліжэй да канца кнігі прызнае, што *“літаратура ў Беларусі існуе, і факт гэты неаспрэчны”.* Таму астатняе *да нядзелі неяк разграбецца*, як у народзе кажуць, і дасць Бог – у поўны рост паўстане...

Нягледзячы на фінальную песімістычную танальнасць гэтых сваіх разваг над кнігай Паўла Абрамовіча, я ўсё ж стараюся захоўваць здаровы літаратурны дух, за што шчыра ўдзячны аўтару гэтай выбітной і чытэльнай кніжкі. Нашай сённяшняй літаратуры такіх бракуе. Таму будзем чакаць жывога і вострапалемічнага працягу ў далейшай творчасці таленавітага крытыка...

# Падзяліцца небам

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*

**Verbum 1/2019. Digest of the literary and art magazine "Dziejasłoŭ". – Minsk, 2019.**



Шмат разоў у часе розных дыскусіяў казалася, што сучасная беларуская літаратура адна з самых невядомых усходнееўрапейскіх і разам з тым – адна з самых цікавых... З першым можна пагадзіцца адразу. Беларуская дзяржава абсалютна нічога дзеля прэзентацыі сваёй літаратуры за мяжой не робіць, нават у буйнейшых еўрапейскіх кніжных выставах фактычна не ўдзельнічае. Няма і спецыяльных праектаў на пераклад беларускай прозы і паэзіі на замежныя мовы. І якім чынам тады даведацца чытачам па-за Беларуссю, што нашая літаратура і сапраўды цікавая ды адметная, што ў нас, апроч лаўрэаткі Нобелеўскай прэміі Святланы Алексіевіч, ёсць яшчэ дзясяткі імёнаў творцаў, вартых пільнейшай увагі і больш блізкага знаёмства? "Дзеяслоў" вырашыў запоўніць гэты прабел дайджэстам тэкстаў са сваіх апошніх нумароў у перакладзе на англійскую мову. Паэзія, проза, эсэістыка, крытыка, кніжныя навінкі – тут прадстаўлены ўсе жанры, якія ёсць у часопісе.

**Геннадий Лопатин. Поделиться небом. – Минск: Книгосбор, 2019. – (Библиотека Союза белорусских писателей «Кнігарня пісьменніка»; вып. 121). – 156 с.**




Генадзь Лапацін – паэт, этнограф, фалькларыст, які жыве ў Ветцы на Гомельшчыне. «Поделиться небом» – яго шостая кніга вершаў. Галоўная тэма зборніка – любоў. Любоў – да Бога, да беларускай прыроды, да музыкі, да дзяцей... Тэма кахання таксама дамінуе ў творчасці спадара Генадзя. Паэт застаецца верны сабе: «паэзія павінна быць прыгожай».

**Свэн Нурдквіст. Калядны гном для Фіндуса. / Пераклад са шведскай Надзі Кандрусевіч. – Мінск: ІП Кандрусевіч Надзея, 2019. – 132 с.**




Ніколі не абяцайце зашмат. Пэтсан часта пра гэта думае, асабліва пасля таго, як паабяцаў коціку Фіндусу, што да іх на Каляды прыйдзе Калядны гном. Але ж Пэтсан ведае, што нія-

кага Каляднага гнома не існуе. І ён вырашае сам змайстраваць гнома, які б рухаўся і размаўляў. Толькі трэба зрабіць гэта так, каб Фіндус ні аб чым не здагадаўся. Аднак вельмі хутка Пэтсан разумее, што гэта вельмі складана, амаль немагчыма. Некалькі тыдняў перад святам мінаюць вельмі дзіўна. Стары ўвесь час бавіць у сваёй майстэрні — нешта робіць і аб нечым думае, — і коціку здаецца, што на яго зусім забыліся. Калі Каляды ўрэшце надыходзяць, Пэтсан вельмі хвалюецца, як усё спрацуе. Але здараецца нешта неверагоднае — і можна толькі здагадвацца, што насамрэч адбылося на Каляды.




**Сяргей Панізьнік. На Падкове Дзвіны. – Мінск: Тэхналогія, 2019. – 168 с.**

У кнігу ўвайшлі найлепшыя вершы Сяргея Панізьніка – плён 60 гадоў творчасці. Сярод іх не толькі ўжо добра знаёмыя чытачу перлінкі, але і новыя, не друкаваныя раней. «З мацерыка павагі і любові між Дзісной і Друяй шле аўтар дабравест блізкім, рупліва збірае галасы продкаў, каб усяму свету маглі адазвацца праз ягоныя вершы і песні. Шчодра частуе ласункамі стасункаў – перакладамі творцаў з карпацкіх вышыняў і берагоў Дунаю». Кніга багата ілюстраваная фатаздымкамі родных, сяброў і калег паэта, карцінамі, прысвечанымі яго творчасці, а таксама – выявамі дарчых аўтографаў ад знакамітых беларускіх літаратараў.




**Яго Вялікасць ТРЫЯЛЕТ: анталогія трыялета пісьменнікаў Берасцейшчыны. – Брэст: ААТ «Брэсцкая друкарня», 201. – 64 с.**

Пабачыў свет зборнік выбраных трыялетаў з паэтычнага даробку пісьменнікаў Берасцейшчыны (канец XX – пач. XXI стст.). Як адзначае ў прадмове ўкладальнік кнігі Уладзімір Лебедзеў, творы анталогіі «ўражваюць разнастайнасцю тэматыкі, адметнасцю рыфмоўкі, жанравай формы і выяўленнем творчай індывідуальнасці кожнага з аўтараў». У кнізе змешчаны трыялеты як аўтараў, якія ўжо спачылі ў вечнасці (М. Рудкоўскага, В. Гадулькі, М. Федзюковіча, І. Лагвіновіча, К. Жмінько, В. Сахарчука, Я. Збажыны, Я. Грыгаровіч), гэтак і паэтаў-сучаснікаў (А. Корнева, У. Лебедзева, В. Жуковіча, З. Дудзюк, М. Трафімчука, М. Аляхновіча, С. Амельчука, А. Сянкевіча, В. Вабішчэвіча, Г. Бабарыкі, В. Дэбіша, А. Дэбіша, А. Бакача, А. Спрынчан).

# Нашыя аўтары

**Акудовіч Валянцін** – філосаф, эсэіст. Аўтар кніг «Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека», «Разбурыць Парыж», «Код адсутнасці». Лаўрэат прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра (Прэмія імя Алеся Адамовіча) (2001), літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес» (2007), прэміі «Залатая літара» (2012). Нарадзіўся ў 1950 годзе ў мястэчку Свіслач на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Анараці Альда (іт. Aldo Onorati)** – італьянскі паэт, празаік, даследчык літаратуры. Аўтар шматлікіх кніг паэзіі і прозы, перакладзеных на 20 моваў у тым ліку і на беларускую. Супрацоўнічаў з італьянскім тэлебачаннем (перадачы на тэму адукацыі і выхавання), займаўся выдавецкай дзейнасцю. Прымае актыўны ўдзел у папулярызацыі італьянскай літаратуры, шмат выступае з лекцыямі ў тым ліку і ад Таварыства італьянскай мовы «Дантэ Аліг'еры». Нарадзіўся ў 1939 годзе ў Альбане пад Рымам.

**Брусевіч Анатоль** — паэт. Аўтар кніг паэзіі «Дуэль», «Падаю ў неба», «Апошні дзень», манаграфіі «Фактары беларускай культуры ў творчасці Адама Міцкевіча». Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2017). Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Гародні, дзе і жыве.

**Галубовіч Леанід** – паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету», «Поўня» + кніга. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2013). Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гіль (Гілевіч) Мікола** — празаік, перакладчык, публіцыст. Аўтар кніг прозы і публіцыстыкі «Ранішнія сны», «Пуд жыта», «Ёсць на зямлі крыніца», «Тэлеграма з Кавалевіч», «Пасеянае – узыдзе», «Камандзіроўка ў Вішанькі», «Кім і Валерыя», «Неадступнасць» і інш. Нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Жыве ў Мінску.

**Дубянецкі Эдуард** – культуролаг, псіхолаг, гісторык, паэт. Аўтар даведнікаў «Цяжкі шлях да адраджэння», «Сусветная культура: Ад старажытнасці да нашых дзён», «Культуралогія», а таксама кніг вершаў «Душы маёй няскончаны палёт», «Покліч самотнага неба». Вершы друкаваліся ў розных перыядычных выданнях Беларусі. Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Чудзін на Ганцаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Зізюк Міхась** – празаік. Піша на беларускай і рускай мовах. Аўтар кніг «Пропавшая свадьба», «Зелянее рунь», «Храм его души», «Оракулы междуречья». Нарадзіўся ў 1967 годзе ў вёсцы Лучыцы на Петрыкаўшчыне. Жыве ў Наваградку.

**Казько Віктар** — празаік, публіцыст, кінасцэнарыст. Аўтар кніг прозы «Добры дзень і бывай», «Суд у Слабадзе», «Высакосны год», «Цвіце на Палессі груша», «Выратуй і памілуй нас, Чорны бусел», «Неруш», «Дзікае паляванне ліхалецця» і інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1982), прэміі «Залаты Апостраф» (2013), прэміі імя Ежы Гедройца (2014). Нарадзіўся ў 1940 годзе ў Калінкавічыах на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Кеда Альжбета (Ала Петрушкевіч)** – паэтка, празаік, літаратуразнаўца. Апублікавала звыш за 250 навуковых працаў, сярод якіх «Іду па слядах: літаратуразнаўчыя артыкулы, эсэ», «Пра творы і творцаў: літаратурна-крытычныя артыкулы», «Некаторыя старонкі беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя», «Наталля Арсеннева: шлях да Беларусі» і інш. Аўтарка паэтычнага зборніка «Пярсцёнак». Нарадзілася ў 1960 годзе ў вёсцы Шчонава на Гарадзеншчыне. Жыве ў Гародні.

**Корань Вадзім** – паэт. Скончыў факультэт беларускай філалогіі і культуры БДПУ імя Максіма Танка, аспірантуру пры Цэнтры даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі. Асноўная сфера інтарэсаў – літаратура Беларусі XVII – XVIII стст. Нарадзіўся ў 1983 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Крывецкая Ксенія** – празаік. Творы друкаваліся ў часопісе «Маладосць». Нарадзілася ў Пінску ў 1986 годзе. Жыве ў Барысаве.

**Ксёндзаў Алесь** – мастак, педагог. Прафесар кафедры жывапісу Беларускай акадэміі мастацтваў. Творы знаходзяцца

ў музеях, галерэях і прыватных зборах Беларусі, Вялікабрытаніі, Нямеччыны, ЗША, Ізраіля, Нідэрландаў, Польшчы, Расіі, Славеніі, Францыі, Швейцарыі і інш. Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Баравыя на Крупшчыне. Жыве ў Мінску.

**Лавіцкі Вячаслаў** – украінскі паэт. Аўтар кніг вершаў «Місто барв» і «Ранкові кінокадри». Пераклаў шэраг твораў А. Хадановіча, М. Скоблы, С. Мінскевіча, З. Вішнёва, А. Бахарэвіча, В. Бурлак, В. Жыбуля, Н. Кудасавай і інш. беларускіх аўтараў. Лаўрэат Міжнароднага конкурсу «Гранослов» (2006), Літаратурнай прэміі імя Васіля Сіманенкі (2007), прэміі за пераклад «Metaphora» (2016) і інш. Нарадзіўся ў 1988 годзе ў Кіеве, дзе і жыве.

**Левановіч Леанід** – празаік, драматург. Аўтар кніг нарысаў «Гаспадар зямлі», «Зялёны трохкутнік», «Вяртанне ў радыяцыю», прозы «Мадонна з кветкаю», «Якар надзеі», «Шчыглы», «Дзікая ружа», «Сіняе лета», публіцыстыкі «Хлеб і мужнасць» і інш. Нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Клеявічы на Магілёўшчыне.

**Мінскевіч Серж** – паэт, перакладчык. Зрабіў поўны пераклад паэмы А. Міцкевіча «Дзяды». Аўтар кніг «Праз галеРэю», «Менскія санэты / Мінскія санэты», «Я з БУМ-БАМ-ЛІТа», «Сад замкнёных гор» і інш. Нарадзіўся ў 1969 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Някляеў Уладзімір** — паэт, празаік, эсэіст. Аўтар кніг паэзіі «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Наскрозь», «Прошча», «Так», «Лісты да Волі» прозы «Цэнтр Еўропы», «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» і інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (2000), прэміі «Залаты Апостраф» (2008), прэміі імя Ежы Гедройца (2013). Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Смаргоні на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Паўлікава-Хейдарава Людміла** – паэтка, перакладчыца. Лаўрэатка літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча (1996). Аўтарка кніг вершаў «Адведзіны рамонкавай паляны», «Тваё святло», «Купанне ў росах», «Плач па Анёлу», драматычнай паэмы «Можна і Нельга», зборніка прозы «Дарт». Нарадзілася ў пасёлку Ялізава. Жыве ў Мінску.

**Паўлычка Дзмітро** — украінскі паэт. Аўтар кніг «Каханне і нянавісць». «Мая зямля», «Быстрына», «Дзень», Хлеб і сцяг», «Санеты», «Тры страфы», «Аўтадафэ» і інш. Лаўрэат дзяржаўнай прэміі Украіны імя Т. Шаўчэнкі (1977), Герой Украіны (2004). Нарадзіўся ў вёсцы Стапчатаў на Івана-Франкоўшчыне ў 1929 годзе. Жыве ў Кіеве.

**Пятровіч (Сачанка) Барыс** — празаік. Аўтар кніг «Ловы», «Сон між пачвар», «Фрэскі», «Шчасце быць», «Жыць не страшна», «Пііліпікі», «Плошча», «Спакушэнне», «Спачатку была цемра», «Пуціна», «Ідзі адзін», «...Роўна і трошкі ўправа» і інш. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Вялікі Бор на Хойнічыне. Жыве ў Мінску.

**Сіўчыкаў Уладзімір** — паэт, празаік, публіцыст, перакладчык, драматург, мастак. Аўтар кніг «Гульня ў тастамант», «Лісты да брата», «Высакосны год», «Бювар», «Уладзевы гісторыі», «Багоўка», а таксама альбомаў «Жодзінцы» і «Рыцары Пагоні і Арла» (сумесна з А. Марачкіным). Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Мінску.

**Скобла Міхась** — паэт, парадыст, перакладчык, эсэіст. Аўтар паэтычных кніг «Вечны Зніч», «Вочы Савы», «Нашэсце Поўні», «Акно для матылькоў», «Камізэлька для месяца» і інш., кніг нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш», «Саркафагі страху» і інш. Складальнік анталогій беларускай паэзіі XX ст. «Краса і сіла» і сусветнай паэзіі ў беларускіх перакладах «Галасы з-за небакрая». Лаўрэат прэмій імя Ведзьмака Лысагорскага (1988), Алеся Адамовіча (2000), «Залаты Апостраф» (2016). Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Паляжын на Зэльвеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Тарасаў Кастусь** – празаік, публіцыст, журналіст. Аўтар кніг «День рассеяния», «В час Стрельца», «Память о легендах», «Странствие в тесном кругу», «Погоня на Грюнвальд» і інш. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў Мінску. Памёр у 2008 годзе.

# Contents

***POETRY***

**Uładzimir Niaklajeŭ.** Vavuki. *A poem.*
**Ludmiła Paŭlikava-Kheidarava.** The Song of a Footsore Soul. *Poems*
**Mikoła Hil.** Inevitability.
*From the book of lamentations of the autumn-winter twilight.*
**Anatol Brusievič.** In the Footsteps of Aeneas. *Poems*
**Vadzim Korań.** Last Year's Dream. *Poems*

***PROSE***

**Barys Piatrovič.** The Path. *A story.*
**Viktar Kaźko.** The Inheritors of Orphan Fate. *A story.*
**Mikhaś Ziziuk.** Village Stories.
**Leanid Levanovič.** The Loyalty of Bees. *A short story.*

***DEBUT***

**Ksenija Kryveckaja.** To Be Born Again. *A short story.*

***TRANSLATIONS***

**Dmytro Pavlychko.** The Numbness of the Ecumene.
*Poems. Translated by Mikhaś Skobla.*
**Viačasłaŭ Lavicki.** The Chestnut Elegy. *From the «Minsk Cycle».*
*Translated by Serž Minskievič.*

***WORDS***

**Aldo Onorati.** Glory Is Smoke That Fades Fast.
*A talk about Italian literature and more.*

***CONTEXT***

Aleś Razanaŭ's Magnus Ducatus Poesis. *Voices from Lithuania.*
*Translated by Halina Linkievič.*

***MEMORIES***

**Valancin Akudovič.** "Fragments". *From the new book "One Must Imagine Sisyphus Happy". (The Chronicles of a Belarusian Intellectual). (Continuation).*

***NOTES***

**Alžbeta Kieda.** Antaniova. *Pages from the new book.*

***HERITAGE***

**Kastuś Tarasaŭ.** Waning Moon. *Pictures from the childhood.*

***ART***

**Uładzimir Siŭčykaŭ.** Kissed by the Sun.
*Touches to the creative portrait of Aleś Ksiondzaŭ.*

***BOOKRONCLE***

**Eduard Dubianiecki.** The Lifesaving Garden of Poetry.
*Review of the book by Sviatłana Javar «The Wonderful Garden».*
**Leanid Hałubovič.** «Life in the Bowels of Literature».
*Review of the book by Paveł Abramovič «My Way of Reading».*

***DZIEJASŁOÚ'S STOCK***

*New books on **DZIEJASŁOŬ's** shelves.*

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**




Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Алены Казловай, Юрыя Іванова, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша, Уладзіміра Крука, Джона Кунстадтэра, Тамары Мацкевіч, Алесі Сіўчыкавай, Сяргея Шапрана, Валера Ягорава, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.